таксама лісты Н. Пашэннай да А. Клімавай «Жизнь закономерна во всех ее проявлениях» (В. Я. Данекіна).

Адной з самых каштоўных дакументальных калекцый, якія захоўваюцца ў БДАМЛМ, з'яўляюцца асабістыя дакументы першага беларускага археографа Іаана Грыгаровіча, а таксама яго сыноў І. І. і М. І. Грыгаровічаў. Дакументы І. Грыгаровіча былі знойдзены ў 1950 г. у Краснадарскім дзяржаўным архіве і часткова перададзены ў БДАМЛМ з Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва СССР у 1957 г., а першы дакумент — паслужны спіс протаіерэя Іаана Грыгаровіча быў апублікаваны толькі ў 2001 г. у «Беларускім археаграфічным штогодніку» (падрыхтавалі Г. В. Запартыка і А. М. Запартыка).

У 2004 г. у часопісе «Праваслаўе» быў надрукаваны артыкул В. С. Івановай «Дакументальная спадчына протаіерэя Іаана Грыгаровіча», дзе прасочаны лёс унікальнай калекцыі І. Грыгаровіча, а таксама прааналізаваны некаторыя дакументы, якія паказваюць плён і вынікі яго археаграфічнай дзейнасці.

У 2005 г., калі ў рэспубліцы шырока адзначалася 60-годдзе з дня Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, супрацоўнікі архіва-музея падрыхтавалі публікацыі, прысвечаныя гэтай падзеі: «Шляхамі вайны» (дзённікі А. Алешкі 1942—1944 гг.); «З франтавых дзённікаў» (дзённікі М. Лобана ад 22 чэрвеня 1941 г. па 3 чэрвеня 1942 г.); «Наш плён перамогі, наш смутак і гонар» (з дзённікаў В. Гарбука 1941—1945 гг.). Пад назвай «Нараджэнне «Алесі» ў «ЛіМе» былі апублікаваны падрыхтаваныя Н. Г. Сакалоўскай успаміны Л. Александроўскай пра пастаноўку «Алесі» Я. Цікоцкага ў вызваленым Мінску.

2005 год быў плённым у справе падрыхтоўкі мастацкіх зборнікаў. Убачыў свет зборнік п'ес І. Козела «Над хвалямі Серабранкі», укладзены М. М. Казлоўскім пры ўдзеле архіва-музея. У зборніку выкарыстаны рукапісы п'ес і фотаздымкі з асабістага фонду драматурга. У гэтым жа годзе выйшаў раней названы ІІ выпуск матэрыялаў архіўных чытанняў «Пра час «Узвышша».

На аснове багатага вопыту па накапленні, захаванні і выкарыстанні дакументаў асабістага паходжання, назапашанага ў БДАМЛМ, і сучасных навукова-метадычных распрацовак стала надзвычай важным у справе арганізацыі работы архіўнай галіны па дадзеным накірунку выданне «Метадычных рэкамендацый па рабоце архіваў з дакументамі асабістага паходжання» (Мн., 2005), падрыхтаванае Г. В. Запартыка.

У 2006 г. у БДАМЛМ выдадзены навуковы зборнік «Архіўныя чытанні І—ІІІ», у які ўвайшлі матэрыялы трох канферэнцый, арганізаваных і праведзеных у архіве ў 2003—2005 гг. і прымеркаваных да Дня архівіста. У зборнік увайшлі археаграфічныя публікацыі, падрыхтаваныя Г. М. Жукавай



(лісты з перапіскі М. Забэйды-Суміцкага з А. Багуцкай) і В. Я. Данекінай (лісты У. Брыгневіча да А. Паслядовіч).

Акрамя публікацый у навуковых зборніках і перыядычных выданнях, дакументы і фотаздымкі з фондаў БДАМЛМ выкарыстоўваліся пры падрыхтоўцы каталогаў выстаў: «У душы гарэў святы агонь». Да 100-годдзя А. Бабарэкі (Мн., 1999); «Доўгае вяртанне ў Беларусь». Выстава, прысвечаная М. Мялешку (Мн., 1999); «Усім вядомы вам Мікола Касяровіч». Да 100-годдзя М. Касяровіча (Мн., 2000); «М. Забэйда». Да 100-годдзя М. Забэйды-Суміцкага (Мн., 2000); «Я не адзін». Да 60-годдзя В. Чарнабрысава (Мн., 2001); «Ёсць на карце месца…» Грамадска-культурная чыннасць беларускай і расійскай эміграцыі ў Чэхаславакіі 1921—1938 гг. (Мн., 2002), артыкулаў у календарах «Родны край».

Перспектыўная археаграфічная дзейнасць БДАМЛМ плануецца ў адпаведнасці з Планам публікацыі дакументаў Нацыянальнага архіўнага фонду на 2003—2008 гг., распрацаваным Археаграфічнай камісіяй Белкамархіва і зацверджаным у 2003 г. Па прапанове БДАМЛМ у план уключаны восем выданняў, сярод якіх зборнікі дакументаў пісьменніка Я. Брайцава, грамадскага і культурнага дзеяча Б. Эпімах-Шыпілы, спевака М. Забэйды-Суміцкага, мастака Я. Мініна, археографа І. Грыгаровіча. Распрацаваны канцэпцыі будучых зборнікаў, на вучонай радзе архіва-музея абмяркоўваюцца іх структура і змест. Асноўныя напрамкі, планаванне і стратэгія рэалізацыі выдавецка-публікацыйнай дзейнасці БДАМЛМ былі вызначаны ў публікацыях дырэктара архіва-музея Г. В. Запартыка, якія ўвайшлі ў матэрыялы Першых архіўных чытанняў. Намаганні калектыву БДАМЛМ у бліжэйшы час будуць накіраваны на паспяховае ажыццяўленне названых выдавецкіх праектаў.

***І. П. Клімаў***

## ТЭКСТАЛОГІЯ ЦАРКОЎНАСЛАВЯНСКАГА ЕВАНГЕЛЛЯ Ў НАВУКОВЫМ АСВЯТЛЕННІ

Евангелле — галоўная частка Новага Запавету і ўвогуле ўсёй хрысціянскай Бібліі. У Евангеллі апавядаецца пра важнейшыя моманты жыцця Ісуса Хрыста (зачынанне і нараджэнне, блуканні і казанні ў апошнія тры гады жыцця, арышт, допыт і асуджэнне, пакутная смерць на крыжы і цудадзейнае ўваскрасенне), а таксама пра яго вучэнне. Уласна саміх кананічных (г. зн. прызнаных царквой) евангелляў чатыры, яны маюць і супольную назву — Тэтраевангелле. Гэта чатыры біяграфіі*, напісаныя, як лічыцца, у 2-й пал. I ст. — пач. II ст. н. э. вучнямі Хрыста: апосталамі, што непасрэдна яго бачылі (Мацвей, Іаан), ці іх спадарожнікамі (Марк, Лука)**. Пры гэтым ев. паводле Марка, Мацвея і Лукі, якія ўзніклі, як мяркуецца, прыкладна ў адну эпоху (адпаведна каля 70 г. і ў 80—90-х гг. н. э.), вельмі блізкія (часам нават даслоўна) паміж сабой у змесце і кампазіцыі

* Наконт жанру евангелляў сярод вучоных няма адзінства. Большасць лічыць евангеллі блізкімі (прынамсі, у кампазіцыйных адносінах) да жанру грэчаскай біяграфіі эпохі элінізму, іншыя бачаць у евангеллях цалкам новы жанр «пазалітаратурнага, простанароднага культавага апавядання / легенды», што не мае аналагаў у тагачаснай эліністычнай ці яўрэйскай літаратуры і не знаходзіць працягу ў патрыстычнай літаратуры пазнейшай царквы. Ужо Юстын Пакутнік, адзін з выдатных пісьменнікаў-апалагетаў ранняй царквы (II ст.), называў евангеллі «ўспамінамі», аднак такое жанравае азначэнне не знайшло пераемнасці ў пазнейшыя часы.

** Паколькі яны былі сведкамі дзейнасці, смерці і паўстання Ісуса з мёртвых, першыя хрысціяне лічылі нармалёвым, каб існавала некалькі версій яго жыцця, хай крыху адрозных і нават супярэчлівых паміж сабой у дэталях ды эпізодах. Праўда, у хуткім часе з'явіліся новыя евангеллі, што прывяло да ўзнікнення цэлага жанру хрысціянскага пісьменства. Яны інакш выкладалі біяграфію Хрыста ці апавядалі пра асобныя яе фрагменты (дзяцінства, час пасля ўцёкаў у Егіпет і інш.), часта з новымі дэталямі або ад імя розных іншых сведкаў яго дзейнасці. Аднак некаторым хрысціянам здавалася непрымальным існаванне чатырох версій жыцця Ісуса, і яны спрабавалі або звесці чатыры асобныя апавяданні ў адзін звязны і несупярэчлівы выклад, або надаць прымат толькі аднаму евангеллю, адкінуўшы тры астатнія. Прыкладам першага кірунку з'яўляецца «Дыятэсарон» (сяр. II ст.), складзены на грэчаскай мове сірыйцам Татыянам, што быў пазней перакладзены ім на сірыйскую мову і знайшоў пашырэнне ў ранняй сірыйскай царкве (III—V стст.). Прыкладам другога служыць спроба Маркіёна ў сяр. II ст. абвясціць кананічным толькі ев. паводле Лукі, якое, аднак, зазнала з боку Маркіёна значную рэдактуру і скарачэнне. Гэтыя памкненні хутка былі адхілены царквой, як і ўсе астатнія допісы пра Хрыста, адны з якіх былі прызнаны ерэтычнымі і знішчаны, а другія бясшкоднымі і дапушчальнымі для прыватнага чытання.



(таму іх называюць сінаптычнымі), а Іаан, які пісаў значна пазней за іх (пач. II ст.), мае нямала адрозненняў*.

Ужо ў старажытнасці было вядома, што першым паўстала ев. паводле Марка (верагодна, у Рыме), на падставе якога свае аповеды стварылі Мацвей і Лука (верагодна, у Сірыі), але ад усіх трох адштурхоўваўся Іаан (у Эфесе, у Малой Азіі). Праўда, больш распаўсюджаным у часы Сярэднявечча стала іншае меркаванне, якое ў розныя часы падтрымлівалі сваім аўтарытэтам Арыген, св. Еранім, св. Аўгусцін і іншыя дзеячы царквы. Згодна з іх меркаваннем, менавіта Мацвей з'яўляецца першым аповедам пра Хрыста, на падстае якога працавалі Марк і Лука. Старажытныя хрысціяне таксама ведалі, што ев. паводле Мацвея было напісана напачатку на арамейскай мове (для паслядоўнікаў Хрыста ў Палестыне) і толькі затым перакладзена на грэчаскую мову, на якой створаны ўсе астатнія евангеллі. Вынікам гэтага з'яўляюцца шматлікія семітызмы ў мове евангеліста Мацвея.

Парадак змяшчэння евангелляў ніякага тэалагічнага значэння не мае і адлюстроўвае толькі традыцыю той ці іншай царквы. Так, у эпоху позняй Антычнасці вядомыя кодэксы з т. зв. заходнім парадкам: Мацвей, Іаан, Лука, Марк (у такім складзе зрэдку мяняюцца месцамі першыя два тэксты: Іаан, Мацвей або апошнія два: Марк, Лука). Паводле такой паслядоўнасці напачатку змяшчаліся евангеллі апосталаў, а затым іх спадарожнікаў. Яшчэ радзей сустракаецца (кодэксы з Сірыі і Паўночнай Афрыкі) інакшы парадак: Мацвей, Марк, Іаан (радзей Іаан, Марк), Лука. Згодна з такой паслядоўнасцю побач (напрыканцы) змяшчаліся творы аднаго аўтара — Лукі, які лічыцца аўтарам Дзеяў, што ідуць пасля Тэтраевангелля. У XVI ст. да такога парадку звярталіся пры выданні евангелляў некаторыя пратэстанты (Г. Булінгер, С. Будны). У англасаксонскіх рукапісах XII—XIII стст. вядомая яшчэ іншая паслядоўнасць: Марк, Мацвей, Лука (ці Лука, Мацвей), Іаан. Яна адлюстроўвае парадак стварэння евангелляў, які цяпер лічыцца першапачатковым і сапраўдным. Аднак агульна распаўсюджаным ужо ў раннія часы хрысціянства стаў парадак з Мацвея, Марка, Лукі і Іаана, які адлюстроўвае інакшы погляд на храналогію стварэння евангелляў, падтрыманы многімі аўтарытэтамі, пра што ўжо згадвалася. Ён быў замацаваны ў сінаптычных табліцах, складзеных Яўсевіем, і з цягам часу кананізаваны.

Рубрыкацыя евангельскага тэксту на сэнсавыя часткі (раздзелы) адзначаецца ўжо ў самых ранніх помніках, аднак яна першапачаткова адсутнічала ў творах евангелістаў і была ўнесена пазней, дзеля лепшай арыен-

* Паводле сучасных поглядаў, даволі доўга, нават да IV ст., у ранняй царкве выкарыстоўвалася толькі адно евангелле. Бедныя грамады ці вернікі маглі дазволіць сабе толькі адно з евангелляў (і, магчыма, адзін-два лісты Паўла), што асабліва верагодна ва ўмовах ганення хрысціян рымскімі ўладамі. І толькі з легалізацыяй хрысціянскай рэлігіі і ўзбагачэннем хрысціянскіх грамад узнікла магчымасць аб'яднаць разам усе чатыры евангеллі.

тацыі чытачоў[*]. Межы паміж раздзеламі праводзіліся паводле розных крытэрыяў[**], таму яны часта не супадалі ў раннія эпохі, а ў рукапісах нярэдка сумяшчалася некалькі відаў рубрыкацыі. Раздзелы, як правіла, нумараваліся, а некаторыя рубрыкацыі кожнаму свайму раздзелу давалі загаловак, што адлюстроўваў асноўны змест урыўка (напрыклад, «пра шлюб у Кане»). Вядомыя ў сучаснасці раздзелы з'явіліся, як лічыцца, у 1205 г. у Брытаніі, калі архібіскуп кентэрберыйскі Стафан Лангтон падзяліў тэкст Вульгаты на дастаткова буйныя кавалкі[***]. Гэты падзел выкарыстаў у тым жа стагоддзі іспанскі кардынал Гуго дэ Сен Шэр пры стварэнні свайго канкарданца, што набыў вядомасць у заходняй царкве і забяспечыў папулярнасць новаму падзелу. Аднак у праваслаўным свеце гэты падзел з'яўляецца толькі ў XVI—XVII стст.[****]

Падзел евангельскага тэксту на вершы (гранесы) існаваў у старажытнасці і быў праведзены Яўфаліем, які вылучыў радкі адпаведна сэнсу, што палягчала чытанне ўголас. Аднак такі падзел быў не паўсюдна вядомым і заставаўся нестабільным. Сучасны падзел на вершы ўзнік у эпоху Рэфармацыі, калі пратэстанцкі выдавец Робер Эцьен (лац. псеўданім Стафанус) у 1551 г. выдаў у Жэневе грэчаскі тэкст (разам з лацінскім) Новага Запавету з уласнай разбіўкай на вершы. Пасля гэтага за некалькі стагоддзяў у выдавецкай практыцы назапасіліся дробныя адрозненні ў падзеле тэксту Св. Пісьма на вершы, што прывяло да нязначных разыходжанняў у вершападзеле

[*] Рубрыкацыя палягчала чытачу арыентаванні ў тэксце і была выклікана патрэбай па ўпарадкаванню тэкставага матэрыялу ў экзегтычных і тэалагічных мэтах: складанне канкарданцаў і гарманізацыя (узгадненне) апавядання чатырох евангелістаў, вылучэнне паралельных месцаў і ўлік старазапаветных цытат.

[**] Звычайна, вылучэнне раздзелаў адбывалася на сэнсавых падставах, калі раздзелы ахоплівалі больш-менш буйныя сюжэты евангельскага апавядання. Паводле такога падыходу, у ев. Мацвея вызначалася 68 раздзелаў, у Марка — 48 ці 49, у Лукі — 83, у Іаана — 18. Менавіта такія раздзелы мелі свае назвы, якія пісаліся на маргінесе. Радзей сустракаўся падзел на больш дробныя эпізоды ці пасажы, паводле чаго ў ев. Мацвея вылучалася 170 раздзелаў, у Марка — 62, у Лукі — 152, у Іаана — 50. Нарэшце, асобнае значэнне мелі т. зв. амоніевыя, ці яўсевіевыя раздзелы, што з дапамогай асобных табліц дазвалялі супастаўляць паралельныя ці блізкія месцы ў тэксце. Паводле такой сістэмы, у Мацвея налічвалася 355 раздзелаў, у Марка — 233, у Лукі —342, у Іаана — 232. Гэтыя раздзелы сфармаваў у II—III стст. Амоній, дыякан Александрыйскай царквы, а аптымізаваў іх, аб'яднаўшы ў 10 табліц (т. зв. канонаў), Яўсевій Памфіл, біскуп цэзарэйскі, у IV ст.

[***] У ев. паводле Мацвея вызначалася 28 раздзелаў, у Марка — 16, у Лукі — 24, у Іаана — 21.

[****] Так, у царкоўнаславянскім евангеллі ён упершыню адзначаны ў Генадзеўскай бібліі 1499 г., пад уплывам каталіцкай Вульгаты. У дадатак кожны раздзел у ёй разбіты на 7 нумараваных частак.



паміж выданнямі заходняй царквы ды пратэстантаў і выданнямі праваслаўнай царквы. Ніякага дагматычнага ці кананічнага значэння такія разыходжанні ў нумарацыі не маюць.

Евангелле з'яўляецца асновай хрысціянскай веры і таму займае важнейшае месца ў набажэнстве, царкоўных абрадах і царкоўным жыцці. З узнікненнем рэгулярнага хрысціянскага культу (III—IV стст.), што развіваў сінагагальную традыцыю чытання фрагментаў Закона і Пракрокаў у суботу і святы, складваецца практыка чытання евангельскіх і апостальскіх фрагментаў у нядзелі ды суботы і на хрысціянскія святы, а пазней і ў астатнія дні года. Першапачаткова памер гэтых урыўкаў і іх паслядоўнасць вызначаліся старшынёй богаслужбовага збору, аднак з пачаткам легальнага выканання хрысціянскага культу і ператварэннем хрысціянства ў дзяржаўную рэлігію (пач. IV ст.) усталяваліся стабільны, назаўжды замацаваны парадак чытання і памер гэтых фрагментаў [65, p. 120—121; 46, p. 495—496][*]. Такія ўрыўкі атрымалі назву перыкопаў (περηκόπη «адрэзак»), яны звычайна невялікія (30—60, часам больш слоў, але зрэдку ахопліваюць нават некалькі евангельскіх раздзелаў), іх цэльнасць абумоўлена заключаным у іх зместам. Яны зачытваюцца ў царкве падчас літургіі і служаць тэмай для казання святара. Заходнім (рымскага абраду) хрысціянам таксама вядомы падобны падзел новазапаветнага (прычым усяго, г. зн. разам з Апакаліпсісам, які ў Візантыі не выкарыстоўваўся ў набажэнстве), хаця памер і межы перыкопаў у заходняй царкве не супадаюць з візантыйскімі.

Падобная літургічная практыка зрабіла значны ўплыў на пісьмовую форму евангельскага тэксту ў Візантыі, а затым і ў праваслаўных славян[**]. З аднаго боку, яна прывяла да з'яўлення ў рукапісных евангеллях яшчэ адной рубрыкацыі, што пазначала перыкопы[***]. З другога боку, яна паспрыяла

[*] Праўда, у VIII ст. на хвалі барацьбы з іканаборчым рухам у Візантыі адбылася літургічная рэформа, замацаваная ў т. зв. Тыпіконе Вялікай Царквы [54, p. 45—48; 21, c. 44—45]. Яна змяніла ранейшы тып набажэнства, адасобіўшы кафедральнае і парафіяльнае ад манастырскага. У дадатак гэтая рэформа па-рознаму была ўспрынятая ў розных частках грэка-праваслаўнага свету, якія знаходзіліся на той час па-за сферай палітычнай улады Візантыі, што прывяло да фармавання асобных парадкаў набажэнства ў Палестыне і Паўднёвай Італіі [54, p. 53].

[**] У заходняй (рымскай) царкве склаўся падобны, аднак інакшы парадак выкарыстання тэкстаў Св. Пісьма — місал. У ім евангельскі тэкст, таксама прадстаўлены фрагментамі кшталту перыкопаў, чаргуецца з фрагментамі з Апостала, Апакаліпсіса і Старога Запавету, а таксама перамяжаецца малітвамі і хваласпевамі.

[***] У тэксце (на маргінесе ці паміж радкамі) ставіліся словы ці скарачэнні для пазначэння пачатку і канца перыкопы, часам назвы свят ці нядзель або суботаў, у якія мусілі чытацца гэтыя перыкопы, выпісваліся на маргінесе і ў дадатак вылучаліся чырвоным атрамантам. Спісы перыкопаў у выглядзе асобных табліц (т. зв. лекцыянарных) змяшчаліся напачатку ці напрыканцы евангельскага тэксту.

ўзнікненню новай формы існавання евангельскага тэксту — лекцыянара (службовага тэксту).

Лекцыянары — гэта асобныя рукапісы, што ўтрымлівалі евангельскія (нашмат радзей — таксама апостальскія) перыкопы, змешчаныя паводле парадку іх чытання ў царкве на працягу ўсяго года ці яго перыядаў*. Лекцыянар складаўся з дзвюх тэматычных частак: сінаксара (συναξάριον «сanаксар», ад συναξις «збор (у памяць тайнай вячэры)», ад συναγω «збіраюся») і меналогія (μηνολογιον «месяцаслоў»). У сінаксары змяшчаліся перыкопы згодна з рухомым (царкоўным) календаром (пачынаючы з Вялікадня і сканчваючы суботай напярэдадні яго)**. Як правіла, гэта больш-менш паслядоўна выбраныя ўрыўкі з евангеляў (Іаана, Мацвея, Лукі, Марка), хаця зрэдку здараліся парушэнні паслядоўнасці (так, перыкопы з ев. паводле Марка чыталіся ў розных цыклах) ці «зборныя» перыкопы, што ўтвараліся з урыўкаў, узятых у розных евангеллях. Асобна вылучаўся Пакутны тыдзень перад Вялікаднем, калі на літургіі чыталіся вялікія перыкопы з розных евангелістаў. У канцы сінаксара часта змяшчаўся т. зв. слуп евангельскіх чытанняў — 11 вялікіх урыўкаў з чатырох евангелляў, што чыталіся на ютрані штотыднёва, пачынаючы з Вялікадня. У меналогіі вызначаліся перыкопы на святы і дні памяці святых ды пакутнікаў***, якія змяшчаліся ў парадку т. зв. нерухомага (грамадзянскага) календара, пачынаючы з візантыйскага Новага года (1 верасня) і канчаючы датамі ў канцы жніўня. У канцы меналогія змяшчаліся чытанні на «ўсялякую патрэбу». Але ў меналогіі шмат перыкопаў не выпісвалася — яны меліся ў сінаксары, хаця часам здаралася наадварот: гэтыя перыкопы паўтараліся ў меналогіі двойчы і нават тройчы (напрыклад, на дні розных святых). Справа ў тым, што меналогій быў нестабільным зборнікам, яго склад залежаў ад мясцовых умоў і традыцый: аддавалася перавага мясцова шанаваным святым, малавядомым ці невядомым у іншых мясцовасцях, адпаведна выключаліся святыя, што былі малавядомымі ў дадзенай мясцовасці. Часта не выпісваліся многія перыкопы ў меналогіі і па іншай прычыне: у бедных ці малалікавых грамадах не ўсе даты нерухомага календара адзначаліся асобным набажэнствам. З гэтай прычыны

* Структуру грэчаскага лекцыянара гл. [46].

** Рухомым яго называюць таму, што святы адлічваліся ад даты Вялікадня, якая кожны год мянялася, прыпадаючы на розныя нядзелі грамадзянскага календара, які ў гэтых адносінах заставаўся нерухомым. Рухомы царкоўны каляндар у хрысціянстве ўзыходзіць да яўрэйскага месячнага календара, што пачынаўся ад свята Песах, якое прыпадала на першы семярык пасля першай поўні, што здаралася за вясновым раўнадзенствам.

*** У меналогій залучаліся ў якасці святаў асобныя падзеі новазапаветнай і царкоўнай гісторыі, памяці агульнахрысціянскім, рэгіянальным і мясцовым святым і пакутнікам.



меналогіі нярэдка выпісваліся ў скарочаным выглядзе, з перыкопамі толькі на буйныя святы ці на дні памяці агульнахрысціянскіх святых.

Лекцыянар як асобная кніга не змяшчаў усяго тэксту Тэтраевангелля, паколькі на межах перыкопаў страчваліся асобныя вершы, часам нават некалькі вершаў, а некаторыя перыкопы, асабліва ў меналогіі, не выпісваліся [44]*. У дадатак у лекцыянары перыкопы змяшчаліся ў крыху змененым выглядзе: пачатак першай фразы часам замяняўся адной з 6 стандартных формул (узятых з евангельскага тэксту), якія атрымалі назву інцыпітаў (*incipitum* «пачатак»)**. Лекцыянар быў абмежаваны ў магчымасцях свайго выкарыстання. Гэта была вузкафункцыянальная кніга, што ўзнікла і атрымала распаўсюджанне ў Візантыі, а потым у шэрагу іншых народаў, што прынялі хрост ад візантыйцаў, напрыклад, у праваслаўных славян. Лекцыянар прызначаўся выключна для набажэнства, прычым адрасаваўся пераважна парафіяльным святарам у бедных хрысціянскіх грамадах ці манахам у кляштарах — адным словам, тым карыстальнікам, якія заўжды сутыкаліся з дэфіцытам тэкстаў ці адукацыі. Адначасова з лекцыянарамі працягвалі існаваць і ўжывацца спісы чатырох евангелляў, праўда, забяспечаныя лекцыянарнай рубрыкацыяй (нумараванымі перыкопамі і табліцамі напрыканцы кнігі, што ўказвалі парадак чытання перыкопаў паводле сінаксара і меналогія). Такія тэтраевангеллі выкарыстоўваліся пераважна ў сталіцы і гарадах. Лекцыянар праіснаваў у грэчаскім свеце да XIV ст., пасля чаго ў сувязі са зменамі ў царкоўным статуце быў паступова выведзены з ужытку, хаця сам прынцып і парадак падзелу тэксту на перыкопы захаваўся і існуе зараз. Лекцыянар вельмі важны ў тэксталагічных адносінах, паколькі ён няблага зберагаў архаічны тэкст. Справа ў тым, што перапіска тэксту ў афіцыйных літургічных тэкстах адбывалася вельмі кансерватыўна, з мінімумам змен і адхіленняў, что прыводзіла да захавання ў лекцыянарах даволі старажытнай стадыі тэксту. Таму ўжо Іаан Залатавусны карыстаўся амаль тым парадкам перыкопаў і ў тым аб'ёме, які вядомы і цяпер.

У сяр. IX ст. важнейшыя часткі Св. Пісьма (і ў іх ліку Тэтраевангелле) упершыню перакладаецца на славянскую мову дзякуючы місіянерскай дзейнасці двух візантыйцаў з Фесалонік (славянская назва — Салунь) — св. братоў Кірылы (у манастве — Канстанціна) і Мяфодзія, якія ведалі славянскую мову. Хаця св. браты прыбылі ў Вялікую Маравію, што была за некалькі дзесяцігоддзяў да таго хрысціянізаваная, там існавала толькі лацінская літургія, незразумелая для народа. Яны выканалі пераклад Евангелля з грэчаскай мовы, прычым арыгіналам ім служыў мяшаны тэкст, што ў цэлым адлюстроўвае

* У склад апракаса ў найлепшым выпадку ўваходзіла з ев. паводле Мацвея 98% тэксту, з ев. Марка —97%, з ев. Лукі — 97%, з ев. Іаана — 93%.

** Склад чытанняў грэчаскага лекцыянара падрабязна апісаны [49].

даволі познюю візантыйскую (інакш лукіянаўскую) рэдакцыю, якая тады была агульна распаўсюджана ў Канстанцінопальскай царкве.

Гэты раней прыняты ў навуцы погляд наконт грэчаскага арыгіналу царкоўнаславянскага Евангелля быў аспрэчаны ў 1922 г. славенскім царкоўным даследчыкам А. Сноем. Ён даводзіў, што ў славянскім перакладзе адлюстроўвалася шмат чытанняў александрыйскай і заходняй рэдакцый грэчаскага Евангелля (асабліва ў межах ев. паводле Мацвея), што мае важнае значэнне ў справе рэканструкцыі першаснага грэчаскага тэксту Евангелля, блізкага да раннехрысціянскай эпохі [51—53]. Доказы Сноя абвергнуў чэшскі славіст Я. Вайс, які разгледзеў грэчаскую тэкстуальную традыцыю і прыйшоў да высновы, што кірыла-мяфодзіеўскі пераклад узыходзіць да візантыйскай рэдакцыі, як і лічылася раней, хаця ў некаторых сваіх рукапісах утрымлівае александрыйскія і заходнія чытанні [56; 57]. У 1927 г. даследчык выдаў паралельна славянскі і грэчаскі тэксты ев. паводле Марка на падставе Марыінскага евангелля з розначытаннямі з чатырох іншых старажытных рукапісаў [55], а ў 1935—1936 гг. падрыхтаваў двухмоўную рэканструкцыю першапачатковага кірыла-мяфодзіеўскага перакладу ў межах усіх чатырох евангелляў [59—62]. Такім чынам, чэшскі вучоны падаў штучна сканструяваны на падставе ўсяго 8 старажытных царкоўнаславянскіх рукапісаў (з якіх нават быў выключаны найбольш аўтарытэтны Марыінскі спіс) тэкст, які рэальна ніколі не існаваў, у суправаджэнні гэткага ж рэканструяванага грэчаскага арыгіналу. У сваёй працы даследчык зыходзіў з таго, што нават самыя старажытныя рукапісы знаходзяцца на значнай адлегласці ад часу дзейнасці Кірылы і Мяфодзія, а таму адлюстроўваюць вельмі зменены тэкст, які неабходна падвергнуць рэканструкцыі.

Свой пераклад Св. Пісьма салунскія браты паклалі ў падмурак царкоўнаславянскай літургіі, што існавала пры іх жыцці ў Вялікай Маравіі і Паноніі, а пасля смерці братоў хутка распаўсюдзілася на Балканах (Балгарыя, Македонія, Харватыя, Сербія, Боснія, Валахія, Малдова, пазней Трансільванія) і ва ўсходніх славян. Як зараз лічыцца, гэта была напачатку глагалічная літургія, паколькі менавіта глаголіцу вынайшлі браты ў якасці арыгінальнага пісьма для славян, і толькі ў кан. IX ст. у Балгарыі адбыўся перавод славянскага набажэнства на кірыліцу — алфавіт, графічна набліжаны да візантыйскага маюскульнага пісьма. Кірылічнае пісьмо хутка распаўсюдзілася на Балканах, дзе ўплыў Візантыі быў асабліва моцным, а затым і на Русі, якая прыняла хрышчэнне ад візантыйцаў. Глаголіца ўтрымалася толькі ў некаторых кутках славянскага свету — пераважна на сумежжы грэка-візантыйскага і заходняга рымскага рытуалу, у асобных цэрквах і манастырах, у якасці канфесійнага кампрамісу. У пазнейшы час яна захавалася бадай што толькі на некаторых астравах Далмацыі (Паўночна-Заходняя Харватыя), у каталіцкім набажэнстве.



Хаця хрысціянізацыя паўднёвых і пазней усходніх славян адбывалася паводле грэка-візантыйскага абраду, але на славянскай мове. Гэта запатрабавала пераносу асноўнай візантыйскай рэлігійнай практыкі і перакладу многіх грэчаскіх тэкстаў на мову славян, якая ў навуцы атрымала назву царкоўнаславянскай мовы[*]. У выніку на славянскую глебу на працягу некалькіх першых стагоддзяў быў перанесены даволі вялікі комплекс тэкстаў, якія забяспечвалі ўсе патрэбы набажэнства, як парафіяльнага, так і манастырскага, а таксама асноўныя патрэбы царкоўнага і рэлігійнага жыцця. Раннім перакладам была ўласціва некаторая няўстойлівасць і варыятыўнасць, аднак, відаць, да пэўнага этапу. Літургічнае выкарыстанне надало перакладу ў праваслаўных славян такі ж арэол святасці, як і арыгінальнаму тэксту ў грэкаў. У выніку тэкст царкоўнаславянскага перакладу пачаў усведамляцца праваслаўнымі славянамі як раўнаварты паводле сваёй сакральнасці грэчаскаму арыгіналу, што спрыяла кансервацыі перакладу і спыненню новых перакладаў.

Адпаведна візантыйскай практыцы на славянскую глебу быў перанесены комплекс евангельскіх тэкстаў у складзе трох формаў: лекцыянарнай, апавядальнай (непарыўны выклад паводле чатырох евангелістаў) і экзегетычнай (тлумачальнай). У паўднёвых і ўсходніх славян ужо ў першыя стагоддзі адзначаны ўсе тры формы, аднак найбольш распаўсюджаным у старажытнасці стаў лекцыянар, наколькі можна меркаваць паводле рэпрэзентацыйнасці ацалелых помнікаў. На славянскай глебе лекцыянар атрымаў назву апракас (απράκ(τ)ος «нядзельны»)[**], а яго перыкопы сталі называцца зачаламі (г. зн. пачаткамі). Згодна з візантыйскім царкоўным календаром, чытанні ў сінаксары апракаса складаліся з 5 цыклаў: 1) ад Вялікадня да Пяцідзесятніцы (на 50 дзён); 2) з аўторка пасля Пяцідзесятніцы да візантыйскага новага года (на царкоўнаславянскай мове — *новаго л□та*), што складала каля 15—17 тыдняў; 3) ад новага года да пачатку Вялікага посту, уключаючы два яго першыя тыдні — мясапусны і сырапусны (усяго каля 16—17 тыдняў); 4) на Вялікі пост да вербнай нядзелі (каля 6 тыдняў ці 40 дзён), хаця чытанняў на іншыя дні, апрача суботы і нядзелі, у гэты перыяд не мелася; нарэшце, 5) чытанні на Вялікі тыдзень перад Вялікаднем. У 1-м цыкле

[*] За выключэннем сумежных з Візантыяй невялікіх групаў паўднёвых славян, што паступова асіміляваліся, астатнія славяне грэчаскай мовы не ведалі. Так, у ваколіцах грэчаскай Салуні жылі славянскія плямёны, чыю мову вывучылі св. браты Кірыла і Мяфодзій, вынікам чаго, на думку некаторых даследчыкаў, стала значная колькасць грэцызмаў у ранніх кірыла-мяфодзіеўскіх перакладах. Апрача ўласных імёнаў, гэта перш за ўсё тэрміны, паняцці і рэаліі рэлігійнай сферы і культурнага жыцця Юдзеі, адсутныя ў славянскім свеце, а таксама некаторая ідэаматыка. Сярод такіх запазычанняў многа было не толькі грэцызмаў, але і семітызмаў.

[**] У паўднёвых славян у якасці сіноніма выкарыстоўваецца назва *изборно евангелие* (црксл. *evaггелiе изборное*), у заходнеславянскай традыцыі, якая ўзыходзіць да лац. *evangelistarium*, ужывалася назва чэшск. *evangeliář*, польск. *ewangeliarz*.

чыталіся зачалы пераважна з ев. паводле Іаана, у 2-м — Мацвея і Марка, у 3-м — Лукі і таксама Марка, у 4-м — зачалы з усіх чатырох евангелістаў, у 5-м — таксама з чатырох, але толькі тыя зачалы, што апавядалі пра пакуты Хрыстовыя. Любы апракас пачынаецца зачалам, т. зв. пролагам, — 14 ці 18 першых вершаў 1-га раздзела ев. паводле Іаана. Склад і парадак чытанняў на 1-ы цыкл аднолькавыя ва ўсіх апракасах.

Паводле размеркавання на цыклы тэкставага матэрыялу царкоўнаславянскія апракасы падзяляюцца на тры тыпы: поўныя, кароткія, звышкароткія, у адпаведнасці з візантыйскай практыкай [19, с. 241—263]. Звышкароткі апракас* утрымлівае чытанні (часта не толькі з Евангелля, але і з Апостала) толькі на суботы і нядзелі ўсяго года і на ўсе дні Вялікага тыдня, або толькі на нядзелі (нядзельны апракас), хаця адзначаны і звышкароткія апракасы, што абмежаваныя толькі чытаннямі 1-га цыкла ці чытаннямі апошніх двух цыклаў. Кароткі апракас у дадатак да складу звышкароткага мае чытанні на ўсе дні (з панядзелка да пятніцы) 1-га цыкла — ад Вялікадня да Пяцідзесятніцы, а затым да Вялікай суботы ідуць толькі чытанні на суботы і нядзелі. Поўны апракас пашырае гэты склад чытаннямі на ўсе дні ад Пяцідзесятніцы да Вялікай суботы (за выключэннем, зразумела, 4-га цыкла)**. Лічыцца, што кароткія і звышкароткія апракасы былі ўласцівыя парафіяльнаму набажэнству, а поўныя — манастырскаму. Пры гэтым выкарыстанне звышкароткіх апракасаў можна адносіць хутчэй да бедных аддаленых цэркваў, што не мелі ўласнай парафіі, дзе набажэнства ажыццяўлялася рэдка, у нядзелі і асобныя святы.

Разам з апракасамі ў праваслаўным славянскім свеце эпохі Сярэднявечча евангельскі тэкст функцыянаваў і ў апавядальнай форме, калі ў сюжэтнай паслядоўнасці змяшчаліся аповеды ўсіх чатырох евангелістаў. Такі апавядальны тэкст атрымаў на славянскай глебе назву тэтр (τέτρα «чатыры»). У ім евангельскі тэкст, як правіла, забяспечваўся лекцыянарнай рубрыкацый — падзелам на нумараваныя зачалы, напачатку якіх (у тэксце ці на маргінесе) маглі выпісвацца (часам чырвонай фарбай) назвы тыдняў ці святаў, на якія чыталіся дадзеныя зачалы, а таксама інцыпіты (пры патрэбе), — і рознымі дапаможнымі табліцамі ці пералікамі напрыканцы кнігі (саборнік, ці месяцаслоў, да якіх дадаваліся паказальнікі маленняў — трапар, пракі-

* На славянскай глебе звышкароткі апракас быў адкрыты толькі ў 2-й пал. XX ст. расійскай славісткай Л. Жукоўскай [17; 19, с. 241—253].

** Л. Жукоўская адкрыла два асноўныя тыпы поўнага апракаса, у залежнасці ад характару размяшчэння евангельскага матэрыялу ў чытаннях на ўсе дні тыдня, апрача суботы і нядзелі, у перыяд 2-га і 3-га цыклаў (ад Пяцідзесятніцы да пачатку Вялікага посту), што мае аналогіі на грэчаскай глебе. На славянскай глебе гэта т. зв. мсціслававы тып, апісаны ўпершыню на прыкладзе Мсціслававa евангелля, і міраслававы тып, апісаны ўпершыню на прыкладзе Міраслававага евангелля [18, с. 238—272; 19, с. 269—284].



ман, антыфоны, алілуярыі і інш.). У іх указваліся нумары перыкопаў, што мусяць чытацца на дні і святы года, а таксама на розныя царкоўныя службы. З дапамогай такога лекцыянарнага апарату тэтр можна было ўжываць для набажэнства з такім самым поспехам, што і апракас. Лічыцца, што тэтры напачатку былі ўласцівыя кафедральнаму і парафіяльнаму набажэнству.

Зрэдку ў рукапісах апракаса здараліся парушэнні як парадку зачалаў на асобныя дні, так і іх межаў, што сведчыць пра стварэнне такіх рукапісаў на падставе тэтраў з дапамогай лекцыянарных табліц. У дадатак апракасам з прычыны іх складанай тэкставай структуры ў асаблівай ступені ўласцівыя памылкі, пропускі, перастаноўкі, паўторы і іншыя заганы рукапісных помнікаў, што вынікаюць з няўважлівасці пісца. Нягледзячы на тое што са зменай царкоўнай практыкі ў 2-й пал. XIV ст. апракасы пачалі выводзіцца з ужытку і замяняцца тэтрамі, апракасы доўга (напэўна, да пач. XVI ст.)* працягвалі ўжывацца ў праваслаўных славян, пераважна ў глухіх, аддаленых цэрквах і манастырах.

Найрадзей сустракаліся тлумачальныя тэксты Евангелля, якія перапісваліся ў веравучыцельных мэтах (пераважна для манаскага ўжытку). У тлумачальных евангеллях невялікія фрагменты тэксту (часта са значнымі пропускамі) перамяжаліся тлумачэннямі дагматычнага зместу, якія належалі візантыйскім тэолагам. Працяглыя тлумачэнні выкарыстоўваліся ў тэалагічных мэтах, кароткія — для катэхізацыі (навучанні асновам веры, пераважна моладзі).

Дастаткова позна ў хрысціянскім свеце з’яўляюцца апрацоўкі евангельскага тэксту, якія губляюць патрэбную для Св. Пісьма літаральнасць і дакладнасць, часам ператвараючыся ў пераказ ці выклад, і суправаджаюцца тлумачэннямі ды дадаткамі, якія залучаюцца ў склад евангельскага апавядання. Такія зборнікі на Захадзе атрымліваюць назву «гістарычных біблій» ці «бядняцкіх біблій» (Biblia pauperum), іх эквівалентам у Візантыі становяцца гістарычныя хронікі, прысвечаныя біблейнай гісторыі (вядомыя і ў царкоўнаславянскіх перакладах), з XIII ст. на Балканах і Русі ўзнікаюць гістарычныя кампіляцыі падобнага кшталту, вядомыя пад назвай хранографаў.

Традыцыя Евангелля на царкоўнаславянскай мове налічвае зараз больш за тысячагоддзе, аднак для гісторыі перакладнога тэксту важнымі з’яўляюцца толькі першыя сем стагоддзяў, да канца XVI ст., калі царкоўнаславянскі пераклад дзякуючы кнігадруку набыў адносную нязменнасць. Таму ўвага даследчыкаў царкоўнаславянскага Евангелля заўжды была прыцягнута да ранніх этапаў функцыянавання перакладу. Пры гэтым самыя раннія царкоўнаславянскія помнікі (большасць якіх уяўляе сабой евангеллі

* Ва ўсялякім выпадку апракасы шырока выкарыстоўваліся ва Усходняй Славіі і ў XV ст., пра што сведчаць ацалелыя помнікі таго часу, гл.: [31, с. 78, 90—94, 184, 188—189].

ці іх фрагменты або мае евангельскія цытаты) на стагоддзе ці паўтара аддалены ад часу перакладніцкай дзейнасці салунскіх братоў. У дадатак нават самыя старажытныя з гэтых спісаў адлюстроўваюць лакальныя моўныя рысы, колькасць якіх з цягам часу ў помніках толькі ўзрастае.

Бадай упершыню, хто звярнуў увагу на пэўныя адрозненні ў перакладзе паміж старажытнымі спісамі царкоўнаславянскага Евангелля, быў чэшскі славіст Я. Добраўскі, які ўзімку 1792—1793 гг. наведаў Расію і пазнаёміўся з рукапіснымі зборамі Масквы і С.-Пецярбурга. Ён яшчэ не адрозніваў апракасы ад тэтраў, але выказаў гіпотэзу пра існаванне трох рэдакцый евангельскага тэксту ў праваслаўных славян: старажытнай (antiqua), прыкладам якога ён лічыў Галіцкі тэтр 1144 г., сярэдняй (media) і позняй (postrema), апошняя легла ў аснову ўсіх друкаваных выданняў ([1, с. 146 і сн. 6, параўн.: 40, S. 266—275, 321—361; 41, S. 54—59]; гл. таксама ў рускім і чэшскім перакладах [10, с. 36; 42, с. 143]). Расійскія царкоўныя даследчыкі А. Горскі і К. Невоструеў пры апісанні рукапісных багаццяў Маскоўскай сінадальнай бібліятэкі ў 1855 г. высветлілі, што евангельскія спісы трэба падзяляць на апракасы і тэтры, прычым апракасы ў старажытнасці былі больш распаўсюджаныя, а тэтр паходзіць з манастырскага ўжытку [9, с. 289 і наст.]. Яны ж таксама прыйшлі да высновы, што позняя рэдакцыя Добраўскага ўзнікла на славянскіх Балканах ці ў Канстанцінопалі ў XIV—XV стст. у выніку новага рэдагавання паводле грэчаскіх арыгіналаў і з'яўляецца больш аднастайнай у сваім тэксце [9, с. 326 і наст.].

Аднак першым шырокамаштабным і сістэматычным даследаваннем рэдакцый царкоўнаславянскага Евангелля сталі працы кан. XIX ст. расійскага царкоўнага даследчыка Р. Васкрасенскага [2—5], вучня К. Невоструева. На падставе 112 царкоўнаславянскіх рукапісаў (а таксама цытатаў і ўрыўкаў з іншых крыніц) ён даследаваў тэксталогію ев. паводле Марка (як найбольш кароткага тэксту з чатырох евангелістаў), пачынаючы са старажытных помнікаў, вядомых на той час, і да XVI ст., калі царкоўнаславянскі пераклад набыў стабільнасць і адносную нязменнасць. На падставе розначытанняў вучоны вылучыў 4 асноўныя рэдакцыі царкоўнаславянскага Евангелля, пазначыўшы іх літарамі А, Б, В, Г (зараз назвы гэтых рэдакцый удакладнены). Тэксты ўсіх 4 рэдакцый (у межах ев. паводле Марка) былі выдадзеныя Васкрасенскім з крытычнымі розначытаннямі ([6], у т. л. паводле некаторых грэчаскіх спісаў), асобнай кнігай ён выпусціў каментарый да сваёй публікацыі [7].

Рэдакцыя А, ці паўднёваславянская паводле Васкрасенскага, цяпер вядомая як старажытная, відаць, узыходзіць да кірыла-мяфодзіеўскага перакладу. Да яе належаць такія вядомыя помнікі, як Астрамірава евангелле — кароткі апракас (1056—1057 гг.), Савіна кніга — кароткі апракас (XI ст.), Архангельскае евангелле — кароткі апракас (1092 г.), глагалічнае Асеманіева евангелле — кароткі апракас (XI ст.), Галіцкае евангелле-тэтр (1144 г.), глагалічнае Марыінскае евангелле-тэтр (XI ст.), глагалічнае Зографскае евангелле-тэтр (XI ст.) і інш. На думку вучонага, паміж тэкстамі гэтых ранніх помнікаў існуе цесная блізкасць [7, с. 140, 205], але зараз яго высновы здаюцца занадта паспешлівымі. У аснову публікацыі гэтай рэдакцыі Васкрасенскі паклаў Галіцкае евангелле, як найбольш поўнае і найлепш ацалелае (хаця яно не было найбольш старажытным), а для розначытанняў выкарыстаў усяго 40 спісаў. Гэтую рэдакцыю ён ахарактарызаваў як найбольш старажытную, яскравую і правільную паводле мовы, дакладную і ў той жа час вольную паводле перакладу [7, с. 186, 189, 190, 204—206]. У яе прыналежнасці да перакладаў першанастаўнікаў славянства Кірылы і Мяфодзія даследчык не сумняваўся [7, с. 208—211, 298—299].



Рэдакцыя Б, старажытная руская (на памылковую думку Васкрасенскага), цяпер вядомая як прэслаўская, уяўляе сабой пазнейшую перапрацоўку першай рэдакцыі ў Балгарыі, у эпоху цара Сямяона (кан. IX — 1-я трэціна X ст.)*. Як зараз вядома, яна прадстаўлена пераважна поўнымі апракасамі (Васкрасенскаму трапілі спісы пераважна ўсходнеславянскага паходжання, што і прывяло яго да памылковай высновы пра «рускае» паходжанне ўсёй рэдакцыі, якая мае шмат тыповых паўднёваславянскіх рыс у мове) і злучае такія помнікі, як Мсціславава евангелле (пач. XII ст.), Юр'еўскае евангелле (1120—1128 гг.), Дабрылава евангелле (1164 г.) і інш. У аснову публікацыі гэтай рэдакцыі Васкрасенскі паклаў Мсціславава евангелле (яго вывучэнню шмат увагі надаў Невоструеў)**, выкарыстаўшы ў розначытаннях 55 спісаў***. Гэтую рэдакцыю вучоны разглядаў як моцна змененую наступнымі выпраўленнямі рэдакцыю А [7, с. 214—216, 249—250], лічачы, што гэта была мадэрнізацыя на «рускай глебе» ранейшай рэдакцыі, хаця і пачатая на балканскім Поўдні, часам з выкарыстаннем грэчаскіх арыгіналаў [7, с. 250—251, 253—257, 299]. Аднак урэшце-рэшт гэтая рэдакцыя была выцесненая ў XV ст. іншымі рэдакцыямі [7, с. 251].

Рэдакцыя В, лакальная руская XIV ст., што атрымала зусім вузкі ўжытак, прадстаўлена некалькімі спісамі, найбольш вядомы з якіх т. зв. Чудаўскі Новы Запавет, што звязваецца з дзейнасцю свяціцеля Алексія, мітрапаліта

---

* На думку Р. Васкрасенскага, гэтая рэдакцыя склалася не пазней канца X — пачатку XI ст. [6, с. 2].

** Яго праца, што засталася ў рукапісе, была апублікавана зусім нядаўна [26].

*** Паводле мовы Р. Васкрасенскі аднёс да гэтай рэдакцыі і вядомы Супрасльскі рукапіс (XI ст.), што ўяўляе сабой вялікую мінею на сакавік — зборнік жыццяў і казанняў, якія чыталіся ў царкве [7, с. 254—255].

маскоўскага, які нібыта пераклаў і ўласнаручна перапісаў гэты рукапіс*. Пераклад вылучаецца рускамоўнымі рысамі, літаралізмам і моцнай залежнасцю ад грэчаскага тэксту, але разам з тым ён у пэўнай ступені прымае і элементы папярэдніх рэдакцый (пераважна А) [7, с. 273—276, 290]. Васкрасенскі таксама адзначае сувязь гэтай рэдакцыі з евангельскімі цытатамі з патрыстыкі, перакладзенай раней [7, с. 276—279]. Паколькі гэты пераклад практычна не атрымаў распаўсюджання, то хутчэй за ўсё ён быў зроблены для вузкага, прыватнага ўжытку [7, с. 290—291, 299—300].

Рэдакцыя Г, руска-балгарская паводле Васкрасенскага [6, с. 2], цяпер вядомая як афонская. Яна прадстаўлена ва ўсіх рукапісах і старадруках пачынаючы з XV ст. Як правільна вызначыў Васкрасенскі, гэтая рэдакцыя распадаецца на 2 групы**, акрэсленыя ім як: а) руская, да якой належаць усяго 2 рукапісы, адзін з якіх — Канстанцінопальскае евангелле 1383 г. — даў пачатак усёй рэдакцыі [6, с. 2], і б) руска-балгарская, што ахоплівае 10 спісаў, сярод якіх Генадзіеўская біблія 1499 г. Менавіта Канстанцінопальскае евангелле (дэталёва разгледжанае Горскім і Неваструевым [9, с. 224—227, 254—256] паклаў Васкрасенскі ў аснову публікацыі гэтай рэдакцыі. На думку вучонага, гэтая рэдакцыя ўзнікла пад уплывам нармалізацыйных тэндэнцый, што ахапілі царкоўнаславянскае пісьменства паўднёвых славян у XIV ст. Выпраўленні ранейшага царкоўнаславянскага перакладу былі зроблены на падставе грэчаскіх тэкстаў у Балгарыі і Сербіі (т. зв. Тырнаўскі і Рэсаўскі зводы). Новая рэдакцыя затым была прынята ў рускіх землях на хвалі т. зв. 2-га паўднёваславянскага ўплыву і з вельмі нязначнымі зменамі хутка зрабілася пануючай дзякуючы захадам мітрапаліта Кіпрыяна. Менавіта яна надала спісам евангельскага тэксту, што выкарыстоўваўся на Русі ў набажэнстве, аднастайны кшталт; пры гэтым тэтры выцеснілі апракасы [7, с. 251, 291, 292, 300].

Васкрасенскі зрабіў шэраг тэксталагічных назіранняў, важных для разумення старажытнай гісторыі царкоўнаславянскага Евангелля. Ён адзначыў, што найбольш непаслядоўна вытрымліваюць сваю рэдакцыю спісы А і Б, прычым чытанні рэдакцыі А звычайна збіваюцца на чытанні, уласцівыя рэдакцыі Б, і наадварот. Апрача таго, кароткія апракасы рэдакцыі А лепш вытрымліваюць сваю рэдакцыю, чым поўныя рэдакцыю Б [6, с. 7—8]. Найбольшую аднастайнасць маюць спісы рэдакцыі Г [7, с. 296—297].

* Паводле падання, гэты рукапіс быў створаны ў 1355 г. у Канстанцінопалі, дзе Алексій знаходзіўся з пасольствам да Усяленскага патрыярха. Магчыма, што пераклад рабіўся паводле грэчаскага арыгіналу. Грэчаскай мовай Алексій мог авалодаць, калі 12 гадоў жыў пры Феагносце, мітрапаліце маскоўскім, грэку па паходжанні [5; 6, с. 63—65]. На самай справе малаверагодна, што гэты рукапіс належыць Алексію. Моцныя доказы супраць аўтарства Алексія прывёў ужо расійскі вучоны А. Сабалеўскі [35, с. 26—28].

** Першапачаткова ён разглядаў іх як асобныя рэдакцыі, вылучаючы такім чынам пяць рэдакцый [2, с. 281—284].



Паміж рэдакцыямі, што вылучыў Васкрасенскі, і сінадальным тэкстам царкоўнаславянскага Евангелля, што дагэтуль выкарыстоўваецца ў Расіі і Беларусі для праваслаўнага набажэнства*, ляжаць яшчэ некалькі этапаў, якія, праўда, не пакінулі значных змен у перакладзе. Гэта Астрожская біблія 1581 г., чый тэкст на некалькі стагоддзяў стаў найбольш аўтарытэтным для праваслаўных славян, Маскоўская біблія 1663 г., адрэдагаваная колам перакладчыкаў на чале з Япіфанам Славінецкім, нарэшце, т. зв. Лізавецінская рэдакцыя царкоўнаславянскай Біbліі, выкананая ў 1735—1751 гг.

На многія гады схема з 4 рэдакцый, прапанаваная Васкрасенскім, атрымала даволі шырокае распаўсюджанне не толькі ў расійскай навуцы, але і ў замежнай славістыцы (напрыклад, на яе абапіраўся К. Горалек [48, s. 10—12, 270—276]). Праўда, праца Васкрасенскага была праведзена далёка не бездакорна ў метадалагічных адносінах (гл. найбольш значныя водгукі на яе [24; 17; 54; 55]). Асабліва сур'ёзныя заўвагі зрабіў М. Сперанскі, які дакараў даследчыка за схематызм, што зацірае паступовае развіццё царкоўнаславянскага перакладу ў гісторыі і існаванне пераходных тыпаў [36]. Ён адзначыў, што ў рэдакцыі А вучоным былі аб'яднаны даволі разнародныя тэксты, без дыферэнцыяцыі на апракасы і тэтры. На яго думку, варта ўвогуле адмовіцца ад вылучэння рэдакцый. У дадатак Сперанскі раскрытыкаваў ідэю «рускага» паходжання рэдакцыі Б і правільна ўказаў на яе паўднёваславянскае паходжанне [36, с. 102], з чым Васкрасенскі пазней мусіў пагадзіцца [8]. Пазней і О. Груненталь адзначыў, што схільнасць да літаралізму выяўляе ўжо рэдакцыя А, а не толькі Г, як лічыў Васкрасенскі [45, с. 323 і наст.].

З пазіцый сённяшняга дня праца, праробленая Васкрасенскім, няглядзячы на яе вялізны аб'ём, уяўляе сабой хутчэй абгрунтаванне эмпірычным матэрыялам схемы Добраўскага, удакладненай Горскім і Невааструевым**. Васкрасенскі дадаў толькі рэдакцыю В, паколькі Добраўскаму быў невядомы Чудаўскі Новы Запавет. Крыху раней за Васкрасенскага іншы расійскі царкоўны вучоны М. Ільмінскі на фрагментарных прыкладах спрабаваў вызначыць асаблівасці, уласцівыя розным рэдакцыям царкоўнаславянскага Евангелля, але беспаспяхова [20]. Найбольш цікавыя высновы з матэрыялаў Васкрасенскага пазней зрабіў Сперанскі. Ён падкрэсліў

* Р. Васкрасенскі, для якога сінадальны тэкст быў актуальны, указаў на ўнясенне асобных рэдакцый у фармаванне гэтага тэксту. Найбольш блізка да гэтага тэксту знаходзіцца рэдакцыя Г, якая фактычна з'яўляецца асновай сінадальнага тэксту [7, с. 292, 297]. Асобныя месцы з рэдакцыі В, перакладзеныя нанава, цалкам увайшлі ў сінадальны тэкст [7, с. 258], хаця гэтая рэдакцыя не зрабіла адметнага ўплыву на яго. Захаваліся ў ім і многія месцы рэдакцыі А, падтрыманыя наступнымі рэдакцыямі. Найбольш далёкай ад сінадальнага тэксту стала рэдакцыя Б, асабліва ў рысах, не падтрыманых рэдакцыямі А, В, Г [7, с. 250, 215].

** Больш поўна гісторыя даследавання ў XIX—XX стст. царкоўнаславянскага Евангелля вывучана італьянскім славістам М. Гардзаніці [43], гл. таксама [47, s. 373—381].

неабходнасць адрозніваць чытанні апракаса і тэтра, лічачы, што першапачаткова ў славян паўстаў пераклад апракаса з прычыны важнасці яго літургічнага значэння [37, с. 200, 202—203, 205—206, 218—219]. Аналогіяй яму служылі грэчаскія сярэднявечныя спісы Евангелля, сярод якіх апракасы вылучаюцца большай архаічнасцю за тэтраевангеллі.

Наадварот, чэшскі славіст В. Вондрак даводзіў, што сярод найстаражытных царкоўнаславянскіх рукапісаў менавіта тэтры выяўляюць большую архаічнасць і кансерватыўнасць параўнальна з апракасамі [63, s. 35, 53—67]. На яго думку, асаблівасці апракасаў узніклі пазней, на славянскім Поўдні, пасля перанясення туды славянскага набажэнства. Пазней ён таксама адзначыў, што перапісчыкі і рэдактары царкоўнаславянскага Евангелля правілі першапачатковы пераклад паводле грэчаскага арыгіналу (часам пры невысокім веданні гэтай мовы, што прыводзіла да памылак), у кірунку ўзмацнення большай літаральнасці [64]. На яго думку, першапачатковы тэкст апракаса, перакладзенага св. Кірылам-Канстанцінам, найлепш захаваўся не непасрэдна ў вядомых старажытных апракасах, а ў тэтрах, пры гэтым кірыла-мяфодзіеўскі пераклад быў прыняты ў тэтр без зменаў [64, s. 24—27]. Наадварот, чэшскі славіст Я. Вайс лічыў, што першапачатковы пераклад найлепш прадстаўлены ў вядомых старажытных апракасах [58]. Падставай для меркавання першага вучонага былі моўныя і тэксталагічныя асаблівасці старажытных царкоўнаславянскіх помнікаў, для другога — стасунак перакладу да грэчаскага арыгіналу.

Даволі даўно ў навуцы была выказана думка пра гістарычнае першынства на славянскай мове менавіта апракаса, а не тэтра. Так, ужо Я. Добраўскі лічыў, што напачатку св. Кірыла-Канстанцін пераклаў апракас, але затым сам дапоўніў яго да поўнага Тэтраевангелля [41, S. 55—57; 10, с. 40—41; 42, s. 143]. Такога погляду трымаўся і чэшскі славіст Я. Шафарык, які меркаваў, што першапачаткова салунскімі братамі быў перакладзены апракас, а пераклад тэтра адбыўся пазней, ужо пасля выгнання вучняў Мяфодзія з Маравіі [50, s. 79]. Падставай ім служыў вядомы пасаж з 14 раздзела Жыцця св. Кірылы-Канстанціна (цытуецца ў спрошчанай графіцы): *на молитву ся наложи, и съ ин□ми съпосп□шникы. въскор□ же се ему бгь яви, послушаяи молитвы рабъ своихъ. и тогда сложи письмена и нача бес□доу писати еvаггельскоую: искони б□ слово и слово б□ оу бга б□ слово и прочяя* [22, с. 27]. Жыцце, што было напісана першапачаткова на царкоўнаславянскай мове, выразна ўказвала на апракас, які пачынаецца працытаванымі словамі Пролага (Ін. 1:1). Яму адпавядаў і больш позні помнік, Пролаг (прадмова) Іаана Экзарха, архіб. Балгарскага, да Тэалогіі Іаана Дамаскіна (Шасцідзёна): *мъногы троуды прия строя письмена слов□нскыхъ кънигъ и отъ евангелия и апостола пр□лагая изборъ* [22, с. 160]. Тут таксама ясна ўказваецца на апракас (*изборно евангелие*), які пераклаў св. Кірыла-Канстанцін. Пад уплывам звестак гэтых наратыўных крыніц і К. Неваструеў свой ранейшы погляд на пазнейшае паход-



жанне апракасаў параўнальна з тэтрамі, упершыню сфармуляваны ў працы 1855 г. [9, с. 289], змяніў і абгрунтоўваў ідэю, што апракас з'яўляецца першасным [25, с. 220—227]. В. Вондрак таксама лічыў, што першапачатковы пераклад апракаса, здзейснены Кірылам-Канстанцінам, быў пазней дапоўнены яго паслядоўнікамі, прычым на больш нізкім узроўні, які не дасягае Канстанцінавага [64]. У далейшым амаль усе вучоныя XIX—XX стст. пытанне аб тым, што менавіта было найперш перакладзена Кірылам і Мяфодзіем, апракас ці тэтр, адназначна вырашалі на карысць апракаса*.

Праўда, гэтую пазіцыю крыху карэгавалі высновы чэшскага славіста К. Горалка, атрыманыя пры параўнанні лексікі апракасаў і тэтраў [48, s. 80—123]: першапачатковы апракас у перакладзе і мове істотна не адрозніваецца ад тэтра, а існуючыя разыходжанні паміж імі — вынік адасобленага існавання абодвух тыпаў тэксту [48, s. 123, 265—267]. Пры гэтым ён падкрэсліў, што перапісчыкі не праяўлялі патрэбнай увагі да ранейшага кірыла-мяфодзіеўскага перакладу і правілі яго ўсюды, дзе ён здаваўся ім занадта вольным, у кірунку ўзмацнення літаралізму і набліжэння да грэчаскіх арыгіналаў [48, s. 265—266]. Горалек прыйшоў да дзвюх важных высноў: тэкст найстарэйшых апракасаў не быў выняты з тэтраў, а карэлюе з Кірылавым апракасам, тады як тэкст тэтраў не ўзнік пазней на Балканах у выніку дапаўнення апракаса [48, s. 265].

Зыходзячы з ідэі першынства апракаса, польскі славіст Л. Машынскі паспрабаваў вызначыць чытанні такога першаснага апракаса ў складзе тэтра, супастаўляючы склад найбольш старажытных помнікаў — Асеманіева і Астрамірава евангелляў і Савінай кнігі з лекцыянарнай рубрыкацыяй у тэксце Марыінскага і Зографскага евангелляў [47, s. 387—395]. Славісты іншых краін у 2-й пал. XX ст. таксама спрабавалі так ці інакш рэканструяваць першапачатковы кірыла-мяфодзіеўскі пераклад на падставе розначытанняў царкоўнаславянскага Евангелля**.

У святле ідэі пра першасны пераклад Кірылай апракаса і пазнейшае яго дапаўненне да тэтра ім самім ці яго вучнямі або паслядоўнікамі генезіс рэдакцый царкоўнаславянскага Евангелля быў дэталёва распрацаваны на мяжы 1960—70-х гг. дзвюма жанчынамі-славісткамі — В. Недэлькові́ч у Югаславіі і Л. Жукоўскай у СССР. Паводле Недэльковіч, св. браты яшчэ да пачатку сва-

---

* Праўда, Я. Вайс лічыў, што арыгіналам св. Кірылу-Канстанціну пры перакладзе апракаса служыла грэчаскае службовае тэтраевангелле, што мела рубрыкацыю на перыкопы, паводле такога тыпу тэксту адбываўся і далейшы пераклад евангельскага тэксту да памеру тэтра [56; 57, s. 1].

** Яшчэ Р. Васкрасенскі выказаў агульную думку навукі XIX ст., што ніводны са старажытных рукапісаў Евангелля не змяшчае ў сабе першапачатковы пераклад, але кожны з іх мае сляды ці рэшткі такога перакладу [4, с. 278]. Адпаведна і Л. Жукоўская лічыла, што асобныя пасажы рукапісаў узыходзяць да кірыла-мяфодзіеўскага перакладу, а астатнія ўяўляюць сабой позніх дадаткі [17, с. 81].

ёй місіі пераклалі кароткі апракас, які ў Маравіі быў дапоўнены да тэтра, што затым перайшоў у Балгарыю [27]. Праўда, даследчыца паўтарыла памылку Р. Васкрасенскага пра «рускае» паходжанне поўнага апракаса — гэтую ідэю падзяляла і яе савецкая калега Л. Жукоўская [19, с. 15]. Тая таксама лічыла, што першапачаткова св. Карылам на славянскую мову быў перакладзены кароткі апракас, які затым быў павялічаны да поўнага апракаса [19, с. 57, 122, 131, 241—242, 262—263, 352]. Асобна можна адзначыць спробу віленскага славіста Ю. Тэмчына абгрунтаваць першапачатковасць перакладу на славянскую мову нават звышкароткага апракаса (выступаў у анфалагіёне), які затым дапаўняўся да кароткага і потым да поўнага апракаса [38, с. 21—23, 34], такую думку выказвала яшчэ Л. Жукоўская [17, с. 78—79].

Існуючыя ў навуцы ўяўленні пра тэксталогію царкоўнаславянскага Евангелля былі істотна перагледжаны і перафармуляваны нанава напрыканцы 1990-х гг. у складзе буйнога даследчыцкага праекта на чале з праф. А. Аляксеевым з С.-Пецярбурга. Пад яго кіраўніцтвам група даследчыкаў сістэматычна прааналізавала звыш 1 тыс. царкоўнаславянскіх рукапісаў XI—XVI стст. у межах т. зв. 1-га пакутніцкага евангелля (Ін. 13:31—18:1) — буйнога непарыўнага фрагмента, які прысутнічае ва ўсіх евангельскіх помніках. Матэрыялы даследавання былі абагульнены ў выглядзе крытычнай публікацыі ев. паводле Іаана [13], за якой неўзабаве наступіла і публікацыя ев. паводле Мацвея [14], а таксама сінтэтычная манаграфія самога Аляксеева [1]. Гэтае даследаванне, матэрыялы якога дадаткова апрацоўваліся на камп’ютэры, паказала, што ўсе славянскія пераклады і рэдакцыі паміж сабой шчыльна звязаныя, так што межы паміж рукапісамі размытыя. Пры гэтым пераважная большасць рукапісаў (больш за 700) даволі выразна аб’ядноўвалася ў рэдакцыю, якой даследчыкі далі назву афонскай, а Васкрасенскі раней назваў Г, ці чацвёртай, астатнія рукапісы ўтваралі масіў без адметных пераходаў паміж сабой [13, с. 8]. Тым не менш з дапамогай камп’ютэрнай апрацоўкі ўдалося падзяліць усе рукапісы на пэўныя групоўкі, якія карэлявалі з вынікамі даследавання Васкрасенскага, аднак дапаўнялі яго схему новымі рэдакцыямі, што засталіся не вядомымі яму з прычыны недастатковасці рукапіснай базы напрыканцы XIX ст.

Перш за ўсё было пацверджана існаванне старажытнай рэдакцыі (рэдакцыі А паводле Васкрасенскага), рэпрэзентаванай тэтрамі, кароткімі і поўнымі апракасамі; прэслаўскай рэдакцыі (Б, ці другая), якая прадстаўлена не толькі поўнымі апракасамі, як лічылася раней [16; 19, с. 110—121], але кароткімі апракасамі і нават тэтрамі; рэдакцыі Чудаўскага Новага Запавету (В) і афонскай рэдакцыі (Г, ці чацвёртая), якая, як і ў Васкрасенскага, выразна падзяляецца на дзве групоўкі, прычым другая з іх узнікла на базе першай [13, с. 14—16; 1, с. 186—187]. У складзе старажытнай рэдакцыі, што даўно была вядомая як разнастайная паводле мовы і тэксту, былі адзначаны моўныя абнаўленні і рэдактуры паводле грэчаскіх арыгіналаў, якія адбываліся на Балканах з глыбокай старажытнасці да XIV ст. Новымі рэдакцыямі, выяўленымі ў выніку даследавання групы А. Аляксеева, сталі т. зв. Новы літургічны тэтр, што ўзнік у выніку літургічнай рэформы св. Савы Сербскага (кан. XII ст.) і зараз рэпрэзентаваны пераважна сербскімі рукапісамі XIII—XIV стст., і больш лакальная балгарская рэдакцыя, прадстаўленая лічанымі помнікамі на чале з ев. цара Іаана-Аляксандра каля 1356 г., у якой аб’яднаны рысы старажытнай, прэслаўскай і афонскай рэдакцый [13, с. 11—14; 1, с. 172—175, 188—189]*. Адкрыццё яшчэ адной лакальнай рэдакцыі, што мела толькі вузкае пашырэнне, мела важнае значэнне для разумення побыту і функцыянавання царкоўнаславянскага тэксту Св. Пісьма. Іншым важным здабыткам гэтага буйнамаштабнага даследавання стаў тэзіс пра першаснасць тэтра, а не апракаса, як было агульнапрынята лічыць перад тым [13, с. 19—21; 1, с. 149—151, 171—172].



У ходзе гэтага даследавання царкоўнаславянскага Евангелля яшчэ раз была падкрэслена тэкставая і моўная неаднароднасць многіх рукапісаў, адсутнасць выразных межаў паміж рэдакцыямі. На гэта даўно ўжо звярталася ўвага рознымі вучонымі. Часта ў межах аднаго рукапісу аб’ядноўваюцца пасажы ці нават толькі асобныя чытанні з розных рэдакцый. Нярэдка чытанні адной рэдакцыі перамяжаюцца з чытаннямі іншай, а ў паралельных або ў паўторных чытаннях (часам нават унутры аднаго верша) яны падаюцца паводле іначшай рэдакцыі (прыклады гл.: [19, с. 129—207, 262; 1, с. 20—21, 49—51]). У выніку тэксталагічныя і моўныя асаблівасці такіх рукапісаў не ўтвараюць адзінства, а сам рукапіс не заўжды можна аднесці да адной рэдакцыі. Пры гэтым такія рукапісы не абавязкова маюць знешнія прыкметы кампіляцыі. Яны могуць быць дастакова аднароднымі ў палеаграфічных адносінах (выкананыя адным пісцом / почыркам), але тым не менш утрымліваць разнародны тэкст. Такая разнароднасць узнікла ў выніку шматлікіх з’яў, уласцівых шматвяковай гісторыі існавання царкоўнаславянскага Евангелля: памылак перапісчыкаў, перапіскі ці рэдагавання паводле некалькіх антыграфаў, складання новых зборнікаў на падставе лекцыянарных табліц, рэдагавання паводле грэчаскага тэксту (часта фрагментарнага) і да т. п. Як вынік тэкст асобнага рукапісу царкоўнаславянскага Евангелля ўяўляе сабой нагрувашчанне некалькіх кампіляцый, што стварае складаную тэксталагічную праблему для даследчыка.

Пэўную дапамогу ў вырашэнні гэтай праблемы могуць аказаць дыферэнцыйныя прыкметы, што ўласцівыя пэўнай рэдакцыі, перш за ўсё

* Варта адзначыць існаванне асобнай традыцыі тэксту царкоўнаславянскага Евангелля, прадстаўленай у складзе тлумачальнага Евангелля, дзе ўрыўкі евангельскага тэксту перамяжаюцца праціглымі каментарыямі і заўвагамі. Яно было перакладзена з грэчаскай мовы ў XII ст. на падставе старажытнай рэдакцыі, аднак доўгі час развівалася асобна і набыло шмат асаблівасцяў, якія выразна адасаблялі яго ад іншых евангельскіх тэкстаў. Таму яно не прыцягвалася да разгляду Р. Васкрасенскім і ў абмежаванай ступені групай А. Аляксеева [13, с. 12—13].

лексіка. Напрыканцы XX ст. былі вызначаны лексічныя асаблівасці прэслаўскай (Б, ці другой) рэдакцыі, якая паслядоўна замяняла грэцызмы і семітызмы старажытнай рэдакцыі славянскімі эквівалентамі і абнаўляла новымі сінонімамі ранейшую славянскую лексіку або падавала да яе словаўтваральныя варыянты. Спіс такой спецыфічнай прэслаўскай лексікі быў складзены напрыканцы 1980-х гг. балгарскай даследчыцай Т. Слававай [34]. Адкрыццё гэтай лексічнай спецыфікі прэслаўскай рэдакцыі дазваляе даволі надзейна вызначаць прэслаўскі ўплыў на іншыя тэксты. Гэтая асаблівасць прэслаўскіх перакладаў праяўляецца таксама ў Апостале і Псалтыры, а таксама ў іншых помніках, што паходзяць з Семяонавай Балгарыі. Аднак у дачыненні да іншых рэдакцый царкоўнаславянскага Евангелля такой лексічнай спецыфікі пакуль не выяўлена.

Традыцыя царкоўнаславянскага Евангелля ў Беларусі амаль зусім не вывучана. Існуючыя па гэтай тэме публікацыі ўяўляюць сабой або некрытычныя кампіляцыі [23], або падборку выпадковых звестак [28, с. 18—54, 69—75] ці выбарнае даследаванне моўных асаблівасцей некаторых помнікаў [39, с. 6—7]. Адсутнасць нацыянальнай славістыкі ў Беларусі* моцна замінае сістэмнаму даследаванню мясцовай традыцыі царкоўнаславянскага Евангелля. Іншая перашкода — адсутнасць сістэматычных і дакладных бібліяграфій беларускіх помнікаў на царкоўнаславянскай мове (апісанні Ф. Дабранскага [11] і У. Пераца [29, с. 176—193]) не можа кампенсаваць хібных лакун у гэтым плане. У выніку неспрыяльных гістарычных абставін Беларусь страціла многія каштоўныя царкоўнаславянскія помнікі**.

Нават зараз складанне рэпертуару царкоўнаславянскага Евангелля беларускага паходжання (г. зн. тэкстаў, створаных ці знойдзеных на тэрыторыі Беларусі) уяўляе сабой пэўную праблему.

Найбольш вядомы старажытны помнік царкоўнаславянскага Евангелля з тэрыторыі Беларусі — гэта Тураўскае евангелле XI ст. (дакладней, 10 арк. на пергаміне, што ацалелі ад яго). Як мінімум з пач. XVI ст. рукапіс знаходзіўся ў адной з цэркваў Турава (маюцца дзве правіненцыі 1508 г. і 1513 г. — уклады князя К. Астрожскага, яго жонкі і сына, прачытаныя таксама дзве другія правіненцыі 1731 і 1790 гг. [28, с. 20]). Толькі ў 1865 г. яно было знойдзена ў Тураве і перавезена ў Вільню, дзе зараз захоўваецца ў Бібліятэцы Акадэміі навук Літвы (БАНЛ) у фондзе 19 пад № 1 (апісанне гл.: [11, с. 1—6; 30, с. 189, № 20; 32, с. 50—51, № 10]. Тураўскія аркушы ўяўляюць сабой фрагменты апракаса, два першыя з якіх вынятыя з яго пачатку, астатнія — з сярэдзіны. З евангельскага тэксту помнік утрымлівае: Ін. 10:1—9, 17—20; 12:27—34; Мц. 24:40—44, 25:1—3, 14—30, 15:21—28, Лк. 4:31—36, 5:1—11, 17—26, 6:31—36, 7:11—12 [32, с. 51]. Рукапіс быў створаны хутчэй за ўсё ў Кіеве і мае мала ўсходнеславянскіх рысаў, ён неаднаразова выдаваўся і няблага вывучаны ў навуцы.

* Праўда, з пасляваеннага часу ў Беларусі працуюць славісты, пераважна ва універсітэце і Акадэміі навук, аднак яны не ўтвараюць нацыянальнай школы: рускамоўныя ў сваёй большасці, яны ўяўляюць сабой працяг расійскай славістыкі і распрацоўваюць яе тэмы і праблематыку.

** Непасрэдна ў самой Беларусі з былога яе кніжнага багацця цяпер захоўваецца каля дзесятка рукапісных евангелляў XV—XVI стст. (у 2 кнігасховішчах Мінска — Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі), з якіх толькі 2 з'яўляюцца апракасамі.



Наступнае паводле старажытнасці — дэфектнае Полацкае евангелле-апракас (поўны), створаны на пергаміне напрыканцы XII ст. — напачатку XIII ст. Як мінімум з XIV ст. і да XVII ст. помнік знаходзіўся ў адным з манастыроў Полацка, пра што сведчаць укладныя запісы [28, с. 25]. Рукапіс перапісаны двума почыркамі, месцам яго стварэння лічыцца Полацк, аднак гэта патрабуе доказаў. Паводле моўных асаблівасцяў, якія, праўда, даследаваліся толькі фрагментарна, помнік мае наўгародскае паходжанне. Рукапіс быў знойдзены ў XIX ст. і трапіў да М. Пагодзіна, а два аркушы — да В. Ундольскага і цяпер помнік захоўваецца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы (Пагодзінскі збор, № 12), а два яго аркушы — у Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы (Збор Ундольскага, № 962) [30, с. 212, № 421; 32, с. 219—221, № 194—195].

Два наступныя помнікі хаця і захоўваліся пэўны час на тэрыторыі Беларусі, створаныя маглі быць не там. Сіманава евангелле-апракас 1270 г. у сяр. XVI ст. знаходзілася на тэрыторыі Беларусі [30, с. 199, № 185; 32, с. 203—205, № 180], аднак мае наўгародскае паходжанне. Аршанскае евангелле-апракас (поўны) датуюць XII—XIII стст., было ў 1812 г. выкінута напалеонаўскімі салдатамі з аднаго манастыра ў Оршы, аднак пазней трапіла ў Кіеў і зараз захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Украіны імя В. Вярнадскага пад шыфрам да/п. 555 [30, с. 205, № 281; 32, с. 295—296, № 342]. Гэты рукапіс патрабуе самага пільнага вывучэння, паколькі яго моўныя асаблівасці, даследаваныя даволі несістэматычна, указваюць на паходжанне з паўночнага захаду ўсходнеславянскай тэрыторыі, г. зн., што помнік можа быць створаны ў Полацку.

Патрэбна ўважліва перагледзець вядомыя ўсходнеславянскія рукапісы Евангелля XII—XIII стст. (іх пералік гл.: [32, с. 108—113, 142—144, 164—170, 202—205, 210—212, 215—225, 242—256, 288—289, 290—300, 342, 344—354]) на прадмет пошуку помнікаў магчымага беларускага паходжання. Значна больш помнікаў XIV ст. звязана з тэрыторыяй Беларусі (пералік усходнеславянскіх рукапісаў Евангелля XIV ст. гл.: [33, с. 208—476]). Аднак з іх даследаваныя ў навуцы толькі асобныя спісы.

Лаўрышаўскае евангелле-апракас (поўны) каля 1329 г. няяснага паходжання. Помнік мае шмат правіненцый, найбольш раннія з якіх належаць прадстаўнікам княжацкага роду Гедымінавічаў (адна з іх датаваная 1329 г.) — гэта ўклады ў Лаўрышаўскі манастыр на Нёмане пад Наваг-

рудкам; пазней (да XVI ст.) з'яўляюцца запісы іншых асоб. Помнік зараз захоўваецца ў Кракаве і вывучаецца даследчыкамі.

Таксама не створаныя на тэрыторыі Беларусі два наступныя помнікі. Менскае евангелле-апракас XIV ст. вядома толькі паводле навуковага апісання [12], якое паказала значную прысутнасць у ім украінскіх рысаў, сам помнік зараз страчаны. Друцкае евангелле-апракас (поўны) было створана ў 1-й пал. XIV ст., хутчэй за ўсё ў Ноўгарадзе і напачатку захоўвалася ў Друцку, а з XVI ст. — у Вільні; напрыканцы XIX ст. было набыта М. Ціхаміравым і зараз захоўваецца ў яго зборы пад № 1 у Новасібірску [33, с. 330—331, № 187]. Мсціжскае евангелле, выраблēнае ў XIV ст. на замову аднаго з менскіх месцічаў і перададзенае затым у Мсціж, узнікла, відаць, у Беларусі. Зараз яно захоўваецца ў Вільнюсе, у БАНЛ, у фондзе 19 пад № 2 (апісанне гл.: [11, с. 6—7; 33, с. 313—314, № 177]). Таксама паходжанне з тэрыторыі Беларусі мае Пінскае евангелле, знойдзенае напрыканцы XIX ст. пад Пінскам і перададзенае тады ж у Вільню, дзе зараз яно і захоўваецца ў БАНЛ, у фондзе 19 пад № 4 (апісанне гл.: [11, с. 10—12; 33, с. 277—278, № 150]).

Колькасць евангельскіх рукапісаў XV ст. яшчэ большая (гл.: [31, с. 78, 79, 80, 90—102, 188—194]), аднак даследаваных помнікаў сярод іх фактычна няма, паколькі па традыцыі вучоныя звяртаюць увагу на найбольш старажытныя тэксты. Задачай далейшага даследавання мусіць стаць улік уцалелых помнікаў царкоўнаславянскага Евангелля XII—XVII стст., створаных ці знойдзеных у Беларусі, з мэтай правядзення іх філалагічнага і тэксталагічнага абследавання.

Як бачна, царкоўнаславянскае Евангелле — гэта не адзіны тэкст, а комплекс тэкстаў, звязаных паміж сабой рознымі стадыямі побыту. Пры гэтым гісторыя тэксту важнейшай літургічнай кнігі хрысціянства непарыўна звязана з культурным кантэкстам, у якім існавала гэтая кніга. Таму даследаванне формаў і стадый існавання царкоўнаславянскага Евангелля ў Беларусі дазваляе глыбей зразумець яе культурнае жыццё даўняга часу.

### Л і т а р а т у р а

1. Алексеев А. А. Текстология славянской Библии. С.-Петербург, 1999.
2. Воскресенский Г. А. Характеристические черты главных редакций славянского перевода Евангелия по рукописям XI—XV вв. // Труды VI Археологического съезда в Одессе, 1884 г. Одесса, 1886. Т. 1. С. 276—307.
3. Воскресенский Г. А. К вопросу о славянском переводе Евангелия: Критическая заметка // Сборник ОРЯС Импер. АН. 1886. Т. 40. № 4. С. 1—41.
4. Воскресенский Г. А. Древнерусская редакция славянского перевода Евангелия // Странник. 1888. Т. 2 (июнь—июль). С. 267—324.
5. Воскресенский Г. А. Новый Завет в рукописи святителя Алексия // Церковные ведомости. 1889. № 6. С. 12—47.
6. Воскресенский Г. А. Евангелие от Марка по основным спискам четырех редакций рукописного славянского евангельского текста с разночтениями из ста восьми рукописей Евангелия XI—XVI вв. Сергиев Посад, 1894.



7. Воскресенский Г. А. Характеристические черты четырех редакций славянского перевода Евангелия от Марка по 112 рукописям Евангелия XI—XVI вв. Сергиев Посад, 1895.
8. Воскресенский Г. А. К вопросу о научном издании славянского перевода Библии // Память столетия (1814—1914) импер. Московской духовной академии: Сборник статей. Сергиев Посад. 1915. Т. 1. С. 68—99.
9. Горский А. В., Невоструев К. И. Описание славянских рукописей Московской синодальной библиотеки. М., 1855. Отд. 2: Писания святых отцев. Ч. 1.
10. Добровский И. Кирилл и Мефодий, словенские первоучители: Историко-критическое исследование / Пер. М. Погодина. М., 1825.
11. Добрянский Ф. Н. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковнославянских и русских. Вильна, 1882.
12. Драй-Хмара М. Фрагменти менського пергаменного апракоса XIV в. // Збірник комісії для дослідження історії української мови. Київ, 1931. Т. 1. С. 141—246.
13. Евангелие от Иоанна в славянской традиции / Подгот. А. А. Алексеев и др. С.-Петербург, 1998.
14. Евангелие от Матфея в славянской традиции / Подгот. А. А. Алексеев и др. С.-Петербург, 2005.
15. Елеонский Ф. Г. По поводу 150-летия Елисаветинской Библии: О новом пересмотре славянского перевода Библии. С.-Петербург, 1902.
16. Жуковская Л. П. О переводах евангелия на славянский язык и о «древнерусской редакции» славянского евангелия // Славянское языкознание: Сборник статей. М., 1959. С. 86—97.
17. Жуковская Л. П. Об объеме первой славянской книги, переведенной с греческого Кириллом и Мефодием // Вопросы славянского языкознания. М., 1963. Вып. 7. С. 73—81.
18. Жуковская Л. П. Типология рукописей древнерусского полного апракоса XI—XIV вв. в связи с лингвистическим изучением их // Памятники древнерусской письменности: Язык и текстология. М., 1968. С. 199—332.
19. Жуковская Л. П. Текстология и язык древнейших славянских памятников. М., 1976.
20. Ильминский Н. И. Размышления о сравнительном достоинстве в отношении языка разновременных редакций церковнославянского перевода Псалтыри и Евангелия. [2-е изд.] С.-Петербург, 1886.
21. Коцева Е. Церковные уставы и изучение славянских рукописей X—XIV вв.: Предварительные замечания // Полата кънигописьная. 1985. № 13. С. 44—49.
22. Лавров П. А. Материалы по истории возникновения древнейшей славянской письменности. Л., 1930.
23. Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі: Спроба паясьніцельнай кнігопісі ад канца X да пачатку XIX стагодзьдзя. Коўна, 1926.
24. Муретов М. Древнеславянское евангелие от Марка: Поправки, дополнения и замечания к трудам проф. Г. А. Воскресенского. Сергиев Посад, 1897.
25. Невоструев К. Записка о переводе евангелия на славянский язык, сделанном св. Кириллом и Мефодием // Кирило-Мефодиевский сборник. М., 1865. С. 209—234.
26. Невоструев К. И. Исследование о Евангелии, писанном для новгородского князя Мстислава Владимирова в начале XII, в сличении с Остромировым списком, Га-

личским и двумя другими XII и одним XIII века // Мстиславово Евангелие XII. М., 1997. С. 5—649.
27. Недељковић О. Редакције старословенског Еванђеља и старословенска синонимика // Кирилл Солунски: Симпозиум 1100-годишнина од смртта на Кирилл Солунски. Скопје. 1970. Књ. 2. С. 269—270.
28. Нікалаеў М. Палата кнігапісная: Рукапісная кніга на Беларусі ў X—XVIII стагоддзях. Мн., 1993.
29. Перетц В. Н. Рукописи библиотеки Московского университета, самарской библиотеки и музея и минских собраний. Л., 1934 (Описание рукописных собраний, 1).
30. Предварительный список славяно-русских рукописей XI—XIV вв., хранящихся в СССР / Сост. Н. Б. Шелеманова // Археографический ежегодник за 1965 г. М., 1966. С. 177—272.
31. Предварительный список славяно-русских рукописных книг XV в., хранящихся в СССР / Сост. А. А. Турилов. М., 1986.
32. Сводный каталог славяно-русских рукописей книг, хранящихся в СССР: XI—XIII вв. М., 1984.
33. Сводный каталог славяно-русских рукописных книг, хранящихся в России, странах СНГ и Балтии. XIV век. М., 2002. Вып. 1.
34. Славова Т. Преславска редакция на Кирило-Методиевия старобългарски евангелски превод // Кирило-Методиевски студии. София, 1989. Кн. 6. С. 15—129.
35. Соболевский А. И. Южно-славянское влияние на русскую письменность в XIV—XV веках: Речь, читанная на годичном акте Археологического института 8 мая. С.-Петербург, 1894.
36. Сперанский М. Н. Рецензия на труды Г. А. Воскресенского // Отчет о 39-ом присуждении наград графа Уварова. С.-Петербург, 1899. С. 27—151 (Записки Им── пер. АН по историко-филологическому отделению. Серия 8. Т. 3. № 5).
37. Сперанский М. Н. К истории славянского перевода Евангелия // Русский филологический вестник. 1899. Т. 41. С. 198—219.
38. Темчин С. Ю. История формирования славянского краткоапракосного Евангелия: Попытка обобщения // Slavia. 1977. Roč. 66. № 1. С. 21—34.
39. Шакун Н. С. Кірыла-Мяфодзіеўская традыцыя на Тураўшчыне (Да праблемы лакальных тыпаў старажытнаславянскай мовы): Аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук. Мн., 2006.
40. Dobrovský J. Slavin: Beiträge zur Kenntniss der Slavischen Literatur, Sprachkunde und Alterthümer, nach allen Mundarten. Prag, 1808.
41. Dobrovský J. Cyrill und Method, der Slawen Apostel: Ein historisch-kritischer Versuch. Prag, 1823.
42. Dobrovský J. Ciril a Metod, apoštolové slovansti / Komment. J. Vajs. V Praze, 1948 (Spisy a projewy Josefa Dobrovského, 12).
43. Garzaniti M. Die altslavische Version der Evangelien: Forschungsgeschichte und zeitgenossische Forschung. Köln, Weimar, Wien, 2001.
44. Greeven H. Die Textgeschtalt der Evangelienliktionare // Theologische Literaturzeitung. 1951. Bd. 76. Kol. 513—522.
45. Grünenthal O. Die Übersetzungstechnik der altkirchenslavischen Evangelienübersetzung // Archiv für slavische Philologie. 1910. Bd. 31. S. 321—366, 507—528.



46. Metzger B. M. Greek lectionaries and a critical edition of the Greek New Testament // Die alten Übersetzungen des Neuen Testaments, die Kirchenväterzitate und Lektionare. Berlin, 1972. S. 479—484 (Arbeiten zur neutestamentlichen Textforschung, 5).
47. Moszyński L. Staro-cerkiewno-słowiański aprakos // Syudia z filologii polskiej i słowiańskiej. Warszawa, 1957. T. 2. S. 373—395.
48. Horálek K. Evangeliáře a čtveroevangelia: Příspěvky k textové kritice a k dějinám staroslověnskéha překladu evangelia. Praha, 1954.
49. Prolegomena to the study of the lectionary text of the Gospels / Colwell E. C., Riddle D. W. Chicago, 1933. P. 81—156 (Studies in the lectionary taxt of the Greek New Testament, 1).
50. Šafařík J. Pohled na prvověk Hlaholského písemnictví // Časopis Českého Musea. 1852. Roč. 26. Seš. 3. S. 60—89.
51. Snoj A. Staroslovenski Matejev evangelij: De versione palaeslovenica evangelii S. Matthaei. Ljubljana, 1922.
52. Snoj A. Veteroslavicae versionis evangeliorum pro critica et exegesi sacri textus monumentum // Biblica. 1922. Vol. 3. P. 180—187.
53. Snoj A. Staroslovenski prevod: Njegov pomen za kritiko in za eksegezo Svetopisemskega teksta // Bogoslovni vestnik. 1922. T. 2. Sv. 2. S. 105—115.
54. Taft R. The Bizantine rite: A short history. Collegeville, 1992.
55. Vajs J. Evangelium sv. Marka a jeho poměr k řecké předloze. Praha, 1927 (Kritické studie staroslovanského textu biblického, 1).
56. Vajs J. Byzantská recense a evangelijní kodexy staroslověnské I // Byzantinoslavica. 1929. T. 1. S. 1—9.
57. Vajs J. Byzantská recense a evangelijní kodexy staroslověnské II // Byzantinoslavica. 1932. T. 4. S. 1—12.
58. Vajs J. K charakteristice nejstarších evang. rukopisů staroslověnských // Byzantinoslavica. 1933—1934. T. 5. S. 113—119.
59. Vajs J. Evangelium sv. Marka: Text rekonstruovaný. Praha, 1935 (Kritické studie staroslovanského textu biblického, 4).
60. Vajs J. Evangelium S. Matthei: Palaeoslovenice. Praha, 1935 (Kritické studie staroslovanského textu biblického, 3).
61. Vajs J. Evangelium S. Lucae: Palaeoslovenice. Praha, 1936 (Kritické studie staroslovanského textu biblického, 5).
62. Vajs J. Evangelium S. Ioannis: Palaeoslovenice. Praha, 1936 (Kritické studie staroslovanského textu biblického, 6).
63. Vondrák V. Altslovenische Studien. Wien, 1890 (Sitzungsberichte der Kaiserlichen Akademie der Wissenschaften in Wien: Philosophisch-historische Klasse. Bd. 126. Hf. 2: Abhandlung).
64. Vondrák V. O církevně-slovanském překladu evangelia v jeho dvou různých částech a jak se nám zachoval v hlavnějších rukopisech (zvláště téz v Nik., Nik. B a Hval.) // Даничићев зборник. Београд; Љубљана, 1925. С. 9—27.
65. Wikgren A. Chicago studies in the Greek lectionary of the New Testament // Biblical and Patristic studies in memory of Robert Pierce Casey / Ed. J. N. Birdsall, R. W. Thompson. Freiburg, 1963. P. 96—121.

**С. А. Рыбчонак**

# КОМПЛЕКС РЭВІЗСКІХ СКАЗАК У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ГІСТАРЫЧНЫМ АРХІВЕ БЕЛАРУСІ

Рэвізскія сказкі — асноўны дакумент рэвізій у Расійскай імперыі. Перапісу падлягалі практычна ўсе станы, за выключэннем дваранства*. Улічваючы масавае паходжанне і змест гэтай крыніцы, сказкі з'яўляюцца неацэннымі дакументамі па гісторыі Расійскай імперыі 2-й пал. XVIII — 1-й пал. XIX ст., на што гісторыкі ўжо даўно звярнулі ўвагу [1]. Матэрыялы рэвізій прадстаўлены ў літаратуры як XIX, так і XX ст.: прац напісана многа, аднак практычна ўсе яны падаюць агульныя выніковыя звесткі, што былі падсумаваны яшчэ пасля правядзення перапісаў і выкарыстоўваюцца пераважна для асвятлення дэмаграфічных працэсаў, развіцця станаў, міграцый насельніцтва, яго этнічнага і прафесійнага складу [2]. Вельмі мала прац крыніцазнаўчага накірунку, напрыклад, аналізу зводу, ступені і асаблівасцей яго захаванасці. Асабліва гэта тычыцца ўласна беларускай гістарыяграфіі [3].

Калі казаць пра генеалогію, сказка — вельмі каштоўная крыніца, бо змяшчае не адзінкавы генеалагічны факт (як, напрыклад, метрычная кніга аб хрышчэнні, шлюбе і г. д.), але поўны склад канкрэтнай сям'і падчас перапісу (рэвізіі) з пазначэннем узросту ўсіх яе прадстаўнікоў [4]. Такім чынам, адшуканне патрэбнай рэвізскай сказкі можа адкрыць значна большы пласт генеалагічных звестак, якія з улікам маючайся там дадатковай інфармацыі (перасяленне, сваяцтва, змена стану, абставіны жыцця) дазваляюць не толькі паскорыць правядзенне даследавання, але і ўявіць больш поўную карціну рэчаіснасці, адразу скласці рабочую схему радавода, аднавіць гістарычны фон жыцця роду, зрабіць пошук больш грунтоўным і мэтанакіраваным. Па гэтай прычыне вывучэнне матэрыялаў рэвізій ёсць адзін з галоўных крокаў у практычных даследаваннях і карыстаецца вялікай папулярнасцю. Рэвізскія сказкі з'яўляюцца самадастатковымі крыніцамі для выніковага даследавання ў межах часу свайго існавання, і наадварот, адсутнасць сказак або іх недастатковая захаванасць патрабуюць вывучэння іншых крыніц.

Адзначым, што першы агульнадзяржаўны перапіс у Расійскай імперыі быў праведзены па загаду імператара Пятра I у 1718—1719 гг. Гэты перапіс атрымаў назву рэвізія, а яго асноўны дакумент —рэвізская сказка. Калі першыя рэвізіі праводзіліся з мэтай высветліць колькасць падатных душ і адпаведна лічбу рэкрутаў, то пазней рэвізіі сталі асновай для спагнання падушнага падатку. Распаўсюджанне рэвізій на Беларусі адбылося пасля яе далучэння да імперыі. Нагадаем, што ўсходняя частка Беларусі трапіла ў імперыю ў 1772 г., цэнтральная і заходняя часткі — у 1793 і 1795 гг.

* Шляхту на беларускіх тэрыторыях перапісвалі ўключна па 7-ю рэвізію (1816).



Першая рэвізія, што ахапіла беларускія землі (па расійскай нумарацыі 3-я, і мы надалей будзем прытрымлівацца афіцыйнай нумарацыі), была праведзена ў 1772 г., 4-я рэвізія — у 1781—1787 гг. (пераважна ў 1782 г.). Загад аб наступнай рэвізіі быў падпісаны ў 1794 г., але паколькі на Беларусі ішло паўстанне Т. Касцюшкі, якое завяршылася апошнім падзелам Рэчы Паспалітай, то ўсе матэрыялы 5-й рэвізіі датаваны 1795 г. Далей былі: 6-я рэвізія прызначана на 1811 г. (не ўсюды была скончана, бо пачалася вайна 1812 г.); 7-я — прызначана ў 1815 г., датуецца 1816 г.; 8-я — прызначана ў 1833 г., датуецца 1833 і 1834 гг.; 9-я — прызначана ў 1850 г., датуецца 1850 і 1851 гг. і 10-я — прызначана ў 1856 г., датуецца 1857 і 1858 гг. [5].

Падчас рэформ 1870-х гг. дамінантнае становішча атрымала меркаванне аб неабходнасці адмены падушнага падатку (пачалася паступова з 1882 г.), таму правядзенне чарговай рэвізіі было прынята немэтазгодным, і агульнадзяржаўных перапісаў у Расіі не праводзілася аж да 1897 г. [6]. Такім чынам, ва ўсходняй Беларусі маглі захавацца матэрыялы 3—10-й, а на астатняй частцы — 5—10-й рэвізій. На працягу такога вялікага перыяду (1772—1858 гг.) уласна рэвізіі і складанне рэвізскіх сказак праводзілася самымі рознымі ўстановамі [7], аднак адказнымі за іх захаванне былі губернскія казённыя палаты, таму архівы апошніх сталі для нашага даследавання першай крыніцай.

Наша галоўная задача — вызначэнне зводаў як тых, што існавалі, так і тых, што захаваліся. Звычайны архіўны ўлік вядзецца ў фізічных адзінках захавання. Для першага знаёмства з комплексам ён таксама цікавы. Аднак паводле такога ўліку састаўныя справы (прадстаўлена некалькі аб'ектаў), копіі, фрагменты і г. д. падаюцца як асобныя адзінкі захоўвання, што не дазваляе нам ацаніць рэальнае становішча.

Для сістэматызацыі намі выкарыстоўваліся наступныя прынцыпы: храналагічны, рэгіянальны, праблемны. Нашы падлікі былі ўскладнены цяжкасцямі, звязанымі з недахопам наступных звестак: колькі і якіх менавіта крыніц за час існавання склалі цікавячыя нас установы. Таму прысутнічае некаторая ўмоўнасць вынікаў аналізу. Таксама мы прынялі дадатковы крытэрый — «прадстаўлены комплекс», г. зн., што крыніца мае ўнутраную структуру і важна было падкрэсліць не проста яе наяўнасць за перыяд, але і паўнату.

Згодна з архіўнай структурай, што склалася на Беларусі, НГАБ у г. Мінску павінен быў захоўваць усе дакументы па гісторыі Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў, што захаваліся з моманту ўтварэння ўказаных адзінак да іх ліквідацыі. Таму і галоўнай нашай мэтай стала атрыманне выніковых звестак па ўказаных губернях, у т. л. па паветах, што знаходзіліся ў іх складзе. На гэтых тэрыторыях павінны былі дзейнічаць наступныя казённыя палаты (гл. табл. 1) [8].

*Табліца 1*

**Фонды казённых палат у НГАБ**

| Адм.-тэр. адзінка | Даты дзеяння | № фонду | Адз. зах. | Крайнія даты | Лічба адз. РС |
|---|---|---|---|---|---|
| Полацкае намесніцтва | 1778—1796 | 3223 | 10 | 1779—1795 | 20 |
| Магілёўскае намесніцтва | 1778—1796 | — | — | — | 6 |
| Беларуская губ. | 1797—1801 | 3102 | 3 | 1799 | — |
| Віцебская губ. | 1802—1918 | 2640 | 747 | 1802—1918 | 108 |
| Магілёўская губ. | 1802—1918 | 2151 | 295 | 1778—1919 | 197 |
| Мінская губ. | 1795—1918 | 333 | 27 879 | 1795—1911 | 1103 |

З аналізу гэтых звестак вынікае наступнае. Па Полацкаму і Магілёўскаму намесніцтвах маглі захавацца матэрыялы 3—5-й рэвізій, па Беларускай губ. — не павінна было захавацца ніякіх рэвізскіх сказак, бо рэвізій у час яе існавання не было. Адпаведна па Мінскай губ. павінны былі захавацца сказкі 5—10-й рэвізій, па Віцебскай і Магілёўскай губ. — сказкі 6—10-й рэвізій. Аналіз матэрыялаў, што захаваліся, цалкам пацвярджае наша меркаванне. Адзначым толькі, што асобнага фонду казённай палаты Магілёўскага намесніцтва не было створана, існуе агульны фонд 2151, дзе ёсць дакументы перыяду намесніцтва. Сказкі Полацкага намесніцтва, апроч фонду 3223, захаваліся яшчэ ў «Полацкім намесніцкім праўленні» (фонд 2567). З колькасці наяўных у фондах адзінак захавання ўвогуле і адзінак з рэвізскімі сказкамі ў прыватнасці, між іншым бачна, што з архіваў казённых палат намесніцтваў лепш захавалася Полацкае намесніцтва, а з фондаў пазнейшых губерняў найбольш поўна прадстаўлена Мінская губ.

Цяпер пяройдзем да аналізу ўласна комплексу. Найперш адзначым наяўнасць рэвізскіх сказак XVIII ст. Гэта даволі значныя комплексы (іншы раз перапісаны буйныя зямельныя ўладанні). Яны, верагодна, складаюць значную частку зводу, аднак комплекс, які захаваўся, вельмі цяжка прааналізаваць. Папершае, прынцып правядзення першых рэвізій быў тэрытарыяльны: цалкам перапісаны ўсе наяўныя населеныя пункты, усе станы валам, г. зн. няма відавочнай сістэмы цэласнасці. Па-другое, першыя рэвізскія сказкі моцна пашкоджаны, нярэдка з парушэннем унутранай структуры, многія з якіх захаваліся ў фрагментах, а пакуль няма дакладных звестак, які звод павінен быў існаваць, любы наш аналіз будзе мець больш-менш гіпатэтычны характар. Таму мы сёння толькі канстатуем наяўнасць матэрыялаў, што захаваліся.

У адзінкавым ліку захаваліся матэрыялы 3-й рэвізіі, якая была ў 1763 г., але на ўсходзе Беларусі яна была адмыслова праведзена пасля далучэння: гэта рэвізская сказка Горацкага староства, што належала панам Салагубам. Яна датуецца 1772 г., а захавалася ў копіі 1779 г. [9].

Крыху больш сказак захавалася ад 4-й рэвізіі. Найлепш захаваўся комплекс па Полацкаму намесніцтву: прадстаўлены сказкі панскіх сялян



Веліжскага, Гарадоцкага, Невельскага, Рэжыцкага, Себежскага і Суражскага паветаў, святароў і царкоўных (падухоўных) сялян па Гарадоцкаму, Дрысенскаму, Дзінабургскаму, Невельскаму, Полацкаму, Рэжыцкаму і Себежскаму паветах. Па Магілёўскаму намесніцтву захавалася сказка Хіславіцкага староства гр. Салтыкова [10].

Матэрыялы 5-й рэвізіі захаваліся наступным чынам. Па Полацкаму намесніцтву: сказкі панскіх сялян Гарадоцкага, Дзінабургскага, Люцынскага, Полацкага, Рэжыцкага і Себежскага паветаў, мяшчан хрысціян і габрэяў Дзінабургскага і Рэжыцкага паветаў.

Па Магілёўскаму намесніцтву захавалася няшмат: сказкі панскіх сялян Аршанскага пав., у т. л. Горацкага староства пана Салагуба і іншых землеўладальнікаў, царкоўных сялян Куцеінскага жаночага Успенскага манастыра, Хіславіцкага графства Мсціслаўскага пав. гр. Салтыкова.

Па Мінскай губ. 5-я рэвізія была першай. Адзначым, што на той час губерня мела значна больш паветаў, чым пазней: кароткачасова існавалі Давід-Гарадоцкі, Докшыцкі, Нясвіжскі і Пастаўскі, уваходзілі ў склад губерні да 1843 г. — Вілейскі і Дзісенскі. Усяго захавалася 76 спраў, што змяшчаюць рэвізскія сказкі 1795 г., аднак яны розняцца аб’ёмам аркушаў і захаваліся па рэгіёнах нераўнамерна, таму сцвярджаць пра поўную захаванасць комплексу не прыходзіцца. Больш-менш добра захаваліся сказкі па ўсіх тагачасных паветах, адзінкавыя матэрыялы захаваліся па Пастаўскаму пав., зусім не прадстаўлены Дзісенскі і Пінскі паветы.

Пачынаючы з XIX ст. (6—7-я рэвізіі) у захаваўшыхся дакументах назіраюцца істотныя змены. Відавочна, ужо пасля перапісу і падчас камплектавання рэвізскіх сказак (прашыцця, нумарацыі, пераплёту) выдзяляюцца асобна сказкі шляхты і святароў, панскіх сялян пачынаюць пісаць па прозвішчах памешчыкаў, спрабуюць камплектаваць асобна мяшчан, казённых і духоўных сялян. Адным словам, ствараюць структуру для лепшага ўліку і пазнейшага выкарыстання матэрыялаў, аднак гэта яшчэ не вытрымліваецца дакладна і ўсюды. Стабільная структура з выкарыстаннем пэўнай сістэмы нумарацыі асобных кніг у архівах казённых палат з’яўляецца пасля 8-й рэвізіі (1834), у яе аснове пакладзены саслоўны прынцып, што, аднак, зусім не перашкаджала на месцах дастаткова вольна камплектаваць і рэгістраваць у тагачасных архіўных вопісах асобныя матэрыялы, тым больш што наяўнасць канкрэтных саслоўяў і адпаведна колькасць кніг з іх рэвізскімі сказкамі маглі розніцца па паветах нават у межах адной губерні [11].

Галоўны крытэрый нашага аналізу — «прадстаўлены комплекс». Разгледзім рэвізскія сказкі тых катэгорый насельніцтва, якія складалі асноўную частку жыхароў горада і вёскі — мяшчан і панскіх сялян. Нягледзячы на выдзяленне падчас рэвізій такіх груп гараджан, як купцы, уласна мяшчане, рамеснікі і рабочыя (далей называем іх абагульнена мяшчане. — *С. Р.*), у т. л. па асобных хрысціянскіх і габрэйскіх таварыствах, усе гэтыя слаі лічы-

ліся ў імперыі гарадскім насельніцтвам і перапісваліся разам. Таксама і камплектаваліся звычайна ў адну ці дзве справы (хоць бы і сшываліся разам з іншымі саслоўямі), а таму не ўяўляюць цяжкасцей для іх адкрыцця і ацэнкі. Асноўным прынцыпам складання рэвізскіх сказак панскіх сялян, пачынаючы з 6-й рэвізіі, сталі прозвішчы іх уладальнікаў. Адпаведна справы камплектаваліся па першых літарах гэтых прозвішчаў і сшываліся па адной ці некалькіх літарах запар. У маштабе павета, зразумела, павінны былі быць прадстаўлены ўсе ўласнікі (г. зн. літары алфавіта), што дазваляе хоць бы тэарытычна ацаніць паўнату комплексу*.

Варта адзначыць, што сказкі былі агульныя (на мове афіцыйных дакументаў — «карэнныя») — г. зн. на ўвесь населены пункт, што складаліся падчас правядзення рэвізіі, і дадатковыя («дабавачныя») — г. зн. на прапушчаных, нованароджаных, новапрылічаных, вярнуўшыхся з бягоў, што складаліся ўжо пасля рэвізіі і прадастаўляліся ў казённую палату для запісання ў лік канкрэтнага саслоўя ці таварыства. Зразумела, што дадатковыя рэвізскія сказкі з'яўляюцца вельмі каштоўнай генеалагічнай крыніцай і нярэдка могуць зрабіць асобнае даследаванне выніковым, аднак ніякая іх колькасць не заменіць карэннай рэвізскай сказкі. Тое ж і колькасць указаных крыніц, што павінны былі быць складзены ў кожным канкрэтным выпадку, нам практычна невядома (тагачасныя рэестры захаваліся адзінкава). Таму для вырашэння нашай задачы — атрыманне агульных характарыстык існаваўшага і існуючага зводаў — дадатковыя рэвізскія сказкі не патрэбны. Для аналізу бяром поўную (ці блізкую да поўнай, г. зн. захавалася больш ½ неабходнага комплексу) крыніцу, меншыя фрагменты таксама не ўлічваем (гл. табл. 2).

*Табліца 2*

**Захаванасць рэвізскіх сказак панскіх сялян і мяшчан 6—11-й рэвізій па паветах Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў (у % ад зводу)**

| Паветы | РС панскіх сялян | РС мяшчан хрысціян | РС мяшчан габрэяў |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Веліжскі | — | — | — |
| Віцебскі | 0,1 | — | — |
| Гарадоцкі | — | — | — |
| Дзінабургскі | — | — | — |
| Дрысенскі | — | — | — |
| Лепельскі | — | — | — |
| Люцынскі | 33,5 | 80 | 80 |
| Невельскі | — | — | — |
| Полацкі | — | — | — |
| Рэжыцкі | 19 | 60 | 60 |
| Себежскі | — | — | — |
| Суражскі | 20 | 40 | 40 |
| **Віцебская губерня** | **6** | **15** | **15** |
| Бабруйскі | 100 | 100 | 100 |
| Барысаўскі | 87 | 100 | 100 |
| Ігуменскі | 100 | 80 | 100 |
| Мазырскі | 96,5 | 80 | 100 |
| Мінскі | 89 | 80 | 100 |
| Навагрудскі | 88 | 80 | 100 |
| Пінскі | 92 | 80 | 80 |
| Рэчыцкі | 100 | 80 | 100 |
| Слуцкі | 80 | 100 | 80 |
| **Мінская губерня** | **92,5** | **87** | **95,6** |
| Аршанскі | 19 | — | 10 |
| Бабінавіцкі (па 1840 г.)* | 0,1 | — | — |
| Беліцкі (з 1852 г. Гомельскі) | 0,1 | — | — |
| Быхаўскі | 0,1 | — | — |
| Клімавіцкі | 63 | 80 | 100 |
| Капыскі (па 1861 г.)** | — | — | — |
| Магілёўскі | 0,1 | — | 10 |
| Мсціслаўскі | 61 | 60 | 60 |
| Рагачоўскі | 23,6 | 40 | 40 |
| Сенненскі | 0,1 | 20 | 20 |
| Чавускі | — | — | — |
| Чэрыкаўскі | 34 | 40 | 40 |
| **Магілёўская губерня** | **16,8** | **20** | **23,3** |

* Зразумела, што наш аналіз дастаткова ўмоўны: напрыклад, адна літара ў такіх падліках складае каля 3,6—3,7%. У рэчаіснасці, пэўна, было інакш, напрыклад, літара «Л» па Аршанскаму пав. уключае ў свой склад сялян кн. Любамірскага, што на самой справе маглі складаць 20—40% (колькі дакладна — невядома) ад агульнай колькасці панскіх сялян.



Як бачым, 6—10-я рэвізіі прадстаўлены добра практычна па ўсіх паветах Мінскай губ. Па Віцебскай губ. лепш прадстаўлены Люцынскі (7—10-я), Рэжыцкі (6, 7 і 10-я) і Суражскі паветы (8-я і 10-я рэвізіі). Прыблізна такая ж сітуацыя па Магілёўскай губ.: лепш прадстаўлены Клімавіцкі і Мсціслаўскі паветы (8—10-я), менш Рагачоўскі (7-я і 10-я) і Чэрыкаўскі паветы (7-я і 9-я рэвізіі). Іншыя паветы Віцебскай і Магілёўскай губ. практыч-

* У 1840 г. ліквідаваны, а яго тэрыторыя ўключана ў склад Аршанскага пав.

** У 1861 г. ліквідаваны, а яго тэрыторыя падзелена паміж Горацкім, Магілёўскім, Аршанскім і Сенненскім паветамі.

на не прадстаўлены. Можна сказаць, што атрыманая намі карціна характэрна і для іншых рэвізскіх сказак, што захаваліся ў НГАБ па гэтых рэгіёнах, якіх бы катэгорый насельніцтва яны не тычыліся, хіба што з невялікім ваганнем у лепшы ці горшы бок.

Ацэньваючы рэвізскія сказкі панскіх сялян, варта нагадаць яшчэ тры вялікія комплексы, што захаваліся не ў архівах казённых палат, а ў фамільных фондах буйных землеўладальнікаў. Першы — рэвізскія сказкі Гомельскіх маёнткаў, якія напачатку належалі гр. Румянцаву-Задунайскаму (1776—1834), а потым кн. Паскевічу-Эрыванскаму (з 1834 г.), тут прадстаўлены ўсе рэвізіі з 3-й па 10-ю [12]. Другі — рэвізскія сказкі Дубровенскага графства, што належала Сапегам, а ў канцы XVIII ст. пасля нядоўгага валодання кн. Пацёмкіным перайшло да кн. Любамірскіх і належала тым да 1861 г., прадстаўлены 4—10-я рэвізіі [13]. Трэці — рэвізскія сказкі па маёнтках кн. Радзівілаў і роднасных ім кн. Вітгенштэйнаў, у т. л. не толькі па Мінскай губ.*, прадстаўлены, галоўным чынам, сказкі сялян па 8—10-й рэвізіях. Можна сказаць, што гэтыя комплексы захаваліся дастаткова поўна, у т. л. на час кожнай рэвізіі, і іх можна паспяхова выкарыстоўваць пры правядзенні канкрэтных рэгіянальных даследаванняў. Адзначым драбленне буйных маёнткаў (нярэдка з атрыманнем новых назваў) і іх паступовы пераход да іншых уладальнікаў, што ўскладняе пошукі.

Рэвізскія сказкі гарадскога насельніцтва захаваліся наступным чынам. Найлепш прадстаўлена Мінская губ. — добра захаваліся ўсе рэвізіі па ўсіх паветах. Па Магілёўскай губ. лепш прадстаўлены Клімавіцкі (6—10-я) і Мсціслаўскі (8—10-я), менш — Рагачоўскі (7-я, 10-я) і Чэрыкаўскі (6, 7 і 9-я рэвізіі), іншыя паветы практычна не захаваліся. Па Віцебскай губ. лепш захаваліся Люцынскі (7—10-я) і Рэжыцкі (6, 7 і 10-я), менш — Суражскі (8-я і 10-я рэвізіі), іншыя паветы не захаваліся. Хрысціянскія і габрэйскія рэвізскія сказкі ў названых комплексах захаваліся прыблізна ў роўнай ступені. Як бачым, захаваліся збольшага тыя ж рэвізіі, што і ў комплексе панскіх сялян.

Рэвізскіх сказак 6—8-й рэвізій па Вілейскаму і Дзісенскаму паветах у НГАБ на захаванні няма. Мяркуем, что яны былі перададзены ў архіў Віленскай казённай палаты ўслед за перапарадкаванымі паветамі. Тое ж з Навагрудскім пав.: сказкі 6—8-й рэвізій былі перададзены з Гродна ў Мінскую казённую палату пасля 1842 г. Па гэтых меркаваннях абодва першыя паветы былі выключаны з агульнай ацэнкі зводу па губерні, а апошні, наадварот, уключаны.

* Вітгенштэйн узяў шлюб з кн. Стэфаніяй Радзівіл, якая атрымала ў пасаг набытыя радзівілаўскія маёнткі. Родавыя маёнткі, што ўваходзілі ў склад Нясвіжскай і інш. ардынацый, засталіся ў валоданні кн. Радзівілаў. Падзел спадчыны быў скончаны ў 1838 г.



Некаторыя рэвізіі мелі асаблівасці, пра якія трэба памятаць. Фармуляр 5-й рэвізіі меў паралельны тэкст на польскай і рускай мовах. 6-я рэвізія — адзіная з усіх, калі жаночае насельніцтва не перапісвалі. У Гродзенскай губ. у 1806 г. была праведзена надзвычайная рэвізія габрэйскага насельніцтва, што бачна з адпаведных захаваўшыхся па Навагрудскаму пав. матэрыялаў. Адзінкавыя копіі агульных рэвізскіх сказак часам сустракаюцца ў фондах дум і ўпраў (гэта сказкі на тыя ж населеныя пункты), дзе, відавочна, выкарыстоўваліся для праверкі звестак [14]. Таксама дадатковыя рэвізскія сказкі 1860—1880-х гг. нярэдка сустракаюцца ў фондах павятовых казначэйстваў. Нейкім чынам трапілі ў фонды НГАБ і захаваліся да сённяшняга дня наступныя матэрыялы: рэвізская сказка панскіх сялян па Красненскаму пав. Смаленскай губ. (А—В) за 1858 г., сялян с. Пятроўскае Маскоўскай губ., што належала Разумоўскаму, за 1795 г., дадатковая рэвізская сказка раскольнікаў г. Мітавы Курляндскай губ. за 1851 г. [15].

Літаратура


1. Подьяпольская Е. П. Ревизские сказки как исторический источник // Академику Б. Д. Грекову ко дню семидесятилетия. М., 1952. С. 79—86.
2. Кеппен П. И. О народных переписях в России // Записки Русского географического общества по отделению статистики. СПб., 1889. Т. VI. С. 16—69; Яго ж. Девятая ревизия. СПб., 1857; Рашин А. Г. Население России за 100 лет (1811—1913). Стат. очерки. М., 1956; Кабузан В. М. Народонаселение России в XVIII — первой половине XIX в. (По материалам ревизий). М., 1963; Яго ж. Изменения в размещении населения России. М., 1971.
3. Кабузан В. М. Изменения в размещении населения России … С. 39—40; Кудзелка Д., Шахоцька Л. Перапісы насельніцтва // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1999. Т. V. С. 464—466.
4. Больш падрабязна пра генеалагічныя звесткі ў сказках гл.: Рыбчонак С. Крыніцы па генеалогіі Беларусі XVI — пач. XX ст. Метад. парады. Мн., 2003. С. 21.
5. Савіцкі Э. Рэвізіі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 2001. Т. 6. Кн. I. С. 165—166.
6. Первая всеобщая перепись населения Российской империи. СПб., 1895. С. 5.
7. Статут 10-й рэвізіі гл.: ПСЗ РИ, изд. 1857 г. Т. 9. Прил. к ст. 1679.
8. Агульныя звесткі ўзяты намі з даведніка «Фонды Национального исторического архива Беларуси» (Мн., 2006. С. 90—91), колькасць адзінак з рэвізскімі сказкамі падлічана намі.
9. Ф. 2151. Воп. 1. Спр. 88.
10. Ф. 2151. Воп. 1. Спр. 135.
11. Больш падрабязна пра структуру ўліку рэвізскіх сказак у архівах казённых палат гл.: Рыбчонак С. Крыніцы па генеалогіі … С. 21—22.
12. Рэвізскія сказкі Гомельскіх маёнткаў па 3-й рэвізіі (Ф. 3014. Воп. 1. Спр. 8).
13. Рэвізская сказка Бабінавіцкай акругі Дубровенскага графства па 4-й рэвізіі, захавалася ў копіі 1791 г. (Ф. 3258. Воп. 1. Спр. 19).
14. Ф. 330. Воп. 1. Спр. 8, 10, 13 — Рэвізскія сказкі грамадзян, мяшчан хрысціян і габрэяў г. Мінска за 1858 г.
15. Ф. 2640. Воп. 1. Спр. 175, 180; Ф. 3223. Воп. 3. Спр. 13; Ф. 937. Воп. 1. Спр. 1.

***В. С. Іванова***

## ЗМЕСТ І ЭВАЛЮЦЫЯ ПАНЯЦЦЯ «АСАБІСТЫ АРХІЎ»

Дакументы асабістага архіва, маючы вялікую крыніцазнаўчую вартасць, становяцца аб’ектам вывучэння як для архівістаў, так і для гісторыкаў, навукоўцаў іншых галін. Разглядаючы асабістыя архівы ў якасці складовай часткі аб’екта архівазнаўства, неабходна адзначыць, што не існуе нарматыўна зафіксаванай сістэмы дакументавання дзейнасці асобы, і ў выпадку, калі дакументы трапляюць у поле зроку архівістаў, апошнія вырашаюць цэлы шэраг праблем у сферы іх камплектавання, захавання і выкарыстання. З іншага боку, творчая ці сацыяльна актыўная асоба дзейнічае ў грамадстве як мікрасістэма, ствараючы і назапашваючы дакументальную інфармацыю, якая можа стаць крыніцай даследавання незалежна ад ступені яе захаванасці ў межах архіўнага сховішча. Спецыфіка гістарычных грамадска-палітычных варункаў на беларускіх землях прывяла да эвалюцыі паняцця ў часе і неабходнасці аналізу комплексаў дакументаў асабістага паходжання як гісторыка-культурнага феномена. Апекаванне дзяржаўных устаноў па захоўванні дакументаў такога кшталту не насіла сістэматычнага характару аж да 1960 г. — часу стварэння Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, а цікавасць даследчыкаў да іх узрасла толькі ў апошнія дзесяцігоддзі, але гэтага недастаткова для грунтоўнага вывучэння спадчыны беларускай нацыянальнай інтэлектуальнай эліты.

Разнастайнасць крыніц стварае разнастайнасць тэрміналогіі і неабходнасць яе ўпарадкавання. Колькасць публікацый, што закранаюць пытанні архіваў/фондаў/дакументаў асабістага паходжання, даволі вялікая, але вырашыць акрэсленую тэрміналагічную праблему магчыма на падставе аналізу 100—150 найбольш значных. За аснову ўзяты архіўныя нарматыўна-тэрміналагічныя і метадычныя выданні Беларусі, Расіі [20], Украіны [3], Польшчы [29], былога СССР, гісторыка-архівазнаўчыя даследаванні, а таксама праект міжнароднага слоўніка архіўных тэрмінаў, падрыхтаваны пад кіраўніцтвам Міжнароднай рады архіваў у 1999 г., што даюць уяўленне аб эвалюцыі паняцця ў часе (з канца XVIII ст. па сённяшні дзень), аб яго эквівалентах у роднасных мовах (польскай, рускай, украінскай) і прадстаўляюць магчымасць больш грунтоўнага аналізу зместу.

Асноватворным для архівіста з’яўляецца паняцце «фонд» — генетычна сфарміраваны комплекс дакументаў, прыняты на захоўванне ў архіў, а таксама адпавядаючае яму паняцце «фондаўтваральнік» і прынцыпы ўзаемадзеяння паміж імі. Тэрмін «архіў» можа азначаць установу, структурнае падраздзяленне, будынак ці сукупнасць дакументаў, створаных асобай альбо ўстановай. Апошняе азначэнне было выключана савецкім тэрміназнаўствам з ужытку ў 1980-х гг. як не адпавядаючае тэрміналагічным стандартам [5, с. 5; 24, с. 5]. Адпаведна немэтазгодным стала выкарыстанне тэрміна «архіваўтваральнік», а для азначэння асобы ці ўстановы, ў выніку дзейнасці якіх утварыўся комплекс дакументаў, архівісты карысталіся тэрмінам «фондаўтваральнік». У англійскай мове абодва гэтыя паняцці маюць толькі адзін адпаведнік «creator», які сутнасна выражае ўласцівасць прадмета дакументальна засведчыць працэс і вынік сваёй дзейнасці, утвараючы цэласны комплекс інфармацыі. У сучаснай беларускай архівістыцы дадзены тэрмін выкарыстоўваецца пры вырашэнні пытанняў камплектавання, калі архівіст сутыкаецца з дакументамі ў сферы іх бытавання [14, с. 11].



Існаванне і функцыянаванне кожнай сістэмы (установы, асобы), якая суправаджаецца дакументаваннем, прыводзіць да ўтварэння адзінага комплексу дакументнай інфармацыі, што адлюстроўвае змест і структуру дзейнасці. У яго склад на правах генетычнай еднасці могуць уваходзіць не толькі дакументы, створаныя непасрэдна ўтваральнікам, але і тыя, што сведчаць аб яго дзейнасці. Архіў/фонд* нараджаецца як своеасаблівы інфармацыйны злепак дзейнасці архіва/фондаўтваральніка, а архіва/фондаўтварэнне вынікае як з’ява, якой уласцівы рысы натуральна-гістарычнага працэсу. Сувязь дакумента і архіва/фондаўтваральніка выяўляецца ў прынцыпе паходжання (правеніенцыі), які зыходзіць з працэсу генетычнага ўтварэння сукупнасцей дакументаў. Архіў/фонд разглядаецца, такім чынам, як складаная, але генетычна цэласная гістарычная крыніца (дакладней, перадкрыніца), якая адлюстроўвае мінулае праз інфармацыйныя сувязі канкрэтнага архіва/фондаўтваральніка. Парушэнне сувязей, усталяваных утваральнікам, прыводзіць да страты гістарычнай інфармацыі. У процівагу, паняцце «калекцыя» акцэнтуе ўвагу на штучнасці паходжання комплексу дакументаў, аб’яднаных па тэматычнай, храналагічнай ці іншай прыкмеце, і ілюструе дзеянне прынцыпу пертыненцыі [1, с. 144; 2, с. 108—115, 144—145]. Калекцыяніраванне (ад лат. collecio — збіранне) — мэтанакіраванае выяўленне, набыццё і сістэматычнае камплектаванне аднародных прадметаў, якія маюць навуковае, гістарычнае, мастацкае або пазнавальнае значэнне. Аб’ектамі калекцыяніравання выступаюць творы духоўнай і матэрыяльнай культуры і інш., паняцце «калекцыя» шырока выкарыстоўваецца па-за межамі архівазнаўства. Найбольш багатыя калекцыі дакументаў і прадметаў пачалі ствараццa на беларускіх землях у XIX ст., сярод іх вызначаюцца калекцыі Я. і К. Тышкевічаў у Лагойску,

* У міжнароднай практыцы роднасныя паняцці ўжываюцца разам пры апісанні прадмета, калі не маюць прынцыповых сутнасных адрозненняў. У беларускай архіўнай тэрміналогіі выпадкаў, якія даюць магчымасць групіравання роднасных паняццяў, значна менш, што абумоўлена наяўнасцю большай колькасці сутнасных разыходжанняў.

А. Плятара ў Краславе, М. Румянцава ў Гомелі, Э. Чапскага ў Станькаве, В. Шукевіча ў Начы, А. Ельскага ў Замосці і інш.

Тэрміналогія міжнароднай архівістыкі паняццю «асабістыя дакументы/архівы» (personal paper/archives) ці роднаснаму паняццю «прыватныя дакументы/архівы» (private paper/archives) супрацьпастаўляе паняцці «афіцыйныя дакументы» (public records), дакументы, створаныя ўстановай [27]. У беларускай архіўнай тэорыі і практыцы кольскасць тэрмінаў, што характарызуюць дакументы ці комплексы дакументаў, створаныя па-за межамі службовай дзейнасці асобы, значна большая. Тэрміналагічная разнастайнасць абумоўлена гістарычнымі варункамі: зменай стаўлення да прыватнай уласнасці, у выніку чаго азначэнні «прыватны» і «асабісты» ў адносінах да архіва/фонду не з'яўляюцца ідэнтычнымі.

Паняцце «прыватны дакумент/архіў» гістарычна з'яўляецца пачатковым і адлюстроўвае ў першую чаргу адносіны ўласнасці, г. зн. супрацьпастаўляецца паняццю «афіцыйны», створаны ўстановай. Асноўнымі мэтамі стварэння прыватнага дакумента/архіва былі неабходнасць пацвярджэння праў на маёмасць, фіксацыя гістарычнай, гаспадарчай і творчай дзейнасці асобы. Асноўным відам прыватнага/прыватнаўласніцкага архіва на беларускіх землях, пачынаючы з XVI ст., з'яўляліся фамільныя архівы магнатаў Радзівілаў, Сапегаў, Храптовічаў, Любецкіх і інш., у склад якіх уваходзілі, як правіла, дакументы больш як трох пакаленняў сям'і, траплялі дакументы роднасных сем'яў, звязаных шлюбнымі адносінамі. Фамільныя архівы магнатаў, адлюстроўваючы фактычнае становішча прадстаўнікоў роду на працягу стагоддзяў, характарызуюць узровень грамадска-культурнага развіцця рэгіёна. Тэрыторыя сучаснай Беларусі з XVI ст. уваходзіла ў склад розных дзяржаўных утварэнняў, магнаты валодалі маёмасцямі па-за іх межамі і па-за межамі ўласна беларускіх зямель, таму пры характарыстыцы фамільнага архіва неабходна згадваць не толькі прозвішча ўладальніка(ў), але і месца стварэння архіва: напрыклад, Нясвіжскі архіў Радзівілаў ці архіў Сапег з Дзярэчына. Такі падыход актыўна выкарыстоўваецца польскімі архівістамі [26, s. 161—189; 32, s. 57] і прызнаецца мэтазгодным украінскімі даследчыкамі фамільных архіваў [18, с. 59]. У канцы XVIII — пачатку XIX ст., пасля ўключэння беларускіх зямель ў склад Расійскай імперыі, роля магнатаў і іх палітычнай, эканамічнай, культурнай дзейнасці рэзка знізілася, фамільныя архівы ў выніку гістарычных падзей апынуліся расцярушанымі (архіў Сапег з Дзярэчына), але ў той жа час пачалося іх актыўнае навуковае вывучэнне [23, с. 68—69]. У складзе фамільных архіваў можна вылучыць некалькі асноўных груп крыніц: крыніцы, якія адлюстроўваюць эканамічную дзейнасць прадстаўнікоў роду (маёмасна-гаспадарчыя дакументы па кіраванні маёнткамі, дакументы, што пацвярджаюць маёмасныя правы), крыніцы, якія адлюстроўваюць грамадска-палітычную дзейнасць прадстаўнікоў роду (дакументы службовай дзейнасці, афіцыйнае ліставанне, дзяржаўныя дакументы), асабістыя дакументы прадстаўнікоў роду (біяграфічныя дакументы, творчыя дакументы, мемуары, асабістае ліставанне, генеалагічныя дакументы), калекцыі (гістарычныя дакументы, дакументы іншых сем'яў). Паняцце «родавыя архівы/фонды» [21, с. 21; 32, с. 60] не набыло шырокага распаўсюджання ў беларускім архівазнаўстве [14, с. 32], яго выкарыстанне на сённяшні дзень лічыцца некаторымі ўкраінскімі даследчыкамі немэтазгодным [18, с. 58]. Тым не менш паняцце «archiwa rodowe» разам з паняццем «archiwa rodzinno-majątkowe» шырока выкарыстоўваецца польскімі архівістамі для характарыстыкі комплексу дакументаў, што ўтрымліваюць найбольш поўнае кола сведчанняў аб эканамічнай, грамадскай і іншай дзейнасці прадстаўнікоў некалькіх пакаленняў роду [31, s. 59—60].



У першай палове XIX ст. прыкметным становіцца існаванне т. зв. сядзібных архіваў. Менш значныя па складу крыніц за фамільныя, яны ў першую чаргу выконвалі эканамічныя функцыі, але пачынаючы з 30-х гг. XIX ст. паступова на пярэдні план выходзіць функцыя сацыяльна-прававая, абумоўленая неабходнасцю пацвярджэння шляхецкага паходжання. Менавіта сядзібныя архівы становяцца асяродкам зберагання гістарычных дакументаў і творчай спадчыны беларускіх дзеячаў, дастаткова згадаць калекцыі І. Каладзеева з Барысава, А. Ельскага з Замосця, Ю. Бергеля са Слуцка, Р. Зямкевіча з Нароўлі і г. д. Да шэрагу роднасных паняццяў адносяцца: у расійскім архівазнаўстве тэрміны «памесна-вотчынны архіў» (што выкарыстоўваўся для характарыстыкі архіваў, якія існавалі пачынаючы з XVI ст.) і «памешчыцкі архіў» (XIX ст.) [13, с. 309], у польскім — «archiwa podworskie» (які ўжываўся аж да 1945 г.) [30, s. 20], ва ўкраінскім — «маєтковий архів» (які ў 20—30-я гг. XX ст. падчас называлі «памешчыцкім») [18, с. 59], у беларускім — дваровы архіў, маянтковы архіў [19, с. 27].

Пасля 1917 г. пачалася паступовая трансфармацыя паняцця «прыватны архіў», звязаная з ліквідацыяй прыватнай уласнасці: на першае месца пачынае выходзіць не гаспадарчая, а творчая дзейнасць асобы. Былая сістэма архіўнага захоўвання, што ўключала прыватныя, канфесійныя архівы і архівы дзяржаўных устаноў, спыняе сваё існаванне і будуецца новая ў адпаведнасці з прынцыпамі цэнтралізацыі і дзяржаўнай уласнасці на дакументы. Прамежак часу, калі старая сістэма захоўвання дакументальнай спадчыны ўжо не дзейнічала, а новая яшчэ не існавала, стаўся вельмі стратным для архіваў, асабліва прыватных, аб чым сведчыць той факт, што на сённяшні дзень у беларускіх архівах захавалася толькі 22 фонды асабістага паходжання да 1917 г.: з іх 15 фамільных, 7 асабістых, пры гэтым большасць з іх не з'яўля-

юцца цэласнымі дакументальнымі комплексамі*. Пераходны перыяд стварэння новай дзяржаўнай архіўнай сістэмы прывёў да блытаніны ў тэрміналогіі, што яскрава выявілася ў публікацыях расійскіх навукоўцаў, прысвечаных гісторыі архіваў у 1920—1930-х гг. У Беларусі ў гэты перыяд працэс камплектавання дзяржаўных сховішчаў архівамі асабістага паходжання быў значна менш актыўным, а ў другой палове XX ст. для архіўнай прыктыкі была запазычана савецкая архіўная тэрміналогія. Пры паступленні на дзяржаўнае захоўванне прыватны архіў атрымаў назвы «фонд асабістага паходжання», «фамільны фонд» альбо «асабісты фонд», першапачаткова таксама выкарыстоваўся тэрмін «прыватны фонд» [12, с. 70—74], а ў дачыненні да архіваў пісьменнікаў — «літаратурны архіў» [4, с. 20]. Пасля 1990 г., з аднаўленнем права прыватнай уласнасці на дакументы, было адноўлена і выкарыстанне тэрміна «прыватны архіў», які абазначае дакументы, што знаходзяцца ва ўласнасці фізічнай асобы і зарэгістраваны ва ўсталяваным парадку дзяржаўнай архіўнай службай [16, с. 3; 17, с. 90].

У 1920-я гг. са зменамі ў адносінах да прыватнай уласнасці, пачаткам беларусізацыі і актыўнага развіцця беларускай навукі, літаратуры, мастацтва на першы план выходзіць творчая, навуковая, грамадска-культурная дзейнасць асобы. Асоба пачынае разглядацца ў якасці мікрасістэмы, якая ў выніку свайго жыцця ўтварае комплекс дакументаў, што з'яўляюцца адначасова вынікам дзейнасці, крыніцай для яе вывучэння і крыніцай, якая адлюстроўвае развіццё грамадства на розных узроўнях у дадзены перыяд. Вырашаючы праблемы камплектавання, захавання і выкарыстання, савецкае архівазнаўства няшмат увагі звяртала на архівы ў сферы іх бытавання і абмяжоўвалася толькі дакументамі, што былі прыняты на дзяржаўнае захоўванне ў якасці фонду ці калекцыі. Ступень захаванасці фонду асабістага паходжання залежыць ад цэлага шэрагу суб'ектыўных фактараў, асноўным з якіх з'яўляецца воля архіваўтваральніка і яго спадчыннікаў, у выніку гістарычных падзей шматлікія дакументы знішчаюцца, таму ў большасці захоўваюцца не самыя каштоўныя ці не ўсе каштоўныя дакументы асабістага архіва.

Сфера навуковага інтарэсу даследчыка-навукоўца ахоплівае ўвесь комплекс рэшткаў інтэлектуальнай дзейнасці адной асобы. Паняцце «асабісты архіў» у шырокім гісторыка-культурным разуменні паўстае ідэальным аб'ектам, які дае магчымасць уключыць у навуковы зварот як мага большае кола крыніц, выкарыстоўваючы нетрадыцыйны падыход да выбару аб'екта даследавання. Для дасягнення практычных вынікаў ставіцца пытанне аб навуковай рэканструкцыі розных комплексаў архіўных дакументаў [8, с. 178—183], у тым ліку архіваў асабістага паходжання [18, с. 371; 32, s. 57—65]. Асабісты архіў разглядаецца як сукупнасць дакументаў, генетычна аб'яднаных па прызнаку паходжання, сукупнасці, якая можа стаць аб'ектам даследавання, знаходзячыся як на дзяржаўным захоўванні, так і ў прыватнай уласнасці ці ў сферы бытавання. Часткі асабістага архіва аднаго дзеяча могуць захоўвацца ў розных сховішчах у якасці асабістых фондаў, персанальных збораў, у складзе калекцый ці асабістых фондаў іншых дзеячаў і г. д. Захаванне цэласнага комплексу дакументаў асобы, а тым больш у адным месцы, паўстае немагчымым, аднак спробы поўнай рэканструкцыі мелі месца ў гісторыі архівазнаўства: так, у 1898 г. у Вільні быў створаны Мураўёўскі музей, пачалася праца па выяўленні і канцэнтрацыі дакументаў аб дзейнасці графа М. К. Мураўёва ў перыяд кіравання Паўночна-Заходнім краем 1863—1865 гг. [25, с. 63]. Асноўным негатыўным вынікам такіх дзеянняў на першым этапе стала парушэнне цэласнасці архіўных фондаў устаноў, з якіх вылучаліся дакументы асабістага паходжання. Парушэнне прынцыпу правеніенцыі паўсюдна назіралася і ў гісторыі савецкай архівістыкі, што з'яўляецца катэгарычна недапушчальным.

Найбольш блізкім да вышэйакрэсленага разумення паняцця «асабісты архіў» з'яўляецца польскамоўны тэрмін «spuścizna» (літаральна «спадчына»), які выкарыстоўваўся для абазначэння комплексу дакументаў, створанага асобай (ці асобамі), а таксама сабраных асобай. Паняцце, што актыўна выкарыстоўвалася польскімі архівістамі да 1950-х гг., з пачаткам інтэнсіўнага камплектавання дзяржаўных архіваў архівамі асабістымі змяняецца на «papiery osobiste», «zbiór archiwalny» ці «archiwum osobiste», якія губляюць акцэнт першапачатковага тэрміна, які разглядаў асобу як творцу дакументальнай спадчыны. Дадзены тэрмін дапускае нязначнае парушэнне прынцыпу правеніенцыі і ўключэнне ў склад генетычна створанага дакументальнага комплексу калекцыйных (штучна сабраных) матэрыялаў [28, s. 70—71], што можа лічыцца характэрнай асаблівасцю дакументальнага складу архіваў/фондаў асабістага паходжання і своеасаблівым спалучэннем супрацьлеглых прынцыпаў правеніенцыі і пертыненцыі.

* У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Мінску на сённяшні дзень захоўваюцца 13 фамільных фондаў і 4 асабістыя (Е. Іоэльсон, М. Кагановіча, М. Мялешкі, У. Брахоцкага), у Нацыянальным гістарычным архіве ў г. Гродна — 3 фамільныя фонды (Булгарынаў, Слізняў, Быхаўцаў), у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва — 3 асабістыя фонды і калекцыі (І. Грыгаровіча, А. Гурыновіча, К. Каганца). Пры гэтым трэба адзначыць, што некаторыя з акрэсленых архіваў не маюць у сваім складзе дакументаў асабістага паходжання: архіў М. Кагановіча ўтрымлівае толькі дакументы аб гандлёвай дзейнасці фондаўтваральніка, архівы П. С. Цеханавецкага, графіні Чарнышовай, графа Румянцава-Задунайскага і князёў Паскевічаў — дакументы па кіраванні маёнткамі Бачэйкава, Чачэрск і Гомель. Таму для апошніх больш трапным вызначэннем будзе з'яўляцца «маянтковы архіўны фонд».

Пасляваеннае савецкае архівазнаўства выпрацавала дакладную сістэму вызначэнняў для архіваў асабістага паходжання, што прымаліся на дзяржаўнае захоўванне. У 1965 г. пасля правядзення Усесаюзнай нарады-семінара па камплектаванні дзяржаўных архіваў матэрыяламі асабістага паходжання быў апублікаваны артыкул Э. У. Коласавай і У. У. Цапліна [9, с. 14—23], дзе ўпершыню былі ахарактарызаваны асноўныя віды фондаў асабістага паходжання: асабісты фонд, сямейны фонд, родавы фонд. У гэты ж час была зроблена спроба класіфікацыі відаў і вызначэння каштоўнасці крыніц, што ўваходзяць у склад асабістых фондаў, дадзена крыніцазнаўчае азначэнне паняцця [7, с. 35—48]. Ажыццяўляецца таксама і нарматворчая дзейнасць па стварэнні метадычных рэкамендацый і тэрміналагічных слоўнікаў, дзе дадзены архівазнаўчыя азначэнні асноўным паняццям, што характарызуюць дакументы асабістага паходжання, прынятыя на дзяржаўнае захоўванне [10; 15; 21]. Засноўваючыся на папярэднім досведзе савецкай архівістыкі, з улікам сучаснага ўзроўню развіцця архіўнай тэрміналогіі, беларускімі архівістамі быў акрэслены шэраг паняццяў у адносінах да дакументаў асабістага паходжання [6; 22]. Да ліку фондаў асабістага паходжання аднесены: асабісты фонд (які складаецца з дакументаў, што адклаліся ў выніку жыцця і дзейнасці асобы, а таксама дакументаў аб ёй); сямейны фонд (які складаецца з дакументаў, што адклаліся ў выніку дзейнасці прадстаўнікоў адной сям'і (да трох пакаленняў); фамільны фонд (які складаецца з дакументаў, што адкладаліся ў выніку дзейнасці прадстаўнікоў аднаго роду (больш трох пакаленняў) [14, с. 33]. Фонд асабістага паходжання можна таксама разглядаць як частку архіва асабістага паходжання, вылучаную са сферы бытавання і прынятую на дзяржаўнае захоўванне, а архіў асабістага паходжання як першасны комплекс дакументаў для стварэння фонду асабістага паходжання.

Паняцце «персанальны збор», што актыўна выкарыстоўваецца ў сучаснай архівістыцы, характарызуе комплекс дакументаў, штучна сфарміраваны па прызнаку прыналежнасці да дзейнасці асобы. Персанальны збор можа фарміравацца дзяржаўным архівам з дакументаў ці копій дакументаў, што паступілі з розных крыніц. Першапачаткова персанальны збор выступаў як сукупнасць усіх захаваўшыхся дакументаў асобы і як вышэйшая ступень адлюстравання заслуг дзеяча.

У склад трохтомнага паказальніка «Асабістыя архіўныя фонды», што ўбачыў свет у 1962—1980 гг., акрамя фондаў асабістага паходжання былі ўключаны калекцыі, якія складаюцца з дакументаў асабістага паходжання ці сабраныя асобай з акрэсленай мэтай [11]. Калекцыі, якія сёння захоўваюцца ў дзяржаўных архівах Рэспублікі Беларусь, можна падзяліць на дзве групы: калекцыі, сабраныя прыватнай асобай, і калекцыі, сабраныя архіўнай установай. Калекцыі, сабраныя прыватнай асобай, могуць уключаць у сябе



дакументы асабістага паходжання (Калекцыя лістоў пісьменнікаў і ваенных мемуарыстаў, сабраная Я. І. і З. У. Драйчукамі, якая захоўваецца ў БДАМЛМ), дакументы неасабістага паходжання (Калекцыя слайдаў па гісторыі культуры і побыту беларусаў, сабраная У. Н. Целешам, БДАМЛМ). Да калекцый, створаных па ініцыятыве архівістаў, можна аднесці: персанальны збор (Збор дакументаў Я. Коласа, БДАМЛМ); калекцыю, створаную на аснове дакументаў асабістага паходжання, аб'яднаных па тэматычнай прыкмеце (Калекцыя дакументаў удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, НАРБ); калекцыі, створаныя на аснове дакументаў неасабістага паходжання (Калекцыя планаў і схем гарадоў Беларусі, БДАНТД). Такім чынам, большасць калекцый мае дачыненне да асабістай дзейнасці, таму іх можна вызначыць як калекцыі асабістага паходжання і выкарыстоўваць пры даследаванні асабістых архіваў.

Такім чынам, праблема разнастайнасці тэрмінаў, што характарызуюць дакументы асабістага паходжання, вырашаецца на падставе аналізу ў першую чаргу нарматворчых дакументаў, даведнікаў, архіўных стандартаў, даследчыцкіх прац. Разгледжаныя тэрміны маюць паняційныя адрозненні, што найбольш яскрава выяўляюцца пры параўнанні аналагічных паняццяў у роднасных мовах. Эвалюцыя паняццяў у часе прыводзіла да немагчымасці іх нарміраванага ўжывання і своеасаблівага тэрмінаглагічнага бязладдзя. Апошнія тэрміналагічныя распрацоўкі Міжнароднага савета архіваў, архівістаў Расіі, Беларусі, Украіны, Польшчы на падставе вывучэння папярэдняга досведу даюць магчымасць нармалізацыі тэрміналогіі ў дадзенай сферы. Вынікі праведзенага гістарычна-тэрміналагічнага даследавання могуць быць шырока выкарыстаны архівістамі і гісторыкамі.

Дакумент становіцца аб'ектам увагі архівіста толькі пры патэнцыяльнай магчымасці перадачы яго на дзяржаўнае захоўванне; навуковец, выкарыстоўваючы яго як гістарычную крыніцу, разглядае не толькі змест дакумента, але і сам факт яго існавання. Паняцце «асабісты архіў», якое выступае як комплекс усіх рэшткаў інтэлектуальнай дзейнасці асобы, было абрана стрыжнёвым паняццем для дакладнага вызначэння кола тэрмінаў, што характарызуюць комплексы дакументаў асабістага паходжання. Прапанаваны падыход адкрывае новыя магчымасці для правядзення гістарычных, крыніцазнаўчых і архівазнаўчых даследаванняў.

## Тэрміналагічны слоўнік[*]

**Архіў** — 1) установа альбо структурнае падраздзяленне, што ажыццяўляе камплектаванне, захоўванне і выкарыстанне архіўных дакументаў; 2) комплекс дакументаў, створаных установай, асобай або групай асоб; 3) будынак.

**Архіваўтваральнік** — установа, асоба або група асоб, у выніку дзейнасці якіх утварыўся комплекс дакументаў. Супрацьлеглае паняццю калекцыянер.

**Прыватны/прыватнаўласніцкі архіў*** — архіў, які ўтварыўся ў выніку дзейнасці прыватнай установы, асобы або групы асоб і знаходзіцца ў прыватнай уласнасці (фамільныя, канфесіянальныя архівы, архівы прыватных установ).

**Фамільны архіў*** — архіў, які ўтварыўся ў выніку дзейнасці прадстаўнікоў аднаго роду і ўтрымлівае сведчанні аб палітычнай, грамадскай, гаспадарчай, культурнай, творчай актыўнасці прадстаўнікоў роду.

**Сядзібны архіў*** — архіў, які ўтварыўся ў выніку дзейнасці асобы альбо сям'і і ўтрымлівае дакументы аб кіраванні маёнткамі, а таксама дакументы асабістага паходжання. С. а. існаваў у XIX — пачатку XX ст., па складу дакументаў менш значны за фамільны. Роднасныя тэрміны: дваровы архіў, маянткова архіў.

**Літаратурны архіў** — архіў грамадска-палітычнага дзеяча, дзеяча літаратуры, мастацтва ці навукі. Тэрмін ужываўся ў СССР у 20—30-я гг. XX ст. Раўназначны тэрміну «асабісты архіў».

**Асабісты архіў*** — *гісторыка-культурнае азначэнне*: комплекс рэшткаў дзейнасці адной асобы; *архівазнаўчае азначэнне*: комплекс дакументаў, які мае ўнутранае адзінства, абумоўленае прыналежнасцю да дзейнасці адной асобы; *крыніцазнаўчае азначэнне*: комплекс неаднародных крыніц (уведзеных ці не ўведзеных у навуковы ужытак), звязаных з жыццядзейнасцю адной асобы.

**Фонд*** — комплекс архіўных дакументаў, генетычна звязаных паміж сабой. З'яўляецца арганічным вынікам дзейнасці пэўнай асобы ці ўстановы і сведчыць аб гэтай дзейнасці.

**Фондаўтваральнік** — установа, асоба або група асоб, у выніку дзейнасці якіх утварыўся архіўны фонд.

**Фонд асабістага паходжання** — комплекс архіўных дакументаў, які ўтварыўся ў выніку жыцця і дзейнасці асобы або групы асоб. Асаблівасцю

[*] Слоўнік складзены на падставе аналізу асноўных крыніц, што пералічаны ў спісе літаратуры, з улікам больш за 150 савецкіх, беларускіх, расійскіх, украінскіх, польскіх публікацый па дадзенай тэме. Зоркай (*) адзначаны тэрміны, азначэнні да якіх прапанаваны аўтарам артыкула.



складу дакументаў з'яўляецца наяўнасць дакументаў, сабраных асобай ці асобамі.

**Асабісты фонд** — фонд асабістага паходжання, які ўтварыўся ў выніку жыцця і дзейнасці адной асобы.

**Сямейны фонд** — фонд асабістага паходжання, які ўтварыўся ў выніку жыцця і дзейнасці адной сям'і.

**Фамільны фонд** — фонд асабістага паходжання, які ўтварыўся ў выніку жыцця і дзейнасці прадстаўнікоў аднаго роду.

**Калекцыя** — комплекс дакументаў, аб'яднаных па адной ці некалькіх прыкметах.

**Прыватная калекцыя** — калекцыя, што знаходзіцца ў прыватнай уласнасці.

**Калекцыя асабістага паходжання*** — калекцыя, што складаецца з дакументаў асабістага паходжання ці сабраная асобай (асобамі) з акрэсленай мэтай.

**Персанальны збор** — комплекс архіўных дакументаў, штучна аб'яднаных па прыкмеце прыналежнасці да дзейнасці асобы.

**Дакументы асабістага паходжання** — дакументы, што ўтварыліся ў выніку дзейнасці асобы або групы асоб, як правіла, не маючыя афіцыйнага характару.

**Правеніенцыя (прынцып паходжання)** — (ад лац. provenio — нараджацца, з'яўляцца, паходзіць) — адзін з асноватворных прынцыпаў міжнароднай архівістыкі. Прынцып аб'яднання архіўных дакументаў у групы з улікам генетычнай сувязі паміж імі, абумоўленай прыналежнасцю да дзейнасці адной установы ці асобы.

**Пертыненцыя (прынцып прыналежнасці)** — (ад лац. pertineo — мець дачыненне, належаць, садзейнічаць) — адзін з асноватворных прынцыпаў міжнароднай архівістыкі, супрацьлеглы прынцыпу правеніенцыі. Прынцып аб'яднання архіўных дакументаў па адной ці некалькіх прыкметах (акрамя прыкметы паходжання).

Літаратура

1. Автократов В. Н. Понятие происхождения в архивоведении // Археографический ежегодник за 1978 год. М., 1979. С. 142—149.
2. Автократов В. Н. Теоретические проблемы отечественного архивоведения. М., 2001. 396 с.
3. Архівістика: Термінологічний словник. Київ, 1998. 106 с.
4. Бонч-Бруевич В. Д. Об архивных фондах литературных деятелей // Архивное дело. 1939. № 2. С. 15—27.
5. Делопроизводство и архивное дело. Термины и определения: ГОСТ 16487-83. М., 1983. 8 с.

6. Делопроизводство и документоведение: Краткий словарь современной терминологии / Авт.-разраб. С. В. Жумарь [и др.]. Мн., 2001. 76 с.
7. Дмитриев С. С. Личные архивные фонды. Виды и значение их как исторических источников // Вопросы архивоведения. 1965. № 4. С. 35—48.
8. Запартыка Г. Перспектывы навуковай рэканструкцыі музея імя І. Луцкевіча ў Вільні // Рэстытуцыя культурных каштоўнасцей, праблемы вяртання і сумеснага выкарыстання (юрыдычныя, навуковыя і маральныя аспекты): Матэрыялы Міжнар. навук. канфер., якая адбылася ў Мінску пад эгідай UNESCO 19—20 чэрвеня 1997. Вяртанне-4. Мн., 1997. С. 178—183.
9. Колосова Э. В., Цаплин В. В. Государственные архивы и документы личного происхождения // Вопросы архивоведения. 1965. № 4. С. 14—23.
10. Краткий словарь архивной терминологии. М.—Л., 1968. 68 с.
11. Личные архивные фонды в государственных хранилищах СССР: Указатель: В 3 т. М., 1962—1980. Т. 1—3.
12. Максаков В. В. История и организация архивного дела в СССР (1917—1941). М., 1969. 431 с.
13. Маяковский И. Л. Очерки по истории архивного дела в СССР. М., 1960. 338 с.
14. Метадычныя рэкамендацыі па рабоце архіваў з дакументамі асабістага паходжання / Аўт.-склад. Г. В. Запартыка. Мн., 2005. 200 с.
15. Методические рекомендации по работе с документами личного происхождения (литература и искусство) / Э. Р. Коган, М. Г. Козлова, Н. А. Коробова и др. М., 1990. 256 с.
16. О внесении изменений и дополнений в Закон Респ. Беларусь «О национальном архивном фонде и архивах в Республике Беларусь», 6 октяб. 1994 г., № 3277-XII: В ред. Закона Респ. Беларусь от 6 января 1999 г., № 236—3 // Нар. газ. 1999. 23 верасня. С. 2—3.
17. Основные правила работы архивов центральных и местных органов государственной власти и управления, учреждений, организаций и предприятий Республики Беларусь. Мн., 2002. 182 с.
18. Папакін Г. Архів Скоропадських: фамільні архіви української еліти другої половини XVII—XX ст. та архівна спадщина роду Скоропадських. Київ, 2004. 420 с.
19. Первая Всебелорусская конференция архивных работников. 12—15 мая 1924 г.: Док. и материалы / Сост. М. Ф. Шумейко. Мн., 1999. 148 с.
20. Перечень терминов российской части 3-й редакции словаря международной архивной терминологии // International Council on Archives [Electronic resource] Stockholm, 2000. Mode of access: http://staff-www.uni-marburg.de/~mennerhar/datii/Ryska.htm. Date of access: 27.12.2006.
21. Словарь современной архивной терминологии социалистических стран: В 2 вып. М., 1982—1988. Вып. 1. 1982. 445 с.
22. Запартыко А. В., Мальцева Т. Н., Сорока В. А. Русско-белорусский словарь делопроизводственной и архивной терминологии. Беларуска-рускі слоўнік справаводнай і архіўнай тэрміналогіі. Мн., 1997. 184 с.



23. Ульяновський В. «Русское дело в Северо-Западном крае» через призму історії магнастських архівів Сапєг та Радзивіллів у XIX ст. // Студії Інститута української археографії та джерелознавства імені М. С. Грушевского НАН України. Вип. 1. Київ, 1998. 105 с.
24. Хан-Пира Э. И. Архивоведческое терминоведение: Пособие по спецкурсу. М., 1990. 88 с.
25. Шумейко М. Ф., Козак К. И., Селеменев В. Д. Архивоведение Беларуси: Учеб. пособие: В 2 ч. Мн., 1999. 380 с.
26. Bańkowski P. Polskie archiwa magnackie w centralnym państwowym archiwum historycznym w Kijowie // Archeion. T. 40. Warszawa, 1964. S. 161—189.
27. Draft for the third edition of the Dictionary on Archival Terminology of the International Council on Archives // International Council on Archives [Electronic resource] Stockholm, 2000. Mode of access: http://staff-www.uni-marburg.de/~mennerhar/datii/engterm.htm. Date of access: 27.12.2006.
28. Kulecka A. Spuścizny w archiwach, bibliotekach i muzeach w Polsce / Archeion / Naczelna Dyrekcja Archiwów Państwowych; red. Stefan Krzyszytof Kuczyński. T. 100. 1999. S. 70—96.
29. Międzynarodowy standart opisy archiwalnego. Część ogólna. Wersja 2. // Naukowy portal archiwalny [Electronic resource] Sztokholm, 1999. Mode of access: http://www.archiwa.net/file/isad_2pl.pdf. Date of access: 27.12.2006.
30. Polski słownik archiwalny / pod redakcją Wandy Maciewskiej. Warszawa, 1974. 131 s.
31. Wierbicka E. Znaczenie archiwów rodowych i ich stan przygotowania do badań historychnych // Miscellanea historico-archivistica. T. IX. Warszawa, 1998. S. 59—71.
32. Zielińska T. Problemy zespołowości archiwaliów rodzinno-majątkowych // Komputeryzacja archiwów. T. III. Problemy zespołowości w archiwistyce i practyce archiwów. Materiały sympozjum. Toruń, 20 i 21 października 1995. Toruń, 1997. S. 57—65.

*Р. М. Мясников, А. Р. Мясникова*

# ЭЛЕКТРОННЫЕ ВЫСТАВКИ АРХИВНЫХ ДОКУМЕНТОВ КАК СРЕДСТВО УПРОЩЕНИЯ ДИАЛОГА «АРХИВ—ПОЛЬЗОВАТЕЛЬ»

Архивное сайтостроение на постсоветском пространстве началось в конце 90-х, когда распространение Интернета здесь прошло стадию становления. Архивы, музеи, библиотеки стали выкладывать в Интернет описание своих фондов и контактную информацию. Полноценным сайтом это назвать было нельзя. С развитием цифровых технологий на страницах архивов в Интернете начали появляться и первые отсканированные фотографии. Они давали более конкретное представление об информации, которую любой заинтересованный посетитель может найти в том или ином архиве [4, с. 507].

Сначала фотографий выкладывалось немного (4—5 штук на сайт), они были низкого качества, не собирались в тематические подборки и обновлялись не чаще одного раза в полгода—год. В Америке и Западной Европе процесс внедрения Интернета как средства популяризации архивных документов начался раньше и шел гораздо быстрее. Там были созданы первые электронные выставки архивных документов: специальные страницы архивных сайтов были отданы под размещение оцифрованных документов. На такие выставки документы отбирались тематическими группами, которые постоянно обновлялись, что облегчало поиск нужного пользователю документа и давало возможность ознакомиться с львиной долей документальных материалов.

С 2001 г. на сайтах архивов Российской Федерации стали появляться подобные выставки. Архивы любой страны, и, в частности, Беларуси, богаты документами, которые не востребованы пользователями. Дела так обстоят потому, что потенциальные клиенты просто не подозревают о наличии всей информации, которую можно найти в архиве. Электронные выставки призваны решить эту проблему.

Электронные коллекции архива включают в себя массивы высококачественных графических образов, объединенные одним фоном либо существующие как отдельные информационные ресурсы. В первую очередь в электронные коллекции включают наиболее значимые фонды и коллекции, ведь именно они вызовут наибольший интерес пользователей [3]. Кроме того, выставки создаются из редких и особо ценных документов и/или книг, о существовании которых потенциальный клиент архива, возможно, даже не догадывается.

Электронные выставки архивных документов малозатратны по сравнению с проекционными выставками. Этот вид подачи материала очень мобилен, ведь диски с электронными выставками можно легко перевозить в другие места и пересылать коллегам по почте. Кроме того, цифровые документальные экспозиции очень востребованы: с их помощью человек, имеющий доступ к Интернету, в любой точке мира может найти по архивным сайтам интересующую его информацию. В Google зарегистрировано 28 400 страниц из домена rusarchives.ru; 842 000 из домена nationalarchives.gov.uk (Национальный архив Великобритании); 137 000 из домена nara.gov (Администрация национальных архивов и документации США); 153 000 из домена narc.fi (Национальный архив Финляндии); 29 900 из домена riksarkivet.no (Национальный архив Норвегии) [4, с. 517]. Получается, что только в этих доменных зонах размещено огромное количество документов, поиск по которым можно осуществлять не выходя из дома. Например, на сайтах архивных учреждений Швеции есть базы данных для поиска по фондам региональных и национальных архивов. На большинстве зарубежных сайтов возможен и платный доступ к уже оцифрованным текстам, фильмам и фотографиям.



На постсоветском пространстве архивные документы пока не выставляются в платном доступе, хотя многие пользователи готовы заплатить за копии документов, если они будут хорошего качества. Понятно, что электронные копии, которые публикуются в электронных выставках, — это preview-фотографии, и их качество в 4—10 раз ниже качества бумажного оригинала.

Но при всем удобстве электронных выставок есть и другая их сторона: они не требуют больших усилий при создании только при условии того, что в архиве есть вся необходимая для оцифровки документов техника. Создание электронных коллекций требует использования специализированного оборудования для высококачественного сканирования. Кроме перевода в цифровой формат, это должна быть возможность обработки изображений (сшивка/обрезка, цветокоррекция, конвертирование в различные форматы), архивации графических информационных массивов, создание рабочих и архивных копий электронных коллекций, а также сканирования плоских (до формата А0) и 3-мерных объектов.

Когда электронная выставка уже создана, стоит подумать об ее оформлении и системе поиска. Оформление выставок оцифрованных документов должно отвечать основным принципам их использования — удобству поиска и доступности. Для удобства работы с сайтом некоторые архивы (в частности РГАНТД, сайт www.rgantd.ru) размещают в верхней части страницы обновляемую информационную панель с анонсами последних изменений и полезной справочной информацией [6]. Кроме того, на сайте есть возможность подачи запросов социально-правового характера в режиме реального времени. Эти не самые необходимые, но очень удобные в работе детали позволяют пользователю получить нужную информацию еще быстрее.

Информация о выставленных на сайте архивных материалах может быть представлена в алфавитном порядке, группами по темам или по типу продукта. В таблице представлены сведения о возможностях поиска ин-

формации и количестве электронных выставок на некоторых зарубежных сайтах архивных учреждений.

| Название архива | Адрес в Интернете | Возможный способ поиска информации | Количество электронных выставок на сайте | Примеры представленных электронных выставок |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| Архивы Канады (Библиотечно-архивная Канада) | www.collectioncanada.ca | По алфавиту, по теме, по носителю, по типу продукта, по автору | Более 200 | «Военные дневники первой мировой», «Знаменитые канадские врачи», «Хоккей ретроспективный» |
| Государственная архивная служба Республики Марий Эл | www.gov.mari.ru/archives | нет | Более 20 | «Победа — одна на всех», «Республика Марий Эл — из прошлого в настоящее» [1] |
| Государственный архив Пермской области | www.archive.perm.ru | нет | Более 20 | «Общественный транспорт г. Перми», «Пермь театральная», «Индустриальному району 35 лет» [2] |
| Национальный архив (Великобритания) | www.nationalarchives.gov.uk | По алфавиту, по историческому периоду | Около 50 | «Внутренний фронт», «Секреты и шпионы», «Холодная война» |
| Национальный архив (США) | www.archives.gov | По названию, по ключевым словам | Более 50 | «Уставы свободы», «Эпидемия гриппа в 1918», «Сокровища Конгресса» |
| Национальный архив Республики Карелия | http://archives.karelia.ru | нет | | «Строительство Беломорско-Балтийского канала» [5, с. 49], «Фронтовая агитация и пропаганда» |



Отечественные сайты архивов пока не могут похвастаться такими обширными электронными экспозициями. У нас преобладают оцифрованные тематические подборки документов. Например, для создания на сайте «Архивы Беларуси» рубрики «60 лет Победы» Белорусским государственным архивом кинофотофонодокументов были подготовлены 6 фотоподборок. Понятно, что на сайте нет специальной системы поиска информации по этим подборкам, хотя они периодически меняются и позволяют знакомиться с фондами белорусских архивов.

Для сравнения, на портале «Архивы России» к юбилею Победы было размещено 937 фотографий из архивов Москвы, Санкт-Петербурга и других городов России. Это стало возможным при поддержке государственной программы «Патриотическое воспитание граждан Российской Федерации на 2006—2010 годы», а также Федерального архивного агентства. Уже в первые 4 дня после размещения выставки в сети Интернет ее посетили 12 тыс. человек, что доказывает эффективность такого представления информации [7, с. 507].

Приведенный пример с порталом «Архивы России» — скорее исключение, чем правило. Для архивных учреждений не выгодно выставлять сразу такое количество документов. Гораздо проще и эффективнее создавать небольшие тематические выставки, перечень которых будет постоянно обновляться.

Тематика выставленных на электронных экспозициях документов зависит от их актуальности и востребованности в данный период времени. К годовщинам известных исторических событий архивы представляют пользователям документы, отражающие события той эпохи. В первую очередь этим пользуются журналисты, составляющие календари знаменательных дат для периодических изданий. Выставки появляются к дням основания городов, крупных предприятий, юбилеям деятелей науки, культуры, политики.

Таким образом, создание электронных коллекций и экспонирование их в сети Интернет — это простой и малозатратный способ познакомить потенциальных клиентов архива с его фондами. Использование электронных выставок способствует увеличению числа обращений к архивным фондам, кроме того, использование электронных коллекций очень удобно для научной работы.

Литература и источники


1. http://gov.mari.ru/archives/archnews2006.html.
2. www.archive.perm.ru
3. www.rusachives.ru
4. Боброва Е. В. Архивы via Интернет // НЛО (Новое литературное обозрение). 2005. № 74.
5. Варухина Т. А. Виртуальные выставки архивных документов Национального архива Республики Карелия// Отечественные архивы. 2006. № 6.
6. Караваев И. В. Сайт РГАНТД в контексте «интернетизации» зарубежных архивов // Отечественные архивы. 2006. № 1.
7. Киселев И. Н. Сайт «Победа. 1941—1945» обновлен // Отечественные архивы. 2007. № 3. С. 136—137.




***Г. М. Брэгер, Л. А. Лінская***

## ФРАГМЕНТ АРХІВА СЛУЦКАГА ТРАЙЧАНСКАГА СВЯТА-ТРАЕЦКАГА МАНАСТЫРА Ў ФОНДАХ НАЦЫЯНАЛЬНАГА МУЗЕЯ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ (1703—1719)

Працягваем публікаваць апісанне дакументаў архіва Слуцкага Трайчанскага Свята-Траецкага манастыра, які захоўваецца ў фондах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, распачатае ў выпусках 5—7 БАШ [1]. У дадзенай публікацыі змешчаны апісанні 86 дакументаў пад № 247—332 за 1703 — 1719 гг.

Апісаныя дакументы маюць разнастайны характар (розныя здзелкі паміж свецкімі і духоўнымі асобамі, тэстаменты святароў і шляхты, дэкрэты дзяржаўных і духоўных судовых устаноў, інвентары маёнткаў і рэестры маёмасці манастыроў і цэркваў, лісты-універсалы ўласнікаў Слуцкага княства і іерархаў Кіеўскай мітрапаліі, прыватная карэспандэнцыя і інш.) і датычаць як самога Трайчанскага манастыра і Слуцкай капітулы, так і розных цэркваў і манастыроў Слуцкай архімандрыі і іх маёнткаў. Цікавасць уяўляюць універсал вялікага гетмана ВКЛ М. С. Вішнявецкага да войска ЯКМ (№ 255), рэестры цэркваў Слуцка і Слуцкай пратапопіі (№ 268), дакументы аб забароне кіеўскім мітрапалітам беларускаму епіскапу С. Святаполк-Чацвярцінскаму падпарадкаваць Слуцкую архімандрыю сваёй уладзе (№ 273 і далей), фундушавы ліст рэнскага палаціна Караля Філіпа Слуцкай капітуле на воск са сваіх маёнткаў Слуцкага княства (№ 308) і інш.

Прынцыпы археаграфічнага апісання дакументаў вытрыманы ў рамках папярэдніх публікацый.

247. Ліст Тэадора Загароўскага, слугі калішскага падчашага, аканома [Слуцкага княства С. Незабытоўскага] да ўрэцкіх асочнікаў паказаць зручнейшае месца для рубкі і спуска па рацэ дрэва з Урэцкай пушчы для брацтва Слуцкай царквы Найсвяцейшай Панны. Слуцк, 2.03.1703.

Подпіс: Тэадор Загароўскі.

Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Стар. сігн.: «Дело Соборной церкви». 1 арк. (арк. 513).

248. Обліг слуцкіх купцоў і абываталяў Лявона і Дарафея Уласовічаў з абавязкам вярнуць слуцкаму абываталю Тэадору Счырскаму пазычаныя 50 талераў у пэўны тэрмін на ярмарку Нясвіжскім. Слуцк, 21.04.1703.

Подпіс: Лявон Уласовіч.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 1 арк. (арк. 514).

249. а) Пастанова ўгоды ў спрэчцы Слуцкай капітулы з новаствораным брацтвам пры Слуцкай сабornай замкавай царкве аб атрыманні пэўных царкоўных даходаў для згаданага брацтва. Без месца, 13.09.1703.

Подпісы: Сыльвестр Нікшыц Горват; Ян Мінкевіч, пратапоп слуцкі і капыльскі, н[аместнік] м[ітраполіі] Кіеўскай; Сымяон Мінкевіч, пісар капітулы Слуцкай; Даніэль Машкевіч, прэзбітар Мікольскі; Томаш Тамашэўскі, святар Васкрасенскі Слуцкі.

б) Нататка калішскага падчашага, генеральнага аканома маёнткаў княжны фальцграфаўны рэнскай С. Незабытоўскага аб зацвярджэнні гэтай пастановы. Слуцк, 30.09.1703.

Подпіс: [Стані]слаў Незабытоўскі, п[адчашы] к[алішскі].

в) Пацвярджэнне гэтай пастановы Каралем Філіпам, князем электаральным, палацінам рэнскім. Ураціслаў (Уроцлаў) Сілезскі, 2.07.1707.

Пячатка на чырвоным сургучу і подпіс: Караль Філіп, палацін рэнскі.

Арыгінал. Пол. м. (а і б), лацін. м. (в). Філігрань. Стар. сігн.: № 6. Дакумент пашкоджаны. 2 арк. (арк. 516—517).

250. Квітацыйны ліст ігуменні Слуцкага манастыра Св. Геліяша Зузаны Капшоўскай лоўчаму княства Слуцкага Тэадору Загароўскаму аб атрыманні ад яго штогод свячы для царквы паводле запісу нябожчыцы панны Марты Загароўскай, былой ігуменні манастыра. Слуцк, 14.05.1703.

Подпіс: Зузана Капшоўская, ігумення манастыра Св. Прарока Геліяша.

Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 515).

251. Тэстамент святара Раманаўскай царквы Св. Юрыя айца Дзям'яна Семяновіча, якім перадае царкву з парафіяй і царкоўнай зямлёй зяцю айцу Яну Рубісоўскаму, а свой уласны дом у месце Раманаве запісвае сыну Стэфану Семяновічу і інш. Раманаў, 21.12.1703.

Подпісы: Дзям'ян Семяновіч, святар Юр'еўскі Раманаў[скі]; Міхал Ярцэвіч, [паповіч Раманаўскі Мікольскі].

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 518—519).

252. Обліг навадворскага цараўскага святара Грыгорыя Андрэевіча з абавязкам вярнуць у пэўны тэрмін пазычаныя 17 злотых Тэадору Шчырскаму. Без месца і даты [1703 г.].

Подпісы: Грыгоры Андрэевіч, святар цараўскі; Андрэй Шруклік, святар цараўскі.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Стар. сігн.: «Соборной церкви». 1 арк. (арк. 520).

253. Ліст-обліг слуцкіх жыдоў-злотнікаў Юзафа Гершановіча і яго жонкі Рысі Якубаўны слуцкаму абывателю Фёдару Счырскаму з абавязкам вярнуць яму ў тэрмін 4.03.1704 пазычаныя 200 злотых. Без месца і даты [1703 г.].

Подпісы: Юзаф Гершановіч (па-жыдоўску); Мацей Маркс (па-польску).

Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 521).

254. Ліст-обліг клецкага абывателя і купца Гаўшэя Іцкавіча слуцкаму абывателю і купцу Тэафану Бунцэвічу з абавязкам вярнуць яму пазычаныя 50 талераў у пэўныя тэрміны ў 1705—1707 гг. Без месца і даты [1705 г.].

Копіі подпісаў: Гаўшэй Іцкавіч; Віктар Воўк-Ланеўскі, падстолі чарнігаўскі; Ёаган Генрых Цібінскі.

Подпіс: Згодна з арыгіналам — Сестранцэвіч, адміністратар і суддзя ярмарку клецкага.

Тагачасная копія. Пол. м. Філігрань. Стар. сігн.: 85. 2 арк. (арк. 522—523; арк. 523 чысты, з затылкам).



255. Універсал вялікага гетмана ВКЛ князя Міхала Сэрвацыя Карыбута Вішнявецкага да войска ЯКМ у ВКЛ з загадам не спаганяць на карысць войска ніякіх кантрыбуцый з маёнткаў Слуцкай архімандрыі, Слуцкай пратапопіі, манахаў і святароў Слуцкага княства, так як яны ўжо заплацілі паводле асігнацый гетмана. Пінск, 1.01.1705.

Кустадыйная пячатка і подпіс: М. кн. Вішнявецкі, г[етман] в[ялікі] ВКЛ.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Стар. сігн.: 28; № 39; 42. 2 арк., змацаваныя разам пячаткай (арк. з тэкстам без пагінацыі; арк. 524 чысты, з затылкам).

256. Квіт празбітара капыльскай царквы Сабы (Савы) Ваўчковіча аб атрыманні 10 злотых пабору ад святара заўшыцкага. Без месца, 7.08.1705.

Подпіс: Саба Ваўчковіч, празбітар царквы капыльскай.

Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 525; дакумент прымацаваны да дак. № 255).

257. а) (на адвароце арк. 526). Ліст-обліг слуцкага мешчаніна і купца Яна Буйміновіча слуцкаму мешчаніну і купцу Тэафану Бунцэвічу з абавязкам вярнуць пазычаныя 25 талераў у наступным 1700 г. на ярмарку Капыльскім. Без месца і даты 1699 г.

Подпісы: Ян Буйміновіч; Грыгоры Занямонскі; Трахім Керсеевіч; Карнелі Пятровіч.

б) Дэкрэт [Слуцкага месцкага суда] з загадам Яну Буйміновічу вярнуць Тэафану Бунцэвічу ў пэўны тэрмін пазычаныя 25 талераў паводле обліга. Слуцк, 24.06.1706.

Подпіс: Марцін Лапіцкі, [войт слуцкі].

в) Пацвярджэнне вышэй згаданага дэкрэта Слуцкага месцкага суда на эканамічным судзе [Слуцкага княства]. Слуцк, 6.08.1706.

Подпіс: Станіслаў Незабытоўскі, п[адчашы] к[алішскі], [аканом Слуцкага княства].

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 526—527; арк. 527 чысты).

258. Выпіс з кніг Магілёўскага магдэбургскага суда ад 30.12.1706. Вытрымка з тэстамента магілёўскага бурмістра Міхала Гутаровіча-Каскевіча, дзе згадваюцца грашовыя запісы цэрквам і манастырам Слуцка. Без месца і даты. Выпіс выдадзены 21.03.1748.

Копіі подпісаў: Філімон Дзегцярэвіч, войт места ЯКМ магілёўскі; Ян Ярашэўскі, Р. (скарот невядомы) і рэгент канцылярыі м[есцкай] Магілёўскай.

Копія сяр. 18 ст. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 528—529).

259. Адсутнічае, не існаваў ужо ў 1913 г. (гл. Каталог А. Сніткі).

260. Асекурацыйны скрыпт Андрэя Каляура(?) аб вяртанні яму законніцамі Слуцкага манастыра св. Геліяша 400 злотых, пазычаных ім мінулай вясной для выплаты кантрыбуцыі шведскаму войску. Без месца, 12.01.1707.

Подпіс: Андрэй Каляу[р?] (прозвішча не дапісана).

Арыгінал. Пол. м. Фрагмент філіграні. Стар. сігн.: 42. 1 арк. (арк. 530).

261. Рэестр грошаў, выдадзеных святарам цэркваў Слуцкай капітулы і пратапопіі (пералічаны ўсе цэрквы пратапопіі, але сумы грошаў не прастаўлены). Без месца, 8.05.1707.

Без пячаткі і подпісаў.

Арыгінал (чарнавы). Пол. м. Філігрань. 1 арк. (арк. 531).

262. Дэкрэт Слуцкага аканамічнага суда па скарзе брацтва Слуцкай замкавай царквы Успення Багародзіцы на айца Юзафа Навумовіча аб няслушным абвінавачванні мікольскага праздбітара айца Даніэля Машкевіча ў спакушэнні да «цялеснага граху» сястры адказчыка Настазіі Навумовічаўны, якую намовілі абылгаць праздбітара. Слуцк, 20.05.1707.

Копія подпісу: Станіслаў Незабітоўскі, падчашы калішскі, як аканом.

Тагачасная копія. Пол. м. Філіграні. 4 арк. (арк. 532—535; арк. 535 чысты).

263. Тое ж, што № 264.

Тагачасная копія. Пол. м. Філігрань. 1 арк. (арк. 537).

264. Ліст-ардынацыя калішскага падчашага, аканома Слуцкага і Капыльскага княства Станіслава Незабытоўскага да айца слуцкага пратапопа і ўсіх святароў Слуцкага і Капыльскага княства, каб здзяйснялі роспісы для спагнання кантрыбуцый з царкоўных падданых і маёнткаў толькі з дазволу Слуцкага замка і каморы і дакладна прытрымліваліся гэтых роспісаў. Слуцк, 12.08.1707.

Кустадыйная пячатка і подпіс: Станіслаў Незабытоўскі, п[адчашы] к[алішскі], як аканом.

Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 536).

265. Прыватны ліст (пісьмо) нежынскай стольнікавай і палкоўнікавай Ганны Абядоўскай да братчыкаў Слуцкага брацтва пры Успенскай замкавай царкве аб пасылцы для гэтай царквы 200 злотых і сукна. Нежын, 5.10.1707.

Пячатка на чырвоным сургучу (на затылку) і подпіс: Ганна Абядоўская, стольнікавая і палкоўнікавая нежынская.

Арыгінал. Стукр. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 538—539; арк. 539 чысты, з адрасам).

266. Выпіс з кніг Мінскага сурагатарскага суда. Скарга Слуцкага праваслаўнага стаўрапігіяльнага брацтва пры царкве св. Спаса на беларускага епіскапа айца Сільвестра Чацвярцінскага аб захопе царквы і манастыра пры ёй разам з маёмасцю, збіцці манахаў і святароў і іншых шкодах. [Мінск], 24.01.1708.

Пячатка на кустодыі і подпіс: Уладыслаў Фра[н]ц[іш]ак Краеўскі, сурагатар в[аяво]дства Мінскага, с[уддзя] в[ойск] ВКЛ.

Подпіс: карыгаваў Каткевіч.

Арыгінал. Пол. м. Філіграні. 4 арк. (арк. 540—543; арк. 542 чысты; арк. 543 чысты, з затылкам).

267. Адсутнічае.

268. а) Рэестры цэркваў места Слуцка і сельскіх цэркваў Слуцкай пратапопіі з вызначэннем для кожнай царквы колькасці грошаў для выплаты шведскім войскам паводле пастановы. Без месца, 16.06.1708.

б) Нататкі пад кожным рэестрам аб пацвярджэнні гэтых роспісаў грошаў калішскім падчашым Станіславам Незабытоўскім. Слуцк, 27.06.1708.

Копіі подпісаў: Станіслаў Незабытоўскі.

Тагачасная копія. Пол. м. Філігрань. 1 арк. (арк. 545).

269. Выпіс з кніг Жамойцкага гродскага суда ад 30.08.1708. Тэстамент Даніэля Аляксандра Зылевіча, якім загадвае пахаваць сваё цела пры Калтынянскім касцёле, запісвае жонцы Яганне Нармонтаўне і сынам Стэфану, Юрыю, Казіміру, Міхалу і Юзафу Зылевічам маёнткі Келпшышкі, Будрышкі, Бержы і інш., дачцэ Барбары Зылевічаўне Мікалаевай Ляўданскай маёнтак Лаўкава або Юшкішкі, і інш. запісы. Бержы, 18.08.1708.



Копія подпісу: карыгаваў Гедымін.

Копія 18 ст. Пол. м. Філіграні. 4 арк. (арк. 546—549; арк. 549 чысты).

270. Квіт братчыкаў брацтва пры Слуцкай замкавай царкве Успення Багародзіцы аб атрыманні ад падскарбія Слуцкага княства Міхала Бенкена мёда і грошаў паводле консэнса князя нейбургскага згодна з даўнімі фундушамі. Без месца, 11.11.1708.

Без пячаткі і подпісаў.

Арыгінал (?). Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 550).

271. Устаўленні (пастанова) айцоў святароў Слуцкай капітулы на генеральным саборы (сходзе), якія рэгламентуюць царкоўнае жыццё і працу ў Слуцкай пратопіі. [Слуцк], 21.02.1702.

Копіі подпісаў па-польску: іераманах Юзаф Паленяк, намеснік і візітатар генер[альны] Е[піскопіі] Б[еларускай]; Сымяон Мінкевіч, пісар капітулы Слуцкай; Томаш Тамашэўскі, святар Васкрасенскі; Сымяон Мінкевіч, пратапоп слуцкі і капыльскі; Ян Мінкевіч, праздбітар Васкрасенскі; Яўфімі Пятроўскі, устаўнік саборны; Лявонці Салавевіч, праздбітар Юр’еўскі; Ян Бунцэвіч, праздбітар Варварынскі; Стэфан Абросавіч, праздбітар Іаанаўскі; Даніэль Машкевіч, [святар] царквы Св.-Мікольскай.

Копія 18 ст. Стб. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 551—552адв.).

272. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда. Скарга слуцкага сэсіяналіста (месцкага суддзі) Тэафілія Бунцэвіча на слуцкага абывацеля, жыда Іцка Якубавіча аб абразе і пагрозах скаржніку, ідучаму ад слуцкага войта Мікалая Кучарскага па вуліцы каля Саскага (лютэранскага) касцёла. Слуцк, 11.03.1709.

Пячатка на кустодыі ўрада Слуцкага замка (кепскай якасці).

Подпіс: Зыгмунт Мнінскі, пісар.

Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 553).

273. Загад (дэкрэт) Іясафа Кракоўскага, архіепіскапа, мітрапаліта Кіеўскага, Галіцкага і ўсёй Малой Расіі, з забаронай беларускаму епіскапу айцу Сільвестру Святаполк-Чацвярцінскаму турбаваць святароў Слуцкай архімандрыі і пратапопіі, так як яны знаходзяцца непасрэдна пад юрыздыкцыяй Кіеўскай мітраполіі і архіепіскопіі, а не Беларускай епіскопіі. Кіеў, 6.07.1709.

Копія подпісу: Іясаф Кракоўскі, мітрапаліт кіеўскі.

Копія 18 ст. польскімі літарамі. Стукр. м. Філіграні. Стар. сігн.: № 14; 4 арк. (арк. 554—557; арк. 557 чысты, з затылкам).

274. а) Пастанова Слуцкай капітулы аб выплаце грошаў на войска ЯКМ ВКЛ святарамі сельсіх цэркваў Слуцкай пратапопіі з рэестрам гэтых цэркваў і колькасці грошаў. Без месца, 29.04.1709.

Копіі подпісаў: Ян Мінкевіч, пратапоп слуцкі і капыльскі; Томаш Тамашэўскі, п[разбітар] васкрасенскі; Грыгоры Міхневіч, пісар капітульны слуцкі; Лявонці Салавевіч, [святар] юр’еўскі, пратапоп слуцкі і капыльскі; Яўфімі Пятроўскі, устаўнік саборны; Ян Бунцэвіч, п[разбітар] варварынскі слуцкі; Павел Календа, п[разбітар] міхайлаўскі.

б) Аналагічная пастанова з рэестрам манастырскіх маёнткаў і слуцкіх месцкіх цэркваў і колькасці грошаў. Без месца, 29.04.1709.

Копіі подпісаў тых жа святароў капітулы (акрамя П. Календы).

Тагачасная копія. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 558—559).

275. а) Копія дакумента № 276.

Копія тагачасная. Лацін. м. Філігрань. Стар. сігн.: 34. 1 арк. (арк. 560; аркуш вялікага фармату, перакладзены напалам).

б) Нататка ўнізе слуцкага архімандрыта Тэадозія Ваўковіча аб адпаведнасці гэтай копіі арыгіналу і перадачы яе брэсцкаму ігумену Гервазію Рудніцкаму. Архімандрыя Слуцкая, 6.02.1728.

Подпіс: Тэадозі Ваўковіч, архімандрыт с[луцкі], намеснік архіепіскопіі Кіеўскай у княстве С[луцкім] і Капыльскім.

276. а) Ліст палаціна рэнскага князя Караля Філіпа наконт самастойнасці Слуцкай архімандрыі і пратапопіі ў межах Кіеўскай мітраполіі і адмежавання ад юрысдыкцыі Беларускай епіскопіі, з загадам да калішскага падчашага Станіслава Незабытоўскага быць гарантам гэтага. Oeniponti, 28.12.1709.

Дзве пячаткі (на чырвоным сургучу і на кустодыі) і подпісы: Караль Філіп, ваявода рэнскі; Елізавета Аўгуста, ваевадзянка рэнская.

б) Нататка ўнізе С. Незабытоўскага аб атрыманні ліста. Без месца, 20.04.1710.

Подпіс: Станіслаў Незабытоўскі, п[адчашы] кал[ішскі], аканом княства Слуцкага.

Арыгінал. Лацін. м. Філігрань. 1 арк. (вялікага фармату) (арк. 561).

277. Прыватны ліст (пісьмо) невядомага (подпіс не захаваўся) да слуцкага св.-траецкага архімандрыта, метрапалічага намесніка княства Слуцкага айца Іасафа Лапіцкага з паведамленнем, што магілёўскі райца Юры Левашкевіч і іншыя апекуны маёмасці нябожчыка магілёўскага бурмістра Міхала Гутаровіча-Казкевіча атрымалі грошы, запісаныя тэстаментам нябожчыка Слуцкім цэрквам і манастырам, і аддалі на захаванне да ратушнага скарбу, ад якіх грошаў будзе выплачвацца штогод 6 працэнтаў. Магілёў, … (чысло не захавалася).02.1710.

Пячатка на кустодыі не захавалася.

Подпіс не захаваўся (ніжняя частка дакумента абгрызена).

Арыгінал. Пол. м. Філіграні. 2 арк. (арк. 562—563; арк. 563 чысты, з адрасам).

278. Дэкларацыя (устава) аканома Слуцкага княства паводле загаду князя [Караля Філіпа] для брацтва пры новаадбудаванай Слуцкай замкавай Успенскай царкве. Слуцк, 15.03.1710.

Без пячаткі і подпісаў.

Тагачасная копія. Пол. м. Філігрань. Стар. сігн.: «Соборной церкви». 1 арк. (арк. 564).

279. Обліг [слуцкага месцкага войта] Мікалая Кучарскага на пазычаныя 1000 злотых у стаўрапігіяльнага брацтва пры Слуцкай Спаса-Праабражэнскай царкве з тэрмінам вяртання пазыкі ў 1711 г. Слуцк, 10.05.1710.

Пячатка на чырвоным сургучу і подпіс: Мікалай Кучарскі.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 1 арк. (арк. 565).

280. Ліст слуцкага архімандрыта, грозаўскага і морацкага ігумена, намесніка Кіеўскай мітраполіі Ёсафа Лапіцкага з дазволам заблудаўскаму намесніку айцу Тэадозію Січкевічу або бельскаму ігумену асвяціць новазбудаваную праваслаўную царкву ў Заблудаве ў сувязі з адсутнасцю паблізу епіскапа. Манастыр Святатраецкі, 20.12.1710.

Пячатка на кустодыі Слуцкага Траецкага манастыра.

Подпіс: Ёсаф Лапіцкі, архімандрыт слуцкі, НМК (намеснік мітраполіі Кіеўскай).



Арыгінал. Пол. м. Філіграні. Стар. сігн.: № 5. 2 арк. (арк. 567—568; арк. 568 чысты, з затылкам).

281. Ардынанс вялікага гетмана ВКЛ Людовіка Канстантага Пацея да свайго генерал-ад'ютанта Наркускага і іншых генералаў чужаземнага войска Рэчы Паспалітай і рыцарства ВКЛ, каб не спаганялі з места Слуцка дадатковых кантрыбуцый на карысць войска, акрамя ухваленых Вальным соймам падаткаў. Пінск, 2.01.1711.

Копія подпісу: Людвік Пацей, гетман в[ялікі] ВКЛ.

Копія 18 ст. Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 566).

282. Рахунак скарба Слуцкага княства з законніцамі Слуцкага манастыра св. Іллі і іх падданымі в. Цярушкі за перыяд з 1 сакавіка 1711 г. да 2 мая 1712 г. Без месца, чэрвень 1712 г.

Подпіс: Сыльвестр Нікшыц Горват, падстолі чар[нігаўскі].

Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Стар. сігн.: «Дело м[онастыря] девичего Слуцкого Ильинского». 2 арк. (арк. 569—570адв.).

283. Ліст слуцкага мешчаніна Захаркі Ілюковіча, які ўзяў на абучэнне рамяству шапавала Івана Кірылавіча, сына свайго стрыечнага брата нябожчыка Кірылы Фёдаравіча, разам з 25 злотымі, з якіх абавязваецца пасля абучэння вярнуць яму 15 злотых. Без месца, 4.06.1711.

Подпіс: Курмевіч(?), ВМС (войт места Слуцкага).

Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 571).

284. а) Асекурацыйны ліст старшых жыдоў Слуцкага кагала славетнаму пану Лявону Паўлюшыцу з запэўніваннем вяртання пазыкі ў 8000 злотых у пэўныя тэрміны. Слуцк, 24.02.1712.

Подпісы па-жыдоўску. Ніжэй подпісы па-польску практычна не чытэльныя, поўнасцю выцвілы атрамант.

б) Нататка на адвароце арк. 572, унізе, аб атрыманні Л. Паўлюшыцам ад жыдоўскага кагала першай часткі доўгу. Без месца, 1712 г.

Подпіс: Лявон Паў[люшыц].

Арыгінал, тэкст затухаючы. Пол. м. Філіграні. Стар. сігн.: № 33. 2 арк. (арк. 572—573; арк. 573 чысты, з затылкам).

285. а) Квіт Зыгмунта Вілюцкага аб перадачы ў Слуцкую камору 42 злотых з в. Папоўцы Слуцкага княства на жаўнераў паводле універсалаў вялікага гетмана ВКЛ. Слуцк, 30.12.1712.

Подпіс: Зыгмунт Вілюцкі.

б) Нататкі ніжэй аб выплаце дадатковых грошаў паводле гэтага ж квіта. Без месца, даты і подпісаў.

Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Стар. сігн.: № 3. 1 арк. (арк. 574).

286. Атэстацыя навагрудскіх гродскіхураднікаў аб выкананні роты юраменту (прысягі) слуцкімі святарамі — Мікольскім айцом Грыгорыем Міхневічам і Варварынскім айцом Янам Бунцэвічам аб колькасці дымоў у царкоўных маёнтках: в. Лесуны Слуцкай Юр'еўскай царквы, в. Кузмічы Слуцкай Варварынскай царквы, вв. Папоўцы і Мікольцы Слуцкай Мікольскай царквы, в. Бранавічы Міхалаўскай царквы, в. Капачэвічы Іванскай царквы і в. Асавец Асавецкай царквы. Навагрудак, 24.10.1712.

Копіі подпісаў: Я[н Тэадор] Вайніловіч, [падкаморы і] падваявода Нав[агрудскі]; Станіслаў Корсак, [чашнік і] суддзя гродскі в[аяводства] Н[ава]гр[удскага];

Крыштаф Міхал Кандратовіч, мечны і пісар [гродскі] в[аяводства] Н[ава]гр[удскага]; карыгаваў Малюшыцкі.

Тагачасная копія. Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 575).

287. Тэстамент каплана і ўстаўніка Слуцкай Саборнай замкавай царквы Яўфімія Пятроўскага, якім загадвае пахаваць сваё цела ў Слуцкай царкве св. Мікалая, запісвае сваю маёмасць (дом на Спаскай, або Прозараўскай, вул., фальварак за Капыльскай брамай, зямлю за Астроўскай брамай і інш.) жонцы Алене Ярашовічаўне і дочкам Марыяне Філіпавай Казюлевічавай, святаровай саборнай, Еўдакіі Грыгоравай Міхневічавай, святаровай мікольскай, і Дар'і Страхоўскай, святаровай ярэміцкай. У доме судовым духоўным капітульным метрапалітанскім [у Трайчанах], 24.12.1712.

Подпісы: Ян Ваўковіч; Ян Крукоўскі.

Арыгінал. Пол. м. Філіграні. 4 арк. (арк. 576—579).

288. Ліст слуцкага архімандрыта, намесніка Кіеўскай мітраполіі Ясафа Лапіцкага да ўсіх слуцкіх святароў з паведамленнем аб прызначэнні па смерці былога ўстаўніка Слуцкай Саборнай замкавай Успенскай царквы айца [Яўфімія] Пятроўскага новым устаўнікам святара гэтай жа царквы айца Яна Байкоўскага з прыданнем яму царквы і парафіі Казьмі і Даміяна з маёмасцю. У манастыры Св.-Траецкім Слуцкім, 22.08.1713.

Копія подпісу: Ёсаф Лапіцкі, архімандрыт слуцкі, НМК (намеснік мітраполіі Кіеўскай).

Копія 18 ст. Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 580).

289. Ліст віленскага кашталяна, вялікага гетмана ВКЛ Людвіка Канстантага Пацея аб пасылцы кухмістра і генерал-маёра ад кавалерыі войска ВКЛ п. Залускага для аховы маёнткаў Лунінец і Дзяцелавічы Дзяцелавіцкага манастыра. Уладава, 1.09.1713.

Копія подпісу: Людвік Пацей, г[етман] в[ялікі] ВКЛ.

Копія 18 ст. Пол. м. Без філіграні. Стар. сігн.: F. 3, № 73. 1 арк. (арк. 581).

290. Копія дакумента № 291.

Копія 18 ст. Пол. м. Без філіграні. Стар. сігн.: «Соборной церкви». 1 арк. (арк. 582).

291. Ліст калішскага падчашага, генеральнага аканома Слуцкага і Капыльскага княства княгіні нейбургскай Станіслава Незабытоўскага да ўсіх слуцкіх святароў аб скасаванні універсала слуцкага архімандрыта айца Ясафа Лапіцкага ад 22.08.1713 аб прызначэнні айца Яна Байкоўскага ўстаўнікам Слуцкай Саборнай царквы і святаром Казьмадзям'янскай царквы, як няслушна нададзенага без згоды адміністрацыі Слуцкага княства і саборнага брацтва, і аб прызначэнні на гэтыя пасады айца Сымяона Мышляевіча, абранага брацтвам. Слуцк, 28.11.1713.

Кустадыйная пячатка і подпіс: Станіслаў Незабытоўскі, п[адчашы] к[алішскі], як аканом.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Стар. сігн.: № 24; «Соборной церкви». 2 арк., змацаваныя пячаткай (арк. з тэкстам без пагінацыі; арк. 583 чысты, з затылкам).

292. Ліст віленскага кашталяна, вялікага гетмана ВКЛ Людвіка Канстантага Пацея аб прызначэнні кухмістру і генерал-маёру войск ВКЛ пану Залускаму за пэўную службу пэўнай платы грошамі і збожжам з маёнткаў Лулінец і Дзяцелавічы Навагрудскага ваяводства. Тэраспаль, 15.12.1713.

Копія подпісу: Лю[двік] Пацей, г[етман] ВКЛ.

Копія 18 ст. Пол. м. Без філіграні. Стар. сігн.: F. 3, № 72. 1 арк. (арк. 584, дакумент разарваны напалам).



293. а) Копія квіта аб выплаце вайсковага падатку ў Слуцкую камору Слуцкай Мікольскай царквой з сваіх вв. Папоўцы і Мікольцы. Слуцк, 29.08.1713.

Копія подпісу: HBP Comissariatu.

б) Копія квіта аб выплаце кансаляцыі ў памеры 1 злотага слуцкім мікольскім святарам з сваіх падданых. Слуцк, 29.08.1713.

Копія подпісу: HBP Comissariatu.

в) Копія квіта аб атрыманні на вайсковы правіянт грошаў з в. Папоўцы паводле роспісу Капітулы грэцкай (праваслаўнай) Слуцкага княства. Без месца, 2.09.1713.

Копія подпісу: А. Развадоўскі.

г) Нататка Вілюцкага аб атрыманні арыгіналаў вышэй згаданых квітоў для Слуцкай каморы. Слуцк, 9.09.1713.

Подпіс: Вілюцкі.

д) Нататка аб атрыманні грошаў жаўнерамі і іншымі асобамі. Без месца, даты і подпісу.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Стар. сігн.: № 3. 1 арк. (арк. 585).

294. Ліст Слуцкага месцкага ўрада да ўраднікаў, шляхты і ўсяго паспольства Рэчы Паспалітай з просьбай прадстаўляць начлег і аказваць садзейнічанне Андрэю Дзёртцы, Сымону Дэнежку і Лявону Паўлюшыцу, дэлегаваным ад Слуцкага Св.-Успенскага брацтва ў царкоўных пытаннях да айца архіепіскапа і кіеўскага мітрапаліта ў Кіеў, а таксама айцу Філіпу Казюлічу і чэлядзі, якія знаходзяцца пры дэлегатах. Слуцк, 17.04.1714.

Кустадыйная пячатка ўрада места Слуцка («Пегас»).

Подпісы: Астафіян(?) Бунцэвіч; у адсутнасці пана пісара месцкага падпісваюся — Грыгоры Сяркевіч.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк., змацаваныя пячаткай (арк. з тэкстам без пагінацыі, арк. 588 чысты).

295. Ліст архіепіскапа, мітрапаліта Кіеўскага, Галіцкага і Усёй Малой Расіі Ясафа Кракоўскага да васкрасенскіх святароў Іаана Мянкевіча і Томаша Тамашэўскага з загадам выплаціць грошы Слуцкаму брацтву пры Успенскай царкве паводле дэкрэта суда князя нейбургскага. Катэдра Св.-Сафійская мітрапалітанская Кіеўская, 29.04.1714.

Копія подпісу: Звыш менаваны мітрапаліт кіеўскі.

Копія 18 ст. Стукр. м. Філігрань. 1 арк. (арк. 586, пашкоджаны).

296. Ліст-абвестка слуцкага архімандрыта, намесніка Кіеўскай мітраполіі ў Вялікім княстве Слуцкім і Капыльскім Ёсафа Лапіцкага капыльскаму святару айцу Саве Ваўчковічу, які атрымаў дэкрэт супраць саборнага святара айца Філіпа Казюліча ў яго адсутнасці, каб ачавіста з'явіўся ў Кіеве перад судом кіеўскага мітрапаліта 15.01.1713. Без месца і даты [1713 г.].

Пячатка на кустодыі не захавалася.

Подпіс: Сімяон Мінкевіч, пісар Капіт[улы] Слуцкай.

Арыгінал. Стб. м. Фрагмент філіграні. 1 арк. (арк. 587).

297. Прыватны ліст (пісьмо) ад новафундаванага Слуцкага брацтва пры Св.-Успенскай замкавай царкве да канцлера (загадчыка канцылярыі) караля Прускага і князя нейбургскага пана Яна Рыхарда Фера ў Каралявец (Кёнігсберг) з просьбай узяць

брацтва пад сваю апеку і ахову, дапамагчы новаадбудаванай пасля пажара царкве і абараніць ад нападак слуцкага архімандрыта. Слуцк, 08.1714 (число не напісана).

Копія подпісу: Брацтва новафундаванае Слуцкае царквы Свята-Успенскай замкавай.

Тагачасная копія. Пол. м. Філіграні. Стар. сігн.: «Соборной церкви». 2 арк. (арк. 589—590).

298. Прыватны ліст (пісьмо) калішскага падчашага, аканома Слуцкага княства Станіслава Незабытоўскага да кіеўскага мітрапаліта з просьбай выдаць ахоўны ліст для святароў Слуцкага княства і капітулы супраць празмерных кантрыбуцый на войскі. Слуцк, 28.04.1714.

Копія подпісу: Ста[ніслаў] Незабытоўскі.

Тагачасная копія. Пол. м. Фрагмент філіграні. 1 арк. (арк. 591).

299. Прыватны ліст (пісьмо) [Слуцкага месцкага войта] Мікалая Кучарскага да Слуцкага Свята-Успенскага брацтва з запэўніваннем пасадзейнічаць у зборы сродкаў на пераліўку разбітага звона. Мілкавічы, 1.09.1714.

Пячатка на чырвоным сургучу (на арк. 594адв.) і подпіс: Мікалай Кучарскі.

Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Стар. сігн.: «Соборной церкви». 2 арк. (арк. 593—594; арк. 594 чысты, з адрасам).

300. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда. Скарга намесніка Слуцкага войтаўства Тэафана Бунцэвіча на Даніэля Пратасоўскага з в. Старцэвічы Баслаўскай воласці Слуцкага княства, які служыць ротмістру ЯКМ Юрыю Рэперту, аб выкраданні каня, якога адказчык прадаў скаржніку. Слуцк, 3.10.1714.

Пячатка на кустодыі ўрада Слуцкага замка («Пагоня»).

Подпісы: Зыгмунт Мнінскі, пісар кн. [Слуцкага]; карыгаваў Рафаловіч.

Арыгінал. Пол. м. Філіграні. 2 арк. (арк. 592—593; арк. 593 чысты, з затылкам).

301. Два квіты празбітара Капыльскай царквы Сабы (Савы) Ваўчковіча аб атрыманні ад рубяжэвіцкага святара падатковых грошаў паводле роспісу падаткаў Слуцкай капітулы на войска ВКЛ і інш. Без месца, 27.10.1714.

Копія подпісу: Саба Ваўчковіч, празбітар ц[арквы] Капыльскай.

Тагачасная копія. Пол. м. Без філіграні.

Стар. сігн.: «Rubiezewski». 1 арк. (арк. 600).

302. Адсутнічае.

303. Ліст мешчаніна Трайчанскага прадмесця Аляксея Дзявочкі продажу Трайчанскаму мешчаніну Купрыяну Яскевічу сваёй паўвалокі зямлі ў Трайчанах за 100 злотых. Слуцк, 13.12.1715.

Копія (?) подпісу: Павел Сухоцкі.

Тагачасная копія (або арыгінал). Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 601).

304. а) Прыватны ліст (пісьмо) камісара Ярачэўскага да намесніка [слуцкага] архімандрыта [пана Слабоцкага] з просьбай выдзеліць, паводле дамовы з айцом архімандрытам, квадрат зямлі ў Бажантарні, належачы кляштару св. Тройцы, для капітана Гофа, узамен чаго кляштару будзе прадстаўлена кампенсацыя зямлёй у іншым месцы. Без месца, 4.11.1764.

Подпіс: Ярачэўскі.



б) Нататка на адвароце, што паводле вышэй згаданага ліста 10.07.1761(!) было паведамлена вялікаму гетману ВКЛ, які загадаў даць Слуцкай архімандрыі замену зямлёй, дзе яна захоча. Без месца і даты.

Подпіс: Тэстар Архім. Д. М.

в) Дзве нататкі на адвароце, якія тлумачаць змест дакумента № 304-а.

Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Стар. сігн.: ad 9-nu. 1 арк. (арк. 602, 603; дакумент быў разарваны напалам, таму абедзьве часткі спагінаваныя; зараз дакумент склеены).

305. а) Дэкрэт праваслаўнага беларускага епіскапа айца Сільвестра Святаполк-Чацвярцінскага аб падзеле маёмасці Бялевіцкай царквы паміж цяперашнім бялевіцкім святаром айцом Антоніем Страхоўскім і спадкаемцамі былога бялевіцкага святара нябожчыка айца Яна Андрэевіча — яго ўдавой Марыянай Чарнышэвічаўнай і іх дзецьмі Янам і Бенядыктам Андрэевічамі. Слуцк, 6.07.1716.

Копія подпісу: Сільвестры Святаполк на Чацвертні князь Чацвярцінскі, епіскап беларускі.

б) Нататка ніжэй аб засведчанні гэтай копіі дэкрэта, згоднай з аўтэнтыкам. Без месца і даты.

Подпіс: Тэадозі В[асілевіч], а[рхімандрыт] с[луцкі], намеснік архіепіскопіі Кіеўскай у княстве Слуцкім.

Тагачасная копія. Пол. м. Філіграні. 2 арк. (арк. 604—605; арк. 605 чысты).

306. Выпіс з кніг духоўных Слуцкай Траецкай архімандрыі ад 12.09.1716. Ліст мешчаніна Трайчанскага прадмесця Фёдара Лукашэвіча продажу трайчанскаму мешчаніну Кіпрыяну Яскевічу сваіх 1,5 морга зямлі ў Трайчанах каля цагельні за 11 злотых. Слуцк, 12.10.1713.

Пячатка кустадыйная Слуцкага манастыра св. Тройцы і архімандрыі.

Подпіс: Тэадор Батынскі, пісар.

Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. 1 арк. (арк. 606).

307. а) Ліст беларускага епіскапа, генеральнага намесніка Канстанцінопальскага патрыярха ў ВКЛ Сільвестра Святаполк-Чацвярцінскага да абывацеляў места Слуцка з запэўніваннем, што не збіраецца, насуперак чуткам, праводзіць рэформу праваслаўя і ўводзіць унію ў падначаленай яму Беларускай епіскопіі і будзе ахоўваць прывілеі і фундушы цэрквам, манастырам і святарам як у Слуцку, так і ва ўсім ВКЛ. Слуцк, 18.07.1716.

Копія подпісу: вышэй менаваны е[піскап] б[еларускі].

б) Нататка ніжэй слуцкага войта М. Кучарскага, што арыгінал гэтага ліста застаўся пры ім, а згаданая копія адпавядае аўтэнтыку. Слуцк, 23.07.1716.

Кустадыйная пячатка ўрада места Слуцка («Пегас»).

Подпіс: Мікалай Кучарскі, сакратар ЯКМ, лоўчы кн[яств]а Слуцк[ага] і Капыль[скага], войт места Слуцкага.

Тагачасная копія, складзеная ва ўрадзе места Слуцка. Пол. м. Філіграні. 2 арк. (арк. з тэкстам без пагінацыі, арк. 607 чысты, з затылкам).

308. а) Фундушавы ліст рэнскага палаціна, баварскага князя Караля Філіпа Слуцкай капітуле на атрыманне воска з арэнд маёнткаў у Слуцкім княстве для праваслаўных цэркваў. Oeniponti, 5.11.1716.

Пячатка на кустодыі Караля Філіпа; пячатка на чорным сургучу Элізабеты Аўгусты.

Подпісы: Караль Філіп, электар, палацін; Элізабета Аўгуста, княжна электаральная.

б) Нататка на палях аб прызнанні гэтага дакумента слуцкім і капыльскім пратапопам, мікольскім празбітарам айцом Грыгорыем Міхневічам у кнігах замкавага ўрада Слуцкага княства. Слуцк, 4.02.1717.

Подпісы: Андрэй Сержпутоўскі, мечнік мазырскі, падстароста кн[яств]а Слуцкага; Максіміліян Хамянтоўскі, пісар кн[яств]а Слуцкага; ёсць у актах — Рафаловіч (на затылку).

Арыгінал. Лацін. м. (а), пол. м. (б). Філігрань. Стар. сігн.: 2; ad 18-nu № 3; № 36. 2 арк. (арк. 608—609; арк. 609 чысты, з затылкам).

309. а) Ліст «жалезны» (ахоўны) караля Аўгуста II Слуцкаму архімандрыту Ясафу Лапіцкаму і яго намесніку Тэадозію Ваўковічу на абарону іх жыцця і маёмасці ад прэтэнзій і гвалтаў беларускага епіскапа [Сільвестра] Чацвярцінскага. Варшава, 30.01.1717.

Пячатка кустадыйная Вялікай Канцылярыі ВКЛ.

Подпіс: August Rex.

б) Нататка на ўнутраных баках аркушаў аб прызнанні Янам Капыстэнскім, слугой ашмянскага чашніка Томаша Воляна, гэтага ліста ў актах Навагрудскага гродскага суда. Без месца, 22.02.1717.

Подпісы: Ян Антоні Бронец, падстароста і рэгент гродскі ваяводства Наваг[рудскага]; у адсутнасці пана пісара — Станіслаў Юры Корсак, суддзя гродскі в[аяво]дства Наваг[рудскага]; згодна з актамі — [Я. А.] Бронец.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Стар. сігн.: № 2-do; № 96; № 37; № 1 (закрэслена); 3 (закрэслена). 2 арк., змацаваныя пячаткай (арк. з тэкстам без пагінацыі; арк. 702 чысты, з затылкам).

Заўвага: нумарацыя 610—699 прапушчана.

310. а) Рэестр рухомай маёмасці нябожчыка былога бялевіцкага святара Яна Андрэевіча, зяця паручніка ардынатаў Слуцкага княства Яна Чарнышэвіча, якую захапіў ва ўдавы Марыяны Чарнышэвічаўны і яе дзяцей цяперашні бялевіцкі святар Антоні Страхоўскі. Без месца і даты [1716 г.].

Подпіс: Ян Чарнышэвіч, паручнік ардынатаў княства Слуцкага.

б) Нататка аб прызнанні гэтага дакумента перад судом Слуцкай капітулы. Без месца, 9.01.1717.

Подпіс: Том[аш] Тамашэўскі, капітулы слуцкай пісар.

в) нататка аб прызнанні гэтага дакумента ў замкавым урадзе Слуцкага княства. Без месца, 9.01.1717.

Подпіс: Самуэль Рафаловіч, рэгент кн[яств]а Слуцкага, у адсутнасці пана пісара.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 700—701адв.).

311. Выпіс з кніг Навагрудскага гродскага суда ад 22.02.1717. Гл. дакумент № 309-а.

Пячатка на кустодыі навагрудскага войскага і падваяводы Казіміра Францішка Маляўскага.

Подпісы: у адсутнасці пана пісара — Станіслаў Юры Корсак, суддзя гродскі в[аяво]дства Наваг[рудскага]; карыгаваў Бронец.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Стар. сігн.: «Не нужное». 2 арк. (арк. 703—704).



312. Выпіс з кніг Навагрудскага гродскага суда ад 3.03.1717. Рэляцыйны квіт навагрудскага енерала ЯКМ Тэадора Перагуда аб падачы беларускаму епіскапу кс. Сільвестру Чацвярцінскаму ў манастыры ў Слуцкім прадмесці Трайчаны за Іллінскай брамай «жалезнага» ліста караля Аўгуста II у справе слуцкага архімандрыта Ясафата Лапіцкага і яго намесніка Тэадора Ваўковіча. Без месца, 25.02.1717.

Пячатка на кустодыі навагрудскага войскага і падваяводы Казіміра Францішка Маляўскага.

Подпісы: у адсутнасці пана пісара — Станіслаў Юры Корсак, суддзя гродскі в[аяво]дства Наваг[рудскага]; карыгаваў Бронец.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 705—706).

313. Выпіс з кніг Навагрудскага гродскага суда. Скарга празбітара Слуцкай сабornай царквы айца Дымітра Мышляевіча на беларускага епіскапа кс. [Сільвестра] Чацвярцінскага і празбітара Ярэміцкай царквы айца Стэфана Акіншыча аб нападзе слуг епіскапа на скаржніка, які вяртаўся з Кіева ад мітрапаліта ў Слуцк, на дарозе пад карчмой ля Вялікай Слівы епіскапа папярэдзіў аб вяртанні скаржніка айцец Акіншыч, захопе важных мітрапалічых і іншых дакументаў, каня, грошаў і іншых рэчаў, а таксама зняволенні яго самога ў вязніцы і катаваннях. Навагрудак, 3.04.1717.

Пячатка на кустодыі навагрудскага войскага і падваяводы Казіміра Францішка Маляўскага.

Подпісы: у адсутнасці пана пісара — Станіслаў Юры Корсак, суддзя гродскі в[аяводства] На[ва]г[рудскага]; карыгаваў Бронец.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 707—708).

314. Адсутнічае.

315. а) Обліг слуцкіх жыдоў Якуба Якубавіча і яго жонкі Нушкі (Мнушкі) Маўшовічаўны, дадзены дэрптскай падкаморынай Дароце з Азямблоўскіх Атэнгаузавай на пазычаныя ў яе 500 злотых, з эвікцыяй на сваім доме ў месце Слуцку на Вялікай вуліцы каля Навамесцкай брамы. Слуцк, 7.05.1717.

Подпісы: Якуб Якубавіч і Нушка Маўшовічаўна (па-жыдоўску); Максіміліян Хамянтоўскі, пісар кн[я]ства Слуцкага; Самуэль Рафаловіч, рэгент кн[я]ства Слуцкага.

б) Дэкрэт урада Слуцкага замка ў справе ковенскага абознага, актора евангеліцкіх збораў Навагрудскага дыстрыкта Гераніма Газлера з слуцкімі жыдамі Якубам Якубавічам і яго жонкай аб невяртанні грашовага доўгу па вышэй згаданаму облігу, запісанага для ўбогіх і калек у Слуцку тэстаментам дэрптскай падкаморынай Даротай з Азямблоўскіх Атэнгаузавай. [Слуцк], 23.05.1731.

Подпісы: Зыгмунт Мнінскі, падстароста судовы кн[яств]а Слуцкага; Юзаф Таргоні Жыдовіч, пісар кн[яств]а Слуцкага.

в) Адкладовы дэкрэт апеляцыйнага суда генеральнага губернатара Бекера і слуцкага аканома Воляна аб пераносе тэрміна судовага паседжання па просьбе жыда Якуба Якубавіча. Без месца [22.08.1731].

Подпісы: Бекер, губерн[атар] ген[еральны]; Волян аканом.

г) Дэкрэт апеляцыйнага суда генеральнага губернатара Бекера і слуцкага аканома Воляна ў той жа справе, якім скасоўваецца няслушны продаж Якубам Якубовічам свайго дома ў Слуцку зяцю Кальмановічу і яго жонцы, а сваёй дачцэ Голдзе Якубаўне, і прысуджаецца гэты дом на карысць слуцкіх калек у лік нявыплачанага доўга. [Слуцк], 23.08.1731.

Подпісы: Бекер, губерн[атар] ген[еральны]; Волян, аканом.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Стар. сігн.: № 6. 2 арк. (арк. 711—712адв.).

316. Выпіс з кніг Мінскага гродскага суда. Скарга цяперашняга слуцкага архімандрыта Тэадозія Ваўковіча і былога слуцкага архімандрыта Ясафа Лапіцкага на беларускага епіскапа Сільвестра Святаполк-Чацвярцінскага, старшага Мінскага манастыра Гедэона Шышку і ігумена грозаўскага Св.-Янскага манастыра Ярмоліча аб захопе 27.05.1716 Слуцкага архімандрыцкага Св.-Траецкага манастыра і карыстанні даходамі Слуцкай архімандрыі на працягу года. Мінск, 7.06.1717.

Пячатка на кустодыі і подпіс: Андрэй [Бенядыкт] Карніцкі, лоўчы і падстароста судовы в[аяво]д[ства] Мінскага.

Подпіс: карыгаваў Раткеўскі.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 713—714).

317. Выпіс з кніг Мінскага гродскага суда ад 7.06.1717. Рээстр шкод, здзейсненых беларускім епіскапам Сільвестрам Святаполк-Чацвярцінскім і іншымі яго памочнікамі ў манастырах, фальварках і вёсках Слуцкай архімандрыі пасля захопу і ўтрымлівання Слуцкага манастыра св. Тройцы, складзены былым архімандрытам Юзафам Лапіцкім, а пададзены да актыкацыі цяперашнім архімандрытам Тэадозіем Ваўковічам. Без месца, [20.05.1717].

Пячатка на кустодыі і подпіс: Андрэй [Бенядыкт] Карніцкі, лоўчы і падстароста судовы в[аяво]дства Мінскага.

Подпіс: карыгаваў Раткеўскі.

Арыгінал. Пол. м. Філіграні. Стар. сігн.: «Не нужное». 4 арк. (арк. 715—718).

318. а) Копія дакумента № 317.

Тагачасная копія. Пол. м. Філігрань. 3 арк. (арк. 719—721).

б) Надпіс унізе арк. 721 аб засведчанні гэтай копіі, згоднай з арыгіналам.

Подпіс: Тэадозі Ваўковіч, а[рхімандрыт] с[луцкі], намеснік архіепіскопіі Кіеўскай у к[нястве] С[луцкім] і К[апыльскім].

319. Ліст праваслаўнага архіепіскапа, мітрапаліта Кіеўскага, Галіцкага і Усёй Расіі Ясафа Кракоўскага да ўсіх слуцкіх абывателяў з загадам беларускаму епіскапу Сільвестру Чацвярцінскаму вызваліць Слуцкую архімандрыю з-пад сваёй улады і вярнуць цэрквы і манастыры іх святарам, а таксама аб прызначэнні слуцкага архімандрыта Тэадозія Ваўковіча сваім намеснікам Кіеўскай мітраполіі. У катэдры Свята-Сафійскай Кіеўскай мітраполіі, 27.07.1717.

Копія подпісу: вышэй згаданы мітрапаліт кіеўскі.

Тагачасная копія. Пол. м. Філігрань. 1 арк. (арк. 722; аркуш вялікага фармату, перакладзены напалам).

320. Выпіс з кніг Мінскага гродскага суда. Скарга князя Філіпа Караля Нейбурскага, электара і фальсграфа рэнскага і яго дачкі княжны Элізабеты Аўгусты, уласнікаў Слуцкага княства, мазырскага маршалка Антонія Аскіркі і ашмянскага чашніка Томаша Воляна, аканомаў іх маёнткаў, слуцкага архімандрыта Тэадора Ваўковіча і інш. на беларускага епіскапа Сільвестра Святаполк-Чацвярцінскага і іншых аб няслушным далучэнні Слуцкай архімандрыі і пратапопіі да сваёй Беларускай епіскопіі, прызначэнні свайго кіраўніцтва без згоды ўласнікаў Слуцкага княства, атрыманні даходаў на сваю карысць і г. д. Мінск, 16.09.1717.

Пячатка на кустодыі Мінскага лоўчага і судовага падстаросты Андрэя Бенядыкта Карніцкага.



Подпісы: Францішак Станіслаў Янішэўскі, пісар гродскі в[аявод]ства Мінскага; карыгаваў Раткеўскі.

Арыгінал. Пол. м. Філіграні. 8 арк. (арк. 723—730).

321. Выпіс з кніг суда Слуцкай мітрапалітальнай капітулы. Дэкрэт у справе лоўчага Слуцкага княства Яна Загароўскага з празбітарам Жыцінскай царквы айцом Базылём Вернікоўскім і яго сынам Мікалаем аб пусташэнні Дарожскай пушчы князёў Нейбурскіх, незаконнай рубцы дрэва, паляванні на звяроў, лоўле рыбы і г. д. Без месца, 19.09.1717.

Пячатка на кустодыі Слуцкай мітрапалітальнай капітулы.

Подпісы: Сымяон Мінкевіч, [слуцкі] пратапоп, святадухаў празбітар; Захарыяш Бунцэвіч, празбітар Святой Барбары, інстыгатар суда духоўнага; Дзімітры Мысляевіч, капітулы Слуцкай пісар.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 731—732; арк. 732 чысты, з затылкам).

322. Выпіс з кніг Галоўнага Трыбунала ВКЛ у Мінску. Дэкрэт у справе электара і фальцграфа рэнскага Філіпа Караля Нейбурскага, апекуна сваёй дачкі княжны Элізабеты Аўгусты, уласніцы Слуцкага княства, аканомаў яе маёнткаў у ВКЛ мазырскага маршалка Антонія Аскіркі і ашмянскага чашніка Томаша Воляна, падскарбія Слуцкага княства Міхала Бенкена, слуцкага архімандрыта айца Тэадора Ваўковіча, былога слуцкага архімандрыта айца Юзафа Лапіцкага, празбітара Слуцкай саборнай царквы айца Дмітра Мышляевіча і слуцкіх мяшчан з беларускім епіскапам Сільвестрам Святаполк-Чацвярцінскім, мінскім ігуменам кс. Гедэонам Шышкай і інш. аб захопе Слуцкай архімандрыі і падпарадкаванні яе Беларускай епіскопіі, прызначэнні свайго кіраўніцтва, атрыманні даходаў на сваю карысць і г. д. Мінск, 17.12.1717.

Пячатка на кустодыі Мінскага земскага суда.

Подпісы: К[азі]м[і]р Уняхоўскі, з[е]мскі м[ін]скі пісар; карыгаваў Велямоўскі; згодна з актамі — Казакевіч (на затылку).

Арыгінал. Пол. м. Філіграні. 8 арк. (арк. 735—742).

323. Прыватны ліст А. Б. Хемпеля да старостаў Слуцкай брацкай царквы Сымона Дзенежкі, Андрэя Дзёрткі і Самуэля Вышынскага з падзякай за віншаванне з Новым годам і запэўніваннем, што не пазычаў грошы Лявону Паўлюшыцу і не браў у заставу ў яго царкоўных рэчаў. Д[авід]гарадок, 25.01.1718.

Пячатка на чырвоным сургучу (на затылку) і подпіс: А. Б. Хемпель.

Арыгінал. Пол. м. Без філіграні. Стар. сігн.: «Дело Соборной церкви». 2 арк. (арк. 733—734; арк. 734 чысты, з адрасам).

324. Квіт сукалектара чопавага падатку Аляксандра Прасаловіча аб атрыманні чопавага і шэлежнага 16 злотых і 16 грошаў з Грозава Слуцкай архімандрыі. Слуцк, 13.04.1718.

Подпіс: Аляксандр Прасаловіч, сукалектар чопавага.

Арыгінал. Пол. м. Фрагмент філіграні. 1 арк. (арк. 744).

325. Ліст святатраецкага намесніка Слуцкай архімандрыі Кляменція Маўчановіча аб падачы ў заставу Яну Фёдаравічу Хрысцінічу двух моргаў зямлі за Віленскай брамай каля агарода Стэфанаўскага шпіталя ў сувязі з пазыкай 5 злотых уласнікам гэтай зямлі сынам нябожчыка айца Падгайскага, былога святара Слуцкай царквы св. Барбары, на пахаванне памерлай сястры і выплатай 45 злотых былому застаўніку гэтай зямлі трайчанскаму абывацелю Сідару Сірыку. У архімандрыі Слуцкай, 29.03.1718.

Пячатка на чырвоным сургучу і подпіс: Кляменці Маўчановіч, намеснік С[вя]та-Траецкі Архімандрыі Слуцкай.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 1 арк. (арк. 743).

326. Выпіс з кніг урада майдэбурыі места Слуцка, 12.11.1718. Ліст празбітара Слуцкай царквы св. Барбары-мучаніцы айца Яна Бунцэвіча продажу Тэафану Бунцэвічу чатырох моргаў зямлі і агарода за Іллінскай брамай за 520 злотых. Слуцк, 1.09.1703.

Пячатка на кустодыі ўрада места Слуцка («Пегас»).

Подпісы: Бернхард Отэн, войт майдэбур[ыі] м[еста] Слуцкага; Ёахім Вышынскі, пісар Майд[эбурыі] Слуцк[ай].

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 745—746).

327. Выпіс з кніг Слуцкага замкавага суда, 19.01.1719. Дэкрэт аканомаў Слуцкага княства мазырскага маршалка Антонія Аскіркі, ашмянскага чашніка Томаша Воляна і інш., які загадвае Слуцкаму жыдоўскаму кагалу з арэнды Слуцкай і з арэнды Трайчанскай карчмы рэгулярна выплочваць фундушавыя грошы Слуцкай архімандрыі паводле даўніх прывілеяў былых уласнікаў Слуцкага княства. Слуцк, 25.06.1718.

Пячатка на кустодыі Слуцкага замкавага суда («Пагоня»).

Подпісы: Зыгмунт Мнінскі, падстароста судовы кн[яств]а Слуцкага; Максіміліян Хамянтоўскі, пісар княства Слуцкага; карыгаваў Рафаловіч.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Стар. сігн.: 11; 46. 2 арк. (арк. 747—748; арк. 748 чысты, з затылкам).

328. Дэкрэт адміністрацыі Слуцкага княства аб абавязковай выплаце грошаў Слуцкім жыдоўскім кагалам Слуцкай Св.-Траецкай архімандрыі з арэнды Слуцкага кабака і Трайчанскай карчмы паводле даўніх прывілеяў князёў Слуцкіх. Замак Слуцкі, 18.01.1719.

Без пячаткі і подпісаў.

Тагачасная копія. Пол. м. Філігрань. Стар. сігн.: № 2; № 11. 1 арк. (арк. 749).

329. а) Супліка (скарга) слуцкага ўваскрасенскага празбітара Яна Мінкевіча ашмянскаму чашніку, слуцкаму аканому [Томашу Воляну] з просьбай прыняць меры ў справе спагнання падатковага доўгу з некаторых святароў Слуцкай пратапопіі, вінных па облігах чарнігаўскаму падстолію п. Горвату і п. брэсцкаму чашніку. Без месца і даты.

Подпіс: Ян Мінкевіч, празбітар уваскрасенскі.

б) (На адвароце арк. 751). Просьба Т. Воляна да слуцкага архімандрыта і намесніка Кіеўскай мітраполіі вырашыць пытанне паводле вышэй згаданай суплікі. Без месца, 15.02.1719.

Подпіс: Волян.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 750—751адв.).

330. Рэестр дакументаў, давераных панам слуцкім аканомам, у справе айца слуцкага архімандрыта з беларускім епіскапам кс. Чацвярцінскім і з панам Ляшынскім для захоўвання ў Слуцкай каморы. Без месца, 15.03.1719.

Подпісы: Антоні Аскерка, м[аршалак] м[азырскі]; Томаш Волян, чаш[нік] ашм[янскі].

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. 2 арк. (арк. 752—753; арк. 753 чысты).

331. а) Атэстацыйны ліст маёра Якуба Фойгта і капітана Якаба Лауэра(?), афіцэраў слуцкага гарнізона ад імя ашмянскага чашніка, слуцкага аканома Томаша Воляна аб аглядзе разам з слуцкім архімандрытам айцом Тэадозіем Ваўковічам мяжаў паміж землямі Слуцкай архімандрыі (вв. Іспаскія і Кляпчаны) і землямі Слуцкага княства (урочышча Звярынец). Без месца, 30.07.1719.



Пячатка на чырвоным сургучу Я. Фойгта.

Подпісы: Якуб Фойгт, маёр; Якуб Лауэр(?), капітан.

332. Ліст ашмянскага чашніка, слуцкага аканома Томаша Воляна аб зацвярджэнні вышэй згаданага атэстацыйнага ліста сваіх афіцэраў. Слуцк, ліпень (без числа), 1719. (Арк. 755).

Пячатка на чырвоным сургучу і подпіс: Томаш Волян, ашм[янскі] чаш[нік], аканом.

Арыгінал. Пол. м. Філігрань. Стар. сігн.: № 84 (закрэслена); 79; 40. 2 арк. (арк. 754—755).

Заўвага: дакументы № 331 і 332 напісаны на адным аркушы вялікага фармату (in folio), перакладзеным напалам.

## Літаратура


1. Беларускі археаграфічны штогоднік. Мн., 2004. Вып. 5. С. 47—72; Мн., 2005. Вып. 6. С. 288—311; Мн., 2006. Вып. 7. С. 225—237.

***Дз. Ч. Матвейчык***

# РУКАПІСНЫЯ ДАКУМЕНТЫ ТАВАРЫСТВА ЛІТОЎСКАГА І РУСКІХ ЗЯМЕЛЬ І ТАВАРЫСТВА БРАТЭРСКАГА АБ'ЯДНАННЯ Ў БІБЛІЯТЭЧНЫХ СХОВІШЧАХ ПОЛЬШЧЫ

## Уводзіны

Гісторык сёння ў сваёй працы не можа абысціся без двух сацыяльных інстытутаў: архіва і бібліятэкі. Розніца паміж імі абсалютна невялікая, таму што яны абодва займаюцца зборам інфармацыі, зафіксаванай на папяровых носьбітах. Сёння немагчыма ўявіць сабе архіў без бібліятэкі і навуковую бібліятэку без аддзела, дзе б збіраліся рукапісныя матэрыялы. Добрым прыкладам падобных бібліятэк з'яўляюцца Нацыянальная бібліятэка ў Варшаве і Бібліятэка князёў Чартарыйскіх у Кракаве. Пры кожнай з іх утвораны аддзел, дзе сабраны багацейшыя рукапісныя матэрыялы, каштоўнасць якіх цяжка пераацаніць. Яны змяшчаюць велізарную колькасць дакументаў «Вялікай эміграцыі». Сярод яе прадстаўнікоў было нямала ўраджэнцаў беларуска-літоўскіх зямель. Іх дзейнасць да гэтага часу не знайшла належнага адлюстравання ў айчыннай гістарычнай літаратуры. Як кожная слаба распрацаваная тэма, яна патрабуе ў першую чаргу асвятлення крыніц, якія дазваляюць праліць святло на жыццё палітычных эмігрантаў па-за межамі радзімы. Асноўная частка гэтых крыніц знаходзіцца ў сховішчах Польшчы.

* * *

«Вялікая ўсеагульная энцыклапедыя Польскага Навуковага Выдавецтва» дае наступнае вызначэнне дэфініцыі «Вялікая эміграцыя»: «Польская палітычная эміграцыя пасля лістападаўскага паўстання, названая так з пункту гледжання на выдатную ролю, якую яна адыграла ў палітычным і інтэлектуальным жыцці польскага народа, а таксама на яе колькасць» [1, s. 705]. У артыкуле Вольгі Гарбачовай ужыты іншы падыход. Там «Вялікая эміграцыя» вызначаецца як «эмігранцкі рух з зямель былой Рэчы Паспалітай, выкліканы задушэннем паўстання 1830—1831 гг.» [2, с. 360]. Такім чынам, пад словам «Вялікая» маюцца на ўвазе колькасць, прадстаўнічасць і высокая актыўнасць эміграцыі. Колькасць удзельнікаў паўстання 1830—1831 гг., якія пасля яго паражэння вымушаны былі пакінуць радзіму, складала прыкладна ад 8 да 10 тыс. чалавек [3, s. 21—22; 4, s. 509—510; 5, s. 148; 6, s. 53—54]. Па-за межамі радзімы ўдзельнікі паўстання разгарнулі актыўную дзейнасць, накіраваную на ўзнаўленне барацьбы на радзіме за поўнае вызваленне ад расійскага панавання. Імі былі заснаваны сотні перыядычных выданняў у розных краінах, выпушчана ў свет велізарная колькасць літаратурных і публіцыстычных твораў, навуковых прац, а таксама заснаваны дзесяткі арганізацый рознага накірунку. Сярод іх варта назваць Таварыства Літоўскае і Рускіх Зямель (скарочана — Таварыства Літоўскае) і Таварыства Братэрскага Аб'яднання (скарочана — Братэрскае Аб'яднанне). Для гісторыка Беларусі яны цікавыя тым, што заснаваны былі выхадцамі з зямель былога ВКЛ і сваёй мэтай ставілі распаўсюджанне ведаў пра сваю радзіму ў Еўропе.



Таварыства Літоўскае было ўтворана 10 снежня 1831 г. у Парыжы групай з 10 актыўных дзеячаў паўстання на беларуска-літоўскіх землях на чале з Цэзарам Плятэрам. За ўвесь час існавання ў яго склад уступіла каля 120 чалавек. Сярод іх былі Адам Міцкевіч, Юльюш Славацкі, Іаахім Лялевель, Ігнат Дамейка і іншыя вядомыя ў эміграцыі дзеячы. Яго сябры намерваліся апісаць гісторыю паўстання на сваёй радзіме, пашыраць у Еўропе звесткі пра свой край, а таксама дапамагаць эмігрантам у іх жыцці па-за межамі радзімы. Для рэалізацыі сваіх мэтаў таварыства наладжвала кантакты з апошнім старшынёй паўстанцкага Нацыянальнага ўрада князем Адамам Чартарыйскім. Для папулярызацыі сваёй дзейнасці і прыцягнення новых сіл яно звярталася некалькі разоў з адозвамі да землякоў у эміграцыі. Пад «літоўскімі» і «рускімі» землямі эмігранты разумелі тэрыторыі сённяшніх Літвы, Беларусі і Украіны, якія ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай.

Актыўная дзейнасць таварыства спынілася ў сярэдзіне 1833 г., калі перасталі збірацца рэгулярныя пасяджэнні. Аднак на працягу 1830-х гг. яшчэ існавалі некаторыя закладзеныя ім традыцыі — святкаванне гадавіны паўстання ў землях былога ВКЛ (25 сакавіка) і выданне ўспамінаў пра паўстанне, чым займаўся Фелікс Уратноўскі (Feliks Wrotnowski).

Рукапісныя дакументы гэтага таварыства захоўваюцца ў Польшчы ў Нацыянальнай бібліятэцы, Бібліятэцы Чартарыйскіх і Сілезскай бібліятэцы ў г. Катавіцы. Найбольш багаты комплекс дакументаў сабраны ў Варшаве ў Нацыянальнай бібліятэцы. Пераважна яны сабраны ў чатыры рукапісы [8—11]. У некаторыя іншыя фонды таксама трапілі адзінкавыя дакументы, але яны значна саступаюць вышэйзгаданым па інфармацыйнасці. Варта адразу адзначыць, што практычна ўсе гэтыя дакументы, за выключэннем аднаго рукапісу [11], — копіі, створаныя выдатным польскім гісторыкам пачатку XX ст. Людвікам Яноўскім. Арыгіналы доўгі час захоўваліся ў Раперсвільскім музеі ў Швейцарыі (заснаваным, дарэчы, адным з сяброў Таварыства Літоўскага, братам яго старшыні Уладзіславам Плятэрам), у 1927 г. яны былі перавезены ў Варшаву і знішчаны ў час Другой сусветнай вайны. Сярод знішчаных і неаднаўленых матэрыялаў варта прывесці для прыкладу дакументы Літоўскага Вайсковага Камітэта, створанага пры Таварыстве Літоўскім [7, s. 105].

Адзін з рукапісаў з'яўляецца найбольш каштоўным [8]. Ён уяўляе сабой комплекс статутных дакументаў таварыства (акт заснавання, статут, адозвы), урыўкаў карэспандэнцыі і пратаколаў 60 пасяджэнняў з 10 снежня 1831 г. да 7 ліпеня 1833 г. У акце заснавання тлумачацца прычыны ўтварэння таварыства, асноўнай з якіх называецца «недакладнае, а нават фальшывае ўяўленне Еўропы» пра паўстанне ў Беларусі і Літве і іх насельніцтве. У прэамбуле да Статута таварыства абвяшчаюцца мэты яго стварэння: збор матэрыялаў пра

паўстанне ў «Літве і Рускіх Землях» і апісанне яго гісторыі, гістарычнае і статыстычнае апісанне гэтых краёў, а таксама даследаванне іх насельніцтва. Статут таварыства, які складаўся з 31 артыкула, канкрэтызаваў арганізацыйныя моманты дзейнасці таварыства: выбары кіраўніцтва, яго змены, парадак правядзення пасяджэнняў, прыняцце новых сяброў, стварэнне і дзейнасць камісій пры таварыстве і г. д. Найбольшую цікавасць уяўляе збор пратаколаў пасяджэнняў Таварыства Літоўскага. Яны дазваляюць прасачыць яго дзейнасць ад заснавання да спынення. Пратаколы, як правіла, змяшчаюць паведамленні пра выступленне той ці іншай асобы на пасяджэнні і падрабязныя канспекты выступлення. Усё гэта дазваляе акунуцца ў атмасферу, якая панавала на пасяджэннях, прасачыць асноўныя накірункі дзейнасці таварыства, вызначыць актыўнасць кожнага сябра, даведацца пра ўсе мерапрыемствы і да т. п. З усіх вядомых дакументаў пратаколы змяшчаюць найбольш багаты матэрыял па гісторыі Таварыства Літоўскага.

Другі з рукапісаў уяўляе сабой толькі спіс сяброў таварыства. Прычым ён створаны ў 2 выглядах. Адзін напісаны чарнілам, другі — простым алоўкам. Прозвішчы не ўсіх сяброў супадаюць у першым і другім спісах.

У трэцім рукапісе змешчаны некаторыя лісты, якія прысылаліся Таварыству Літоўскаму ці яго сябрамі або іншымі асобамі [10]. Гэтыя матэрыялы суб'ектыўнага характару паказваюць погляды сучаснікаў на гэтую арганізацыю і яе сувязі з землякамі ў Францыі і французскімі грамадзянамі. Яны таксама карысныя для высвятлення самасвядомасці асобных дзеячаў таварыства.

Асобны рукапіс змяшчае матэрыялы пра адно з мерапрыемстваў Таварыства Літоўскага — выбіццё медаля на памяць пра паўстанне ў «Літве і Рускіх Землях» [11]. Яно было задумана як сродак павелічэння аўтарытэту таварыства і паляпшэння яго матэрыяльнага стану. Аднак гэтая акцыя прынесла толькі адваротны эффект: яна запатрабавала дадатковых выдаткаў, а яе спозненасць і няўдалая рэалізацыя прывялі да таго, што на працягу ўсяго перыяду 30-х гг. цягнулася аплата рахункаў і высылка аплачаных медалёў падпісчыкам, якія іх яшчэ не атрымалі. Рукапіс паказвае таксама, з якой цяжкасцю адбывалася ўласна выбіццё медаля, для чаго таварыства нават вымушана было выслаць Ю. Славацкага ў Швейцарыю для яго дастаўкі ў Францыю. Таксама яны паказваюць, што аплата рахункаў за медаль прыпала пераважна на старшыню таварыства Ц. Плятэра.

Некаторыя іншыя дакументы Таварыства Літоўскага захаваліся ў копіі Л. Яноўскага ў іншым рукапісе [12, k. 114—137]. Па-першае, тут знаходзяцца кароткія біяграфіі ганаровых сяброў таварыства, напісаныя адным з сапраўдных сяброў таварыства пры іх прыёме ў яго склад. У ганаровыя сябры прымаліся замежнікі, якія аказвалі дапамогу польскім эмігрантам у іх жыцці па-за межамі радзімы. Захаваныя біяграфіі сведчаць пра тое, што гэта не былі радавыя грамадзяне, у іх ліку былі актыўныя грамадскія дзеячы, навукоўцы, літаратары, палітыкі. У гэтым жа рукапісе знаходзяцца біяграфіі некаторых сапраўдных сяброў таварыства, напрыклад, Ф. Уратноўскага, брата Тамаша Зана Стэфана, Ежы Зяновіча і інш. [12, k. 142, 181—182, 184—185, 188—202]. Падача біяграфіі, напісанай кім-небудзь з сапраўдных сяброў таварыства, была абавязковай пры прыняцці ў яго склад.



Копіі дакументаў Таварыства Літоўскага захаваліся таксама ў Бібліятэцы князёў Чартарыйскіх у Кракаве [13]. У адрозненне ад варшаўскай кракаўская копія была створана яшчэ ў часы эміграцыі. Яе стваральнікам выступіў адзін з сяброў таварыства, вядомы ў эміграцыі збіральнік і грамадскі дзеяч, ураджэнец Слонімскага пав. Юзаф Альфонс Патрыкоўскі. Па інфармацыйнай насычанасці гэтая копія значна саступае варшаўскай. Тут маюцца толькі некаторыя статутныя дакументы, некалькі лістоў таварыства сваім карэспандэнтам у Францыі і пратаколы пасяджэнняў таварыства за няпоўны першы год існавання — з 10 студзеня 1831 г. да 2 студзеня 1832 г. Апрача таго, копія створана максімальна блізкай да арыгінала, у ёй адсутнічаюць скарачэнні, пропускі і г. д., чым грашыў Л. Яноўскі пры капіраванні дакументаў.

Немагчыма таксама абмінуць увагай дакументы Таварыства Літоўскага, што засталіся ў спадчыне аднаго з яго найбольш актыўных сяброў Канстанціна Залескага, ураджэнца Расіенскага пав. Віленскай губ., у Сілезскай бібліятэцы (Bibliotece Śląskiej) у г. Катавіцы [14]. Наяўныя там матэрыялы змяшчаюць камплект лістоў таварыства, высланых К. Залескаму, які з'яўляўся яго карэспандэнтам у Страсбургу ў канцы 1831 — пачатку 1832 г. У лістах знаходзяцца таксама адозвы таварыства да сваіх землякоў, якія прыбывалі ў Францыю ў гэты перыяд, яго развагі наконт перавагаў прыбыцця ў той ці іншы французскі горад і рэкамендацыі ў сувязі з гэтым К. Залескаму. Тут жа знаходзяцца некалькі чарнавых варыянтаў лістоў, адасланых Таварыству Літоўскаму ад ураджэнцаў беларуска-літоўскіх зямель, якія праязджалі праз Страсбург. Гэтыя фрагменты карэспандэнцыі не змяшчаюць нічога кардынальна новага ў параўнанні з дакументамі з Варшавы і Кракава. Копіі гэтых лістоў знаходзяцца ў абодвух згаданых вышэй камплектах дакументаў. Аднак, што немалаважна для даследчыка, дакументы з Сілезскай бібліятэкі з'яўляюцца адзінымі арыгіналамі, якія захаваліся да нашага часу і даступны не на мікрафільмах, а ў традыцыйным выглядзе.

Па вялікім рахунку для атрымання інфармацыі пра Таварыства Літоўскае дастаткова выкарыстання варшаўскіх матэрыялаў. Кракаўскія і катавіцкія дубліруюць іх і не нясуць кардынальна новай інфармацыі.

Апрача Таварыства Літоўскага, падобным і паводле складу, і паводле мэтаў з'яўляецца створанае ў г. Безансон, дзе была паселена вялікая група эмігрантаў з зямель былога ВКЛ, Таварыства Братэрскага Аб'яднання. Яго заснавальнікамі з'явіліся пяцёра актыўных удзельнікаў паўстання на чале з Ежы Булгарынам. Трое з іх паходзілі з беларуска-літоўскіх зямель. На працягу ўсяго перыяду існавання ў яго склад былі прыняты больш за 140 асоб, пераважна таксама з гэтых тэрыторый. Братэрскае Аб'яднанне было ўтвора-

З друкаваных матэрыялаў, прысвечаных рукапісам беларускіх татараў канца XVI—канца XX ст. з іншых айчынных і замежных калекцый, намі ўстаноўлены імёны яшчэ 102 уладальнікаў рукапісаў. Але гэтую лічбу нельга лічыць канчатковай. Яна патрабуе далейшага ўдакладнення. Так, на розных кнігах сустракаюцца аднолькавыя імёны ўладальнікаў. Для таго каб выявіць, гэта адны і тыя ж людзі ці розныя асобы з аднолькавымі прозвішчамі, патрэбна параўнаць почыркі запісаў.

Для выяўлення ўладальнікаў рукапісаў апрача ўладальніцкіх запісаў выкарыстоўваліся таксама дарчыя запісы, напрыклад: «*На добрую память Его Высокопреподобію Господіну муфтію Шинкевичу отъ Михаила Хазбіевича*» [5].

Часам на ўладальніка рукапісу ўказвае экслібрыс: на хамаіле XVI—XVII стст. знаходзіцца экслібрыс А. Акалюта; на Каране першай палавіны XIX ст. — экслібрыс «*Omar Amin Szwarc*» [6].

Часам уладальнікамі рукапісаў былі ўстановы, напрыклад, хамаіл 1802 г. (акс. 692) быў уласнасцю Муфціята ў Вільні [7]. Кнігі маглі належыць таксама татарскім суполкам, напрыклад, абшчыне ў Крушынянах (кітаб 1792 г.) [8].

Часам у каталозе пры апісанні кнігі пра ўладальніцкія запісы інфармацыі няма, але складальнікам паведамляецца: «рукопись, в начале XX в. вывезенная из Западного края муллой Сафаровым, в 1916 г. была передана последним мулле и известному татарскому писателю Миргазизу Укмасы, который в 1923 г. передал ее Центральной Казанской библиотеке; позже рукопись была передана библиотеке Казанского университета» [9].

Сярод уладальнікаў рукапісаў беларускіх татараў былі вядомыя асобы — першапачынальнік даследавання рукапісаў беларускіх татараў, прафесар кафедры ўсходніх моў Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага універсітэта А. Мухлінскі. У яго асабістай бібліятэцы захоўваліся рукапісы № 867, 868, 869, 893, цяпер кнігі захоўваюцца ў бібліятэцы ўсходняга факультэта С.-Пецярбургскага дзяржаўнага універсітэта [10].

Уладальнікам кніг быў вроцлаўскі арыенталіст А. Акалют (1654—1704). Яму належаў старэйшы захаваны хамаіл XVI—XVII стст. У 1690 г. разам з усёй біблятэкай даследчыка кніга была набыта бібліятэкай Лейпцыгскага муніцыпалітэта, а ў 1962 г. разам з рукапісным фондам хамаіл (B. OR. 280) быў перададзены бібліятэцы Лейпцыгскага універсітэта [11].

Уладальнікам буйнейшай калекцыі татарскіх рукапісаў у Беларусі быў кандыдат гістарычных навук, намеснік муфтыя мусульман Беларусі Ібрагім Барысавіч Канапацкі (1949—2005). Яго калекцыя складаецца з 25 рукапісных кніг канца XVIII — пачатку XX ст. Частка гэтай калекцыі была прадстаўлена ў каталозе «Рукапісныя і друкаваныя кнігі беларускіх татараў» [12]. Пра асобныя кнігі з калекцыі І. Б. Канапацкага было вядома з публікацый айчынных і замежных навукоўцаў: кітаб 1832 г. даследаваў беларускі навуковец В. І. Несцяровіч [13], тэфсір* канца XIX ст. — швейцарскі лінгвіст П. Сутэр [14]. Цяпер апісаннем кнігазбору займаецца дачка Ібрагіма Барысавіча — Зарына Канапацкая.



Уладальнікамі былі і «невядомыя» асобы — на хамаіле 1775 г. захаваўся запіс вучнёўскім почыркам, у якім дзіця паведамляла, што гэты хамаіл яму падарыла маці [15].

Нямала цікавай інфармацыі паведамляюць запісы карыстальнікаў на палях кніг, на чыстых аркушах і вокладках. У іх можна знайсці важныя звесткі з асабістага жыцця, жыцця мусульманскай суполкі (запісы пра адкрыццё мячэці ў Лукішках у 1867 г. — хамаіл 1835 г. [16]), успаміны пра гераічныя дні, а таксама парады па вядзенні хатняй гаспадаркі, рэцэпты па выдзелцы скур і шмат іншага). Яны па-свойму адлюстроўваюць уклад жыцця беларускіх татараў, з'яўляюцца каштоўнай крыніцай для этнографаў і гісторыкаў.

Шмат запісаў на Каране Р211 (ЦНБ НАН Беларусі) належыць Хасеню Канапацкаму. Чыстыя аркушы кнігі ён выкарыстоўваў для практыкавання ў напісанні афіцыйных папер у духоўнае праўленне: «*Писалъ сіе сочиненіе Хасень Канопацкій въ Таврическое Магометанское Духовное Правленіе Им□ю честь покорн□йше просить Ваше Превосход…*», суд: «*Его Благородію Господину Мировому Судь□ 3 участка Игуменскаго У□зда покорн□йше прошу сд□лать дальн□йшее разспоряженіе ввиду того, что я подлежалъ производству департаментовъ сената ввиду изложенаго и руков[од]ствуясь на основаніи указ…*».

На ахоўным аркушы Карана іншым почыркам запісана малітва на арабскай і цюркскай мовах у транскрыпцыі кірылаўскімі літарамі: «*Пей к. ганбер Мухамметъ Мустафа Рухнера Сальватъ Аллагум□ Саль… С□иидына Мухаммедъ Мустафа Веаля — Али Мухаммедъ*». Гэта малітва за душу прарока Мухамада Мустафы з просьбай аб благаславенні Госпадам Мухамада і яго сям'і. Запіс сведчыць пра тое, што адзін з уладальнікаў кнігі вучыў малітву, не ведаючы арабскай і цюркскай моў. Дарэчы, з канца XIX ст. вядомы хамаілы, напісаныя кірылаўскімі і лацінскімі літарамі для тых, хто ўжо не ведаў арабскае пісьмо [17]. Існавалі друкаваныя малітоўнікі для мусульман, у якіх тэксты на арабскай мове былі надрукаваны кірылаўскімі літарамі. У адным з такіх малітоўнікаў пазначана, што дадзеную малітву патрэбна спяваць на мізары (татарскія могілкі) перад чытаннем суры Йа Сін (36-я сура Карана) [18].

Пра бытавы бок узаемаадносін жыхароў розных нацыянальнасцей паведамляе запіс грамадзянскім шрыфтам (карычневым чарнілам) на

* Тэфсір (тафсір) — у перакладзе з арабскай мовы азначае «тлумачэнне, каментарый». У беларускіх татараў тэфсір змяшчаў тэкст Карана з падрадковым перакладам. Звычайна арабскі тэкст пісалі гарызантальна, а пад ім пад ухілам — пераклад на польскай мове (арабскімі літарамі).

ўнутраным баку ніжняга вечка: «*Намъ слѣдуетъ отдать Абраму 14 руб. 24 января 1917 года*» (ЧЗ1814, ГДМГР).

Інфармацыю пра ўладальнікаў рукапісаў захоўваюць таксама аркушы, свядома ці несвядома ўкладзеныя ў рукапіс. Гэта былі паперкі з дарагімі для ўладальніка запісамі (малітвы, айаты Карана) (Р214, ЦНБ НАН Беларусі). Гэта маглі быць аркушы з хамаіла, а таксама аркушыкі , якія апынуліся пад рукой у той момант, калі трэба было зрабіць закладку. Ці проста калісьці патрэбная паперка (фрагмент квітанцыі)*, з якой беражлівы гаспадар не захацеў расстацца і паклаў яе ў кнігу на ўсялякі выпадак. Так, у хамаіле ЧЗ1816 (ГДМГР) у ліку дзесяці ўкладзеных аркушаў знаходзіцца аркуш з тэкстам пра парадак узыходжання на мінбар**. У хамаіл ЧЗ1814 (ГДМГР) укладзены напісаны арабскім пісьмом тэкст, прысвечаны набажэнству ў дзень імянін «Пана прэзідэнта» Рэчы Паспалітай Ігнацыя Масціцкага.

Каштоўную інфармацыю пра паўсядзённае жыццё і традыцыі беларускіх татараў захоўваюць дадаткі да рукапісаў. Так, да калекцыі рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі дададзены 10 дакументаў рознага зместу (дадатак 1), у тым ліку спіс сыноў і дачок невядомага татарына з днямі іх нараджэння, запісы мулы пра заключэнне шлюбаў, апісанне абраду пахавання і інш. У якасці дадатку 2 захоўваецца аркуш паперы (разарваны на 3 фрагменты) з арабаграфічным тэкстам на беларуска-польскай мове. Сляды згібаў на ім сведчаць, што аркуш быў складзены ў прамавугольнік памерам 85 × 60 мм, які, магчыма, быў прызначаны для нашэння на целе ў якасці аховы ад пэўных няшчасцяў.

Вядома, што беларускія татары насілі розныя амулеты, талісманы, называлі іх далаварамі, граматкамі і нускамі [19]. Калі назва далавар (дуалар — малітвы) паходзіць з турэцкай мовы, нуска (амулет) — з арабскай мовы, то слова граматка мясцовага паходжання. Далаварамі (дуаларамі) называлі сувоі малітваў, якія насілі пры сабе ў якасці талісманаў. У некаторых мясцовасцях далаварамі пазначалі сувоі малітваў, якія клалі нябожчыку ў магілу. Граматкай беларускія татары пазначалі сувой малітваў (меншы за далавар), які насілі як амулет. Змест граматкі складаўся з айатаў з Карана, правілаў ісламу, арабскіх малітваў, магічных выяў. Традыцыйна іх насілі ў футлярчыку з тканіны ці скуры.

Нускі (іх яшчэ называлі дуайкамі) уяўлялі сабой амулеты ў выглядзе маленькіх аркушаў з выпісаным з хамаіла тэкстам малітвы (айатам Карана), сімвалічнай выявай. Як адзначае З. Канапацкая, розніца паміж функцыянальным прызначэннем граматкі і дуайкі зводзілася да наступнага: нуска (дуайка) з'яўлялася талісманам, прызначаным для асобных выпадкаў, а

* У Каран 11Рк752 (НББ) укладзены дзве квітанцыі на аплату электраэнергіі Байрашэўскім Аляксандрам.

** Мінбар — кафедра ў мячэці, з якой імам кажа пропаведзі.



граматку насілі заўсёды [20]. Высвятленне назвы талісмана з калекцыі НББ (граматка, нуска) патрабуе дадатковага даследавання тэксту.

Такім чынам, для ўстанаўлення імёнаў і прозвішчаў уладальнікаў рукапісаў беларускіх татараў з айчынных і замежных калекцый былі выкарыстаны поўныя (разгорнутыя) уладальніцкія запісы, дарчыя запісы, экслібрысы, а таксама ўскосныя даныя (звесткі даследчыкаў) пра былое і цяперашняе месца знаходжання рукапісаў. Умоўна ўлічваліся таксама кароткія запісы з указаннем імёнаў і прозвішчаў мяркуемых уладальнікаў.

У дзяржаўных калекцыях Беларусі выяўлены 15, у замежных (дзяржаўных і прыватных) і айчынных прыватных калекцыях выяўлены 102 уладальнікі. Гэтыя лічбы нельга лічыць канчатковымі, яны патрабуюць далейшага ўдакладнення. Значная частка рукапісаў беларускіх татараў не апісана, не ўведзена ў навуковы абарот.

Аналіз запісаў паказаў, што ўладальнікі кніг былі непасрэднымі ўдзельнікамі захавання і перадачы традыцый духоўнай культуры беларускіх татараў. Няма дакладных звестак пра лёс большасці з гэтых асоб. Пэўную інфармацыю пра іх захоўваюць іх уласныя запісы, пакінутыя на палях кніг, на чыстых аркушах і вокладках.

Запісы ўладальнікаў кніг па-свойму адлюстроўваюць уклад жыцця беларускіх татараў, з'яўляюцца каштоўнай крыніцай для вывучэння духоўнай культуры беларускіх татараў. Крыніцай для вывучэння паўсядзённага жыцця і традыцый беларускіх татараў з'яўляюцца ўкладышы ў рукапісы, а таксама дадаткі да іх.

Л і т а р а т у р а


1. Антонович А. К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968; Łapicz Cz. Kitab Tatarów litewsko-polskich (Paleografia. Grafia. Język). Toruń, 1986; Drozd A. Chamaił Sobolewskiego // Rocz. Tatarów Pol. 1993. T. 1. S. 48—62; Дуфала К. Об одной белорусско-польской рукописи, написанной арабским письмом // Studia Russica. 1997. T. 16. P. 215—223; Рукапісныя і друкаваныя кнігі беларускіх татараў: Каталог выставы: (Да 600-годдзя татар. асадніцтва на Беларусі). Мн., 1997; Самойлович А. Н. Избранные труды о Крыме: сб-к / ред.-сост. Е. Г. Эмирова. Симферополь, 2000. С. 181—187; Drozd A. Piśmiennictwo i muhiry Tatarów polsko-litewskich / A. Drozd, M. M. Dziekan, T. Majda. Warszawa, 2000; Suter P. Alfurkan Tatarski. Der litauisch-tatarische Koran-Tefsir. Köln; Weimar, Wien, 2004; Мишкинене Г. Каталог арабскоалфавитных рукописей / Г. Мишкинене, С. Намавичюте, Е. Покровская. Вильнюс, 2005.
2. Тарэлка М. Беларускія рукапісныя Кур'аны: лёсы кніг і людзей / М. Тарэлка, А. Цітавец // Мечети и мизары татар Беларуси, Литвы и Польши: материалы VII междунар. науч.-практ. конф. Новогрудок, 2003. С. 49—153.
3. Drozd A. Meczety i cmentarze Tatarów polsko-litewskich / A. Drozd, M. M. Dziekan, T. Majda. Warszawa, 1999. S. 73.
4. Цітавец А. І. Беларускія кнігазборы татарскіх рукапісных кніг // Информационное обеспечение науки Беларуси: от рукописей к электронным информационным ресурсам: сб. науч. ст. Мн., 2006. С. 147—156.

5. Мишкинене Г. Каталог … С. 18—19.
6. Там жа. С. 26—27, 71—72.
7. Drozd A. Piśmiennictwo … S. 56.
8. Там жа. S. 53.
9. Мишкинене Г. Каталог … С. 35.
10. Дерягина Т. П. Арабские рукописи из коллекции Антония Мухлинского в библиотеке Санкт-Петербургского государственного университета / Т. П. Дерягина, О. Б. Фролова // Россия и арабский мир. Научные и культурные связи. Вып. 3. СПб., 1998. С. 13—22.
11. Антонович А. К. Белорусские тексты … С. 372.
12. Рукапісныя і друкаваныя кнігі …
13. Несцяровіч В. Старажытныя рукапісы беларускіх татар (Графіка. Транслітарацыя. Агульная характарыстыка мовы. Фразеалогія). Віцебск, 2003. С. 41—52.
14. Suter P. Alfurkan Tatarski … S. 516—520.
15. Антонович А. К. Белорусские тексты … С. 132.
16. Drozd A. Piśmiennictwo … S. 58.
17. Мишкинене Г. Каталог … С. 91 — 92.
18. Хамаил с кратким содержанием мусульманских молитв, переведенных на русский шрифт, чтобы все могли читать. Б. м., Б. г. [Мн., 1990(?)]. С. 7.
19. Drozd A. Piśmiennictwo … S. 15—16.
20. Канапацкая З. И. Татары в Беларуси и их культура (XIV—XVII века): дис. … канд. ист. наук: 07.00.02. Мн., 2005. Л. 76.



***И. Н. Шпилевская***

## ДОКУМЕНТООБОРОТ И ДОКУМЕНТИРОВАНИЕ В ГОСУДАРСТВЕННЫХ УЧРЕЖДЕНИЯХ НА ТЕРРИТОРИИ БЕЛАРУСИ ВТОРОЙ ПОЛОВИНЫ XIX — НАЧАЛА XX в.

Государственное регулирование делопроизводства Российской империи второй половины XIX — начала XX в. опиралось на нормативно-правовую базу, которая состояла из законодательных актов и нормативно-правовых актов по делопроизводству — сборников циркуляров и инструкций, инструкций по делопроизводству исполнительных органов власти (министерств). Эти сборники содержали также циркуляры и инструкции по делопроизводству [1].

Для государственных учреждений, действовавших на территории Беларуси на принципах коллегиальности, издавались инструкции, например, казенным палатам, губернским и уездным казначействам и расходным отделениям губернских казначейств, казначействам за 1864, 1865, 1870, 1878, 1911, 1915 гг. [1—9]. Инструкции первых лет издания — это малоформатные книжки объемом до 100 страниц, а инструкции последних лет издания — это книги стандартного формата объемом до и свыше 500 страниц.

В законченном виде на начало XX в. общее делопроизводство государственных учреждений представлено в инструкции казенным палатам 1915 г. [4]. По этой инструкции можно восстановить документооборот учреждения, который подробно описан.

Управляющий казенной палатой устанавливал внутренний канцелярский порядок: «принимал меры к… упрощению и сокращению канцелярского производства, к совершенному уничтожению внутренней переписки между столами и отделениями, к устранению бесполезных подробностей в изложении докладных записок и исполнительных бумаг…» [4, с. 19].

**Порядок движения документов в казенной палате**, или документооборот, включал следующие операции:

— Поступающие в казенную палату пакеты, повестки, объявления и посылки принимались дежурным чиновником, записывались в книгу и под расписку передавались секретарю.

— Секретарь вскрывал корреспонденцию, погашал гербовые марки, проверял приложения, отмечал на бумагах время их поступления и делопроизводства, к которым они относились. Не вскрывались секретарем телеграммы, пакеты из центральных учреждений, пакеты, адресованные непосредственно управляющему палатой, а также пакеты с надписями «секретно», «конфиденциально», «доверительно», «к торгам» и другая корреспонденция по указанию управляющего. Невскрытые пакеты и телеграммы представлялись управляющему немедленно, а затем ему же пере-

давалась остальная корреспонденция для просмотра и соответствующих распоряжений.

— Прошения и жалобы, подаваемые в казенную палату, принимались управляющим или, по его указанию, помощником управляющего и начальниками отделений или секретарем. При этом, по желанию просителей, им могли выдаваться расписки в приеме прошений из особой книги с оплатой гербовым сбором 15 коп.

— После возвращения бумаг управляющим казенной палатой секретарь передавал их журналисту, который записывал их в общий журнал входящих бумаг и передавал зарегистрированные бумаги начальникам отделений. Срочные бумаги передавались начальникам отделений сразу после записи в журнал.

— Начальники отделений, просмотрев бумаги, возвращали их журналисту для раздачи под расписку заведующим столами.

— Заведующие столами распоряжались о записи полученных телеграмм и бумаг в настольные реестры, а ассигновок — в особые для них журналы и проверяли наличие оплаты гербовым сбором подлежащей к оплате бумаги и приложений к ней и погашение марок. Вне очереди исполнялись бумаги с определенными сроками или с надписью «срочное», «арестантское» и т. п. Незамедлительно должны были посылаться просителям извещения о приостановлении производства по прошениям, неоплаченным или не полностью оплаченным гербовым сбором.

— Дела решались либо по постановлениям общего присутствия, либо по докладам отделений, утвержденным управляющим, либо по резолюции управляющего палатой.

— В общем присутствии при решении сложных дел составляли отдельные журналы, при решении однородных дел —общие журналы по докладным запискам отделений или по особым спискам однородных дел. Все журналы подписывались председателем и членами присутствия и скреплялись секретарем, потом в хронологическом порядке переплетались в книги.

Обработка исполненных документов включала следующие операции:

— На полях исходящих бумаг, адресуемых в центральные учреждения Министерства финансов, записывалось их краткое содержание. В ответных представлениях требовалось указывать отделение и стол того учреждения, куда посылалась бумага [4, с. 23].

— Исходящие подписывались управляющим палатой и начальниками соответствующих отделений и скреплялись заведующими делопроизводствами. Не на всех исходящих требовалась подпись управляющего палатой. Исключения составляли исходящие бумаги, имеющие справочный характер, например, требования о взыскании недоимок и др.



— Подписанные бумаги возвращались в столы. Заведующие столами проверяли наличие на исходящих бумагах всех подписей, приложений и в тот же день передавали в регистратуру для отправки по назначению.

— Регистратор записывал их в журнал исходящих бумаг. Для этой записи велся один общий журнал. Допускалось в палатах с большим числом исходящих бумаг иметь журналы исходящих бумаг по каждому отделению и по секретарской части, но нумерация этих журналов должна была составлять единое целое [4, с. 24]. Распределение нумерации делалось секретарем на основании опыта прошлых лет и ожидаемых изменений.

— После регистрации исходящие бумаги отправлялись по адресам и отдавались адресатам под расписку в разносной книге в тот же день или не позднее следующего присутственного дня. Вне очереди отсылались срочные и «спешные» бумаги и ассигновки с полномочиями казенной палаты. Отпуски и докладные записки отсылались в соответствующие столы сразу после отсылки бумаг. Контроль за отсылкой корреспонденции осуществлял секретарь.

**Правила оформления документов**

В делопроизводстве местных органов управления широко использовался реквизит ограничения доступа к документам. Во второй половине XIX в. грифы «секретно», «совершенно секретно», которые используются и в современном делопроизводстве, а также «циркулярно», «доверительно», «конфиденциально», «экстренно конфиденциально» [10] располагались всегда на верхнем поле документа в верхнем правом углу.

Дольше всего в делопроизводстве местных органов власти белорусских губерний приживался реквизит «заголовок к тексту». В циркуляре МВД департамента общих дел 1-го отделения 2-го стола от 13 октября 1904 г. № 33 «О сокращении и упрощении переписки» военным губернаторам, губернаторам, градоначальникам и обер-полицмейстерам было предложено «обозначать кратко о существе содержания бумаги и указывать на первой странице внизу, в левом углу» [11]. Предложено было на документах, адресованных на имя министра, указывать, в какое учреждение, делопроизводство, стол направляется документ, а если документ адресован в центральное учреждение — также указывать отделение и стол. В циркуляре отмечено, что указанный порядок местными властями не соблюдается.

К концу XIX в. документы оформлялись на печатных машинках. В реквизитах бланка, изготовленного типографским способом, появляется реквизит «место составления документа» г. Минск [13, л. 1]. Появляется именной бланк «Минского губернатора» «Черновое» (в верхнем правом углу). В этом бланке представлены реквизиты: Должность «бланк — Минского губернатора по канцелярии»; номер документа, ответ на __, дата документа, входящий номер, № дела, к которому будет приобщен документ (в левом нижнем углу) по форме $Д\frac{70}{98г}$[13, л. 6].

В начале XX в. реквизит «место издания» становится постоянным и присутствует на подавляющем большинстве бланков документов (циркуляры по врачебному управлению за 1916 г.) [12].

Реквизиты «секретно», «циркулярно» помещались по-прежнему в верхнем правом углу документа. Следует отметить еще один реквизит «верно», который в современном делопроизводстве используется как «отметка о заверении копии».

Порядок получения и передачи циркуляров из МВД в губернских учреждениях в начале XX в. хорошо прослеживается по входящим оттискам печатей на документе. Например, рассмотрим порядок вхождения в строительное отделение губернского правления циркуляра МВД Технико-строительного комитета из С.-Петербурга от янв./февр. 1909 г. № 155 о представлении проектных чертежей на рассмотрение и утверждение Технико-строительного комитета [14, л. 56]. Документ подписал за министра внутренних дел товарищ министр П. Курлов, скрепил — председатель Л. Новиков, «верно» — делопроизводитель (Подпись). На документе на верхнем поле запечатлено три оттиска печатей (печати) на одном уровне слева направо. Сначала фиолетовыми чернилами четырехугольной формы размером 4,5 см × 2,5 см: «В Канц. Губернатора Получено 26 февр. 1909 № 2239».

Следующая печать черными чернилами овальной формы размером 5,7 см × 3,6 см. По внешнему кругу: «Получено в Минском Губернском правлении». В центре круга — «28 фев. 1909 г.».

Третья печать синими чернилами овальной формы размером 5,5 см × 3 см с текстом: «Строительное отделение Минского Губернского правления март 1909 г. № 310».

На документе на левом чистом поле карандашом и ручкой две пометки «к исполнению», одна датирована $\frac{23}{II}$, карандашом «стр. отд.» и внизу «Нар. цир.» (наряд циркулярам).

Таким образом, первая дата на оттиске печати о получении канцелярией губернатора — 26 февраля, а строительное отделение получило документ только 7 марта. 10 дней циркуляр шел из канцелярии губернатора через Минское губернское правление в строительное отделение Минского губернского правления, в то время как здания, в которых размещались канцелярия губернатора и присутственные места Минской губернии, находились напротив через площадь. Входящий номер на документе проставлен только на оттиске печати строительного отделения. Это значит, что входящий номер ставился один раз в отделении, в котором исполняли документ. В других случаях, где нет другого оттиска печати, кроме «Получено в Минском Губернском правлении», входящий номер ставился просто на нем [14, л. 208].

Выводы. Нормативно-правовая база по делопроизводству Российской империи, которая действовала и на территории Беларуси, состояла,



кроме законодательных актов, из нормативных документов — сборников циркуляров и инструкций, инструкций, издаваемых министерствами. Документооборот учреждения в начале XX в. на примере казенной палаты описан в «Инструкции казенным палатам» 1915 г. Из него следует, что регистрация документов в учреждении была двукратной (в общем реестре и настольном), регистрация исходящих документов была однократной и велась в общем журнале исходящих документов.

На основе анализа реквизитов документов, отложившихся в архивных фондах учреждений Минской губернии в начале XX в., сделан вывод об их увеличении по сравнению с количеством реквизитов на бланке по закону «Учреждение министерств» 1811 г. Список их на документах, выявленных автором, составил 19 реквизитов: название вышестоящей организации, наименование организации, наименование структурного подразделения (отделение, стол), дата, исходящий номер, ссылка на регистрационный номер документа, место издания, краткое содержание текста (заголовок к тексту), адресат, заголовок (наименование вида документа), текст, подпись, входящий номер, отметка о поступлении документа, резолюция, гриф утверждения документа, гриф ограничения доступа (секретно, циркулярно), отметка об исполнении документа и направлении его в дело, отметка о заверении копии, печать.

Литература


1. Сборник циркуляров и инструкций Министерства юстиции с 1 января 1865 г. по 1 мая 1870 г. СПб., 1870. 318 с.
2. Инструкция казенным палатам. На время опыта единства кассы: утв. министром финансов 2 дек. 1864 г. 2-е изд. СПб., 1865. 84 с.
3. Инструкция казенным палатам: проект. СПб., 1911. 543 с.
4. Инструкция казенным палатам: утв. минстром финансов по соглашению. Пг., 1915. 452 с.
5. Инструкция губернским и уездным казначействам и расходным отделениям губернских казначейств. СПб., 1864. 138 с.
6. Инструкция губернским и уездным казначействам и расходным отделениям губернских казначейств. СПб., 1865. 122 с.
7. Инструкция губернским и уездным казначействам и расходным отделениям губернских казначейств. 3-е изд. СПб., 1872. 186 с.
8. Инструкция казначействам. СПб., 1878. 147 с.
9. Инструкция казначействам: проект. СПб., 1911. 367 с.
10. Сборник исполнительных распоряжений по канцелярии минского губернатора за 1876—1890 гг. // Национальный исторический архив Беларуси (далее — НИАБ). Ф. 295. Оп. 1. Д. 2816. Л. 53—57, 64—67, 93.
11. Указы Сената, циркуляры МВД, Министерства юстиции и другие материалы, присланные в I отделение правления для сведения и руководства // НИАБ. Ф. 299. Оп. 1. Д. 86. Л. 173.
12. Циркуляры врачебного управления за 1916 г. // НИАБ. Ф. 299. Оп. 1. Д. 1800. Л. 13, 15, 16.

13. Сведения о штатах, должностях, расходах по содержанию канцелярии минского губернатора. 24 марта — 23 мая 1898 г. // НИАБ. Ф. 295. Оп. 1. Д. 6451. Л. 1, 6.
14. Циркуляры МВД, минского губернатора и главного тюремного управления по строительному отделению. 5 февраля — 8 августа 1917 г. // НИАБ. Ф. 299. Оп. 1. Д. 100. Л. 56, 208.



***Дз. В. Лісейчыкаў***

## ФРАГМЕНТ АСАБІСТАГА АРХІВА ПРАФЕСАРА ПОЛАЦКАЙ ДУХОЎНАЙ СЕМІНАРЫІ АДАМА ТАМКОВІДА

У фондзе 3245 «Беларуская грэка-уніяцкая духоўная кансісторыя» Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі намі была знойдзена частка асабістага архіва прафесара Полацкай уніяцкай духоўнай семінарыі Адама Тамковіда (Воп. 1. Спр. 1д.). Унутраны вопіс да справы не складаўся. Новаадкрытыя дакументы дазваляюць праліць святло на рэлігійную і грамадскую дзейнасць гэтага вядомага дзеяча.

Адам Тамковід нарадзіўся 10 лістапада 1795 г. у сям'і уніяцкага святара Язэпа Тамковіда і Марыі Канюшэўскай. Святарскі род Тамковідаў быў вельмі разгалінаваны. Яго прадстаўнікі ў XVIII ст. займалі пасады парафіяльных святароў у Браслаўскім, Віцебскім паветах і Полацкім ваяводстве. Своеасаблівым «родавым гняздом», спадчыннай парафіяй Тамковідаў было мястэчка Друя ў Браслаўскім павеце. Прадстаўнікі фаміліі займалі пасаду святара Друйскай Спаскай царквы з самага пачатку XVIII ст. Язэп, бацька Адама, вучыўся ў школе пры Полацкім базыльянскім кляштары і ў 1799—1819 гг. займаў пасаду святара царквы ў в. Занарач Свянцянскага пав. [1].

У 1807 г. Адам Тамковід быў прыняты ў новастворaную Полацкую уніяцкую духоўную семінарыю, дзе скончыў поўны курс навучання — пяць класаў. У 1815 г. паступіў і ў 1820 г. скончыў Полацкую езуіцкую акадэмію са ступенню кандыдата філасофіі і тэалогіі. У 1820—1827 гг. працаваў на пасадзе інспектара Полацкай духоўнай семінарыі. У 1827 г. Тамковід скончыў Віленскі універсітэт са ступенню магістра тэалогіі. 12 лютага 1834 г. быў узведзены ў сан малодшага саборнага протаіерэя Полацкага кафедральнага Сафійскага сабора [2].

У 30-х гг. XIX ст. літоўскі епіскап Іосіф Сямашка ўзначаліў рух за далучэнне уніяцкай царквы да праваслаўя. Палітыка новага епіскапа была супярэчлівай. У яго знайшліся як актыўныя прыхільнікі, так і актыўныя праціўнікі. Адным з ідэйных кіраўнікоў апошніх якраз і з'яўляўся Адам Тамковід. Ім даводзілася не аднойчы сутыкацца асабіста. Праўда, Сямашка тады ўжо з'яўляўся першай пасля мітрапаліта асобай у іерархіі уніяцкай царквы, а Тамковід быў простым парафіяльным святаром. Ён меў уплыў на шарагове святарства выключна дзякуючы свайму аўтарытэту. Але гэты ўплыў прызнаваў і епіскап. Іосіф Сямашка ў 1837 г. называе Тамковіда адным з трох самых уплывовых людзей у Беларускай (Полацкай) епархіі [3]. Епіскап не мог не адзначыць высокіх прафесійных якасцей выкладчыка, але ахарактарызаваў яго наступным чынам: «Замеченный мною и прежде в усердии, но не в умении» [4]. Мабыць, аўтарытэт Тамковіда базіруецца на арганізатарскіх здольнасцях, а не на інтэлектуальных. Нягледзячы на гэта, Сямашка палічыў неабходным ізаляваць айца Адама ад полацкага асяроддзя. Выконваючы абавязкі Полацкага архіепіскапа Васіль Лужынскі ў чэрвені 1835 г.

выдае загад аб прызначэнні Тамковіда парафіяльным святаром Іказненскай царквы Дзісенскага пав. (гл. дак. 5). Хоць загад і пакідаў за Тамковідам пасаду выкладчыка семінарыі, цяпер большую частку часу яму даводзілася праводзіць у м. Іказнь, за сто кіламетраў ад Полацка.

Як ні дзіўна, уплыў Тамковіда на шараговае святарства зрабіўся яшчэ большым. Прычын гэтаму можа быць некалькі. Па-першае, на тэрыторыі былога Браслаўскага пав. у айца Адама было мноства роднасных сувязей. Па-другое, быў створаны арэол «пакутніка». Як бы там ні было, у 1838 г. Тамковід быў адхілены ад выкладання ў семінарыі. Да таго ж у снежні 1838 г. Сямашка прызнаваў неабходным выслаць айца Адама за межы Полацкай епархіі. Ён называў яго адным з двух самых небяспечных людзей, якія ёсць «действительные предводители строптивых священников в окрестностях Полоцка и имеющие на них существенное влияние» [5].

Сямашка не памыляўся. У 1838 г. Тамковід быў адным з ініцыятараў збору подпісаў белага уніяцкага святарства на імя імператара Мікалая I на прашэнні аб захаванні уніі. Прашэнне падпісалі 111 святароў Беларускай епархіі. Акцыя атрымала розгалас. Сямашка вылучыў Тамковіда ў лік дваццаці самых небяспечных бунтаўшчыкоў [6]. Для ізаляцыі гэтых дваццаці чалавек у г. Курску быў створаны спецыяльны манастыр [7]. Туды яны і былі змешчаны на нявызначаны тэрмін.

Далейшы лёс Адама Тамковіда дазваляюць прасачыць дакументы справы 1д. У ёй маюцца наступныя дакументы з асабістага архіва Адама Тамковіда: Выпіска з метрычных кніг Уткаўскай царквы Свянцянскага пав. Віленскай губ. аб нараджэнні А. Тамковіда 10.11.1795 (копія 07.09.1827). Арк. 1 (гл. дак. 1); Пасведчанне Полацкай езуіцкай акадэміі аб наданні А. Тамковіду ступені кандыдата філасофіі і тэалогіі. 09.03.1820. Арк. 20—21; Копія ліста міністра духоўных спраў і народнай адукацыі князя А. Галіцына полацкаму архіепіскапу Я. Мартусевічу наконт вынікаў інспектавання навучэнцаў і выкладчыкаў Полацкай духоўнай семінарыі. 20.08.1823. Арк. 4 (гл. дак. 2); Копія пратакола пасяджэння тэалагічнага факультэта Віленскага універсітэта аб наданні А. Тамковіду ступені магістра тэалогіі. 12.05.1824. Арк. 8; Пасведчанне Віленскага універсітэта аб наданні А. Тамковіду ступені магістра тэалогіі. 20.11.1826. Арк. 22; Пасведчанне аб заканчэнні А. Тамковідам Полацкай духоўнай семінарыі і аб яго працы ў згаданай семінарыі на пасадзе прэфекта і інспектара. 07.09.1827. Арк. 10адв.—11 (гл. дак. 3); Указ Полацкай грэка-уніяцкай духоўнай кансісторыі аб прызначэнні А. Тамковіда на пасаду асэсара азначанай кансісторыі. 17.09.1827. Арк. 5 (гл. дак. 4); Пасведчанне, выдадзенае полацкім архіепіскапам Я. Мартусевічам на наданне А. Тамковіду духоўнай пасады. 1827*. Арк. 9; Дазвол, выдадзены полацкім архіепіскапам Я. Мартусевічам А. Тамковіду на асвячэнне царкоўнага начыння (манстрацый, келіхаў, патынаў і інш.) у Полацкім архікафедральным Сафійскім саборы. 27.04.1832. Арк. 2; Ліст вікарыя Полацкай архіепархіі В. Лужынскага дзісенскаму дэкану Я. Паўлоўскаму аб прызначэнні А. Тамковіда на пасаду парафіяльнага святара царквы ў м. Іказнь. 24.03.1835. Арк. 13—14адв.; Загад вікарыя Полацкай архіепархіі В. Лужынскага аб прызначэнні А. Тамковіда на пасаду парафіяльнага святара царквы ў м. Іказнь Дзісенскага пав. Мінскай губ. з захаваннем пасады інспектара Полацкай духоўнай семінарыі. 12.06.1835. Арк. 6—6адв. (гл. дак. 5); Пасведчанне, выдадзенае рэктарам Полацкай духоўнай семінарыі М. Шалепіным А. Тамковіду на вольны праезд з г. Полацка у м. Іказнь і назад. 21.04.1837. Арк. 7 (гл. дак. 6); Пасведчанне, выдадзенае архімандрытам Курскага праваслаўнага манастыра айцом Паладыем А. Тамковіду аб паводзінах і нораве апошняга. 20.05.1845. Арк. 15 (гл. дак. 7); Пасведчанне, выдадзенае харкаўскім ваенным губернатарам А. Тамковіду на права вольнага пражывання на тэрыторыі Харкаўскай губ. 05.03.1846. Арк. 3 (гл. дак. 8); Чарнавік прашэння А. Тамковіда на імя імператара Аляксандра II з просьбай аб дазволе яму выконваць святарскія абавязкі паводле рымска-каталіцкага абраду. 17.11.1856. Арк. 16—17 (гл. дак. 9); Копія прашэння, складзенага каталіцкім святарствам на імя міністра ўнутраных справаў (16 пунктаў, напісана рукой А. Тамковіда). Б/д. (Датуем гэты дакумент не раней за 1856 г., улічваючы тое, што найбольш позні дакумент з гэтага фрагмента справы датуецца 1856 г.) Арк. 18—19.

* Частка дакумента знаходзілася на вырваным аркушы. Дакладную назву пасады ўстанавіць не ўдалося. Хутчэй за ўсё гэта пасада каноніка Полацкага Сафійскага сабора.



Акрамя таго, справа ўтрымлівае дакументы з архіва паліцмайстара г. Харкава, якія тычацца іншых асоб каталіцкага веравызнання і датуюцца 1856—1892 гг. Гэта дазваляе меркаваць, што пасля смерці А. Тамковіда (відавочна, у канцы 50-х гг.), яго асабістыя дакументы захоўваліся ў архіве харкаўскага паліцмайстара. У 90-х гг. XIX ст. яны былі перададзеныя ў архіў Беларускай (Полацкай) грэка-уніяцкай духоўнай кансісторыі, які тады захоўваўся ў Віцебску.

Справа 1д вылучаецца з масы адзінак захоўвання ф. 3245 тым, што дакументы яе датуюцца 1823—1892 гг. Астатнія адзінкі захоўвання фонду маюць храналагічную мяжу не пазней за 1840 г. Да таго ж дакументы справы складзены на разнастайных мовах: італьянскай, лацінскай, нямецкай, польскай, рускай і нават чэшскай.

Дакументы асабістага архіва прафесара Полацкай духоўнай семінарыі магістра Адама Тамковіда дазваляюць у пэўнай ступені праілюстраваць змаганне розных плыняў у асяроддзі вышэйшага кліру уніяцкай царквы ў 30-х гг. XIX ст., апісаць умовы кар'ернага росту уніяцкага святара на пачатку XIX ст.

Тэкст дакументаў даецца па сучасных археаграфічных правілах.

### 1. Фрагмент выпіскі з метрычных кніг Уткаўскай* царквы Свянцянскага пав.** Віленскай губ. аб нараджэнні А. Тамковіда 10.11.1795 (копія 07.09.1827)***

[…] Roku tysiąc siedemset dziewię[ć]dziesiątt piątego miesiąca nowembra dziesiątego dnia.

Adam, j[asnie] p[rzewielebnego] Józefa y Marij z Koniuszewskich Tomkowidów syn od w[ielebnych]ch panow Piotra Olszewskiego skarbnika Smoleńskiego y Balliny Deręgowskiey Mostowniczanki, oraz Romualda Deręgowskiego rotmistrza Brasławskiego y Wiktoryi Olszewskiey skarbnikowny do chrztu y bierzmowania świątego trzymany. Takowy extraktt metryki z xięg autentycznych metryk crzestnych parochij Utickiey zgodne co do słowa wypisawszy, w dowod przy wycisnieniu pieczęci własnoręcznym utwierdzam podpisem. Stefan S[нрзбрл.] paroch Uticki […]

НГАБ. Ф. 3245. Воп. 1. Спр. 1д. Арк. 1. *Копія*.

*Пераклад*

Тысяча семсот дзевяноста пятага году месяца лістапада дзесятага дня.

Адам, сын яснаправялебнага Язэпа і Марыі з Канюшэўскіх Тамковідаў трыманы да хрышчэння і святога бержмавання вялебнымі панамі Пятром Альшэўскім, скарбнікам смаленскім, і Балінай Дзерангоўскай, дачкой мастаўнічага****, а таксама Рамуальдам Дзерангоўскім, ротмістрам браслаўскім, і Вікторыяй Альшэўскай, дачкой скарбніка*****. Гэтую вытрымку метрыкі з арыгінальных хросных метрык Уткаўскай парафіі, дакладна слова да слова выпісаўшы, у дадатак з выцісненнем пячаткі сцвярджаю ўласнаручным подпісам. Стэфан С[нрзбрл.], парох Уткаўскі.

* Бацька Адама Язэп Тамковід на той час з'яўляўся святаром суседняй царквы ў в. Занарач. Але, паколькі святары не мелі права здзяйсняць абрад хрышчэння над уласнымі дзецьмі, яны хрысцілі іх у суседніх цэрквах. Таксама можна было запрашаць дзеля гэтага ў сваю царкву іншага святара.

** Вёска Уткі зараз не існуе. Населены пункт знаходзіўся на тэрыторыі Занарацкай вол. Свянцянскага пав. Віленскай губ. (гл.: Виленская губерния. Полный список населенных мест по статистическим данным о каждом поселении / Сост. Г. Г. Гошкевич. Вильна, 1905. С. 276).

*** Дакумент напісаны карычневым атрамантам на светла-блакітнай паперы з філігранямі ў выглядзе герба Расійскай імперыі, кірылічных літар «ЯМФ» і «ДЯ» і даты 1815. Гэта дазваляе меркаваць, што папера выраблена на Яраслаўскай мануфактуры Дзмітрыя Якаўлева ў 1815 г. (Клепиков С. А. Филиграни на бумаге русского производства XVIII — начала XX века. М., 1978. С. 23). Маюцца дзве пячаткі: сажавая — з выявай герба Расійскай імперыі і кругавой легендай «ПЕЧАТ[Ь] СЕБЕЖСКАГО ДУХОВНАГО ПРАВЛЕН[ИЯ]» і чырвоная сургучовая — герб «Лебедзь», родавы герб Дамініка Канюшэўскага, себежскага дэкана.

**** Урадніка з прозвішчам Дзерангоўскі на пасадзе мастаўнічага адшукаць не ўдалося.

***** Дачка старадубскага скарбніка Фларыяна Альшэўскага (гл.: Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. T. IV. Warszawa, 2003. S. 307).



### 2. Ліст міністра духоўных спраў і народнай адукацыі князя А. Галіцына полацкаму архіепіскапу Я. Мартусевічу наконт вынікаў інспектавання навучэнцаў і выкладчыкаў Полацкай духоўнай семінарыі. Полацк. 20.08.1823*

Преосвященнейший Владыко, Милостивый Государь Мой!

Сообщая в отношении 5-го минувшаго июля сведения о бывшем в Полоцкой Семинарии испытании, Ваше Преосвященство присовокупляет свое засвидетельствование о замеченном старании учащих и учащихся.

Почитаю приятною обязанностью на основании таковаго засвидетельствования просить Ваше Преосвященство, чтобы объявили оказавшим особое прилежание и успехи удовольствие начальства.

Честь имею быть с истинным почитанием Вашего Преосвященства на подлинном собственною рукою подписано тако: покорнейшим слугою князь Александр Голицын.

НГАБ. Ф. 3245. Воп. 1. Спр. 1д. Арк. 4. *Копія*.

### 3. Пасведчанне аб заканчэнні А. Тамковідам Полацкай духоўнай семінарыі і аб яго працы ў згаданай семінарыі на пасадзе прэфекта і інспектара. Полацк. 07.09.1827**

**Świadectwo**

Niżey podpisany czyni wiadomo wszystkim, do których to pod jakim kolwiek względem będzie należało: że W[ielebny] X[iądz] Adam Tomkowid, Magister Teologii, będąc przyjęty do Seminarium Archi-Dyecezalnego Połockiego 1807-go roku, przykładał się do nauk w pięciu niższych Klassach tegoż Seminarium dawanych z dobrym postępkiem i chwalebnemi odznaczając się obyczajami, do roku 1815-go. Od 1815-go do 1820-go roku okończył kursa Filozofii i Teologii w byłey Połockiey X[ię]ży Jezuitów Akademii, od których obiu tych nauk otrzymał stopień Kandydata. — Od 1-go Września 1820-go do roku teraz biegącego był w Seminarium Archi-Diecezalnem Połockiem Professorem: Teologii Moralney i Pasterskiey do 29-go Czerwca 1821-go roku, od 1-go Września tegoż roku do 29-go Czerwca 1822-go Logiki i Metafizyki, od 1-go Września 1822-go roku do 29-go Czerwca 1824-go roku znowu Teologii Moralney, Pasterskiey i His-

* Дакумент напісаны чорным атрамантам на белай паперы без філіграняў.

** Дакумент напісаны чорным атрамантам на белай паперы з філігранямі ў выглядзе герба Кастрамской губ., кірылічных літар «УФЛП» і даты 1823. Гэта дазваляе меркаваць, што папера выраблена ў 1823 г. на Угліцкай фабрыцы Лаўрэна Папова (Клепиков С. А. Указ. соч. С. 82). Маецца чырвоная сургучовая пячатка з выявай герба Расійскай імперыі і кругавой легендай «ПЕЧАТЬ ПОЛОЦКОЙ ЕПАРХИАЛЬНОЙ СЕМИНАРИИ».

toryi Kościelney, od 1-go Września 1824-go r[oku] do 29-go Czerwca 1826-go r[oku] Języka i Literatury Łacinskiey i Gramatyki narodowey, a od 1-go Września 1826-go roku do 29-go Czerwca roku teraz biegącego także Języka i Literatury Łacinskiey i nauki religii obszerniey wykładaney w Klassach III, IV i V. Nad to od miesiąca Sierpnia 1825-go roku jest w tem że Seminarium Prefektem. Dostateczna wiadomość wyżey rzeczonych nauk, sposobność i chęć udzielania ich uczniόm, też ze wszech miar godny pochwały sposób siebe prowadzenia, wyrażają w W[ielebnym] X[iędzie] Adamie Tomkowidu przymioty dobrego Nauczyciela i Przebożenego: nauką, bowiem i ścisłem dozorowaniem uczniów biorących wychowanie w Seminarium, dzielnie wpływał do oświecenia ich rozumu i skierowania ku dobremu serca, utwierdzając ich w tem osobistym przykładem chwalebnego siebie prowadzenia, a prze to był prawdziwie użytecznym w nieraz powiedzianym instytucie, zasłużył na publiczną zaletę i niewygasłą wdzięczność, jakowa przez ninieysze zaświadczzenie Pieczęcią Seminarium i podpisem stwierdzone naysłuszniey przyznaje się. Dano w Połocku w Klasztorze Archi-Katedralnym 1827-go roku miesiąca Sierpnia 22-go dnia.

X[iądz] Michał Szelepin. Kanonik. T[eologii] D[oktor]. Rektor Semina-r[ium] Archi-Diecezalnego Połockiego.

НГАБ. Ф. 3245. Воп. 1. Спр. 1д. Арк. 10адв.—11. *Арыгінал.*

*Пераклад*

**Пасведчанне**

Ніжэйпадпісаны даводзіць да ведама ўсіх, каму гэта нейкім чынам ведаць належыць: што вялебны ксёндз Адам Тамковід, магістр тэалогіі, будучы прынятым да Полацкай архіепархіяльнай семінарыі ў 1807 годзе, займаўся навукамі ў пяці ніжэйшых класах гэтай семінарыі, атрымліваў іх са стараннасцю і адзначаўся ўхвальнымі звычаямі да 1815 года. Ад 1815 да 1820 года скончыў курс філасофіі і тэалогіі ў былой Полацкай акадэміі ксяндзоў езуітаў, ад якой атрымаў ступень кандыдата абедзвюх гэтых навук. Ад 1 верасня 1820 года да цяперашняга года быў у Полацкай архіепархіяльнай семінарыі прафесарам маральнай і пастырскай тэалогіі да 29 чэрвеня 1821 года, ад 1 верасня таго ж года да 29 чэрвеня 1822 — логікі і метафізікі, ад 1 верасня 1822 года да 29 чэрвеня 1824 года — зноў маральнай і пастырскай тэалогіі і гісторыі касцёла, ад 1 верасня 1824 года да 29 чэрвеня 1826 года — лацінскай мовы і літаратуры і нацыянальнай [відавочна, польскай. — *Дз. Л.*] граматыкі, а ад 1 верасня 1826 года да 29 чэрвеня цяперашняга года таксама лацінскай мовы і літаратуры і навукі рэлігіі, шырока выкладанай у III, IV і V класах. Акрамя гэтага, ад жніўня 1825 года з'яўляецца ў гэтай жа семінарыі прэфектам. Дастатковая падрыхтаванасць у вышэйназваных навуках, здольнасць і ахвота да перадачы іх вучням, а таксама ва ўсіх адносінах вартыя ўхвалы паводзіны паказваюць у вялебным ксяндзе Адаме Тамковіду прыкметы добрага настаўніка і пастыра. Навукай, а таксама строгім наглядам за вучнямі, што выхоўваюцца ў семінарыі, плённа ўплываў на асвету іх розума і скіраванне сэрца да дабра, пацвярджаючы іх у гэтым асабістым прыкладам сваіх выдатных паводзінаў. Праз гэта быў сапраўды карысным у названай установе, заслужыў павагу грамадства і невыгасную ўдзячнасць, якую прызнаём праз гэтае пацверджанне, дакладна замацаванае пячаткай семінарыі і подпісам. Дадзена ў Полацку ў архіепархіяльным кляштары 1827 года месяца жніўня 22-га дня.



Ксёндз канонік Міхал Шалепін, доктар тэалогіі, рэктар Полацкай архіепархіяльнай семінарыі.

**4. Указ Полацкай грэка-уніяцкай духоўнай кансісторыі аб прызначэнні А. Тамковіда на пасаду асэсара азначанай кансісторыі. Полацк. 17.09.1827***

Ukaz Jego Imperatorskiey Mości Samowładnącego Całą Rossią z Połockiego Greko-Unitskiego Duchownego Konsystorza P[rzewielebnemu] X[iędzu] Adamowi Tomkowidowi, Prefektowi Połockiego Archi-Dyecezalnego Seminarium, Magistrowi S[więtej] T[eologii].

Słuchali: przedłozenia J[aśnie] W[ielebneg]o Jakóba biskupa Połockiego i kawalera pod dniem 15-o biegącego miesiąca za № 1096 datowanego, jakowem temu sądowi poruczył P[rzewie]l[e]b[no]ść Wasza jako męża doyrzałością lat, pracowitością, nauką i rzadkiemi sposobnościami, zaszczyconego, do urzędu Trzeciego Konsystorskiego Assesora wezwać, zostawiwszy całkowicie przy teraznieyszych jego obowiązkach przy Seminarium. Przepisanym porządkiem do sprawowania Assesorskiego urzęda sprowadzić, i do kompletu ilekroć tego konieczna potrzeba wymagać będzie, zapraszać.

Rozkazali: posłać ukaz P[rzewiele]b[no]sci Waszey iżbyś przybył do sądu Konsystorza dla wykonania przysięgi na obowiązek assesora i wstąpienia do wypełnienia onego według zakressu tegoż Jego Pasterskiey Mosci przedłożenia.

7bra 17 dnia 1827 roku.

Officiał kanonik Piotr Słonimski.

НГАБ. Ф. 3245. Воп. 1. Спр. 1д. Арк. 5. *Копія.*

*Пераклад*

Указ Яго Імператарскай Вялікасці, самадзержца ўсяе Расіі, з Полацкай грэка-уніяцкай духоўнай кансісторыі правялебнаму ксяндзу Адаму Тамковіду, прэфекту Полацкай архіепархіяльнай семінарыі, магістру святой тэалогіі.

Слухалі: прапанову Яснавялебнага Якуба, епіскапа Полацкага і кавалера** ад 15-га дня бягучага месяца, пазначанага за № 1096, якім гэтаму [кансісторскаму. — *Дз. Л.*] суду рэкамендаваў Правялебнасць Вашую як асобу, што заслугоўвае колькасцю гадоў, працавітасцю, адукацыяй і

* Дакумент напісаны чорным атрамантам на белай паперы без філіграняў.

** Маецца на ўвазе, што Якуб Мартусевіч меў дзяржаўныя ўзнагароды.

рэдкімі здольнасцямі заклікаць на пасаду трэцяга кансісторскага асэсара, цалкам пакінуўшы пры цяперашніх абавязках у семінарыі. Прадугледжаным парадкам дапусціць да выканання абавязкаў асэсарскай пасады і да штату [кансісторыі. — *Дз. Л.*] запрашаць столькі разоў*, колькі гэтага ў выніку будзе патрабаваць неабходнасць.

Загадалі: даслаць указ Правялебнасці Вашай, каб з'явіўся ў кансісторскі суд для прыняцця прысягі на абавязкі асэсара і ўступлення да яго выканання паводле напісанай Яго Пастырскай Міласцю прапановы.

Верасня 17-га дня 1827 года.

Афіцыял канонік Пятро Слонімскі.

### 5. Загад вікарыя Полацкай архіепархіі В. Лужынскага аб прызначэнні А. Тамковіда на пасаду парафіяльнага святара царквы ў м. Іказнь Дзісенскага пав. Мінскай губ. з захаваннем пасады інспектара Полацкай духоўнай семінарыі. Полацк. 12.06.1835**

Василий Венедикт Лужинский.

Божиею милостию епископ Оршанский, викарий Полоцкой Греко-Унитской Епархии.

Его преподобию г[осподи]ну инспектору Белорусской греко-унитской епархиальной семинарии, магистру богословия, иерею Адаму Томковиду мир в Господе и наше пастырское благословение.

Заботясь постоянно о благоустройстве греко-унитских церквей вверенной управлению нашему Бело-Русской Епархии и спосшествуя духовным пользам людей греко-унитскаго исповедания, а между тем быв известны, что Иказненский приход Минской губернии, в Дисненском уезде состоящий, оставался вакантным, мы представляли Ваше Преподобие куда следует к утверждению в Настоятеля того ж Иказненского прихода, а ныне получив от Его Сиятельства г[осподина] Виленскаго военнаго Губернатора и Генерал-Губернатора Гродненскаго, Белостокскаго и Минскаго князя Долгорукова согласие, изъявленное в отношении к нам от 27 апреля сего года за № 1079 на определение Вас в должность настоятеля Иказненской церкви, мы сим определяем и утверждаем Ваше Преподобие

* Служачыя на ўсе пасады ў духоўную кансісторыю прызначаліся тэрмінам на тры гады. У выпадку здавальняючых вынікаў працы яны атрымлівалі чарговае трохгадовае прызначэнне.

** Дакумент напісаны чорным атрамантам на белай паперы без філіграняў. Маецца выціснеactive пячатка уніяцкага мітрапаліта Язафата Булгака — выява герба «Габданк» пад мітрапаліцкім капялюшам, з каронай і мітрапаліцкім посахам і дванаццаццю кутасамі і кругавой легендай «IOSAPHAT BULHAK GRAECOUNITARUM IN ROSSIA ECCLESIARUM METROPOLITANUS DIECAES ARCHIEPISCOPUS POLOCENSIS» — «Язафат Булгак, грэка-уніяцкіх у Расіі цэркваў мітрапаліт, архіепіскап дыяцэзіі Полацкай».



настоятелем оной, с правами и преимуществом сему званию свойственными. Во уверение чего и дана сия грамота за собственноручным нашим подписанием и приложением Высокопреосвященнейшаго нашего митрополита, Полоцкого архиепископа и кавалера печати.

Июня 12 дня 1835 года. Город Полоцк.

Василий, епископ Оршанский, викарий Полоцкий.

НГАБ. Ф. 3245. Воп. 1. Спр. 1д. Арк. 6—6адв. *Копія.*

### 6. Пасведчанне, выдадзенае рэктарам Полацкай духоўнай семінарыі М. Шалепіным А. Тамковіду на вольны праезд з г. Полацка у м. Іказнь і назад. Полацк. 21.04.1837*

**Свидетельство**

Дано сие из правления Белорусской Греко-Унитской Епархиальной Семинарии Г[осподину] Инспектору оной же Семинарии, Магистру, Иерею Адаму Томковиду, отправляющемуся в заведываемый им Иказненский Греко-Унитский приход, состоящий Минской губернии в Дисненском уезде, по делам того ж прихода, сроком от нижеописанного числа до 30-го дня сего апреля месяца, а потому благоволено бы было ему Г[осподину] Инспектору Томковиду чинить свободный и беспрепятственный проезд в настоящем и обратном пути и таковое ж в том приходе пребывание. Во уверение чего свидетельство сие подписом члена правления и присоединением казенной печати утверждается. Апреля 21 дня 1837 года. Витебской губернии в уездном городе Полоцке.

Семинарии ректор, Протоиерей Михаил Шелепин.

НГАБ. Ф. 3245. Воп. 1. Спр. 1д. Арк. 7. *Арыгінал.*

### 7. Пасведчанне, выдадзенае архімандрытам Курскага праваслаўнага манастыра айцом Паладыем А. Тамковіду аб паводзінах і нораве апошняга. Курск. 20.05.1845**

**Свидетельство**

Дано сие Свидетельство Курской Коренной Рождество-Богородицкой пустыни Настоятелем Архимандритом Палладием выбывающему из оной

* Дакумент напісаны чорным атрамантам на белай паперы з філігранямі ў выглядзе герба Кастрамской губ., кірылічных літар «КГ» і даты 1835. Гэта дазваляе меркаваць, што папера выраблена на фабрыцы Канстанціна Гандукова (Клепиков С. А. Указ. соч. С. 27). Маецца сажавая пячатка з выявай герба Расійскай імперыі і легендай «ПЕЧ[АТЬ] БЕЛОРУССКОЙ ГРЕКО-УНИТСКОЙ ЕПАРХ[ИАЛЬНОЙ] СЕМИНАРИИ ПРАВЛЕНИЯ».

** Дакумент напісаны карычневым атрамантам на белай паперы без філіграняў. Маецца чырвоная сургучная пячатка з выявай герба Расійскай імперыі і кругавой легендай «КУРС[КАГО] КОРЕННАГО ЗАШТ[АТНАГО] [неразборліва. — *Дз. Л.*] МОНАСТ[ЫРЯ]».

стаўнікі ўлады і ўладальнікі паведамлялі аб сваіх рашэннях і дзеяннях, выкарыстоўваецца тэрмін «грамата» ці «ліст». Пры гэтым увогуле «Для дакументаў, пачынаючы з другой паловы XV ст., прыняты тэрмин «ліст» [5, с. 70, 60].

З існуючых метадычных рэкамендацый па публікацыі дакументаў па гісторыі Беларусі з кірылічнымі тэкстамі вынікае, што тэрмін «ліст» ужываецца і ў шырокім сэнсе — для абазначэння пераважнай большасці дакументаў, якія ствараліся ў ВКЛ з другой паловы XV ст., і ў вузкім сэнсе — для абазначэння распарадчай і справачна-распарадчай дакументацыі.

Мы лічым, што пры складанні рэдакцыйных загалоўкаў да распарадчай дакументацыі сярэднявечча гісторыі Беларусі належыць выкарыстоўваць не толькі больш дыферэнцаваны, але і больш інтэграваны падыход, чым гэта прапануецца сёння ў існуючых метадычных рэкамендацыях па публікацыі дакументаў па гісторыі Беларусі з кірылічнымі тэкстамі. У прыватнасці, мэтазгодна выкарыстоўваць для абазначэння такой дакументацыі сучасныя найменні справаводнай дакументацыі. У дадзенай публікацыі мы выкарыстоўваем найменні «распараджэнне» і «загад». Пры гэтым саманазвы сярэднявечных дакументаў мэтазгодна прыводзіць у дужках пасля вызначэння разнавіднасці дакумента складальнікам публікацыі. Нагадаем, што Ю. У. Несцяровіч ужо прапаноўваў ужываць у публікацыях дакументаў па сярэднявечнай гісторыі Беларусі найменне «ліст» у двукоссі толькі для абазначэння саманазвы дакументаў [6, с. 143].

Пры «ідэнтыфікацыі» публікуемых распарадчых дакументаў, як «распараджэнняў», так і «загадаў», складанасцей не ўзнікае. У дак. № 1 кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст дае распараджэнне адносна наступных скаргаў: адсутнічаюць надзейныя вартаўнікі замкаў і маёнткаў; стараста (маршалак) забірае коней ратнікаў; вазвяртання страт за загінуўшых ратнікаў і коней; забароны вольнага гандлю. У дак. № 2 Жыгімонт Аўгуст загадвае мытнікам не перашкаджаць збіраць падатак княгіні Астрожскай. У дак. № 3 кароль аддае распараджэнне старасце Луцкаму ўвесці Мацея Сербіна і яго сына ў валоданне маёнткам. У дак. № 4 вялікі князь аддае загад падданым (шляхце і татарам) Медніцкага павета. У дак. № 5 Жыгімонт Аўгуст дае загад княгіні Астрожскай, які па сутнасці адмяняе яго распараджэнне ў дак. № 2 (Жыгімонт Аўгуст сцвярджае, што гэты падатак належыць вялікаму князю). У дак. № 6 кароль аддае распараджэнне дзяржаўнаму дзеячу аддаць баярам Астравухавічам маёнтак іх дзядзькі. У дак. № 7 вялікі князь літоўскі загадвае ваяводзе кіеўскаму не крыўдзіць кіеўскіх зямян. У дак. № 8 Жыгімонт Аўгуст аддае распараджэнне дзяржаўнаму дзеячу аддаць князю А. Азярэцкаму структурную частку маёнтка. У дак. № 9 кароль аддае распараджэнне дзяржаўнаму дзеячу дазволіць баярыну Р. Суханосу валодаць маёнткам да смерці жонкі.



Публікуемыя дакументы будуць карысныя ў першую чаргу для даследчыкаў гісторыі дзяржавы і права Беларусі XVI ст. Дакумент № 4 дае факты для асвятлення пэўных аспектаў палітычнай гісторыі ВКЛ.

Дакументы друкуюцца паводле тых жа археаграфічных правілаў, якія ўжывалі аўтары ў папярэдніх выпусках Беларускага археаграфічнага штогодніка. Рэдакцыйны загаловак папярэднічае загалоўку дакумента канца XVI ст.

**1. *1546.04.20. Вільня.* — Распараджэнне («лист») кар. поль., вял. кн. літ. Жыгімонта Аўгуста старасту веніцкаму кн. Фёдару Андрэевічу Сангушкавічу па многіх скаргах веніцкай шляхты на яго злоўжыванні.**

**Ли*ст*, писаны*й* до ма*р*шалька […][*], князя | Фѐдора Санъкгушковича за земяны | вѐницъкими в некоторы*х* крывда*х* и*х*. | ‖ [94адв. (67адв.)]**

Жикгимонтъ Августъ, Бо*ж*ю милостю кор*ол* и велики*й* князь […]. |

**М**а*р*шалъку Волынъское земъли, старосте володимерскому, бряслa*в*скому | и вени*ц*кому, князю Федору Анъдреевичу Санъкгу*ш*ковича и инъши*м* староста*м*, | хто и напотомъ замок нашъ Веницу отъ насъ будетъ д*е*р*ж*ати.

Што ты*х* | часовъ, будучи тобе при | насъ здесе у Ви*л*ни, очевисто намъ на тебе жа|ловали наместникъ вонячинъски*й* Семенъ Кмитичъ а земяне веницъкии | Васил*е*й Дешъко*в*ски*й*, Ива*н* Вороновицки*й*, Иванъ Рацко*в*ски*й* сами от себе и отъ | всихъ земянъ вени*ц*кихъ.

О томъ, и*ж* ты, на*д* стародав*н*ы*й* обыча*й* до *й*меней ихъ | слугъ своихъ всылаючи, на клико*в*щину для сторожи замъковоѐ пенези | берешъ и къ своему пожитъку то привълащаешъ. А на замъку де*й* сторожи, | ани кликуно*в* нетъ, в чомъ жо часу пригоды отъ людей неприяте*л*скихъ ве|ликая небеспечъность ся деѐтъ и за оною неостор*ож*ностью частокро*ть* | шкода ся имъ становить. А пере*д* тымъ здавъна старостове замъку нашого | Вени*ц*кого до *й*мене*й* ихъ слугъ своихъ не въсылали и оноѐ кликовъщины не би|рали, одно они сами межи собою пенези на то складывали и с того сто|рожу замъковую на*й*мовали.

А такъ мы, жалобы ихъ и отъпору твоего | з очевистого мовенья вашого выслуха*в*ши и с Паны Радами нашими в то*м* | объмовивъши, з выроку нашого на томъ тую речь зоставили. И*ж* черес то ты, | ани потомъ будучии старостове веницъкии не маю*т* слугъ своихъ до и|мене*й* и*х* всылати и тоѐ кликовъщины на сторожу брати, о*д*но маютъ земяне | веницкии сами межи собою тыѐ пенези складати, и с того сторожу | певъную на*й*мовати, и в мо*ц* твою и иныхъ напотомъ будучихъ старостъ | або по*д*старостихъ вашихъ ихъ дати. А ты самъ, а въ небы*т*ности твое*й* | по*д*старости*й* тво*й* того дозирати маешъ, абы сторожа на за*м*ку была | ‖ [95 (68)] люди добрыи, веры го*д*ныи, а не подо*з*реныѐ, такъ, яко ся ку таково*й* речи на замо*к* | годить.

---

[*] Тут і ніжэй у дакументах крыніцы ўжыты знак скарачэння «)⁼(», які азначае — і г. д., і інш., далей будзе перадавацца праз […].

К тому теж они очевисто намъ на тебе жаловали, иж которую сто|рожу отъ замъку в трех миляхъ, на речъце на рову, з доброе воли своее для ле|пьшоё безъпечъности и осторожности сами для себе, и именей, и статъковъ, по под|даныхъ своихъ, за свои властныи пенези, они наймовали и завжды тамъ | на ономъ местъцу сторожу людей добрых держивали. За которою сторо|жою себе и своихъ людей они безъпечъни бывали. То пакъ дей ты и тую | сторожу з моцы ихъ вынял и, служебниковъ своихъ до йменей всылаючи, | пенези на оную сторожу з людей ихъ брати кажешъ. Яко ж дей и сего году з людей | ихъ трикроть пенези на тую сторожу враdники твои брали. А предсе сто|рожи таковое, якоё бы была потреба и за которою бы они на йменьяхъ | своихъ бес-печъность могли мети, тамъ на томъ местъцу нетъ.

А так мы | и в томъ с Паны Радами нашими объмовивъши, з выроку нашого на томъ то | застановили. Ижъ они мають сами и тую сторожу на ономъ врочищу, на ре|чъце на рову за свои пенези мети и сторожу певъную а добрую тамъ держати, | по тому, яко и первей бывало. А ты, ани потомъ будучии старостове веницкии | не маете черес то до именей ихъ слугъ своихъ всылати и тыхъ пенезей з людей | ихъ на тую сторожу выбирати. Лечъ тежъ маешъ самъ, а въ небытъно|сти твоей подстаростий твой того дозирати, абы тамъ, на томъ местцу | сторожа была водле того, яко ся они сами того подвезали.

При томъ, | што они очевисто намъ на тебе жаловали. Иж кгды ты на посълугу нашу | на поле идешъ, а они сами з слугами и з людми своими на той посълузе | нашой при тобе бывають, и ты дей, будучи в поли, кони в людей ихъ, на ко|торыхъ они при панехъ своихъ едуть, брати кажешъ и под служебъники | ‖ [95адв. (68адв.)] свои даешъ, чого перед тымъ за первшихъ старостъ николи не бывало. Яко ж дей | и тыхъ часовъ недавъно минулыхъ, кгды еси з ними на Инъкгуле отъ замку | нашого Веницкого в тридцати миляхъ был, тогды дей еси также в людей их | кони под свои служебники брати казал, а людей ихъ в полю пешихъ колкодесять | чоловеков заставил. Гдеж дей некоторыи люди ихъ до домовъ своихъ и не при|шли, и тамъ же на поли погинули. Зачимъ не только имъ и людемъ ихъ | трудность и обтеженьё отъ тебе ся даеть, але для тыхъ | людей ихъ, в которыхъ ты кони обираёшъ а на поли ихъ заставуешъ, и небе|спечъность великая естъ. С тыхъ причинъ, иж поганство татарове латвей | в тыхъ людей пешихъ языка могуть достати и без вести на люди наши | зыйти, або и под замъки пришодши, которую шкоду вчинити.

А такъ мы, бачечи | на то, ижъ то есть речъ не одно людемъ ихъ обътяжливая, але и намъ, | г(о)с(по)д(а)рю, и речи посполитой шкодливая, и в томъ ёсьмо с Паны Радами нашими | объмовивъши, з выроку нашого на томъ тую речъ положили и тобе есьмо | очевисто росказали. Же вжо отъ того часу ты самъ, ани потомъ будучии | сторостове наши не маете черес то в людей ихъ, будучи на послузе нашой, коней | отъбирати и под слугъ своихъ давати. А въ кого будешъ тепер кони бралъ, | тогды ты маёшъ тымъ тыи кони навязывати. А чий будеть конь за | тымъ отъбираньемъ твоимъ згибъ, тогды ты маешъ водле цёны | тыи кони, чого будуть стояли, имъ поплатити и ихъ навезати. Такъ | тежъ которыи люди ихъ за тымъ отъбираньемъ твоимъ коней ихъ | до домовъ своихъ будуть не пришъли и на поли погинули, а если будуть | люди, тогды ты маёшъ за нихъ головъщины тымъ паномъ ихъ платити. |



К тому тежъ, што они били намъ чоломъ коло вольного продаванья | збожъя и инъшихъ речей по йменьямъ своимъ, чого ты имъ боронишъ | и въсе на торгъ до места Веницкого возити имъ и людемъ ихъ велишъ, | ‖ [96 (69)] а в ыйменьяхъ ихъ продавати имъ заказуешъ.

Ино мы з выроку нашого на том | тую речъ зоставили, иж мають они и люди ихъ по йменьямъ и селамъ своимъ | збожья, меды пресныё и инъшиё живъности и домовые речи доброволне про|давати, а ты имъ того боронити и заказывати не маешъ.

Нижли што ся до|тычеть коней, воловъ и инъшого быдла дробного, мы, бачечи то, естли бы под|даныи ихъ мели волность в ыйменьяхъ и селахъ ихъ быдло продавати, тогъды | бы ся могло злодейства немало с того наплодити. Прото з выроку нашого на том | то зоставуемъ, ижъ земяне и ихъ люди кони, волы и инъшоё быдло дробноё | мають на торгу в месте по цене продавати, а по именьямъ и по селомъ не ма|ють того продавати.

А такъ приказуемъ тобе, ажбы твоя милость в тых | во всихъ речахъ вышеймененыхъ водле того выроку нашого, межи вами вчине|ного, к земяномъ веницкимъ ся захoвал и черезъ тотъ вырокъ нашъ никоторых | кривдъ имъ не чинилъ конечъно, абы то инакъ не было.

Писанъ у Вилни, под летъ | Божъ(его) нарож(еня) 1546, м(е)с(я)ца апрел(я) 20 день, индиктъ 4. |

РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Адз. зах. 30. Л. 94—96. *Копія канца XVI ст. Правапіс адаптаваны*.

**2. *1546.05.14. Вільня* — Загад («ліст») Жыгімонта Аўгуста мытнікам валынскім: Алехну і Івану Борздабагатым — не чыніць перашкод старасцінай браслаўскай і веніцкай, княжне Астрожскай Іллінай Касцянцінавіча Біяце з Касцяльца ў спагнанні мыта ў родавым замку Астрог, а таксама на вольны і бязмытны праезд усіх купцоў на ярмаркі да маёнткаў Палонае, Красілаў, Калодзен, — а падданым княжны — на ярмарку ў г. Люблін.**

**Лист до справёцъ мыт волынъскихъ, абы в мытё | острозском жадноё переказы кнегини Ильиной | не чынили. |**

Жикгимонт Августъ, Божю милостью корол и великий князь […]. |

**С**правцамъ мытъ нашихъ волынъскихъ Олехъну а Ивану Борздобогатым. |

Тыхъ часовъ присылала до насъ старостиная брясловская и веницъкая, | кнегини Илиная Костенътиновича Острозская, кнегини Бията с Костелца. О том | штожъ отъ предковъ нашихъ славъное памети королей и великихъ кня-

зей ихъ | милости небожъчику князю Костентину Ивановичу Острозскому и потомъком | его милости в замъку Острозъскомъ мыто скопъное тридцатое надано, яко | и въ месте нашомъ Луцкомъ, и то привилемъ короля его милости, пана отца | нашого, имъ потвержоно, и три ярмарки тамъ жо у Вострозе — одинъ ден[ь] | светого Онофрея, а другий на светый Миколай перед Божимъ нароженьемъ, | а третий ярмарокъ на Три Кроли. На которомъ потверженьи его кролевской ми|лости тежъ описано, ижъ до того замку ихъ Острога на тыи ярмаръки | и без ярмаръковъ мають купъцы с купълями своими зо Лвова, с Каменъца, | с Киева, з Волоское земъли, и з ынъшихъ замъковъ и земль нашихъ, и тежъ | с чужихъ сторонъ ездити дорогами вечъными стародавъными безъ | жадного нагабанья мытъниковъ луцькихъ водълугъ стародавъного | обычаю, такъ часу ярмаръковъ, яко и безъ ярмаръковъ, зиме и лете, волност | мети приехати и отъехати без плаченья мыта луцъкого. А которыи | бы колве купъцы, отъправивъши ярмаръки свои у Вострозе, до панъства | || [110 (83)] нашого Князьства Великого Литовъского стародавъною дорогою через землю | и через села повету Луцького шли, не займуючи замъку и места Луцкого, тыи | мають волное проеханье отъ мытъниковъ луцькихъ, ижъ мытъники не | мають ихъ гамовати и мыта на нихъ выстегати. А которыи бы купъцы | ехали мимо Острогу а заняли именей и земль острозскихъ, тыи мають | острозское мыто заплатити.

А къ тому тежъ отъ предковъ нашихъ князю | Костентину и его потомъкомъ дано и дозволено ярмарки мети в ыйменяхъ | его: одинъ ярмаркъ в Полономъ на день нароженья панъны Марии, | а в ыйменьи его Красилове ярмаркъ на день светое Пятъницы, а в ыймению | Колоденъскомъ такъжо ярмаркъ на день светого Дмитрея. До которыхъ | тежъ именей его через привиля предковъ нашихъ на тыи рочъныи ярмарки доз|волено по тому жъ купъцомъ, такъ Князьства Великого Литовъского, яко | и с Коруны Полское и з ынъшихъ объчихъ земль, доброволне с купълями ихъ ездити | без кожъдого гамованья отъ мытъниковъ нашихъ луцкихъ.

То пакъ дей вы, | маючи на тотъ часъ отъ насъ у справе своей мыта наши волынъскии не водлуг | привильевъ предковъ нашихъ и привиляпотверженья короля его милосьти | пана отъца нашого ку кнегини Илиной и тымъ купъцомъ, которыи до тыхъ | замъковъ ее ездять, и тежъ ку подданымъ ее, которыи к Острогу и ку тым | замъкомъ ее або тежъ где инъде на ярмарки також ездять, заховывае|теся, и тымъ купъцомъ и подданымъ ее у бранью мытъ великую объ|тяжливость чините, и не по тому ся в томъ справуете, яко перед тымъ | бывало. Для чого жъ княгиня Илиная жадала насъ, абыхъмо над привиля | предковъ нашихъ и привилей его кролевъской милости, отъца нашого, не ка|зали ей в томъ кривъды чинити.

Ино кгдыжъ она на то привиля в себе | маеть, на которыхъ тое мыто острозъское скопъное и ярмаръки у Вострозе | и къ тому ярмаръки в тыхъ именяхъ его есть описаны, приказуемъ вамъ, | || [110адв. (83адв.)] ажъбы есте водле оныхъ привилевъ в томъ ся заховали, и в ономъ мыте | острозскомъ скопъномъ жадное переказы ей не чинили, и купъцомъ до того замъку ее Острога на тыи ярмарки и безъ ярмарковъ, зиме и лете, зо въсякими | товары ихъ со въсихъ сторонъ дорогами вечъными стародавъными ходити | не боронили, и никоторого гамованья и переказы имъ не чинили, и мыта с тыхъ | купъцовъ, которыи стародавъною дорогою через села и земълю повету Луцкого, | не займуючи Луцка, пойдуть, не брали такъ, яко на тыхъ привиляхъ есть | описано. А къ тому бы есте и до тыхъ именей ее вышеменеыхъ Полоного, | Красилова, Колодна на тыи ярмаръки рочъныи, в томъ листе нашомъ вышей|описаныи, всякимъ купъцомъ ходити не забороняли и ихъ пропускали | безъ гамованья.



А шъто ся дотычеть подъданыхъ ее, которыи на ярмарок | до Люблина ѐздять, вы бы тежъ у бранью тыхъ мытъ водлугъ привилевъ | ее и по тому, яко бывало за князя Януша, бискупа виленъского, и за пана Дахна, | и за князя Юря Фалчевъского, бискупа луцкого и берестейского, которыи от короля | его милости пана отъца нашого тыи мыта у справе и порученью своемъ мели, | к нимъ ся заховали. И кгды подданыи ее на ярмарокъ до Любълина поедут, | вы бы толко одно в Луцку зо въсякихъ товаровъ ихъ мыта скопъного, | а въ Кремянъцу возового з нихъ смотрели, а инъде нигъде мыта з нихъ | не брали и доброволне безъ кажъдого гамованья ихъ пропускали конечно, | абы то инакъ не было.

П[и]санъ у Вилни, под летъ Бож(его) нарож(еня) 1546, м(е)с(я)ца май | 14 день, инъдиктъ 4. |

РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Адз. зах. 30. Л. 109адв.—110адв. *Копія канца XVI ст. Правапіс адаптаваны. Публікуецца ўпершыню.*

**3. *1546.06.19. Вільня*. — Распараджэнне («ліст») Жыгімонта Аўгуста старасту луцкаму, маршалку гаспадарскаму кн. Андрэю Міхайлавічу Сангушкавіча Кашырскаму ўвесці чужаземца з зямлі Угорскае Мацея Сербіна і яго сына Сцяпана ва ўладанне маёнткам Старэйшава ў в. Галаўбі Луцкага павета з людзьмі тамашнімі «до воли» вял. кн.**

***Лист*, даный Матею Сербину до | старосты луцкого, абы ему дано имене Ста|рейшово в селе Головъбѐхъ.** | || [129 (102)]

Жикгимонт Авъгусть, Божю милостью корол и великий князь […]. |

**С**таросте луцъкому, маршалку нашому, князю Анъдрею Михайловичу Сан|кгушъковича Кошерскому.

Который Сербинъ на ймя Матей з сыномъ своимъ | Степаномъ з Угорское земъли приехал ку дъвору нашому на ймя нашо г(о)с(по)д(а)рьское.

Ино мы на причыну некоторыхъ Пановъ Радь нашыхъ | Князьства Великого Литовского з ласки нашое г(о)с(по)д(а)рьское того чужоземъца | Матея и сына его Степана пожаловали и дали имъ на пожывенье их | именье в Луцкомъ повете в селе в Головъбехъ, то есть Старейшого и з ынъ|шыми по-

тужъники его людьми тамошъними, которыи на насъ, г(о)с(по)д(а)ря, | к замъку Луцькому были держаны, со въсими ихъ земълями пашъными | и бортъными, с платы и пожытъки, и со въсимъ по тому, якъ здавъна | и нине тотъ Старейшый и его потужъники люди тамошънии, в собе ся мають, | до воли и ласки нашое г(о)с(по)д(а)рьское, окроме людей и земль тыхъ, которыи пану | Тихъну Козинъскому такъже у Головъбехъ суть даны.

И ты бы о том | ведалъ, и того Старейшого и людей тамошънихъ, потужъниковъ его, со въсим, | яко они к рукамъ нашымъ были держаны, имъ в моцъ подалъ и посту|пилъ, и въ то ихъ увезати казалъ безъ кождого переводу конечъно, абы то | инакъ не было.

П[и]санъ у Вильни, подь летъ Божъ[его] нарожъ[еня] 1546, | м(е)с(я)ца июнь 19 день, инъдиктъ 4. | ‖ [129адв. (102адв.)]

РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Адз. зах. 30. Л. 128адв.—129. *Копія канца XVI ст. Правапіс адаптаваны. Публікуецца ўпершыню.*

**4. *[1546.06.27. Вільня]* — Загад («лист») Жыгімонта Аўгуста і Паноў Рады шляхце і татарам Медніцкага павета быць гатовымі выступіць на вайну ў сувязі з небяспекай ад крымскіх татар (адпаведна пастановы Берасцейскага «вальнага» сейма).**

**Лист, писаный до князей, пановъ и иншѐй шляхты | и татар повету Медницкого, абы на войну | поготовю были. |**

**К**няземъ, паномъ, кн(е)г(и)нямъ, панямъ, вдовамъ, и хоружому мед|ницькому, и бояромъ, и двораном нашимъ, и татаромъ тымъ, | которые именья свои мають у повете Медницьком. |

Пове|даемъ вамъ, ижъ тыхъ часовъ слухи насъ певные дошли от старост | замъковъ нашыхъ украинъныхъ, ижъ люди неприятельские | поганъство татарове тотъ злый умысль передъ себе взяли, хо|тячи теперешнихъ часовъ подъ жнива у панъство нашо Великоѐ | Князъство Литовъское безъвести вторгнути, и шкоду, и сказу вчи|нити. Яко жъ дей вжо царевичъ перекопьский з великимъ войском | людей на поле вышолъ, до которого еще што от часу людей прыбы|ваеть. А инъшие дей татаре белогородъские [1-]и добрыньские[-1] | на Инъкгуле поблизу замъковъ нашихъ Брасловля | и Веницы ся положыли. От которыхъ недавно минулыхъ часовъ | люди подъ замъки н(а)ши Киевъ, Черъкасы и Каневъ, Брасловль и Вени|цу уходили, и людей немало у полонъ повели, и шкоды великие | ‖ [143 (116)] поделали. Гдежъ дей тые вси люди неприятельские на одъно | местъцо съ собою ся знемъшы и собравъшы, хочуть в панъство | нашо Князьство Великое Литовъское увойти, и сказу, и плен под|данымъ нашымъ вчинити, чого имъ Боже не помози.

А прото | прыказуемъ вамъ, ажъбы есте яко веръные подъданые наши, | маючи бачность на насъ, г(о)с(по)д(а)ра, и на речь посполитую земъскую, |

[1-1] Паўтараецца.



яко есте звыкли для насъ, пана своего, и речи посполитоѐ | послуги свои охотъне оказывати, такъ и теперъ штобы есте | противъ тымъ людемъ неприятельскимъ на службу нашу, | на войну, со въсимъ почтом слугъ своих подъ тымъ обычаемъ, | яко король его милость, панъ отець нашъ, на прошлом вальном | сойме Берестейскомъ со въсими Паны Радами и со въсими | земълями уфалити и въстановити рачилъ — з девяти чоловеков | десятого выправуючы — были поготову, и мели в собе кони сыты, | а зброи чисты, и спижу военъную, што на войну меть прислушить. | И скоро другимъ листомъ васъ обошлемъ, и где на которое местцо | и на который рокъ кажемъ вамъ тягнути и збирати, вы бы вжо | безъ всякого сплошеньства на тое местьцо ехали, и вси на | оный рокъ, от насъ зложоный, тамъ ся збирали, и были безъ кож|дого омешканья. А вы, кн(е)г(и)ни, и паны, и вдовы, почъты слугъ | своихъ выправили и послали подъле уфалы земъское, жебы | за тымъ никоторого омешканья в той службе земъской не стало. | А мы таковымъ охотънымъ а ку службе нашой поспешъным | хочемъ паметовати ласкою нашою г(о)с(по)д(а)ръскою.

А пакли бы ся | хто в томъ сплошилъ и на тую службу нашу | ‖ [143адв. (116адв.)] ко тот рокъ, который мы вамъ зложимъ, на местъцу назначоном | за своимъ сплошенъствомъ не былъ и хотя одъного дня | омешкалъ, таковых ничымъ инымъ кажемъ карати, | только горлы а именьи ихъ. | [1546 г., июнь 27 день][*].

РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Адз. зах. 30. Л. 142адв.—143адв. *Копія канца XVI ст. Правапіс адаптаваны. Публікуецца ўпершыню.*

**5. *1546.06.30. Вільня.* — Загад («лист») Жыгімонта Аўгуста старасцінай браслаўскай і веніцкай, кнг. Іллінай Канстанцінавіча Астрожскай Біяце не браць больш на сябе мытных пошлін з купцоў у Луцкім павеце і маёнтках сваіх па зямлі Валынскай, бо яны належаць вял. кн., і скасаваць дакумент аб гэтым, які яна атрымала праз служэбнікаў сваіх з гаспадарскай канцылярыі.**

**Лист старостиной браславской | о мыто, которое она береть | в ымению своѐм Острозском. |**

Жыкгимонт Августъ, Божю м(и)л(о)стю корол и великий кназ[ь]. |

**С**таростиной бряславъской и веницькой кнегини Ильиной Костенъти|новича Острозъской, кн(е)г(и)ни Бияте с Костельца.

Тыхъ часовъ прысылали | до насъ справъцы мытъ нашыхъ волынъскихъ Олехно а Иванъ Бор|здобогатовичи о томъ, ижъ ты недавныхъ часовъ черезъ служебъ|никовъ своихъ одержала собе до нихъ листъ с канъцлярии нашое, | менуючи, жебы отъ предъковъ нашыхъ славное памети королей | и великихъ кн(я)зей ихъ милости небощыку кн(я)зю Костенътину Ива|новичу Острозъскому и потомъкомъ его в замъку Острозъ-

[*] Датуецца на падставе даты папярэдняга дакумента № 116 кнігі Метрыкі 30.

ско*м* | ‖ [146 (119)] мыто скопное тридьцатое надано, яко и в месте нашомъ Луцько*м*. | И три яръмаръки тамъже у Вострозе: одинъ на светого Онофрея, | а други*й* на светы*й* Микола*й* передъ Божъимъ нароженьемъ, а трети*й* | яръмарокъ на Три Кроли мети дозволено.

И то прывильемъ ко|роля его милости пана о*т*ца нашого имъ потверъжено, на которо*м* | описано, ижъ до того замъку ихъ Острога на тые яръмаръки | и безъ яръмаръковъ мають купьцы с куплями своими зо Ль|вова, с Каменьца, с Киева, з Волоское земъли и з ынъшихъ замъко*в* | и земль нашихъ, и тѐжъ с чужихъ сторонъ еъздити дорогами | вечными стародавными безъ жадъного нагабанья мы*т*нико*в* | луцькихъ водълугъ стародавного обычаю, такъ часу *яр*маръ|ковъ и безъ яръмаръковъ, зиме и лете, и вольность мети приеха*ти* | и о*т*ехати безъ плаченья мыта луцького.

А которые бы кольве*к* | купьцы, о*т*правивъшы яръмаръки свои у Вострозе, до па*н*ства | нашого Князьства Великого Литовъского стародавною дорогою | черезъ землю и черезъ села повету Луцького шли, не за*й*муючи за*м*ку | и места Луцкого, тые мають вольное проеханье о*т* мы*т*никовъ | луцькихъ, ижъ мытьники не мають ихъ гамовати и мыта | на нихъ вытегати.

А которые бы купцы ехали мимо Острогъ, | а заняли имене*й* и земль Острозъскихъ, тые мають острозъское | мыто заплатити.

А к тому тѐжъ о*т* предьковъ нашихъ кн(я)зю | Костенътину дозволено яръмаръки врочистые на *й*меньяхъ его | мети: одинъ *яр*марокъ в Полономъ на день нароженья панъны | Марыи, а в ы*й*менью его Красилове яръмарокъ на день светое | Пятъницы, а в ы*й*менью Колоденьскомъ такъже яръмарокъ | ‖ [146адв. (119адв.)] на день светого Дмитрея, до которыхъ на прывиль*ях* пре*д*ко*в* | наши*х* вольность описана на тые рочъные яръмаръки купьцо*м* | такъ Князьства Великого Литовъского, яко и Коруны Польское | и зъ иньшихъ обьчыхъ земль добровольне с куплями ихъ е*з*ди*ти* | безъ кождого гамованья о*т* мытьниковъ нашыхъ луцькихъ. |

А они, маючи о*т* насъ на тотъ часъ у справе свое*й* мыта наши | волынъские, рекомо не водълугъ привильевъ предьковъ наши*х* | и прывилья потверъженья короля его милости пана о*т*ца | нашого ку тобе и тымъ купьцомъ, которые до тыхъ за*м*ковъ | твоихъ езъдять, и тѐжъ ку подъданымъ твоимъ, которые | к Острогу и ку тымъ замъко*м* твоимъ або тѐжъ где иньде на *яр*|маръки также езъдять, заховываються, и тымъ купьцо*м* | подъданымъ твоимъ у бранью мытъ великую обътяжъ|ливость чинять, и не по тому се в томъ справую*т*, яко пере*д* | тымъ бывало.

Для чого жъ мы, маючи в томъ о*т* тебе таковую | справу, листъ нашъ до тыхъ справецъ мы*т* нашыхъ воль*н*ских | писати казали, приказуючи, жебы они водъле оныхъ пры|вильевъ в томъ ся заховали, и в ономъ мыте острозъскомъ | скопьномъ жадъное переказы тобе не чинили, и купьцо*м* до то*го* | замъку твоего Острога на тые яръмаръки и безъ яръмаръко*в*, | и зиме и лете, со въсякими товары ихъ со въсихъ сторонъ | дорогами вечными стародавными



ходити не боронили, | и никоторого гамованья и переказы имъ не чынили, и мыта | с тыхъ купьцовъ, которые стародавною дорогою чере*з* села и зе*м*лю | повету Луцького, не за*й*муючи Луцька, по*й*дуть, не брали, | и до ты*х* | ‖ [147 (120)] имене*й* твоихъ Полоного, Красилова, Колодьна* на тые *яр*маръки ро*ч*ные | всякимъ купьцомъ ходити не забороняли. С которымъ жо де*й* листо*м* | нашымъ вжо еси посълала, заказуючы купьцомъ яко до *Л*вова, такъ и до *ин*шы*х* | местъ в Коруне По*л*ско*й* и въ земъли Волынъско*й*, жебы они на тые име*ня* | твои, минуючы и не пълатячы мыта нашого луцького, добровольне | ходили, чынячы переказу пожытькомъ и мытомъ нашымъ.

То пакъ | тыхъ часовъ дана намъ того певъная справа, а к тому и справьцы | мытъ нашыхъ волынъскихъ Ивахъно а Олехъно Бо*р*здобогатые о то*м* | намъ ведати дали, ижъ за князя Януша, бискупа виленъского, и за князя | Ю*р*я Фа*л*чевъского, бискупа луцького и берестe*й*ского, которые отъ короля | его милости, пана отьца нашого, тые мыта у земъли Волынъско*й* у справе | и порученью своемъ мели, и за инъшыхъ мытьниковъ, которые пере*д* | тымъ тые мыта де*р*жывали, николи яко ма*л*жонакъ князь Илья, | такъ и ты сама за оными привильи, которые тепе*р* собе ку помочы бере*ш*, | тыхъ мытъ не въжывали, лечъ завъжды с тыхъ купьцовъ по въсе*й* | земъли Волынъско*й* мыто на насъ, г(о)*с*(по)д(а)ря, было бирывано, а малъжонокъ | тво*й* и ты сама николи ся в то не въступовали, але завъжды на въсихъ | купьцохъ мытьники луцькии на насъ, г(о)*с*(по)д(а)ря, мыто бирывали, в чо*м* жо | тепе*р* за онымъ листомъ намъ, г(о)*с*(по)д(а)рю, шкода немалая ся деетъ.

Ино | ачъ-кольвекъ ты таковы*й* листъ на оныи мыта с канъцляреи нашое | собе оде*р*жала, а кгдыжъ пере*д* тымъ за короля его милости, пана о*т*ца | нашого, ма*л*жонокъ тво*й* и ты сама водъле тыхъ привильевъ тыхъ | мытъ в пожыванью не были, лечъ то завъжды на насъ, г(о)*с*(по)д(а)ря, к мыту | ‖ [147адв. (120адв.)] нашому луцькому прислухало и на насъ было бирывано, мы и теперь, | не хотячы шкоды нашое г(о)*с*(по)д(а)ръское в томъ мети, тыи привилья твои | коло тыхъ мытъ на сторону отъкладуемъ и тотъ листъ нашъ, которы*й* ты собе с канъцляреи нашое на то оде*р*жала, в нивошъто обо|рочаемъ. И росказали есьмо тымъ справьцамъ мытъ нашыхъ волынъски*х* | тые мыта в земъли Волынъско*й* на насъ, г(о)*с*(по)д(а)ря, заведати и ихъ выбирати по | тому, яко и за князя Януша, бискупа виленъского, и за князя Ю*ря*, бискупа | луцького, которые пере*д* тымъ тые мыта у справе свое*й* мели, бывало. |

Для чого жъ приказуемъ тобе, ажъбы еси за онымъ листомъ нашымъ | тыхъ мытъ с купьцовъ не въжывала, и на себе ихъ не брала, и въ то ся ничы*м* | не въступовала. А которые бы купьцы мыто нашо головъное луцькое без|мытъне проеждчали, мы тымъ справьцамъ мытъ нашыхъ волынъски*х* |

* Далей іншы почырк.

науку дали и росказали, жебы они таковыхъ купъцовъ у промыте мо*ц*не | забирали а безъмытъне ихъ не пропущали.

А што ся дотачеть подъданы*х* | твоихъ, которые на *яр*марокъ до Любълина езъдять, ино тые справъцы | мытъ нашыхъ у бранью оныхъ мытъ у Луцъку и на инъшыхъ коморахъ | нашыхъ луцъкихъ мають ся к нимъ заховати по тому, яко за князя Януша, | бискупа виленъского, и за пана Дахъна, и за князя бискупа луцъкого, которыи | отъ короля его милости, пана отъца нашого, тые мыта у справе и поруче*н*ю | своемъ мели, бывало.

П[и]санъ у Вильни, по*д* летъ Божъ[его] нарожъ[еня] 1546, м(е)*с*(я)ца | июнь 30 день, инъдиктъ 4. |

РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Адз. зах. 30. Л. 145адв.—147адв. *Копія канца XVI ст. Правапіс адаптаваны. Публікуецца ўпершыню.*

**6.** ***1546.07.16. Вільня* — Распараджэнне («лист») Жыгімонта Аўгуста да дзяржаўцы маркаўскага, пана Льва Іванавіча Рошскага аб тым, каб ён баяр маркаўскіх: Васіля Грынькевіча Астравухавіча і Яна Грынькевіча Астравухавіча — увёў ва ўладанне дзвюма землямі пустоўскімі (Трапалаўшчынай і Жыінай) у Маркаўскай воласці на службе земскай вял. кн.**

**Ли*ст* Василью а Яну Остроуховичо*м* | до де*р*жавцы ма*р*ковъского, абы | и*м* пода*л* две зе*м*ли Трепало*в*щину | а Шыину. |**

Жыкгимо*нт* Августъ, Бо*ж*ю милостью коро*л* и велики*й* князь […]. |

Де*р*жавцы ма*р*ковъскому, пану Лву Ивановичу Рошъскому.

Били намъ чоломъ | ‖ [159 (132)] бояре марковъскии Васил*ей* а Янъ Гринъкевичы Остроуховича и поведили пере*д* | нами. Ижъ дя*д*ко ихъ Олехъно Остроуховичъ за листомъ и даниною короля | его милости, пана отъца нашого, де*р*жалъ две земъли пустовъскихъ у воло|сти Ма*р*ковъско*й* на *й*мя: Трепаловъщыну, в тыхъ границахъ, почонъ отъ росо*х* | обаполъ речъки Годеи, ручаемъ у верхъ Любосы, где паробки пахивали; | а другую земълю Шыину, которыи были даны ему, и его жоне, и ихъ детемъ | на вечъность. То пакъ оны*й* дядько ихъ зме*р*, а жа*д*ного плоду дете*й* по собе | не зоставилъ. Гдежъ тые земъли по немъ, яко безъпотомъномъ, засе к рукамъ | нашымъ г(о)*с*(по)д(а)ръскимъ пришъли, и тепере ку двору нашому Ма*р*ковъскому на насъ ихъ | де*р*жать.

Для чого жъ они били намъ чоломъ, абыхъмо ласку нашу г(о)*с*(по)д(а)ръ|скую в томъ имъ вчынили, и тыи земъли имъ дали, и тымъ ихъ пожало|вали. Яко жъ и тотъ листъ — данину короля его милости дя*д*ку своему пере*д* | нами вказывали.

О чомъ жо и панъ троцъки*й*, староста жомои*т*ски*й*, де*р*жа|въца плотельски*й* и те*л*шовъски*й*, панъ Еронимъ Алекъсанъдровичъ Хо*д*кевича | насъ у причыне за ними жедалъ.



Ино мы з ласки нашое на жеданье, и причыну | пана тро*ц*кого, и на чоломъбитье ихъ то вчынили, тые две земъли пусто|въскихъ на *й*мя Трепаловъщыну а Шыину в тыхъ границахъ, яко выше*й* | в семъ нашомъ листе описано, имъ дали, а они мають с того служъбу зе*м*скую | намъ служыти.

И ты бы о томъ ведалъ, и тыи земъли имъ подалъ, и въ то | ихъ увезалъ конечъно, абы то инакъ не было.

П[и]санъ у Ви*л*ни, по*д* летъ Божъ[его] | наро*ж*(еня) 1546, м(е)*с*(я)ца июль 16 день, инъдиктъ 4. | ‖ [159адв. (132адв.)]

РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Адз. зах. 30. Л. 158адв.—159. *Копія канца XVI ст. Правапіс адаптаваны. Публікуецца ўпершыню.*

**7.** ***1546.07.20. Вільня*. — Загад («лист») Жыгімонта Аўгуста і Паноў Рады ваяводу кіеўскаму, дзяржаўцу острскаму, кн. Фрэдрыху Глебавічу Пронскаму ў адносінах да шляхты Кіеўскага ваяводства трымацца артыкулаў прывілея кар. поль., вял. кн. літ. Жыгімонта I Старога не ўвадзіць «новин», не чыніць крыўдаў і іншых самавольстваў, якія выкладзены ў скарзе пасланцаў шляхты Кіеўскага павета, дваранінаў гаспадарскіх: Солтана Сцецкавіча і Стася Сурыновіча.**

**Ли*ст* до воеводы киевъского […], | абы земяно*м* кие*в*скимъ жа*д*ны*х* | крывдъ не чинилъ. |**

Жыкгимо*нт* Августъ, Бо*ж*ю милостью коро*л* и велики*й* князь […]. |

**В**оеводе кие*в*скому, державъцы остръскому, князю Фре*д*риху Глебо|вичу Про*н*скому и инымъ воеводамъ киевъскимъ, хто и напотомъ | будеть тотъ замокъ нашъ отъ насъ де*р*жати.

Што тыхъ часовъ, будучы | тобе при насъ, г(о)*с*(по)д(а)ри, прысылали до насъ вси князи, и панове, и земяне повету | Кие*в*ского дворянъ нашыхъ, братью своею, Со*л*тана Сте*ц*ковича, Стася Сури|новича, которыи с тобою пере*д* нами очевистое мовенье мели и жаловали | о томъ, ижъ ты, наехавъшы отъ насъ на тое воево*д*ство Киевъское, поча*л* | кривъды и втисьненья великии имъ чынити и новины уводити | черезъ приви*л*я и во*л*ности ихъ, отъ пре*д*ковъ нашыхъ славъное памети | коро*л*е*й* и великихъ князе*й* ихъ милости и о*т* короля его милости, | ‖ [163 (136)] пана отъца нашого, имъ наданыи. Напе*р*ве*й* де*й* по селища*х* ихъ велишъ | бобры на себе гонити, чого пере*д* тымъ за пе*р*выхъ воево*д* не бывало.

На*д* то | де*й* твоя милость в замъку Чо*р*нобы*л*скомъ, которы*й* и князи, и панове, | и бояре киевъские водълугъ приви*л*евъ свои*х*, отъ пре*д*ковъ нашыхъ | и о*т* короля его милости, пана отъца нашого, наданыхъ, по годомъ | межы собою де*р*жать, вря*д*ника своего на *й*мя Зеляка установилъ, и по|слушенъство з моцы теперешънего наместника чо*р*нобы*л*ского, брата и*х*, | Тишъка Проскуры, выняль, и кажешъ тому вря*д*нику своему по*д*даны*х* | нашыхъ тамошъныхъ судити и рядети, чого тежъ за пе*р*вшыхъ воеводъ, | пре*д*ковъ твоихъ, николи не бывало.

К тому де*й* ты велишъ имъ при собе | в замъку нашомъ Киевъскомъ обе*ц*не мешъкати. И хотя де*й* часомъ | жадъная потреба послуги нашое г(о)*с*(по)д(а)ръское и земъское не въказуеть, | ты де*й* пре*д*ся кажешъ имъ при собе лежати. А они де*й* с пре*д*ковъ своихъ | обе*ц*не при воеводахъ нашыхъ тамошъних, а звлаще безъ потребы | послуги нашое г(о)*с*(по)д(а)ръское и земъское, не повинъни у Киеве лежати. Одъно | кгды послуги нашое потреба вказывати будеть, а воевода имъ то | листомъ своимъ озна*й*мить, они в тотъ часъ тамъ до Киева на слу*ж*бу | нашу ся зъежъдчали и на послугу нашу с паны воеводами ехали, а бы*в*шы | на служъбе нашо*й* и проводивъшы воеводу с поля, до Киева засе до домовъ | своихъ ехали. А тепере де*й* в томъ ихъ обе*ц*номъ мешканью при тобе | у Киеве великая трудность имъ ся деетъ, и въ тыхъ речахъ выше|мененыхъ немалую кривъду и обътяжливость они собе отъ тебе | быть менують.

Гдежъ они и привиле*й* короля его милости, пана | отъца нашого, с привесистою маестатъною печатью и с по*д*|писомъ руки его м(и)л(о)*с*ти на вси во*л*ности свои передъ нами | ‖ [163адв. (136адв.)] покладали и били намъ чоломъ, абыхъмо во*д*ле того приви*л*я ихъ кро|левъско*й* м(и)л(о)*с*ти в томъ ихъ заховали, и кри*в*ды чере*з* оны*й* привиле*й* не каза*ли* | имъ чынити и новинъ уводити.

Яко жъ ты, будучы при насъ, пове|дилъ пере*д* нами, же ты в тыхъ речахъ, яко они жалуютъ, николи | кривдъ имъ не чыни*л*, ани кажешъ чынити, але и овъшемъ водъле того | приви*л*я хоче*ш* ся к нимъ заховати.

Какъ жо мы, того приви*л*я короля | его милости, пана отъца нашого, на во*л*ности ихъ имъ даного, огледа|въшы, и его выслухавъшы, и с Паны Радами нашыми в томъ объмови*в*шы, | и бачечы на то, же они пре*д*комъ нашымъ и его кролевъско*й* м(и)л(о)*с*ти, пану | отъцу нашому, добре а ве*р*не то заслуговали, и напротивъку кожды*м* | неприятелемъ нашымъ обе*ц*ными послугами своими го*р*ла и ста*т*ковъ | своихъ не лютовали, и тепере намъ, г(о)*с*(по)д(а)рю, уставичъне то заслугуютъ, | з ласки нашое г(о)*с*(по)д(а)ръское при томъ приви*л*ю и во*л*ностяхъ ихъ, о*т* его кроле|въско*й* милости имъ наданыхъ, зоставуемъ.

Яко жъ есьмо и очывисте | о томъ тобе росказали, абы еси в тыхъ во всихъ рэчахъ водълугъ того | приви*л*я к нимъ ся захова*л*. И тымъ тежъ листомъ нашымъ приказуемъ | тобе, ажъбы еси чере*з* оны*й* привиле*й* короля его милости, пана о*т*ца нашого, | жадъныхъ кривдъ и втисненья имъ не чынилъ, и новинъ не уводилъ, и по се|лищамъ ихъ бобровъ на себе не гонилъ, и въ замокъ те*ж* Чо*р*нобы*л*ский на*д* приви*л*я | и во*л*ности ихъ ничымъ ся не въступовалъ, и вря*д*ника своего, которого еси тамъ | установилъ, отътоль выслалъ и по*д*даныхъ нашыхъ ему судити и ряди*ти* | не казалъ, и въ Киеве те*ж* обе*ц*не, кромъ потребы послуги нашое г(о)*с*(по)д(а)ръское | и земъское, мешъкати имъ не велелъ, и ку шъкоде невинъне ихъ не приводи*л*, | нижъли кгды послуги нашое потреба вказывати будеть, они в то*т* | часъ будутъ повинъни на послугу нашу ку твое*й* м(и)л(о)*с*ти ехати, и во въсемъ | ‖ [164 (137)] бы еси к



нимъ ся заховалъ водъле того привилья короля его милости, пана | отъца нашого, ни въ чомъ з него не выступуючы конечьно, абы то инакъ не было. |

П[и]санъ у Ви*л*ни, по*д* ле*т*(о) Бо*ж*(его) наро*ж*(еня) 1546, м(е)*с*(я)ца июль 20 день, инъдиктъ 4. |

РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Адз. зах. 30. Л. 162адв.—164. *Копія канца XVI ст. Правапіс адаптаваны. Публікуецца ўпершыню.*

**8. *1546.09.01. Вільня* — Распараджэнне («ліст») Жыгімонта Аўгуста да дзяржаўцы ўценскага, ключніка віленскага, пана Аляксея Паўловіча з паведамленнем, што дваранiну гаспадарскаму, кн. Андрэю Іванавічу Азерацкаму нададзены дварэц Дусяты ва Уценскім павеце з чэляддзю дворнай, людзьмі (сялянамі) і землямі пустоўскімі.**

**Ли*ст* до де*р*жавцы утѐ*н*ского […] о поступѐ*не* | кн(я)зю А*н*дрею Озере*ц*кому дво*р*ца Дусеты | въ воло*сти* Утѐнъско*й*. |**

Жикгимо*нт* Авгу*ст*, Бо*ж*ю м(и)л(о)*с*тью коро*л* по*л*ски*й*, велики*й* княз литов*с*ки*й*, | руски*й*, пруски*й*, жомоитъски*й*, мазовецъки*й* и иныхъ. |

**К**лючнику виленъскому, де*р*жавцы утенъскому, пану Оле*к*сею | Павловичу.

Би*л* намъ чоломъ дворанинъ нашъ, князь А*н*дре*й* | Ивановичъ Озере*ц*ки*й* и проси*л* в насъ дво*р*ца Дусеты у в Уте*н*ско*м* | ‖ [181адв. (154адв.)] повете, которого пе*р*вей де*р*жа*л* князь Иванъ Борятинъски*й*. О чомъ жо | и воевода виленъски*й*, панъ Янъ Ю*р*евичъ Глебовича и иные Панове | Рада нашы насъ за нимъ жедали.

Ино мы з ласки нашое на причыну | пана воеводы виленъского и иныхъ Ра*д* нашыхъ и на его чоло*м*би*т*е | то вчынили, то*т* дворе*ц* Дусеты ему есьмо дали. Для чожъ | и дворанина нашого* тамъ е*с*мо послали и в то*т* дворе*ц* | увезати его казали.

И ты бы о томъ веда*л*, и того дво*р*ца Дусе*т*|ского с челя*д*ю нево*л*ною и с пашънею дво*р*ною, з людьми, и зъ земълями | пустовъскими, и со всимъ с тымъ, какъ ся то*т* дворе*ц* в собе маетъ | и с чымъ тежъ князь Борятинъски*й* его о*т* насъ де*р*жа*л* и вжывалъ, | князю Анъдрею Озере*ц*кому поступи*л* коне*ч*но.

П[и]санъ у Ви*л*ни, по*д* ле*т*(о) | Божъ[его] наро*ж*(еня) 1546, м(е)*с*(я)ца се*н*(тябрь) 1 день, инъдиктъ 5. |

[2-]Иванъ Горъноста*й*.[-2] |

РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Адз. зах. 30. Л. 180—181адв. *Копія канца XVI ст. Правапіс адаптаваны. Публікуецца ўпершыню.*

* У ркп. пасля слова «нашого» пакінута месца для прозвішча.

2-2 Напісана з правага боку аркуша, праз два інтэрвалы.

**9. *1546.08.30. Вільня.* — Распараджэнне («ліст») Жыгімонта Аўгуста да дзяржаўцы мсціслаўскага, маршалка гаспадарскага, кн. Васіля Андрэевіча Палубенскага, а ў яго адсутнасць — да сына, Івана Палубенскага, пакінуць баярына мсціслаўскага Рыгора Іванавіча Суханосава пры ўладанні маёнткам яго жонкі ў Мсціслаўскім павеце да яе смерці.**

**Ли*ст* до де*р*жавцы мстисла*в*ского, абы | у Грыго*ря* Сухоноса имене*й*ца не о*т*нима*л*, которое о*н* по жоне свое*й* Кищино*й* | маѐть. |**

Жикгимо*нт* Авгу*ст*, Бо*ж*ю м(и)л(о)*ст*ю коро*л* и велики*й* князь [...]. |

**М**ар*ш*а*л*ку нашому, де*р*жавцы мстиславъскому, князю Васи*л*ю Анъдреевичу | Полубенъскому, а в небы*т*ности его самого у Мстиславли ино сыну его | князю Ивану Полубенъскому, которы*й* тамъ у Мстиславли на его ме*ст*цу | мешкаеть.

Приезди*л* до насъ бояринъ нашъ мстисла*в*ски*й* | Григоре*й* Ивановичъ Сухоносовъ и поведи*л* пере*д* нами. Ижъ онъ поня*л* | за себе в ма*л*же*н*ство у повете Мстиславскомъ жону небожъчыка Василя | Миха*й*ловича Кишъки и з ымене*й*цомъ, которое онъ выслужи*л* на небо*ж*чику | кн(я)зи Миха*й*лу Мстиславъскомъ. Яко жъ и ли*ст* короля его м(и)л(о)*с*ти, пана | о*т*ца нашого, пере*д* нами вказыва*л*. Которы*й* ли*ст* его кролевъско*й* м(и)л(о)*с*ти | до де*р*жа*в*цы мстиславъского, на онъ часъ будучого пана Ю*р*я Зеновъ|евича, писати казати рачы*л*. Ижъ то*т* предокъ его Василе*й* Миха*й*лович | Кишъка дете*й* по собе не зостави*л*, одъно жону свою, которую онъ | поня*л*, тогды абы онъ его с того имене*й*ца не руша*л* и да*л* ему в то*м* | поко*й* до жывота тое жоны его. А хотя бы онъ с тою жоною своею | и дети ме*л*, тогды тое имене*й*цо по жывоте жоны его мае*т* на насъ, | г(о)*с*(по)д(а)ря, спасти. И поведи*л* пере*д* нами то*т* Григоре*й* Сухоносо*в*, ижъ онъ | и тепе*р* с тою жоною своею мешкае*т* и тое имене*й*цо водълугъ листу | короля его м(и)л(о)*с*ти, о*т*ца нашого, до жывота ее на себе де*рж*ы*т*. Нижли | би*л* онъ намъ чоломъ, абыхъмо и мы ласку нашу г(о)*с*(по)д(а)ръскую вчинили | а водлугъ оного листу его кроле*в*ско*й* м(и)л(о)*с*ти его захова*ти* каза*ли*.

А та*к* мы, | || [186адв. (159адв.)] того листу короля его м(и)л(о)*с*ти, о*т*ца нашого, огледавъшы и бачечы в томъ | прозбу его слушную, водълугъ листу его кроле*в*ско*й* м(и)л(о)*с*ти, при то*м* имене*й*цы | до жывота жоны его зоставили.

И ты бы, княже Василе*й* Полубе*н*ски*й*, | а в небы*т*ности его самого, тобе, княже Иване, сыну его, приказуемъ, жобы | еси того Григо*р*я Ивановича Сухоносова водълугъ оного листу короля его | м(и)л(о)*с*ти, пана о*т*ца нашого, до пана Ю*р*я Зеновъевича, де*р*жавъцы бы*в*шого | мстисла*в*ского, писаного захова*л* и его с того имене*й*ца не руша*л*, и да*л* ему | в то*м* поко*й* до жывота тое жоны его. А хотя бы онъ з нею и дети ме*л*, | однако жъ тое имене*й*цо, яко спадокъ нашъ, мае*т* спасти на насъ, г(о)*с*(по)д(а)ря. | И которое бы подъданые нашы тамошние мстиславские хотели | в то*м* имене*й*цы теперъ ему кривды чинити и его о то*м* ку праву пово|локати, ты бы его в томъ



боронилъ и никому с по*д*даныхъ нашыхъ | тамошнихъ кривдъ чынити ему ни в чомъ не допуща*л*, а зъвлаща ижъ | тое имене*й*цо не е*ст* вла*ст*ность ихъ, одъно спадокъ и властно*ст* есть наша | г(о)*с*(по)д(а)ръская.

П(и)санъ у Ви*л*ни, по*д* ле*т*(о) Бо*ж*(его) наро*ж*(еня) 1546, м(е)*с*(я)ца авгу*ст* 30 день, | инъди*кт* 4. |

РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Адз. зах. 30. Л. 186—186адв. *Копія канца XVI ст. Правапіс адаптаваны. Публікуецца ўпершыню.*

Літаратура


1. Гл.: Мянжынскі В. С., Несцяровіч Ю. У. Судовыя дакументы з саманазвай «справа» ў кнізе Метрыкі ВКЛ 30 // Беларускі археаграфічны штогоднік Вып. 7. Мн., 2006.
2. Гл.: Мянжынскі В. С., Несцяровіч Ю. У. З гісторыі Беларусі XVI ст.: канфірмацыйныя прывілеі ў кнізе Метрыкі ВКЛ 30 // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 6. Мн., 2005.
3. Рыбаков А. Е. Общее делопроизводство в центральном аппарате государственного управления Великого княжества Литовского в XVI в. / Дис. … канд. ист. наук (На правах рукописи) // Библиотека БелНИИДАД. Гл. таксама: Рыбакоў А., Клімаў І. Ліст // Вялікае княства Літоўскае. Энцыклапедыя: У 2 т. Т. 2. Мн., 2006.
4. Методические рекомендации по изданию и описанию Литовской метрики / Сост. А. Л. Хорошкевич, С. М. Каштанов. Вильнюс, 1984.
5. Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII—XVIII стст, перыяд Вялікага княства Літоўскага) / Аўт.-склад. А. І. Груша. Мн., 2003.
6. Несцяровіч Ю. У. Да пытання вызначэння гістарычных дакументаў беларускага паходжання як прывілеяў (па матэрыялах Метрыкі ВКЛ) // Актуальныя пытанні вывучэння і выдання Метрыкі Вялікага княства Літоўскага: Матэрыялы міжнароднай навук.-практ. канф. (Мінск, 11—12 лістапада). Мн., 2005.


*Публікацыя В. С. Мянжынскага і Ю. У. Несцяровіча*

# РЭЕСТР ШЛЯХТЫ КРАМЯНЕЦКАГА ПАВЕТА, ЯКАЯ НЕ СТАЛА ДА ПРЫСЯГІ НА ВЕРНАСЦЬ КАРАЛЮ І КАРОНЕ ПОЛЬСКАЙ 16 ЧЭРВЕНЯ 1569 г. (ДАКУМЕНТ З 583-Й КНІГІ МЕТРЫКІ ВКЛ)

У 1569 г. на Люблінскім сейме былі абвешчаны знакамітыя прывілеі аб вывадзе некаторых ваяводстваў са складу Вялікага княства Літоўскага і аб вяртанні (przywroceniu) іх да Кароны Польскай. Падляшскае ваяводства было далучана да Польшчы актам ад 5 сакавіка, Валынская зямля — актамі ад 5 сакавіка і 26 мая, ваяводства Кіеўскае — ад 6 чэрвеня 1569 г.[1] Адной з важнейшых унутрыпалітычных працэдур пасля гэтага было прынясце прысягі на вернасць каралю і Кароне Польскай ад усіх землеўладальнікаў і службовых асоб, якія мелі маёнткі і адміністрацыйную ўладу ў далучаных землях.

Важнасць гэтай працэдуры абумоўлівалася тым, што з кожнага зямельнага ўладання духоўныя і свецкія феадалы абавязаны былі несці пэўныя дзяржаўныя службы, а таксама выплачваць падаткі. Адладжаная сістэма землеўладання і землекарыстання складала аснову як ваеннай, так і эканамічнай бяспекі Рэчы Паспалітай; гэтая сістэма жорстка рэгулявалася і кантралявалася ўладамі, якія педантычна ўносілі копіі дакументаў аб новых зямельных наданнях і пацверджаннях былых наданняў у кнігі метрык Кароны і ВКЛ. Таму пры далучэнні новых ваяводстваў да Кароны Польскай першачарговай задачай з'яўлялася юрыдычнае зафіксаванне лаяльнасці з боку ўсёй мясцовай шляхты-землеўладальнікаў. Не будзе, спадзяюся, перабольшваннем казаць, што, калі б хоць з аднаго землеўладання не была прынесена прысяга на вернасць Кароне, гэта ўжо, па сутнасці, з ідэалагічнага пункту гледжання падрывала б бяспеку і цэласнасць дзяржавы; па гэтай жа прычыне патрабавалася прысяга ад службовых асоб кожнага павета і ваяводства ў цэлым. Улічваючы гэтыя довады, становіцца зразумелым, што хаця прысяга фармальна насіла персаніфікаваны характар (гл. яе тэкст ніжэй), але ў абсалютнай большасці выпадкаў яна прымалася не ад асобы як такой, а ад канкрэтнага землеўладання альбо службовай пасады. Напрыклад, узгадаю агульнавядомы факт, што некаторыя землеўладальнікі працягвалі заставацца персанальна пад юрысдыкцыяй Вялікага княства Літоўскага, але, тым не менш, прысягалі Кароне Польскай, забяспечваючы пераход пад польскую юрысдыкцыю сваіх маёнткаў. Так, напрыклад, падканцлер Вялікага княства Літоўскага Астафей Валовіч быў вымушаны пад пагрозай канфіскацый прысягаць на вернасць Кароне Польскай, бо меў у адміністрацыйным кіраванні землеўладанні на тэрыторыях, якія адыходзілі да Польшчы[2]. Са сваіх падляшскіх «добраў» былі вымушаны даць прысягу Кароне Польскай і такія землеўладальнікі, як княжна Юр'явая Слуцкая, ваяводзіная віцебская Ганна Кішчына, старасціная мсціслаўская і радамская княжна Рэгіна Палубенская, ваявода навагрудскі Павел Сапега[3] і іншыя прадстаўнікі шляхты і магнатэрыі ВКЛ. З іншага боку, кароль на нейкім этапе не дазволіў прыняць



прысягу старасце жураўскаму і бранскаму (на Падляшшы) пану Дульскаму, матывуючы тым, што гэтыя маёнткі — яго ўласнасць, і ён не хоча да атрымання пэўных прававых гарантый перадаваць іх Кароне[4]. Пасля заключэння уніі паміж ВКЛ і Каронай у ліпені 1569 г. усе паны рады ВКЛ таксама мусілі прысягаць для забеспячэння выканання ўмоў уніі[5].

Што тычыцца Валыні, то ўжо універсаламі ад 8 сакавіка 1569 г. кароль Польшчы, вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст загадаў панам рады ВКЛ (сенатарам) і земскім паслам ад Валыні, асабіста ваяводзе Аляксандру Чартарыйскаму, а таксама старастам замкаў і двароў гэтага ваяводства з'явіцца на Люблінскі сейм для прынясення прысягі каралю і Кароне Польскай[6]. Тэрмін быў прызначаны на «кветную неделю близко пришлую» — на 3 красавіка[7]. Між іншым, справа абцяжарвалася тым, што паны рады ВКЛ, якія раней з'ехалі з Люблінскага сейма незадаволеныя ходам перамоў, не прызнавалі факт далучэння Падляшша і Валыні да Кароны Польскай. У першыя тыдні гаворка нават магла ісці аб узброеным супраціўленні, бо ў гэтыя ваяводствы былі разасланы лісты ад рады ВКЛ з загадам шляхце збірацца на вайну і, па чутках, сур'ёзна разглядаўся варыянт ваеннага саюза ВКЛ і Крымскага ханства супраць Польшчы. Польскі бок у асобе архіепіскапа гнезненскага Якуба Уханьскага яшчэ ў канцы сакавіка 1569 г. таксама не выключаў варыянта ваенных дзеянняў паміж Каронай і ВКЛ[8]. Гэта ўносіла пэўную сумятню і не спрыяла хутчэйшаму прыняццю прысягі.

Другой прычынай быў ціск магнатаў на шляхту. Калі большасць дробнай і сярэдняй шляхты Падляшша, незадаволеная сваім ваяводам, адкрыта з прыхільнасцю ставілася да аб'яднання з Польшчай, то на Валыні вельмі моцным быў уплыў буйных магнатаў, якія ўспрымалі ідэю уніі насцярожана. Паказальны ў гэтай сувязі аповед аднаго з падляшскіх паслоў на Люблінскім сейме 15 красавіка 1569 г. пра метады правядзення павятовых сеймікаў на Падляшшы і Валыні (і, несумненна, у шмат якіх рэгіёнах Вялікага княства Літоўскага): нязгодных з магнацкай лініяй зямян-шляхціцаў там папросту лупцавалі кіямі[9]. Тым не менш значная частка валынскай шляхты ўпотай падтрымлівала не толькі ідэю уніі, але і інкарпарацыю Валыні ды іншых зямель ВКЛ у склад Польшчы. Каралеўскія каморнікі, якія разносілі прывілеі аб далучэнні Валыні да Польшчы, між іншым, заўважалі, што валынская шляхта, «зважыўшы справу, Богу дзякавала за прылучэнне да Кароны»[10]. Гэта, безумоўна, не сведчыць, што інкарпарацыя для валынцаў увогуле была беспраблемным працэсам, але практычна ўсе ўзнікаючыя пытанні ляжалі ў сацыяльнай і эканамічнай сферах. Напрыклад, у просьбах шляхты Валынскай зямлі да караля Жыгімонта Аўгуста, якія былі сфармуляваны на нелегальным з'ездзе ў Луцку ў канцы 1569 г., няма ніякага адкрытага пратэсту супраць інкарпарацыі Валыні ў склад Польшчы, наогул няма палітычных прэтэнзій[11]. У гэтым няма нічога дзіўнага: вядома, што ўжо з 1562 г., калі шляхта ВКЛ са з'езду пад Віцебскам падала каралю петыцыю аб хутчэйшай уніі з Польшчай[12], пазіцыі

дробнай і сярэдняй шляхты, з аднаго боку, і магнацкай вярхушкі ВКЛ, з другога боку, у адносінах да уніі канчаткова і істотна разышліся[13]. Было б, аднак, празмерным перабольшваннем лічыць, што магнацкая партыя, падаграваючы «літвінскі сепаратызм», імкнулася не да сваіх матэрыяльных выгад, а выключна да рэалізацыі нейкай рамантычнай звышмары аб незалежнасці ВКЛ. Насупраць, абодва бакі кіраваліся прыземленым прагматызмам у вызначэнні і дасягненні сваіх выгад, але для шляхты прагматызм заключаўся ў уніі, а для магнатаў — у сепаратызме. З гэтага пункту гледжання спроба літоўскага боку ўзняць пытанне аб вяртанні Валыні, Падляшша, Брацлаўшчыны і Кіеўшчыны ў склад ВКЛ, распачатая ў перыяд бескаралеўя пасля смерці Жыгімонта Аўгуста, бачыцца менавіта ініцыятывай паноў рады ВКЛ, а не простай шляхты. Варта прыгадаць, напрыклад, пасланне паноў рады ВКЛ сенату Кароны Польскай з Мсцібогава ад 7 снежня 1572 г., а менавіта іх прэтэнзіі (характэрна прагматычныя), каб Валынь і Падляшша працягвалі плаціць падаткі ў скарб ВКЛ[14].

Увесну 1569 г., безумоўна, не магло быць нават гаворкі пра тое, каб хто-небудзь з простых валынскіх шляхціцаў наважыўся прысягнуць на вернасць Кароне да таго моманту, пакуль гэта не зробяць магнаты. А каб прымусіць да прысягі магнатаў, спатрэбілася некалькі захадаў Жыгімонта Аўгуста, якога энергічна падштурхоўвалі польскія сенатары і земскія паслы. Па стану на 4 красавіка 1569 г. выкліканыя каралеўскімі універсаламі прадстаўнікі Валыні так і не з'явіліся на Люблінскім сейме: адны з іх апраўдваліся хваробай, а іншыя, апрача хваробы, яшчэ і тым, што універсалы былі прысланы пад «нязвыклай пячаткай». Адзіным выключэннем быў паляк — ваявода серадскі Ольбрахт Ласкі, які прысягнуў са сваіх уладанняў на Валыні[15]. Таму пасля таго, як на Люблінскі сейм ізноў пачалі прыбываць прадстаўнікі рады і земскія паслы ВКЛ, новы тэрмін прысягі для Валыні «на жадане всих станов тое ж земли Волынское» перанеслі на 14 мая. Як зазначыў пазней кароль, у гэты дзень ужо «переднейшие панове и рады, княжата, панята и рыцерского стану немало людей тут перед нами ставили ся и присегу повинную нам яко королеви Польскому и Короне нашой учинили». На самой справе ўсё было крыху больш складана. На 14 мая ніхто з валынцаў зноў не прыбыў на сейм, даслаўшы лісты з прабачэннямі. У прыватнасці, з ліста найбольш уплывовага магната Валыні князя Канстанціна Астрожскага бачна, што ён на словах збіраўся выязджаць у Люблін, але ў рэальнасці марудзіў, каб выйграць час і праверыць, як далёка зойдзе кароль у сваіх пагрозах[16]. На гэты раз Жыгімонт Аўгуст адрэагаваў больш рашуча і загадаў, каб валынцы прыехалі ў Люблін не пазней за нядзелю, 22 мая, пагражаючы канфіскацыяй маёмасці і выгнаннем з Рэчы Паспалітай[17]. Пагроза падзейнічала, бо пачынаючы з 19 мая на сейм у Люблін сталі з'язджацца службовыя асобы і землеўладальнікі Валынскай зямлі. Прысягу прынялі епіскап луцкі Віктарын Вярбіцкі (23 мая), валынскі ваявода Аляксандр Чартарыйскі, маршалак Валынскай зямлі, кіеўскі ваявода Канстанцін Астрожскі (24 мая), трокскі ваявода Стэфан Збаражскі (26 мая) і іншыя[18].



Тым не менш каралю гэтага было недастаткова, таму ён пажадаў, «абы не только переднейшие люди, але теж вси обыватели земли Волынское, так рыцерского, яко теж и местского стану такую ж присегу нам и Короне нашой учинили»[19]. 25 мая 1569 г. Жыгімонт Аўгуст выдаў універсал, якім назначыў новы тэрмін прысягі для службовых асоб і шляхты ваяводства Валынскага (а разам з ім і Брацлаўскага) на 16 чэрвеня. Тэкст прысягі гучаў так: «Я, н(айме), присегаю пану Богу вшехмогучому, же от того часу на потом [верный а] послушный буду королеви его милости, на тот [час] и на потом будучому, и Короне Польской, справуючи ся во всей повинности своей верне и статочне, стоечи при королю его милости и Короне Польской, а николи ся от не(е) не отрываючи и вшелякого небезпеченства и шкод их подле можности моей остерегати, яко наверне(го) подданого належит. Так ми Пан Бог рач помочи и Его светая Еван(г)елия»[20]. Тым, хто б і на гэты раз адмовіўся прысягнуць, кароль ізноў пагражаў канфіскацыяй маёнткаў і пазбаўленнем пасад. Жыгімонт Аўгуст загадаў таксама, каб старасты — кіраўнікі мясцовых адміністрацый — запісалі імёны непаслухмяных у актавыя гродскія кнігі, а выпісы з іх даслалі ў каралеўскую канцылярыю праз гаспадарскага двараніна: «А экстракты того вписанья с книг кгродских до нас через того ж комисара нашего нам послали, абысмы оттоль ведати могли, против которым яко непослушным правом поступовати бысмо мели»[21].

Найбольш поўная падборка актавых матэрыялаў, у якіх адлюстравана працэдура прыняцця прысягі шляхтай ваяводстваў Валынскага і Брацлаўскага ў чэрвені 1569 г., была надрукавана ў 1932 г. польскімі вучонымі Ст. Кутшэбам і Ул. Сямковічам ва ўжо цытаваным выданні «Акты уніі Польшчы з Літвой». Дакументы можна падзяліць на некалькі відаў. Важнейшымі з'яўляюцца агульныя акты аб прысязе шляхты і нават яўрэяў паветаў Брацлаўскага і Вінніцкага 16 чэрвеня, службовых асоб і шляхты павета Луцкага 16, 17 і 23 чэрвеня, шляхты, службовых асоб і мяшчан павета Уладзімірскага 16—18 чэрвеня[22]. У гэтых трох актах змешчаны спісы як тых, хто прысягнуў, так і тых, хто не стаў да прысягі — часта з тлумачэннем прычын. Другі від дакументаў — гэта запісы ў Луцкія гродскія кнігі прыватных асоб — Фёдара Чапліча Шпаноўскага, Багдана Патрыкея Радагосцкага ад 18 чэрвеня, Астафея і Андрэя Караваяў — ад 20 чэрвеня і Фалілея Некрашэвіча Беражэцкага — ад 21 чэрвеня 1569 г. аб тым, што яны ў тыя дні прысягнулі Кароне Польскай[23]. Да гэтага віда належыць і запіс-сведчанне Луцкага гродскага ўрада аб тым, што 11 ліпеня перад ім прынялі прысягу на вернасць Кароне Польскай Мікалай Харлінскі з жонкай княжной Ганнай Любецкай[24]. Асобна стаіць дакумент ад 16 чэрвеня 1569 г.: сазнанне вознага Мішкі Смыкоўскага перад Луцкім гродскім урадам, што каморнік і камісар каралеўскі Станіслаў Мольскі не хацеў прыняць прысягу на вернасць Кароне Польскай ад Жыдзічынскага архі-

мандрыта Іона[25]. Практычна ўсе дакументы ўзяты з Луцкай і Уладзімірскай актавых гродскіх кніг (былы Кіеўскі цэнтральны архіў старажытных актаў, тт. 919[26], 2043). Але рэестр брацлаўскай і вінніцкай шляхты мае іншае паходжанне (Музей Чартарыйскіх у Кракаве, рукапіс 307, с. 211—228). Па апісанні Ст. Кутшэбы і Ул. Сямковіча, гэта быў выпіс з Брацлаўскай гродскай кнігі, экземпляр на 10 аркушах. Выпіс быў дасланы каралеўскімі камісарамі, верагодна, у канцылярыю Кароны Польскай, але меў малую пячатку канцылярыі ВКЛ[27], што, відаць, тлумачыцца блытанінай у справаводстве пасля інкарпарацыі новых зямель у склад Польшчы.

У гэтай падборцы звяртае на сябе ўвагу практычна поўная адсутнасць дакументаў па прысязе шляхты яшчэ аднаго, другога па велічыні[28] павета Валынскай зямлі — Крамянецкага. Як зазначыў у 1979 г. украінскі даследчык М. П. Кавальскі, на той час у фондзе 21 Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва УССР захоўваліся 138 кніг Крамянецкага гродскага суда за 1543—1647 гг. У іх ліку былі і кнігі з датай 1569 г.[29] Магчыма, кніга, у якую быў занесены рэестр прысяглай і непрысяглай шляхты Крамянецкага павета, усё ж не дайшла да нашага часу, тым больш, што архіўны лёс Крамянецкіх гродскіх і земскіх кніг не быў лёгкім[30]. Інакш нельга патлумачыць, чаму кнігай не скарысталіся Ст. Кутшэба і Ул. Сямковіч. З іншага боку, безумоўна, не выключаны варыянт, што кніга існуе, але яна не трапіла ў поле зроку выдаўцоў «Актаў уніі Польшчы з Літвой» па той прычыне, што, у адрозненне ад Уладзімірскіх і Луцкіх гродскіх кніг, не была ўключана ў падакументныя вопісы кніг Кіеўскага цэнтральнага архіва, якія выдаваліся ў другой палове XIX — пачатку XX ст.

Але адзін дакумент, з якога можна даведацца пра працэдуру прысягі крамянецкай шляхты, дайшоў да нашага часу ў складзе 583-й кнігі калекцыі «Літоўская Метрыка» ў Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў[31]. Лёс гэтай кнігі да канца XVIII ст. невядомы. Пасля перавозкі метрык Кароны і ВКЛ з Польшчы ў Расію кнігу ў выніку інвентарызацыі 1830-х гг. аднеслі да раздзела «Каронных кніг перапісаў» (№ 27), але значную частку яе складаюць дакументы па гісторыі ВКЛ. Таму ў вопісе 1887 г. метрыкант С. Л. Пташыцкі даў ёй характарыстыку: «Сборник подлинных актов, относящихся к Литве с XV—XVII ст.»[32]. У 1920-х гг. усе кнігі з раздзела «Каронных кніг перапісаў» былі перададзены савецкім урадам Польшчы, у тым ліку тыя, што датычыліся беларускіх этнічных тэрыторый, але гэтая кніга па невядомай прычыне засталася ў Маскве і атрымала па новай валавой нумарацыі ЦДАСА нумар 583. Зараз у зборніку 201 аркуш, у ім змешчаны сапраўдныя экземпляры грамат вялікіх князёў літоўскіх Казіміра, Аляксандра, Жыгімонта Аўгуста, Стэфана Баторыя (XV—XVI стст.), а таксама розныя судовыя дакументы (сазнанні, выпісы) XVI—XVII стст., якія датычаць пераважна тэрыторый сучаснай Украіны. Кніга не мае рэестра актаў (нават XVIII ст.), дакументы не сістэматызаваны тэматычна ці ў храналагічным парадку, па змесце не звязаны паміж са-



бой. Апрача маёмасных данін ці судовых выракаў, маюцца дакументы палітычнага характару, як, напрыклад, універсал Стэфана Баторыя аб Данцыгскім мяцежы на старабеларускай мове (арк. 150). У 1897 г. М. В. Доўнар-Запольскі надрукаваў адзін дакумент з гэтай кнігі: «Інвентар маёнтка Яна Скіндэрэвіча», складзены, на яго думку, да 1525 г. (арк. 110)[33]. У аглядзе крыніц па гісторыі Украіны, змешчаных у складзе калекцыі РДАСА «Літоўская Метрыка», які надрукаваў у 1979 г. М. П. Кавальскі, 583-я кніга не аналізуецца[34].

Дакумент, што нас цікавіць, змешчаны на арк. 146адв.—148адв. Гэта сапраўдны экземпляр выпісу з Крамянецкай гродскай кнігі, выдадзены «коморнику и комисару его кролевское милости» ў адпаведнасці з цытаваным вышэй універсалам Жыгімонта Аўгуста ад 25 мая 1569 г. і перададзены імі ў канцылярыю Кароны Польскай. Тэкст напісаны кірыліцай на аркушах, складзеных удоўж напалам, ідзе нешырокім слупком на адной палове кожнага аркуша. Прыкладзеная таксама абвёртка («канверт») дакумента са слядамі дзвюх пячатак (арк. 146адв.). У верхняй частцы абвёрткі надпіс: «Корыкговал книгами Зубаревич», які дае нам прозвішча чалавека, што злічаў тэксты выпіса і гродскай кнігі. Працуючы з мікрафільмам, не маю магчымасці прывесці дадзеныя аб фізічных памерах дакумента, ступені захаванасці адбітак ад пячатак і аб наяўнасці філіграні, але ў дадзеным выпадку дакумент мае ў сваім тэксце дакладную дату і цалкам адпавядае гістарычнаму кантэксту, таму для яго даціроўкі няма патрэбы прыцягваць філігрань. Па знешніх характарыстыках і па паходжанні гэты дакумент ідэнтычны з апісаным вышэй рэестрам брацлаўскай і вінніцкай шляхты. Можна ўпэўнена меркаваць, што павінны былі існаваць аналагічныя выпісы з Луцкай і Уладзімірскай гродскіх кніг, дасланыя ў каронную альбо велікакняжацкую канцылярыі.

Распаўсюджаныя такія віды археаграфічнай публікацыі, як 1) на прынцыпах аўтэнтычнай транслітарацыі, якая найбольш дакладна імкнецца перадаць графічную сістэму дакумента (прызначана для філолагаў, лінгвістаў і г. д.), і 2) на прынцыпах адаптаванай публікацыі (для гісторыкаў і больш шырокага кола чытачоў). Аўтар падзяляе думку, што з развіццём сучасных тэхналогій адпадае патрэба ў так званай аўтэнтычнай транслітарацыі ў папяровых публікацыях, бо найбольш дакладным і менш працаёмкім, а значыць, найбольш навукова абгрунтаваным з'яўляецца перадача моўных і графічных асаблівасцяў дакумента праз лічбавае электроннае факсіміле. На веб-сайтах навуковых, бібліятэчных і архіўных установаў Польшчы, Германіі, Расіі мы бачым шмат прыкладаў такіх электронных бібліятэк. З улікам гэтага тэкст дадзенага дакумента перадаецца ў адаптаванай транслітарацыі. Літары, што выйшлі з карыстання, заменены сучаснымі; адзіным выключэннем з'яўляецца літара □. Пісарскія скарачэнні раскрыты ў дужках. Надрадковыя літары ўнесены ў радок і абазначаны курсівам. Кірылічныя лічбы заменены на арабскія. Пунктуацыя сучасная. Вялікія літары прастаўлены зыходзячы з патрабаванняў сучаснай арфаграфіі.

**1569.VI.16. Крамянец. Выпіс («мінута») з Крамянецкай гродскай кнігі рэестра шляхты Крамянецкага павета, якая не стала да прысягі на вернасць каралю і Кароне Польскай 16 чэрвеня 1569 г.**

*Арыгінал*[35]: РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Кн. 583. Арк. 146адв.—148адв.

*Друкуецца па мікрафільму*: НГАБ. КМФ-18. Воп. 1. Адз. зах. 583. Арк. 146адв.—148адв.

«[*Арк. 147*] Року панского 1569 м(е)с(я)ца | червца дня шостогонадцет июня. |

За листомъ и росказанемъ его | кролевское м(и)л(о)сти обывателом | земли Волынский повету Кре|мянецкого присязе подлугъ уни|версалу королеви его м(и)л(о)сти Пол|скому и Короне Полскои досыти | не вчынили меновите в тои ми|нуте описаные. |

Урад земский | Кремянецкий: | Андрей Куневский, судя; | Сава Еловицкий, подсудок; | Григорей Болбасъ, писар; | Михайло Илович Малинский, маршалок; | Иван Шутъ, войский — 5. |

Их м(и)л(о)с(ти) кн(я)жата | повѣту Кремянецког(о): | Костантинъ Острожский, воевода Киивский; | Янушъ а Михайло Жеславские; | Штефан Збаражский, воевода Троцкий; | Миколай Збаражский, староста Кремянецкий; | Юрей Збаражский; | Владислав Збаражский; | Андрей Вишневецкий, кашталян Луцкий; | Михайло Вишневецкий, староста Черкаский; | Костантин Вишневецкий; | Александръ Вишневецкий; | Миколай Ярославович — 12. |

[*Арк. 147адв.*] Базилиусъ Древинский, писар его кр(олевское) м(и)л(ости) — 1. | Олбрахтъ Лаский, воевода Сирадзкий — 1. | Воеводичи Виленские з Радивилова. | Лабунские | Михайло а Крыштофъ — 2. | Яковицкие | Антон а Дмитръ — 2. | Кгабриел Козирадский з братю — 1. | Роман Гостский — 1. | Богдан Патрикей Радогостский — 1. | Брат того Миколай учинил при|сягу, бо еще не розделны[36] |.

Оповеданя от небылых | ку присязе. | Оповедал пан Федор Сенюта от матки | своее п(а)нее Григоревое Сенютиное | Ляховецкое п(а)нее Милки Патрикеевны, | иж она толко до часу на йменях по жи|вote малжонка своего мешкает, толко | самъ з оселости той присязе до|сыт вчынилъ. |

П(а)ни Михайловая Боговитино|вая п(а)ни Ганна з сыномъ своим | Михайломъ, лет не дорослым, ку присязе | становилася, а иж она не дедичка, | [*арк. 148*] прото тая присяга до ласки его | кролевское м(и)л(о)сти и до лет сына ее | отложона. |

П(а)ни Ивановая Жабокрыцская Кате|рина Промчейковна[37] оповедала, иж | сынове ее Василей а Ян лет не доросли, | а иж сут на науце, прото их на тот час | ку тый присязе поставити не могла. |

Оповедала Ивановая Волковская, | иж сын ее, лет не дорослый, дан ку науце, | ведже с тый оселости зят ее Петръ | Божковский присягу вделалъ. |

Пан Ерофей Гощский через врядника | своего Федора оповедал, иж будучи | в поселстве от всее земли Волынское, там же в Люблине присягу | вчинилъ. |



Оповедал врядник з Садков Мики|та, иж п(а)ни Клеменътовая Войни|човая п(а)ни Катерина, маючи | болшую осядлост в повете Луцкомъ, | нижли в Кремянецкомъ, там же, | поведил, присязе досыт вчинила. |

Мы вряд кгродский тых, которые ведле | универсалу его кролевское м(и)л(о)сти и Ко|роне Полской присязе досыт не вчинили, | до актъ кгродских вписавши | [*арк. 148адв.*] и минуту коморнику и комисару его | кролевское м(и)л(о)сти под печатми | н(а)шими на то дали. | Дан с Кремян|ца. [*Неразборлівыя адбіткі дзвюх пячатак. — А. Л.*]. Андрѣй Жирицкий, пи|саръ».

Калі параўнаць гэтыя даныя з вядомымі зараз рэестрамі прысяглай і непрысяглай шляхты паветаў Брацлаўскага і Вінніцкага, Луцкага, Уладзімірскага і іншымі дакументамі, то персанальна па кожнай асобе можна сказаць наступнае.

1. Крамянецкі земскі суддзя Андрэй Кунеўскі. Адзначаны ў рэестры Луцкага павета сярод тых, хто не з’явіўся да прысягі. Але быў земскім паслом на Люблінскім сейме ад Валынскай зямлі (другога склікання), падпісаў акт уніі 1 ліпеня 1569 г.[38] Значыць, прысягнуў непасрэдна на сейме. Тым больш, што ён працягваў выконваць судовыя абавязкі і валодаць маёнткамі ў павеце і ў 1570 г.[39]

2. Падсудак Сава Ялавіцкі. Прысягнуў на сейме ў Любліне 1 чэрвеня[40].

3. Пісар Грыгорый Болбас. Працягваў выконваць пісарскія абавязкі і валодаць маёнткамі ў Крамянецкім павеце ў 1570 г., значыць, прысягу на вернасць Кароне Польскай прыняў належным чынам[41].

4. Маршалак Міхайла Яловіч Малінскі. Адзначаны ў рэестрах Луцкага і Уладзімірскага паветаў сярод тых, хто не з’явіўся да прысягі[42]. Працягваў выконваць абавязкі ў 1570 г. (аддаваў падатак з каралеўскага маёнтка Забароўля ў Луцкім павеце), значыць, прысягу на вернасць Кароне Польскай прыняў належным чынам[43].

5. Войскі Іван Сямёнавіч Шут. Паводле пабаровага рэестру 1570 г. працягваў валодаць маёнткамі ў Крамянецкім павеце, значыць, прысягу на вернасць Кароне Польскай прыняў належным чынам. Згадваецца ён на сваёй пасадзе і ў адказе Жыгімонта Аўгуста на просьбы валынскай шляхты ад 11 студзеня 1570 г.[44]

6. Ваявода кіеўскі Канстанцін Астрожскі. Прысягнуў на сейме ў Любліне 24 мая ад валынскіх маёнткаў, а ў чэрвені прыняў яшчэ адну прысягу як кіеўскі ваявода. Адзначаны ў рэестры Уладзімірскага павета сярод тых, хто не з’явіўся да прысягі. Падпісаў акт уніі 1 ліпеня 1569 г.[45]

7. Януш і Міхайла Заслаўскія (Жаслаўскія). Звестак пра іх прысягу я не знайшоў. Паводле пабаровага рэестру 1570 г. маёнткі князёў Заслаўскіх у Крамянецкім павеце знаходзіліся пад апекай віленскага кашталяна Грыгорыя Хадкевіча[46]. Магчыма, ён і прысягнуў з гэтых маёнткаў. Паводле пабаровага рэестру 1583 г. Міхайла Заслаўскі працягваў валодаць маёнткамі ў Крамянецкім павеце[47].

8. Ваявода трокскі Стэфан Збаражскі. Разам з іншымі князямі Збаражскімі — землеўладальнікамі Крамянецкага павета — быў выкліканы ў Люблін для прыняцця прысягі ў сакавіку 1569 г.[48], быў змушаны каралём прысягнуць ад валынскіх маёнткаў на сейме 26 мая (першапачатковую адмову ад прысягі матываваў тым, што маёнткамі на Валыні на самай справе валодала яго маці), падпісаў акт уніі 1 ліпеня 1569 г.[49] Яго сын Пётр выкліканы да прысягі ад маёнтка ў Падляшшы 7 красавіка, прысягнуў на сейме пасля 19 мая як дзедзіч Межырэчча[50].

9. Стараста крамянецкі Мікалай Збаражскі. Выкліканы ў Люблін для прыняцця прысягі ў сакавіку 1569 г.[51] Адзначаны ў рэестры Уладзімірскага павета сярод тых, хто не з'явіўся да прысягі. Але згаданы ў ліку землеўладальнікаў Крамянецкага павета ў рэестры 1570 г., значыць, прысягу на вернасць Кароне Польскай прыняў належным чынам[52].

10. Юрый Збаражскі. Паводле пабаровага рэестру 1570 г. працягваў валодаць чвэрцю Збаража, значыць, прысягу на вернасць Кароне Польскай прыняў належным чынам[53].

11. Уладзіслаў Збаражскі. Паводле пабаровага рэестру 1570 г. працягваў валодаць маёнткам Валочышчы Крамянецкага павета, значыць, прысягу на вернасць Кароне Польскай прыняў належным чынам[54].

12. Кашталян луцкі (валынскі) Андрэй Вішнявецкі. Прысягнуў на сейме ў Любліне 1 чэрвеня. Адзначаны ў рэестры Уладзімірскага павета сярод тых, хто не з'явіўся да прысягі. Падпісаў акт уніі 1 ліпеня 1569 г.[55]

13. Стараста чаркаскі і канеўскі Міхайла Вішнявецкі. Адзначаны ў рэестры Уладзімірскага павета сярод тых, хто не з'явіўся да прысягі[56]. Паводле пабаровага рэестру 1570 г. захаваў сваю пасаду і маёнткі ў Крамянецкім павеце, значыць, прысягу на вернасць Кароне Польскай прыняў належным чынам[57].

14. Канстанцін Вішнявецкі. Прысягнуў на сейме ў Любліне 24 мая[58].

15. Аляксандр Вішнявецкі. Адзначаны ў рэестры Уладзімірскага павета сярод тых, хто не з'явіўся да прысягі[59]. Але паводле пабаровага рэестру 1570 г. працягваў валодаць маёнткамі ў Крамянецкім павеце, значыць, прысягу на вернасць Кароне Польскай прыняў належным чынам[60].

16. Князь Мікалай Яраслававіч, зяць кашталянавай луцкай Міхайлавай Казінскай. Адзначаны ў рэестры Уладзімірскага павета сярод тых, хто не з'явіўся да прысягі[61].

17. Вялікакняжацкі пісар і сакратар Базіліюс Дрэвінскі. Прысягнуў 24 мая. Адзначаны ў рэестры Уладзімірскага павета сярод тых, хто не з'явіўся да прысягі. Падпісаў акт уніі 1 ліпеня 1569 г.[62] Пар. таксама згадку аб ім у лісце Жыгімонта Аўгуста да полацкага кашталяна Юрыя Зяноўевіча 1569.VII.31 (гл. у дадзеным артыкуле, заўв. 5).

18. Ваявода серадскі Ольбрахт Ласкі. Прысягнуў на Люблінскім сейме 4 красавіка ад усіх сваіх зямельных уладанняў на Валыні. Адзначаны ў рэестры Луцкага павета сярод тых, хто не з'явіўся да прысягі[63].



19. Ваяводзіч віленскі Мікалай Крыштаф Радзівіл (Сіротка). Быў выкліканы ў Люблін для прыняцця прысягі персанальным каралеўскім лістом у сакавіку 1569 г.[64] Прысягнуў з валынскіх уладанняў на сейме ў Любліне 1 чэрвеня. Падпісаў акт уніі 1 ліпеня 1569 г.[65]

20. Міхайла і Крыштаф Лабунскія. Паводле пабаровага рэестру 1570 г. Міхайла Лабунскі працягваў валодаць маёнткам Сулдзіковам, а Крыштаф Лабунскі — маёнткамі Ціткова і Грабеніна ў Крамянецкім павеце, значыць, абодва прысягу на вернасць Кароне Польскай прынялі належным чынам[66].

21. Антон і Дзмітрый Якавіцкія. Звестак пра іх прысягу я не знайшоў. Вядома, што ва Уладзімірскім павеце прысягнулі Гаўрыла і Юрый Якавіцкія і жонка Васіля Якавіцкага — Мар'я[67].

22. Габрыель Казірадскі з братамі. Сапраўдным уладальнікам крамянецкіх маёнткаў быў іх бацька, жыхар Берасцейшчыны, Міхаіл Багавіцін Казірадскі. Ён працягваў валодаць маёнткамі і ў 1580 г., значыць, прыняў прысягу належным чынам[68].

23. Раман Госцкі. За яго прысягу прыняў у Луцкім павеце 17 чэрвеня яго сын: «Ярофей Гостский з Гошчи за отца своего, Романа Гостского, который дей хор ест, на тот час присегу учинил»[69].

24. Багдан Патрыкей Радагосцкі. Як бачна з нашага дакумента, за яго прысягу прыняў брат Мікалай, бо яны валодалі сумесна маёнткам. Але вядома, што 17 чэрвеня ў Луцку і сам Багдан Радагосцкі «с Траклова,тактеж з имень, которые мает в повете Кремянецком, в повете Влодимерском и в повете Киевском, присегу учинил»[70]. 18 чэрвеня таксама ў Луцку Багдан, не ведаючы, што яго брат Мікалай ужо прысягнуў, на ўсякі выпадак занёс у гродскую кнігу запіс: «Иж маю у себе двох братов рожоных Ивана а Миколая недельных, которые ся службою промеж зацных людей бавят, которых дей на тот час в дому нашем сполечном нет, бо один Иван отъехал в потребе своей до Литвы, которому ест килька недель, як отъехал, а другий Миколай отъехал на Подоле ешче далеко перед принесенем тых универсалов его кролевское милости»[71].

25. Фёдар Сянюта і яго маці Грыгоравая Сянюціная Ляхавецкая пані Мілка Патрыкееўна. «Ляхавецкая» азначае, што ў дадзеным выпадку гаворка ідзе аб маёнтку Ляхаўцы на Валыні[72]. Фактычна іх нельга аднесці да тых, хто не стаў да прысягі. Абодва працягвалі валодаць маёнткамі ў Крамянецкім павеце ў 1570 г., значыць, прысягу на вернасць Кароне Польскай прынялі належным чынам[73].

26. Пані Міхайлавая Богавіцінавая пані Ганна з непаўналетнім сынам Міхайлам. Прыняцце прысягі было адкладзена на іншы тэрмін, паколькі жанчына не мела спадчыннага права на маёнтак. Яна працягвала ў 1570 г. валодаць часткай маёнтка Сумбарскага ў Крамянецкім павеце[74].

27. Пані Іванавая Жабакрыцкая Прамчэйкаўна і яе непаўналетнія дзеці Васілій і Ян. Вядома, што 16 чэрвеня ў Брацлаўскім і Вінніцкім паветах

прысягнулі Іван, Васілій і Дахно Жабакрыцкія[75]. Сама ж пані Іванавая Жабакрыцкая ў 1570 г. працягвала валодаць маёнткам свайго мужа ў Крамянецкім павеце[76].

28. Пані Іванавая Валкоўская і яе непаўналетні сын. Фактычна за іх прысягнуў яе зяць Пётр Бажкоўскі. Іншых звестак пра іх прысягу я не знайшоў.

29. Пасол зямлі Валынскай на Люблінскім сейме Ярафей Госцкі паведаміў, што прыняў прысягу яшчэ ў Любліне. Гэта пацвярджаецца дзённікам Люблінскага сейма (дата прысягі — 23 мая)[77]. З бацькам — Раманам Госцкім (гл. вышэй пазіцыю № 23) — ён жыў раздзельна, таму яны павінны былі прысягаць кожны са сваіх маёнткаў[78].

30. Пані Клементовая Войнічавая пані Кацярына з маёнтка Садкі. Паведамленне нашага дакумента пацвярджаецца рэестрам прысяглай шляхты Луцкага павета. Гэтая жанчына сапраўды прысягнула з маёнтка Калеснікі ў Луцкім павеце, але актам гэта было афармлена толькі 17 чэрвеня. Таму ўраднік Мікіта, гаворачы 16 чэрвеня, што яго пані ўжо «присязе досыт вчинила», трохі схлусіў.

Такім чынам, з 30 пазіцый у дакуменце значацца 9 асоб, пра якіх дакладна вядома, што яны прысягнулі на Люблінскім сейме (№ 2, 6, 8, 12, 14, 17, 18, 19, 29). Плюс яшчэ 1 асоба, якая падпісала акт уніі 1 ліпеня, а значыць, таксама прынесла належную прысягу (№ 1). Дарэчы, наяўнасць у чэрвеньскіх рэестрах непрысяглай шляхты тых асоб, якія ўжо прысягнулі раней на сейме ў Любліне, была адзначана польскім даследчыкам О. Галецкім на прыкладах рэестраў Брацлаўскага і Вінніцкага, Уладзімірскага і Луцкага паветаў[79].

Па адзінаццаці пазіцыях факт своечасовай прысягі можна ўстанавіць з таго, што, згодна з пабаровымі рэестрамі 1570 і 1583 гг., тыя асобы захоўвалі свае пасады і па-ранейшаму працягвалі валодаць маёнткамі ў Крамянецкім павеце; сюды я лічу магчымым уключыць князёў Заслаўскіх і Казірадскіх (№ 3, 4, 5, 7, 9, 10, 11, 13, 15, 20, 22). Далей у рэестры згадваюцца тры асобы, за якіх прысягнулі іх сваякі (не лічачы Багдана Патрыкея Радагосцкага і яго брата Мікалая, гэта № 23, 25, 28). Два чалавекі, якія прысягнулі ў Луцкім павеце (№ 24, 30). Дзве жанчыны, у якіх не было паўналетніх блізкіх кроўных — мужчын, што маглі б прынесці прысягу ад іх маёнткаў (№ 26, 27).

Толькі па дзвюх пазіцыях (№ 16, 21) я не маю ніякіх прамых ці ўскосных звестак пра прыняцце гэтымі асобамі прысягі на вернасць Кароне Польскай. Але, улічваючы, што Якавіцкія і, мабыць, князь Мікалай Яраслававіч былі, відаць, шляхціцамі сярэдняй рукі, для якіх была б адчувальнай і балючай магчымая канфіскацыя маёнткаў і страта сацыяльнага прэстыжу, верагоднасць таго, што яны адмовіліся ад прысягі, бачыцца вельмі малой.

Прымаючы ва ўлік гэтыя аргументы, трэба прызнаць, што выпіс з Крамянецкай гродскай кнігі аб непрысяглай шляхце нельга лічыць дакументам, які б мог сведчыць, што сярод павятовых землеўладальнікаў і службовых асоб існавала нейкае нежаданне прымаць прысягу, выклікаўнае свядомай (і



публічна выражанай) апазіцыяй у адносінах да прылучэння Валыні да Кароны Польскай. Насупраць, дакумент ускосна сведчыць, што па стану на 16 чэрвеня 1569 г. пераважная большасць дробнай і сярэдняй шляхты Крамянецкага павета прыняла і імкнулася прыняць належную прысягу (асабліва гэта бачна з «апавяданняў ад небылых к прысязе»).

На жаль, не вядома, ці быў выяўлены пасля 1932 г. (года выдання «Актаў уніі Польшчы з Літвой») рэестр Крамянецкай шляхты, якая прыняла прысягу. Дзве згадкі пра маёнткі ў Крамянецкім павеце маюцца ў рэестры прысяглай шляхты Луцкага павета. 17 чэрвеня Фёдар Чапліч Шпаноўскі прысягнуў «з Глупонина и теж з Жемелинец, которое мает в суме пенезей (в) Кремянецком повете»; таксама луцкі гродскі суддзя Ціт Хамяк прысягнуў з Крамянецкага маёнтка Гарадзішча[80]. Адным з галоўных землеўладальнікаў у павеце быў, як вядома, сам кароль Жыгімонт Аўгуст, які атрымаў правы на замак, места і вёскі, належачыя да Крамянца, ад сваёй маці каралевы Боны[81].

Разгледжаны дакумент дазваляе высветліць юрыдычную асаблівасць прыняцця прысягі жанчынамі-шляхцянкамі. Прысягаць ад маёнткаў мелі права толькі тыя з іх, для якіх (відаць, як для Грыгоравай Сянюцінай Ляхавецкай пані Мілкі Патрыкееўны альбо Клементовай Войнічавай пані Кацярыны) маёнткі былі спадчыннай (дзедзічнай) уласнасцю. Калі ж маёнтак належаў спадчынным правам памёрламу мужу, то ўдава валодала ім толькі да свайго новага замужжа, пасля якога маёнтак павінен быў перайсці яе дзецям ад першага шлюбу. Гэтая норма вяла пачатак яшчэ ад першага земскага прывілея вялікага князя літоўскага Ягайлы, выдадзенага Літве 20 лютага 1387 г.[82] Відавочна, гэтым тлумачыцца, чаму замест пані Міхайлавай Богавіцінавай пані Ганны («не дзедзічкі»), а таксама замест пані Іванавай Жабакрыцкай Прамчэйкаўны павінны былі прысягнуць ад маёнткаў іх сыны; а замест пані Іванавай Валкоўскай і яе непаўналетняга сына ад маёнтка прысягнуў бліжэйшы сваяк — зяць.

[1] Akta unji Polski z Litwą. 1385—1791 / Wydali St. Kutrzeba i Wł. Semkowicz. Kraków, 1932. № 96, 97, 136, 138 (далей — AUPL).

[2] Дневник Люблинского сейма 1569 г. / Подг. к печати М. О. Коялович. СПб., 1869. С. 179 (далей — ДЛС). Па звестках сеймавага дзённіка — гэта былі Ламазы, Кодзень (?) і Воінь (Łomazy, Hodiniecz, Woin), якія А. Валовіч атрымаў у дзяржанне ад Жыгімонта Аўгуста за грошы, каторыя даў на вайну з Масковіяй (ДЛС. С. 176, 180, 262). Пар. таксама справу аб прысязе Астафея Валовіча і Стэфана Збаражскага з валынскіх маёнткаў і асабліва пазіцыю караля ў гэтым пытанні (ДЛС. С. 387).

[3] AUPL. № 122, 123, 124, 128.

[4] ДЛС. С. 171.

[5] Пар. ліст Жыгімонта Аўгуста да полацкага кашталяна Юрыя Зяноўевіча ад 1569.VII.31: «Жикгимо*нт* Авгу*ст* бо*ж*ю м(и)л(о)*сть*ю коро*л* по*л*ский, велики*й* княз литов*с*кий, | руски*й*, пру*с*ки*й*, жамо*й*тски*й*, мазове*ц*ки*й*, лифля*нт*ски*й* и иныхъ. | Кашталяну земли Поло*ц*кое, старосте Чече*р*скому и Пропо*й*скому, де*р*жавцы Лепе*л*ско-

му | пану Юрю Зеновевичу — даемъ твоей м(и)л(о)сти ведати, иж есмо на тот час з ласки божое | в добром здоровью. При том ознаймуемъ твоей м(и)л(о)сти, же за волею божою з спол|ных [намов] панов рад н(а)ших их м(и)л(о)сти и всих послов земских [пан]ства н(а)ш(о)го | корун[ы Полское з па]ны радами н(а)шими их м(и)л(о)стю и зо вси[ми] станы панства | н(а)ш(о)го Великого князства Литовского на том-то теперешнемъ сойме Любелском | в згоде и м(и)л(о)сти зобуполной обудвух тыхъ народовъ уния вжо ест | дошла. А которымъ обычаем постановене межи собою учинили, на то все, | листы пописавши и печати свои привесивши, собе подавали и присегами | держити то моцно на вечные ч(а)сы ствердили, што все за прозбою обудвух | народов так Коруны Полское, яко и Великого князства Литовского звирхностю | н(а)шою г(о)с(по)д(а)рскою ест умоцнено. А иж твоя м(и)л(о)сть для слушныхъ причин, которые | еси намъ г(о)с(по)д(а)ру писанемъ своимъ ознаймилъ, при застановеню тых справъ | и потребъ зем[ских] велицэ важныхъ быти не могъ, которого бытности | яко рады н(а)шое оного панства н(а)ш(о)го Великого князства Литовского с повинности | и з местца т[воей] м(и)л(о)сти се зде потреба указовала, — ведже, кгдыж вжо тая | справа унии, здавна зачатая, ку концови своему зъ обуполных намовъ ест | застановлена, и поприсяжене на обедве стороне сталося, тогды потребно | есть, абыс и твоя м(и)л(о)сть с повинности своее, яко иные п(а)нове рады н(а)ши | присегами своими тую справу змоцнили, так же нам г(о)с(по)д(а)ру яко королю | полскому и Коруне Полской присегу учинил. Для которое посылаем до твоей | м(и)л(о)сти з стороны корунное столника Подляшского дворанина н(а)шого п(а)на Бартоша Жихорского, | а з стороны панства н(а)ш(о)го Великого князства Литовского писара | и секретара н(а)ш(о)го п(а)на Базилиуса Древинского, при которых на тые вси | артыкулы, в листе, з стороны пановъ рад н(а)ших и всих станов Великого | князства Литовского станом корунным даном, описаные, с которого | препис под печатми н(а)ш(и)ми такъ Коруны Полское, яко и Великого князства | Литовского тым нашим посланцомъ есть дан. Также и присяги кшталтъ | при нем меновите вписан, жебы твоя м(и)л(о)сть водле повинное вѣры | своее ку нам, г(о)с(по)д(а)ру своему, королю полскому и Коруне Полской яко одному и нероз|делному телу и одной сполной речи посполитой присегу уделал. И которым | обычаем тую присегу тые посланцы н(а)ши от твоее м(и)л(о)сти мают приняти, | [*Арк. 1 адв.*] на то им от нас инъструкцыя дана, о чом ведаючи, абы еси во всем том заховался так, | яко иные п(а)ны рады н(а)ши на том сойме в той справе унии скутокъ свой выполнили. | П(и)сан у Люблине, лета бож(его) н(а)рож(енья) 1569, м(е)с(я)ца июля 31 дня. | Матей Савицкий писар» (Па арыгінале на 2 аркушах з Рукапіснага аддзялення Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу. Ф. 293. Воп. 1. Адз. зах. 217. Папера, сляды пячаткі. Экземпляр мае пацёртасці, аднак пашкоджаны тэкст можна лёгка ўзнавіць па сэнсу — кан’ектуры ўнесеныя ў квадратныя дужкі).

[6] AUPL. № 99, 101, 103; Lachowicz S. A. Listy oryginalne Zygmunta Augusta do Mikołaja Radziwiłła Czarnego, wojewody Wileńskiego, marszałka i kanclerza W. X. L. Wilno, 1842. S. 306; ДЛС. С. 190.

[7] AUPL. S. 298, nota 2.

[8] ДЛС. С. 128, 168, 187, 234, 251.

[9] «Tam ieno pan woiewoda a starosta na seymik prziiedzie, a chorąży, y napiszą, czo chczą, y poslyą do ziemyanina w dom, abi się na to podpisał. Jesly nie podpisse, thedy poene kiiową założą…» (ДЛС. С. 290).



[10] Цыт.: Halecki O. Dzieje unii Jagiellońskiej. T. 2. W XVI wieku. Kraków, 1920. S. 293.

[11] Гл.: Semkowicz Wł. Po wcieleniu Wołynia (Nielegalny zjazd w Łucku 1569 r. i sprawa językowa na Wołyniu) // Atenaeum Wileńskie. R. 2, № 5—6. Wilno, 1924. S. 186—188, № 1.

[12] Halecki O. Sejm obozowy szlachty litewskiej pod Witebskiem 1562 r. i jego petycya o unię z Polską // Przegląd historyczny. 1914. T. 18. Zesz. 3. S. 320—352. Для параўнання: у 1569 г. паслам Берасцейскага павета тамтэйшая шляхта наказала не вяртацца з Люблінскага сейму «без якой-кольвек уніі» (Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 7. Собранный в Несвиже и изданный П. Гильтебрандтом и А. Миротворцевым. Вильно, 1870. С. 40, № 24 (далей — АСД).

[13] Адносіны прадстаўнікоў дзвюх партый на Люблінскім сейме да прысягі на вернасць Кароне Польскай, напэўна, найлепей выказаў Хадкевіч у сваім лісце да віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла 31 мая 1569 г.: «Lythwa na prawem jarmarku czo żywo przyssyęga: jedny acz nie radzy, allye muszą, drudzy obviis ulmis do tego byeżą» (АСД. Т. 7. С. 38, № 23).

[14] Henri de Valois et la Pologne en 1572 / Par le marquis de Noailles. T. 3. Documents et pièces justificatives. Paris, 1867. P. 142.

[15] ДЛС. С. 252—253, 257.

[16] Halecki O. Przyłączenie Podlasia, Wołynia i Kijowszczyzny do Korony w roku 1569. Kraków, 1915. S. 148—149.

[17] Halecki O. Przyłączenie … S. 156; АСД. Т. 7. С. 37, № 21.

[18] ДЛС. С. 378—382, 384—385; Halecki O. Przyłączenie … S. 157—161, 166—167; АСД. Т. 7. С. 37, № 22. Гл. таксама: [Lipiński W.] Przysiąga panów wołyńskich na sejme lubelskim 1569 r. // Z dziejów Ukrainy. Księga pamiatkowa ku czci W. Antonowicza. Kijow, 1912. S. 68—74.

[19] AUPL. S. 298.

[20] Ibid. S. 299. Старапольскі тэкст прысягі гл.: Ibid. S. 234. У тэкст прысягі, які прапаноўваўся на Люблінскім сейме ў маі 1569 г. дзяржаўцам сталовых гаспадарскіх маёнткаў, таксама былі ўключаны словы аб прызнанні прыватнаўласніцкіх правоў караля на некаторыя з гэтых зямельных уладанняў у ваяводствах, далучаных да Кароны Польскай: «Nic nie obrażając prawa JKM, które ma na te dzierżawy» (Halecki O. Przyłączenie … S. 161).

[21] AUPL. S. 299.

[22] Ibid. № 139, 140, 142.

[23] Ibid. № 143, 144, 145, 146.

[24] Ibid. № 153.

[25] Ibid. № 141.

[26] Поўны вопіс гэтай кнігі гл: Володимирський гродський суд. Подокументні описи актових книг. Вип. 1. Справи 1—5. 1566—1570. К., 2002.

[27] AUPL. S. 319.

[28] Jabłonowski A. Polska XVI wieku pod względem geograficzno-statystycznym. T. 8. Ziemie Ruskie. Wołyń i Podole // Źródła dziejowe. T. 19. Warszawa, 1889. S. 12 першай пагінацыі (далей — ZD. T. 19).

29 Ковальский Н. П. Источниковедение истории Украины XVI — первой половины XVII в. Ч. 4. Обзор основных отечественных собраний архивных источников. Днепропетровск, 1979. С. 45, 50.

30 Гл.: Демченко Л. Вступ // Володимирський гродський суд … С. 7, заўвага 9.

31 РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Ч. 1. Кн. 583. Арк. 146адв.—148адв. Я працаваў з мікрафільмам гэтай кнігі ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі: КМФ-18. Воп. 1. Адз. зах. 583.

32 Пташицкий С. Описание книг и актов Литовской метрики. СПб., 1887. № IVB27.

33 Документы Московского архива Министерства юстиции / Сост. М. В. Довнар-Запольский. Т. 1. М., 1897. С. 68—69.

34 Гл.: Ковальский Н. П. Источники по истории Украины XVI — первой половины XVII в. в Литовской Метрике и фондах приказов ЦГАДА: Учебное пособие. Днепропетровск, 1979.

35 Арыгінал — у дадзеным выпадку гэты тэрмін выражае статус выпісу не як уласна *тэксту*, а як асобнай катэгорыі юрыдычнага дакумента, які дайшоў да нас у фізічнай захаванасці. У дачыненні ж да першапачатковага запісу ў Крамянецкай гродскай кнізе *тэкст* выпісу, безумоўна, з'яўляецца найбольш ранняй копіяй.

36 Фраза «Бра*т* того Микола*й* учини*л* присягу, бо еще не роз*де*л*ны» прыпісана пазней, чым асноўны тэкст, тым жа почыркам, якім напісаны асноўны тэкст, але напісана больш бегла.

37 У дадзеным слове для літар «м» і «й» ужыты злітны надрадковы знак. Пры транслітарацыі ўлічана, што ў спісе шляхты Луцкага павета за 1569 г. згадваецца «Богуш Промчейко з Дядкович» (AUPL. P. 323).

38 AUPL. S. 324, 341; Volumina Legum. T. 2. Petersburg, 1859. S. 88.

39 ZD. T. 19. S. 26 другой пагінацыі.

40 ДЛС. С. 400; Halecki O. Przyłączenie … S. 167.

41 Гл.: ZD. T. 19. S. 29 другой пагінацыі.

42 AUPL. S. 324, 327.

43 Гл.: ZD. T. 19. S. 33 другой пагінацыі.

44 Ibid. S. 29 другой пагінацыі; Semkowicz Wł. Po wcieleniu Wołynia. S. 188.

45 ДЛС. С. 24; Halecki O. Przyłączenie … S. 161; Volumina Legum. T. 2. S. 87.

46 ZD. T. 19. S. 28 другой пагінацыі.

47 Ibid. S. 134 другой пагінацыі.

48 AUPL. S. 213.

49 ДЛС. С. 387; Halecki O. Przyłączenie … S. 166; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. IX—XVIII ст. / Склалі В. К. Шчарбакоў, К. І. Кернажыцкі, Д. І. Даўгяла. Менск, 1936. С. 561.

50 Halecki O. Przyłączenie … S. 158; AUPL. № 121.

51 AUPL. S. 213.

52 ZD. T. 19. S. 29 другой пагінацыі.

53 Ibid. S. 30 другой пагінацыі.

54 Ibid. S. 27, 127 другой пагінацыі.

55 Halecki O. Przyłączenie … S. 167; Volumina Legum. T. 2. S. 88; АСД. Т. 7. С. 40, № 24.

56 AUPL. S. 327.

57 ZD. T. 19. S. 29, 132 другой пагінацыі.

58 ДЛС. С. 381, 385; Halecki O. Przyłączenie … S. 161.



59 AUPL. S. 327.

60 ZD. T. 19. S. 29 другой пагінацыі.

61 AUPL. S. 327.

62 ДЛС. С. 385; AUPL. S. 327, 355.

63 ДЛС. С. 257; AUPL. S. 323.

64 Lachowicz S. A. Listy oryginalne. S. 303—304; Kaniewska I. Listy króla Zygmunta Augusta do Radziwiłłów. Kraków, 1999. S. 562—563. Пар.: АСД. Т. 7. С. 35, № 20.

65 Halecki O. Przyłączenie … S. 167; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах, Т. 1. С. 561.

66 ZD. T. 19. S. 27, 35 другой пагінацыі.

67 AUPL. S. 326.

68 Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией. Т. 2. Вильна, 1867. С. 212.

69 AUPL. S. 322.

70 Ibid. S. 323.

71 Ibid. S. 329.

72 Гл.: НГАБ. КМФ-18. Воп. 1. Кн. 23. Арк. 67.

73 ZD. T. 19. S. 28, 35, 136 другой пагінацыі.

74 Ibid. S. 36 другой пагінацыі.

75 Jabłonowski A. Polska XVI wieku pod względem geograficzno-statystycznym. T. 9. Ziemie Ruskie. Ukraina (Kijów-Bracław) // Źródła dziejowe. T. 20. Warszawa, 1894. S. 101; AUPL. S. 319.

76 ZD. T. 19. S. 27 другой пагінацыі.

77 ДЛС. С. 378.

78 ZD. T. 19. S. 25, 29, 53 другой пагінацыі.

79 Halecki O. Przyłączenie … S. 169.

80 AUPL. S. 321, 323, 329.

81 ДЛС. С. 252; Ліцкевіч А. Распараджэнні Жыгімонта Аўгуста адносна ўласных гаспадарскіх (вялікакняжацкіх) маёнткаў пасля заключэння Люблінскай уніі 1569 года (два дакументы з 52-й кнігі запісаў Метрыкі ВКЛ) // Metriciana. Т. 3. Мн., 2004. С. 55.

82 Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 25 (1387—1546): Užrašymų knyga 25 / Parengė D. Antanavičius, A. Baliulis. Vilnius, 1998. P. 36.

*Публікацыя А. У. Ліцкевіча*

## «ТУБЫЛЕЦ ВІЦЕБСКІ»: НОВЫ ДАКУМЕНТ З БЫЛОГА АРХІЎНАГА КОМПЛЕКСУ MOSCOWITICA—RUTHENICA (ДЗЯРЖАЎНАГА ГІСТАРЫЧНАГА АРХІВА ЛАТВІІ)

Адным з цікавейшых збораў дакументальных крыніц па гісторыі Беларусі, які знаходзіцца па-за яе межамі, з'яўляецца архіўны комплекс MOSCOWITICA—RUTHENICA, што захоўваецца ў розных фондах Дзяржаўнага гістарычнага архіва Латвіі. У апошняе дзесяцігоддзе гісторыя комплексу прыцягнула пільную ўвагу латвійскіх [1] і беларускіх [2] гісторыкаў, а інтэнсіўная публікацыя яго матэрыялаў распачалася яшчэ ў першай палове XIX ст. і працягваецца ў наш час. Паводле ацэнак гісторыка з Даўгаўпілса Аляксандра Іванова, звыш паловы дакументаў комплексу апублікаваны, пры гэтым высокай ступені паўнаты рэпрэзентатыўнасці крыніц комплексу ў зборніках дакументаў дасягнута ў рамках перыяду XIII — пачатак XVI ст., хоць і тут маюцца прабелы [3]. Так, менавіта раннія дакументы комплексу выклікалі найбольшую ўвагу даследчыкаў, а дакументы другой чвэрці XVI — XVII ст. у значнай ступені не прадстаўлены ў археаграфічных публікацыях. Між тым і ў гэтых храналагічных рамках у матэрыялах архіўнага комплексу MOSCOWITICA—RUTHENICA маецца шмат цікавых крыніц, напрамую датычных гісторыі Беларусі і Вялікага княства Літоўскага. Задача нашай публікацыі — увядзенне ў навуковы ўжытак новага дакумента па зносінах Віцебска і ганзейскага горада Рыгі.

Гэта ліст намесніка віцебскага Паўла Юр'евіча Друцкага-Саколінскага [4] гарадской радзе Рыгі ў абарону віцябляніна Івана Случыніча. У апошняга здарыўся канфлікт з рыжанінам, названым у славянізаванай (старабеларускай) форме як Ярмолка Іванавіч Нурпнік. Нядобразычліўцы выдалі віцябляніна за масквіціна, таму Случыніч быў арыштаваны. Нагадаем, што гэта былі гады Лівонскай вайны і масквіцін як у ВКЛ, так і ў Лівоніі меў статус непрыяцеля. Адначасова дакумент, няхай у лакальным выдатку, сведчыць, што ў другой палове XVI ст. магчыма было атаясаміць віцябляніна з масквіцінам — жыхаром іншай дзяржавы. Зразумела, тут размова ідзе пра здарэнне ў трэцяй краіне, у нашым выпадку — у Лівоніі. Тым не менш гэты асобны выпадак правакуе развагі пра пэўнае падабенства на вонкавым і штодзённым узроўнях жыхароў Русі Вялікага княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы. Мы таксама бачым, як рэгіянальная адміністрацыя ВКЛ аказвала прававую дапамогу сваім грамадзянам па-за межамі краіны.

Увагу прыцягвае вызначэнне Івана Случыніча як баярына. Прадстаўнікі гэтага ваенна-служылага саслоўя таксама папаўнялі гарадскую эліту і асабліва заўважны слой гарадскога насельніцтва яны складалі ў Полацку і Віцебску. Як адзначаў беларускі гісторык Зіновій Капыскі, пасяліўшыся ў



гарадах, баяры, не пакідаўшы мяча, абзаводзіліся бязменам і рамеснымі прыладамі [5]. Гэтыя асаблівыя ваенныя функцыі баяраў у гарадах падкрэслівае таксама наступная характарыстыка Івана Случыніча: «падданы гаспадарскага замку ваяводства Віцебскага».

Незразумелай застаецца адна дэталь дакумента, датаванага 1561 г.: у тэксце гаворка вядзецца пра падзеі год таму — у 1559. Магчыма, тут мы маем справу з пісарскай памылкай, бо версія з рознымі календарнымі стылямі не ўяўляецца праўдападобнай — дакладнае датаванне зроблена ў самім дакуменце.

У вопісе архіва дакумент анатаваны наступным чынам: «1561, Apr. 19. Грамота Витебского наместника Рижскому магистрату с просьбой оказать содействие витеб. мещанину Ивану Случиничу в его тяжбе против Ермолки Ивановича по торговому делу». Як уяўляецца, назва, якую мы прапануем, больш адэкватна перадае змест дакумента.

У аснову перадачы тэксту дакумента пакладзены прынцып палітарнай яго перадачы. Пры гэтым публікатар імкнуўся да дакладнай перадачы літар арыгінальнага тэксту, прытрымліваючыся прынцыпу аўтэнтычнасці — перадачы ўсіх кірылічных літар, што прысутнічаюць у тэксце, у тым ліку і не ўжываныя цяпер. Такім чынам, тэкст выдаецца без купюр і адвольных дапаўненняў, арфаграфія тэксту захоўваецца, словы не скарачаюцца.

Тэкст крыніцы падзелены на словы, сказы і абзацы паводле прынцыпу тэматычнай і граматычнай закончанасці раздзелаў і ў адпаведнасці з фармулярам. Знакі пунктуацыі расстаўлены ў адпаведнасці з сучаснымі правіламі. Прапушчаныя літары ў скарачэннях пад цітламі раскрываюцца з улікам асаблівасцей правапісу старабеларускай мовы. Адноўленыя ў скарачэннях літары падаюцца ў круглых дужках **( )**. Літары **ъ** (ёр) і **ь** (ер) захаваны паўсюль, але пры раскрыцці скарачэнняў не аднаўляюцца. Вынасныя літары і склады ўстаўлены ў радок і перададзены курсівам. Значок «$^{и}$», які ў тэксце пасля галоснай у сярэдзіне і на канцы слова паслядоўна ўжываецца для пазначэння гука «**j**» і пішацца над радком, перадаецца курсіўнай літарай ***й***. Лічбы, якія пазначаны літарамі кірылічнага алфавіта, перадаюцца арабскімі лічбамі. Геаграфічныя элементы тытула пішуцца з вялікай літары, бо ўвесь тытул носіць строга афіцыйны характар. Канец радка пазначаны адной вертыкальнай рыскай «|», канец аркуша пазначаецца дзвюма вертыкальнымі рыскамі «||».

***1561.IV.19*, Віцебск. — Ліст намесніка Віцебскага кн. Паўла Юр'евіча Друцкага-Саколінскага да Рыжскага магістрата ў справе віцебскага баярына Івана Случыніча, затрыманага ў Рызе паводле заявы рыжаніна Ярмолкі Іванавіча Нурпніка.**

*Арыгінал: Latvijas Valsts Vēstures Arhīvs, Rīga (Дзяржаўны гістарычны архіў Латвіі, Рыга). Fonds 673, 4. apr., K-19, № 148.*

*Арк. 2.*

[I]**В**рожεные п(а)новε, при□тεли мои ласкавыи, □ здоровю в(аших) м(илостεй) рад бых[II] | слышал кождого ч(а)сү.

Повεдилъ пεрεдо мною подданый г(оспо)д(а)рь|ский замку воεводства Витεбского имεнεм Иван Случинич, иж дεй будучи | εму тамъ в мεстε Ризском в року прошлом п□тдεс□т дεв□томъ | на вεснε з нεкоторыми мεщаны здεшними витεбскими, ино дεй | мεщанин тамошний ризский имεнεм Ермолка Иванович Нурпникъ далъ | того справу з нεкоторыми товарыши своими пεрεд в(а)ш(ем)и милост□ми, | □ко бы □н мεл быти москвитин. За которою справою εго тогож | ч(а)су поймано и до вεзεн□ □сажоно збитого, израненого и на □н дεй ч(а)съ | нεмалыε шкоды с□ εму стали, то εст згинуло дεй ү нεго полтораста | гривεн.

А □ то в(ашим) м(илостям) □знаймую, иж тот Иван Случинич εст бо□рин прирожε|нεц здεшний витεбский, нεприхожий ч(о)л(о)в(ε)къ, а ни москвитин, чого в(ашим) м(илостям) | ү п(а)нов зεм□н и мεщан здεшних витεбских εго м(и)л(о)сти г(о)с(па)д(а)рьских, которыε | тамъ с товары своими εхали, вывεдати с□ рачитε, иж □н εсть тубы|лεц витεбский. За што в(а)ших м(и)л(о)стεи́ пилнε прошу, иж бы в(аши) м(илости) рачили | εму с тымъ Ермолкою □ то справεдливост слушную и бεз□дволочную | вчинити, жεбы □н в томъ собε нεвиннε □т нεго нε шкодовал. А □ так | жε людεмъ тамошнимъ рижаномъ, которым бы до людεй г(о)с(па)д(а)рь|ских здεшних витεбских такоε дεло было, справεдливости | боронити нε будү.

С тым с□ ласкавой при□зни в(ашим) м(илостям) залεцамъ. |

Писан ү Витεбску лεт(а) Бож(его) нарож(εня) 1561 м(εсε)ца, апрε(ля) 19 | дн□. |

[III]**П**авεлъ Юрεвич Соколинский, | намεстникъ Витεбский[IV]. ‖

*На адвароце (арк. 2 v.):*

[V]**В**ражεным п(а)номъ брат(ь)и и при|□тεлεмъ моимъ ласкавым, | п(а)номъ ратманомъ и всεй Ра|дε □сεлой ратуши мεста | Ризского. |

---

[I] Павялічаная літара.
[II] Так у рукапісе.
[III] Павялічаная літара.
[IV] Тэкст пачынаецца з сярэдзіны радка.
[V] Павялічаная літара.



*На адвароце архіўныя паметы цёмным чрнл., канец XVI—XVIII ст.; прачытваецца:*

Oratto … | … Iwan Slu|czynicz … | … con Jermolka | Iwanowicz 19 Aprilis | Anno 1561. |

***Палеаграфічныя каментары (знешнія прыкметы рукапісу)***

*Арыгінал — А.*

*Папера, карычневае чрнл.*

*Рэгулязаваны скорапіс, выкананы старанна, пісьмо выразнае*[*]*.*

*Моўныя асаблівасці*:

— *для пазначэння гука* **е** *выкарыстоўваецца літара* **ε**;

— *над галосным* **и** *ў пачатку слова ці пасля іншай галоснай, а часта таксама ў такіх жа пазіцыях над галоснымі* **а**, **ε** *і* **ю** *прастаўляецца дужка* ˆ *(цыркумфлекс — знак слоўнага націску)*;

— *фіксуецца літара* **й** *у графічнай форме* **ú** («м(и)л(о)стεú»);

— *у якасці прыназоўніка на месцы* **у** *пішацца* ү.

*Выяўляюцца моўныя беларускія рысы: аканне* («ласкавыи»); *цвёрдае* **р** («товарыши»); *прыназоўнік* **з** («з нεкоторыми»).

*Архіўная нумарацыя аркушаў: (1 — першы аркуш архіўнай тэчкі), 2, 2 v.*

*Памеры (зверху ўправа): 21,7 × 32,2 × 21,9 × 32,3 см.*

*Дакумент згінаўся ў 9 сектараў (2 гарызантальных згібаў, 3 вертыкальных).*

*Схема (выгляд са знешняга боку ліста — арк. 2 v.)*

| | | |
|---|---|---|
| A | B | C |
| D | E | F |
| G | H | I |

*Забруджаны сектары E і F; найбольш забруджаны сект. E (месца размяшчэння архіўнай паметкі канца XVII—XVIII ст.). Гэта паказвае, якім чынам дакумент дасылаўся і захоўваўся ў выглядзе канверта. У сект. F маецца трапецыявідны след (незабруджаны сегмент) ад кустода пячаткі (накладнога кавалку паперы). Падчас захоўвання дакумент згінаўся яшчэ па дзвюх вертыкальных лініях (з правага і левага боку аркуша) і па адной лініі вертыкальна ўнізе (замест ніжняга згібу першапачатковага канверта).*

*Палі асноўнага тэксту: верхняе — 1,8 см; правае — 0,4—1,1 см; левае — 3,5 см.*

*Філігрань*:

*Філігрань — «Дзік»; падобныя гл.: Laucevičius E. Popierius Lietuvoje XV—XVIII a. Atlasas. Vilnius, 1967. № 3647—3701 (1530—1578). Поўнага падабенства філіграні няма, характэрнае рыча філіграні дакумента — іклы дзіка*.

---

[*] Публікацыя факсіміле дазваляе не рабіць падрабязнага апісання пісьма.

*Панцюзо (вертыкальныя лініі на паперы) — 7.*

*Пячаткі*:

*Арк. 2 — сляды ад прыціснутай пячаткі — па баках у левай і правай частцы аркуша па цэнтральнай гарызантальнай лініі. Сляды пячаткі накрываюць гарызантальныя надрэзы паперы (даўжсыня да 1 см). Яшчэ адзін такі надрэз маецца ў сектары E — па адной лініі з іншымі надрэзамі. Праз надрэзы прапускалася палоска паперы, якая змацоўвала канверт ліста. Вертыкальны след ад палоскі паперы захаваўся ў правым адбітку пячаткі.*

*Арк. 2 v. — у ніжнім левым куце сектара E чрнл. пячатка бэзавага колеру* RĪGAS PILSĒTAS VĒSTURISKAIS ARCHĪVS *(Рыжскі гарадскі гістарычны архіў; пасля 1927 — 1930-я гады). Пячатка нанесена бэзавым атрамантам, D 3,4 см.*

*Паметкі і надпісы*:

*У верхняй частцы сект. E гарызантальна размешчаны адрас-інскрыпцыя ліста (1561). Ніжэй — архіўная паметка канца XVI—XVIII ст. (больш цёмным чрнл.).*

*Архіўныя паметкі XX ст. зроблены алоўкам*:

*Бок, дзе знаходзіцца тэкст, пранумараваны ўверсе справа алоўкам: 2; лявей паметка*: 1561 April 19; *пад датамі, напісаных кірыліцай, падпісана*: 1561; 19. *Арк. 2 v. — уверсе злева пранумараваны*: 2 о. б.; *у ніжнім правым куце*: K. 19 | 148.

*Аркуш выкарыстання дакумента:*

XII.1960 Дорошенко;

VI.1967 Хорошкевич;

13.04.2006 A. Dziarnovič («izraksts»);

21.05.2007 A. Dziarnovič («izraksts»).

Л і т а р а т у р а

1. Апублікаваныя вынікі даследавання складаюць ужо немалую бібліяграфію: Ivanovs A. Vēstures avotu kompleksa rekonstrukcijas problēma: kolekcija «Moscowitica—Ruthenica» // *Avoti un cilvēki. Humanitārās fakultātes XIV starptautisko zinātnisko lasījumu materiāli*. Vēsture VIII. Daugavpils, 2004. P. 49—57; Иванов А. С. «Moscowitica—Ruthenica» в Латвийском государственном историческом архиве: история формирования комплекса, состав и введение в научный оборот // *Древняя Русь. Вопросы медиевистики*. 2004. № 3. С. 47—54; № 4. С. 94—106; Ivanovs A. Kompleksa «Moscowitica—Ruthenica» ieviešana zinātnes apritē: arheogrāfisks apskats // *Latvijas Arhīvi*. 2004. Nr. 2. P. 47—85; Иванов А. Проблема введения в научный оборот обширных комплексов источников: коллекция «Moscowitica—Ruthenica» в Латвийском государственном историческом архиве // *XXI век: актуальные проблемы исторической науки*. Мн., 2004. С. 100—101; Иванов А. Реконструкция исторических комплексов источников и возможности повышения их информационной отдачи в исследованиях (Отдел «Moscowitica—Ruthenica» в бывшем архиве Рижского магистрата) // *Общество, государство, верховная власть в России в Средние века и раннее Новое время в контексте истории Европы и Азии (X—XVIII столетия)*. М., 2005. С. 47—49; Кузнецов А. М. К вопросу о датировке списков А и Е торгового договора Смоленска с Ригой и Готским берегом. 1229 г. // *Древняя Русь*. 2005. № 3. С. 44—46; Ivanovs A., Kuzņecovs A. Senākie līgumi ar Smoļensku Latvijas Valsts vēstures arhīvā: datēšanas un atribūcijas jautājumi // *Latvijas arhīvi*. 2006. № 2. P. 51—118; Ivanovs A. Zespół dokumentów «Moscowitica—Ruthenica» w Łotewskim państwowym archiwum historycznym // *Zapiski Historyczne*. T. LXXI. Rok 2006. Zeszyt 2—3. S. 125—143.



2. Дзярновіч А. Гісторыя архіўнага комплексу Moscowitica—Ruthenica Рыжскага магістрата // *Віцебска-Рыжскія акты XIII—XVII стст.*: Дагаворы і службовая карэспандэнцыя паміж органамі кіравання горада Віцебска і ганзейскага горада Рыгі (з былога комплексу *Ruthenica* Дзяржаўнага гістарычнага архіва Латвіі). Вып. I: Дакументы гаспадарча-гандлёвыя, XV—XVI стст. / Падрыхтаваў Алег Дзярновіч. Мн., 2005. С. 10—19; Ён жа. Архіўны комплекс *MOSCOWITICA—RUTHENICA* (Дзяржаўны гістарычны архіў Латвіі) і яго важнасць для вывучэння гісторыі Беларусі.
3. Иванов А. С. «Moscowitica—Ruthenica» в Латвийском государственном историческом архиве: история формирования комплекса, состав и введение в научный оборот // *Древняя Русь. Вопросы медиевистики*. 2004. № 4. С. 106.
4. Друцкі-Саколінскі Павел Юр'евіч (каля 1500—1575), гербу «Друцк»; намеснік віцебскі (спраўца ваяводаў віцебскіх С. Кішкі (у 1545—1556) і С. Збараскага (у канцы 1556—1561), падкаморы віцебскі (пачатак 1566); ротмістр ВКЛ (IX.1562), маршалак аршанскі (6.IX.1569, адначасова з падкаморствам віцебскім). Уладальнік часткі маёнткаў Саколіна, Ульяноўшчына (Аршанскі пав.), Бабча, Бешанковічы (Полацкае ваяв.); у 1565 г. атрымаў на ленным праве маёнткі Лугінавічы і Рубеж у Полацкім ваяв. Заснавальнік галіны ленных уладальнікаў Лугінавічаў. (Boniecki A. *Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku*. Warszawa, 1887; Niesiecki K. S. J. *Herbarz Polski, powiększony dodatkami z poźniejszych autorów, rękopismów, dowodów urzędowych i wydany przez Jana Nep. Bobrowicza*. T. III. Lipsk, 1839. S. 409; Wolff J. *Kniaziowie litewsko-ruscy od końcu czternastego wieku*. Warszawa, 1895. S. 467; Boniecki A. *Herbarz polski*. Cz. 1: Wiadomości historyczno-genealogiczne o rodach szlachieckich. T. V. Warszawa, 1902. S. 39—40; Uruski S. *Rodzina, herbarz szlachty polskiej*. T. III. Warszawa, 1906. S. 265; Нарбут А. Н. *Генеалогия Белоруссии*. Вып. 2. М., 1994. С. 100—103. № 6; Lulewicz H. Sokoliński (Drucki Sokoliński) Paweł // *Polski słownik biograficzny*. T. XL/1, z. 164. Warszawa; Kraków. 2000. S. 49—50; Насевіч В. Л. Друцкае княства і князі Друцкія // *Друцк старажытны: Да 1000-годдзя ўзнікнення горада*. Мн., 2000; Ён жа. Друцкія-Саколінскія // *Вялікае княства Літоўскае*: Энцыклапедыя: У 2 т. Мн., 2005. Т. 1. С. 602).
5. Копысский З. Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Мн., 1975. С. 68—69.

*Публікацыя А. І. Дзярновіча*

# ТАСТАМЕНТ ГАЛЬШКІ ЯЎФІМІІ РАДЗІВІЛ З КНЯЗЁЎ ВІШНЯВЕЦКІХ (1569—1596)

Гэта праца — публікацыя тастамента Гальшкі Яўфіміі Радзівіл з роду князёў Вішнявецкіх, жонкі знакамітага Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі, уладальніка Нясвіжа і першага нясвіжскага ардыната. Агульнавядома, якую важнасць уяўляюць тастаменты людзей, што жылі ў XVI—XVIII стст. Таму і публікуюцца яны досыць часта, нават складаюць асобныя зборнікі [1; 2]. Але і ў іншых выданнях можна ўказаць на публікацыі вельмі цікавых тастаментаў XVI—XVII стст. [3] (тастамент віленскага біскупа Валерыяна Пратасевіча). Маюцца і аглядныя працы [4—7]. Цікаўны чытач знойдзе ў тастаментах інфармацыю пра тагачаснае штодзённае жыццё, матэрыяльную культуру, зямельныя ўладанні шляхты, ментальнасць людзей, рэлігійную сітуацыю, генеалагічныя звесткі і шмат іншага. Значэнне тастаментаў як гістарычнай крыніцы даўно ацэнена гісторыкамі.

Гальшка Яўфімія Радзівіл з роду Вішнявецкіх у палітычным і культурным жыцці Вялікага княства Літоўскага знаходзілася ў цені свайго знакамітага мужа. Не імкнучыся адыгрываць самастойную ролю на гістарычнай арэне, яна была, як цяпер прынята казаць, надзейным тылам свайго мужа. Ён гэта вельмі цаніў.

Гальшка Яўфімія нарадзілася ў сям'і князя Андрэя Іванавіча Вішнявецкага і Яўфіміі Юр'еўны Вярбіцкай [8, s. 567—569]. А. І. Вішнявецкі быў спачатку кашталянам валынскім, потым — брацлаўскім, з 1576 г. — ваяводам валынскім. Ён памёр кальвіністам. Кальвіністкай была спачатку і яго дачка Гальшка Яўфімія. На каталіцтва яе схіліў муж у канцы 1586 г. [9, s. 144]. Дата нараджэння Г. Я. Радзівіл — 1569 г. [8, s. 569]. Яе шлюб з М. К. Радзівілам Сіроткам адбыўся ў в. Дзераўной 25 лістапада 1584 г. [9, s. 129. Przyp. 114] (у літаратуры сустракаецца і памылковая дата — 24 лістапада 1584 г. [8, s. 569]. М. К. Радзівіл Сіротка палічыў патрэбным паведаміць пра мяркуемы свой шлюб з некаталічкай папскаму нунцыю А. Баланьецi і самому рымскаму папу Рыгору XIII, просячы блаславенне. Сіротка тлумачыў папу, што на Літве цяжка знайсці ў гэты час нявесту з добрага роду і каталічку. Папа благаславіў шлюб. Гальшка Яўфімія нарадзіла мужу дзевяцера дзяцей. Памерла ў г. Белая на Падляшшы 9 лістапада 1596 г., маючы толькі 27 гадоў [8, s. 569; 9, s. 246].

Тастамент складзены 1 жніўня 1594 г. у Нясвіжы. Пэўна, маладая жанчына цяжка хварэла, раз вырашыла пісаць тастамент, але пра сваю хваробу нічога не паведаміла. Пасля яе смерці тастамент быў яўлены ў гродскі суд Навагародскага ваяводства і 7 снежня 1596 г. запісаны ў актавую кнігу. У выглядзе выпісу з гэтай актавай кнігі тастамент захаваўся да нашых дзён у Радзівілаўскім архіве (Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску, ф. 694, воп. 4, адз. зах. 1648, арк. 3—8). Прычым ён падшыты ў даўнюю архіўную справу, дзе сабраны дакументы пра заснаванне М. К. Радзівілам Сіроткам Сталавіцкай камандорыі



Мальтыйскага ордэна. Справа ў тым, што ў склад камандорыі Сіротка ўключыў маёнтак Пацейкі, а гэта было родавае ўладанне яго жонкі, якую Гальшка Яўфімія перадала мужу ў поўную ўласнасць. Месцазнаходжанне аўтэнтыка тастамента невядома. Калі лічыць аўтэнтык першым экземплярам, то запіс у актавай кнізе — другі экземпляр, друкуемы выпіс — трэці экземпляр. Выпіс афармлены на старабеларускай мове, але сам тастамент напісаны на польскай мове. Пахавана Гальшка Яўфімія Радзівіл з роду Вішнявецкіх у сутарэннях Нясвіжскага касцёла Божага Цела, як і прасіла ў тастаменце.

Правілы публікацыі польскамоўных дакументаў Беларусі XV—XVIII стст. дасюль не вызначаны. Існуюць польскія археаграфічныя інструкцыі, якія рэкамендуюць мадэрнізацыю мовы дакументаў [10; 11]. Для Беларусі гэта з'яўляецца непрымальным, бо менавіта ў адступленнях ад унармаванай польскай мовы праяўляліся моўныя асаблівасці мясцовага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага. Гэта публікацыя — спроба намацаць шлях, найбольш прымальны для публікацыі польскамоўных дакументаў часоў ВКЛ. Яна зроблена з максімальным набліжэннем да напісання арыгінала, знак у знак. Нават скарачэнне на канцы слоў «e$^{o}$», якое звычайна перадаюць як «ego», у гэтай публікацыі захавана. Кірылічны тэкст перадаецца спрошчана. Вынасныя літары ўстаўлены ў радок і даюцца курсівам; цітлы раскрываюцца, устаўленыя літары даюцца ў круглых дужках; літары, што выйшлі з ужытку, замяняюцца на сучасныя. Паралельна дадзены пераклад на сучасную беларускую мову. Усе прапановы калег па ўдасканаленні публікацыі польскамоўных дакументаў будуць з удзячнасцю прынятыя. Публікацыя тастамента забяспечана некаторымі тлумачэннямі, што дазваляе лепш арыентавацца ў тэксце дакумента.

Літаратура


1. Borkowska M. Dekret w niebieskim ferowany parlamencie: Wybór testamentów z XVII—XVIII wieku. Kraków, 1984. 210 s.
2. Augustyniak U. Testamenty ewangelików reformowanych w Wielkim Księstwie Litewskim. Warszawa: Semper, 1992. 252 s.
3. Antanavičius D. Vilniaus vyskupo Valerijono Protasevičiaus 1579 m. kovo 26 d. testamentas // Lietuvos istorijos metraštis, 2005 metai. Vilnius: LII leidykla, 2006. [T.] 1. P. 115—144.
4. Aleksandrowicz-Szmulikowska M. Radziwiłłówny w świetle swoich testamentów: Przyczynek do badań mentalności magnackiej XVI—XVII wieku. Warszawa: Semper, 1995. 66 s.
5. Anužytė L. Žemaitijos bajorų testamentai XVI a. pabaiga — XVII a. pradžia // Lietuvos istorijos metraštis, 1997 metai. Vilnius: LII leidykla, 1998. P. 119—142.
6. Сліж Н. Шляхецкія тэстаменты 16 — пачатку 18 ст. / Н. Сліж, М. Гардзееў // Гістарычны альманах. Гародня, 2000. Т. 3. С. 90—110.
7. Зялецкая В. Адносіны вернікаў усходніх абрадаў у Рэчы Паспалітай да смерці, пахавання і вечнага жыцця ў святле тэстаментаў 16—18 ст. // Гістарычны альманах. Гародня; Беласток, 2005. Т. 11. С. 122—145.

8. Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. XXV, [1], 698 s.
9. Kempa T. Mikołaj Krzysztof Radziwłł Sierotka (1549—1616), wojewoda wileński. Warszawa: Semper, 2000. 381 s.
10. Instrukcja wydawnicza dla źródeł historycznych od XVI do połowy XIX / Red. K. Lepszy. Wrocław, 1953. 100 s.
11. Zasady wydawania tekstów staropolskich: Projekt / Oprac. J. Woronczak. Wrocław: Zakł. Nar. im. Ossolińskich, 1955. 184 s., [20] s. tabl.

* * *

**Тастамент княгіні Гальшкі Яўфіміі Радзівіл. 1594 г. жніўня 1. Нясвіж.**

Выписъ с книгъ кгро*д*ски*х* замку г(оспо)д(а)ръского Новгоро*д*ского.

Лета о*т* нароже*н*я Сына Бо*ж*его тисеча пе*т*со*т* деветьдеся*т* шостого м(е)*с*(я)ца декабра семого дня.

На рочкохъ судовыхъ кгро*д*скихъ, в року теперешнемъ деветьдеся*т* шостомъ в м(е)*с*(я)цы декабри у Новагоро*д*ку сужоныхъ, пере*д* нами, Федоро*м* Богушо*м*, во*и*скимъ его королевское м(и)л(о)*с*ти и наместникомъ, а Есифо*м* А*н*дреевичо*м* Голубо*м*, судьею, и Криштофо*м* Узловски*м*, писаро*м*, вра*д*никами судовыми кгро*д*скими новгоро*д*скими о*т* ве*л*можъного п(а)на его м(и)л(о)*с*ти п(а)на Теодора Скумина, воеводы новгоро*д*ского, старосты городе*н*ского и оли*т*ского, постановившисе очевисто служебни*к* вельможного п(а)на его м(и)л(о)*с*ти п(а)на Миколая Криштофа Радивила, кн(я)ж(а)ти з Олыки, на Несвижу, воеводы троцкого па*н* Во*и*техъ Пе*р*шко, оповедалъ и поклада*л* име*н*немъ его м(и)л(о)*с*ти тестаме*нт* зме*р*лое п(а)ни Галишки Еуфемеи з Вишневца, воеводиное тро*ц*кое, менуючы, што же де*и* все тое, што ко*л*векъ и*х* м(и)л(о)*с*ть собе з обу*д*ву*х* сторо*н* по дате того тестаме*н*ту записами, во*д*ле права справлеными и на враде сознанными зъ стороны мае*т*ности лежачое и рухомое, иначе*и* нижъ в томъ тестаме*н*те описано е*ст*, варовали в зупо*л*но*и* моцы, во*д*ле запису зоставати мае*т*. И проси*л* па*н* Во*и*те*х* Пе*р*шко именемъ его м(и)л(о)*с*ти п(а)ни ма*л*жо*н*ки его м(и)л(о)*с*ти до кни*г* кгро*д*скихъ новгоро*д*скихъ бы*л* уписа*н*. Которо*и*, до кни*г* уписуючи слово в слово, такъ се в собе мае*т*.

W ymię Swiętei y nierozdzielnei Troice, Boga Oica, y Syna, y Ducha Swiętego, ktory w taiemnicy swei ma liczę dni naszych y godzine wie rozłączenia kazdego człowieka s tym mizernym || [3адв.] swiatem. Przeto ia Halszka Euphemia z Wiszniowca Radziwiłowa, xięzna na Ołyce y Nieswizu, woiewodzina trocka, będąc na ten czas na umyslie y na ciele z łaski Bożei zdrową, alie czuiąc sie byc człowiekiem, a wiedząc ten decret na wszystek swiat wydany, ze kto sie rodzi umrzec musi, nie wiedząc też czasu y godziny i ktorei Pan moy s tei nędzy swiata mnie powolac będzie raczył, testamentem moym, ktory z dobrym rozmysłem y z dobrym za łaską Bożą rozumem czynie, oznaimuie y tak go zaczynam. Naprzod:

Gdy z woli Bożei dusza moia s ciałem rozłączona będzie unizenie Je$^{o}$ X M mego młscwego Pana małżonka y dobrodzieia proszę, aby ciało moie grzeszne pochowano było w Nieswiżu, w koscielie Bożego Ciała oicow jezuytow, w caplicy Swięte$^{o}$ Krzyża, gdzie też y sobie po smierci swey mieisce naznaczył. A prosze pokornie, aby s ciałem moym żadnych ceremoniey nie czyniono, alie aby mnie poprostu schowano tak iako katoliczkę zwyczainymi modlitwami koscielnymi, tak iako y przy każdem ubogiem pogrzebie catolickim dzieie. Axamith, ktory niepotrzebnie zwykł bywac na trunach, prosze, aby na moiey nie był, jeno prosze sukno y płotno. Gdysz pożytecznieisza to mnie będzie, ze się to obroci na modlitwę za grzeszną duszę moie, anisz na te niepotrzebne cerimonie, ktore sie ninacz niezeidą, jeno na prożnosc tego swiata, o e$^{o}$ ia nie dbaiu. Ciału memu, aby nie dopuszczono długo stac, alie aby ię iako naprędzei schowano, nie sproszywaiąc nikogo, ani tesz długo czekaiąc na ziachanie powinnych moych. Gdyż dosyc na tym zesie ym oznaimi o zeszciu moym Iei Mcz Pani woiewodziną witeska siostra moia, będzie li poblizu, zyczyła b ym tego, aby była na pogrzebie moim, także y inszy powinni moy, ktorzy by byli poblizu w tym kraiu. Ale iesli by rychło sie nie || [4] ziechali, tedy nie trzeba ich s pogrzebem moim czekac, y owszem, prosze, aby ciało moie rychło było pochowane. A to się na tę powinne moie rozumiec ma siostry moie rodzone y bracia Ich Msc Panowie Zawiszowie, gdysz a co za pożytek s tego, gdy na swiecie ciało długo niechowane stoy, iedno zawada domowym sprawom a zatrudnienie wielu rzeczom. Niech że mi tedy Jego X Msc przy wielu ynszych dobrodzieistwach swych, ktorem ia niezliczone od Ie$^{o}$ X Msci nad wszystki zasługi moie za żywota swego brata y teras tę łaską swą pokaże, aby tei prozbie mei dogodził y ciało moie tak roskazał pochowac, iako to wyszei dołożyła. Gdyż pewnam te$^{o}$, ze każdemu bacznemu to podobac się będzie, ysz się tei prozbie mei dogodzi, a nieprzyaciel choc by dobrze i chciał, co o tem mowie y przypisac to, czemu insze, tedy na to dbac nie trzeba, poniewasz oni zwykli iako na swiecie i w dobrey rzeczy ludziom dawac przyganę. A osobliwie y o to prosze, aby żebracy ciało moie do grobu niesli.

A co się dotycze maiętnosci mei, naprzod ysz mam sumy na ymieniu Korelickim w powiecie nowogrodzkim liezącem, pewnymi zapisy prawnie warowanei, cztery tysiące kop groszy litewskich. A osobliwie, co mi tesz na list swoi chocasz na urzędzie nie zeznany Je$^{o}$ Msc Xiąże Jerzy Iwanowicz Czartoryski został winien, com za niego przy okupieniu tego ymienia Korelickiego Panu Michałowi Fronckowiczowi, płacąc wydatki iego na potrzebę tego ymieniu, czynie y długi poddanych korelickich pięc set kop groszy litewskich, zapłaciła. Tedy s tei wszystkiei sumy, s czterech tysięcy y piąti set kop groszy, zapisuię trzem corkom moim, ktore mi Pan Bog dał. A isz z woli Je$^{o}$ swiętey || [4адв.] iestem brzemienna, a dał by mi Pan Bog y czwartą corkę, tedy opisuie wszytkim czterem corkam moim dwa tysiąca y dziewięc set kop groszy litewskich. A iesli by tym brzemieniem nie corka, ale syn był, tedy przed się ta suma wszytka dwa tysiąca i dziewięc set kop groszy litewskich ma bydz y zapisuię tym trzem corkam moim Halszce, Krystynie y Katarzynie, w iakim żeby kolwiek stanie, albo w duchownem klasztorze, albo zamężem Pan Bog chciał ich miec.

S tei że sumy korelickiei wyszey mianowaniei zapisuię na budowanie koscioła swiętei Katarzyny, ktory ma bydz murowany w Nieswiżu dwiescie kop groszy litewskich. A osobliwie na budowanie klasztoru oicom barnadynom, ktorzy także w Nieswiżu ma byc przy koscielie swiętei Katarzyny, zapisuię s teiże sumy korelickiei tysiąc kop groszy litewskich, prosząc generała reguły bernadynskiei o rzecz słuszną, aby z ramienia swego iako starszy zliecił, żeby bernadyni nieswiżcy w koscielie swym nieswizskim na każdy tydzien w piątek albo w poniedziałek przenafaciebnieiszą offiarę mszą swiętą za grzeszną duszę moie miewali zawsze, pewnam, isz to ym ciężko nie będzie. Alie iesli by do tego nie przyszło, to iest jesli by barnadyni tego tu mieisca w Nieswizu przyąc y klasztoru abo braci swei tu miec niechcieli, tedy tesz ym ta suma tysiąc kop groszy naliezec i dawana byc nie ma, alie zliecam to szafunkowi Ie$^{o}$ Xiążecey Młsci Pana y małżonka mego młscwe$^{o}$, aby Je$^{o}$ X Msz obrocił tą sumę na iaki pobożny uczynek, bądz to na klasztor abo na kosciol iaki, a zgoła, yako się Je$^{o}$ X Mczi widziec będzie.

S tei żu sumy korelickiei, wyszei pomienionei zapisuię || [5] na kosciol nieswizski jezuitski, a mianowicie do caplice, gdzie iest ołtarz Swiąte$^{o}$ Krzyża uprzywileiowany na ochądozstwo, to iest na apparaty albo na siebro koscielne, czego obaczę byc wiątszę potrzebą, czynięc to za radę y wiadomoscię Je$^{o}$ X Mczi, pewnę summą, to iest dwiescie kop groszy litewskich, proszęc oicow jezuitow, aby zwłaszcza u tego uprzywileiowanego ołtarza przy naswiątszei offierze nie zapominali grzesznei duszy mei.

K temu z tei ze sumy korelickiei wyszei pomienionei zapisuie panom zakonny w nieswizskim klasztorze mieszkaięcym reguły swiątego Benedycta, na kosciol nowy swiątei Euphemiey tak że na apperaty albo na srebro, iakę potrzebą obaczę, także za wiadomoscię i radę Je$^{o}$ X Mczi to czynięc, co uczynie zechcę, dwiescie kop groszy litewskich, pewna tego bądęc, że mie w modlitwach swiątobliwych swych zapaminac nie bądę.

Ktorę to sume cztery tysiece y piącset kop groszy litewskich ma Je$^{o}$ Xięząca Młsc Pan małzonek y dobrodziei moi swymi pieniedzmi dac. A w tei summie pieniądzy to zwysz pomienione ymienie Korelicze ze wszystkim tak iako sie w sobie ma, z dworem, z pasznię dworney, z miastem, z sioły, z boiary, s mieszczany, z poddanymi sielskimi, oiczyznemi y przychożemi, y z ogrodnikami, y ze wszelakimi ich powinnosciami i pożytkami tego imienia, nic s niego nikomu ynszemu nie wymuięc, ani zostawuięc prawem moym, iako własnie mnie nalieży, dzierzec y używac, asz do oddania sumy tei czterech tysiący y pięciseth kop groszy litewskich od tego, komu by to wiecznoscię to ymienie Korelicze nalieżało. A iesli || [5адв.] by u samego Je$^{o}$ Msczi za żywota Je$^{o}$ Mczi tego imienia Korelickiego nie okupiono, tedy po żywocie Je$^{o}$ Msci potomkowie Je$^{o}$ Mczi abo ten, komu by to od Je$^{o}$ Mczi zapisano było, ma to ymienie w wyszei pomienioney sumie pieniądzy tak że asz do oddania tei sumy pieniądzy dzierzec. Aze chceli Je$^{o}$ Mscz Pan małzonek moi sam to ymienie Korelicze wiecznoscię kupic, to Je$^{o}$ Msczi wolno bądzie, albo iesli bym ia, maięc z laski Bożei przedłużenie żywota tą maiątnosc imienie Korelicze wiecznoscię na sią



kupiła, a zeszła bym z tego swiata nieodprawiwszy tych pobożnych uczynkow wszytkich, abo ktorych s tych pomienionych, albo nie opatczyła bym zostawieniem na to gotowei sumy po sobie, tedy przed sią tą sumą cztery tysięce y piącset kop groszy litewskich po żywocie moim Je$^{o}$ Xiężąca Młsc na te pobozne uczynki swymi pieniądzmi założyc y w tei summie pieniądzy to ymienie Korelicze dzierzec ma asz do oddania tych pieniądzy, iako sią to wyszei pomieniło.

A co sie dotycze sumy to iest szesci tysiący kop groszy litewskich, ktorę miałam od Je$^{o}$ Xiężecei Młsci Pana małżonka y dobrodzieia mego na ymieniu Je$^{o}$ Xiężącei Mlsci Swierźnie w powiecie nowogrodzkim y mieńskiem liezęcem, prawnie wniesionę y opisanę, tedy te summą pomienionę wszytką szesc tysiący kop groszy litewskich Je$^{o}$ Xiężecei Mczi Panu małżonkowi moiemu wyszei pomienionemu daruią y tym testamentem zapisuią, wiecznie s niey wyrzekam sią y od niei Je$^{o}$ Xięzecę Młsc y potomstwo Je$^{o}$ Xiężecei Młsci tak że to ymienie || [6] Swierżeńskie wiecznemi czasy wolnemi czynie, osobliwie maięc przed oczyma wielkie dobrodziestwa Je$^{o}$ Xiężącei Mczi Pana małżonka mego ku sobie.

A chcąc ie wyznac y oswiadczyc, tedy na wszystkim ymieniu moim Derewienskiem w powiecie mienskim liezącym, tak iako sie mnie z rownego wieczystego działu od zch Mczi pań siostr moich rodzonych przeciwko części im zostałych, w częsc moie dostało, nic s niego nie wymuiąc ani zostawuiąc zapisuię Je$^{o}$ Xiążęcei Mczi osm tysięcy kop groszy litewskich, tym sposobem, yz w tei sumie pienię̨dzy to wszystko ymienie Derewienskie, tho iest dwor Derewienski z folwarkiem Chotową y z folwarkiem Ostrowem. Gdysz na ten czas w tem ymieniu za zepsowaniem przez mię folwarku Dereżenskie$^{o}$ folwarkow więcei niemasz, z miastem Derewienskiem, z sioły do tego dwora y do tych folwarkow nalieżącymi, z ziemiany szlachtą, z boiarmi, z mieszczany i ze wszystkimi y wszemi poddanymi miesckiemi y sielskiemi, z ogrodnikami y s powinnosciami ych wszelakimi, s pasznią dworną, z zbożem wszelakim, młoconym y niemłoconym, z gruntami dwornymi y z gruntami ziemian szlachty, także boiarskimi, miesckimi, sielskimi pasznymi i niepasznemi, z stawy, z młynami y z ich wymiełki, z ieziormi, z sianożęcmi, z dąbrowami, s puszczą, z łowy zwierzynnemi, rybnemi y ptaszemi, y z bobrowemi gony, y ze wszytkimi y ze wszelakimi pożytkami y wchodami || [6адв.] tak ysz pomienione niepomienionemi, a niepomienioni pomienionemi, prawa i władnosci vimować y nic szkodzic nie ma i nic nie będzie, ma Je$^{o}$ Xiązeca Msc Pan małzonek moi nie inaczei jeno iako własnosc swą y iako mnie samei należało, ze wszystkim na wszystko na siebie dzierżec y uzywac asz do oddania Je$^{o}$ Msci od te$^{o}$ komu wiecznosc te$^{o}$ ymienia należec będzie tei wszystkiei sumy pienię̨dzy osmi tysięcy kop groszy, ktorą summę wolno Je$^{o}$ Msci komu chcąc zapisac. A iesli by Je$^{o}$ Msc nikomu tei sumy pienię̨dzy nie zapisał, a to by imienie za zywota Je$^{o}$ Mczi od Je$^{o}$ Mczi okupione nie było, tedy komu by po Je$^{o}$ Mczi prawem przyrodzonym naliezało, ten to imienie ma dzierzec y uzywac tak że asz do oddania tei wszystkiey sumy pieniedzy. A ten, komu wiecznosc tego imienia należec będzie iak od samego Je$^{o}$ Xiążece Mczi, tak od te$^{o}$, komu by od Je$^{o}$ Xiążecey Młsci ta suma zapisana była po temuszy od tego, kto by od Je$^{o}$ Xiązęcei Mczi

bez opisu prawem przyrodzonym w tei sumie pieniędzy to ymienie trzymał, nie odłożywszy tei wszystkiey sumy pieniędzy osm tysięcy kop groszy litewskich, nie ma tego ymienia brac, y niiakiei przekazy w dzierzeniu y używaniu dzierzących przyczynami tak prawnymi iako i nieprawnymi czynic, a tak że y oddawszy tę sumę pieniędzy spustoszenia y niiakich szkod na tych wszystkich pożyskiwac nie ma wiecznemi czasy. Gdysz dzierzenie y używanie tego ymienia Je$^{o}$ Xiązecei Młsci y ynszym, komu po Je$^{o}$ Xiążecey Młsczi || [7] należec będzie do oddania tei sumy pieniędzy tak opisuie iako własnie mnie samei naliezy.

Nad to temuż Je$^{o}$ X Mczi Panu małżonkowi memu zapisuię ymienie w powiecie nowogrodzkim liezące Pocieikowicze y sumę pieniedzy na tym imieniu Pocieikowskim osm set kop groszy litewskich tym sposobem, że Je$^{o}$ Xca Msc tego wszystkie$^{o}$ ymienia Pocieikowskiego ze wszystkim na wszisto, iako sie mnie od ich Mczi Pań siostr moich przeciwko częsci Ych Mczi zostałych rownym wieczystym działem w częsc moie zostało, ma wedla woli y wszelakie$^{o}$ podobania swego, iako własnosc swą y iako własnie mnie nalieżało uzywac do nadalsze$^{o}$ żywota swe$^{o}$ będąc wolen tę sumę pieniędzy osm set kop groszy litewskich na tem ymieniu moim tak przy żywocie moim iako i po żywocie komu chcąc zapisac, a ten, komu wiecznosc te$^{o}$ ymienia nalieżec będzie, iak za dzieczenia Je$^{o}$ Xiążecei Msci do żywota Je$^{o}$ Mczi, tak i po żywocie Je$^{o}$ X Mczi temu, komu by to po Ie$^{o}$ X Mczi nalieżało nie odłożywszy tei sumy pieniędzy nie ma sie niiakimi przyczynami tak prawnymi iako y nieprawnymi w to ymienie wstępowac y przekazy w dzierzeniu y używaniu czynic, a tak że y zapłaciwszy tą sumę pieniędzy spustoszenia tego ymienia y niiakich szkod pozyskowac nie maią wiecznemi czasy, poniewasz ia dzieczenie y używanie tego imienia mego do żywota Je$^{o}$ Xiązecey Mczi, a po żywocie Je$^{o}$ X Mczi komu wedle prawa nalieżec po Je$^{o}$ Mczi będzie do oddania tei sumy pieniędzy nieinaczei iedno, iako mnie samey dzierzec y używac nalieżało.

Tak opusuie, a y [?] zem do tego czasu na kosciоł y plebanią derewienską || [7адв.] funduszu nie dała y nie zeznała go tak, iako prawo chcę, tedy przyczyna ta, że odmiana w tych niedawny obczasiech działa sie z xiędzem plebanem, zatym tesz połog moi przybliżał sie, zem z domu odieżdzac nie mogła. Przeto iesli by mie Pan Bog s te$^{o}$ swiata powołał przed sprawieniem funduszu, wkładam ta na te$^{o}$, komu sie Derewna po mnie wiecznoscią dostanie, obowięzuiąc go pod błogosłowienstwem Bożym y pozywaiąc go na sąd Boży, gdy by te$^{o}$ uczynic nie chciał, aby bez zadnei odwłoki y nie mieszkaiąc fundusz dostateczny oprawił na to wszystko, co sie kosciołowi z odmiany odemnie naznaczyło, i s tym, co sie ieszcze sianożęci przydac odemnie ma, o czem Pan Woiciech Pierszko dobrze wie, gdys sie to przezeń odprawić miało. A dawszy fundusz, aby zeznał tak, iako prawo potrzebnie, s tym dokładem ysz gdzie by sie w czem kosciołowi derewieńskiemu odemnie w odmiane moiei teraznieiszei wzglądem tego, co było pierwiei od niebożczki Paniei matki moiei naznaczono nie dosyc działo, albo pokazał li by to słusznie xiądz pleban, ze kosciоł s terznieiszei odmiany krzywdą ma, tedy proszę, aby mu sie wszytko nagrodziło, bądz gruntem, bądz też czym kolwiek, czego by



obaczył bydz potrzebe kosciołowi. Gdysz nie swoie daiemy Bogu, alie ie$^{o}$ własnie, ktore iedno do czasu w swym szafunku mamy.

Z strony sług moich, tak białych głow iako i męszczyzn, ktory na służbie przy mnie sie bawią, uniżenno Je$^{o}$ Xiązecei M. proszę, aby z dochodow, ktore z ymion moich przypadac tego roku będą, tak były odprawione, iako bym od nich po smierci mei nie złorzeczeństwo, alie modlitwę miała, a mianowicie według reiestru, ktory iest, osobliwie ręką moią pisany.

A tu insz zawieraiąc ten moi testament a poruczaiąc Panu Bogu siebie samą, zdrowie i wszystkie sprawy moie, aby on rozrządzac || [8] raczył, tak iako sie Je$^{o}$ swiętei młsci podoba y iako nalepiei widzi wprzod z fatą swą swiętą po tym z dobrym moym yzbawieniem duszy moiei, tedy ten testament moi podpisuie ręką moią własną y pieczęc moie do tego testamentu mego przyłozyłam. A przy tem byli y będąc tego dobrze wiadomi za ustną i oczewistą prozbą moią pieczęci swe do tego testamentu mego przyłożyli y rękoma swymi podpisać sie raczyli zacnie urodzeni ych mcz Panowie Pan Jozeph Hołownia, sędzia ziemski nowogrodzki, Pan Jarosz Komor a Pan Kostanty Hrehorowicz Zaliwaka, ziemianie y obywatelie W$^{o}$ Xtwa Litewskie$^{o}$. Pisan w Nieswiżu, dnia piersze$^{o}$ miesiąca Augusta roku od Narodzenia syna Bożego tysiąc pięc set dziewiędziesiąth czwartego.

У того тестаме*н*ту печате*и* прити*с*неныхъ чотыри. А по*д*писи рукъ по*д*писаны суть словы:

Halszka Eufemia z Wiszniowca Radziwiłowa ten testament podpisałam ręką moią własną.

Печата*р* устне прошоны*и* Есифъ Головня до того те*с*таме*н*ту руку свою по*д*писалъ.

Pieczętarz ustnie proszony do tego testamentu Jarosz Komor ręką własną.

Печата*р* устне прошоны*и* до того тестаме*н*ту Косте*н*ти*н* Григо*р*евичъ Заливака рукою своею.

Которы*и* то*т* те*с*таме*нт* черезъ п(а)на Пе*р*шка пере*д* нами покладаны*и* за прозбою его, п(а)на Пе*р*шка имене*м* его м(и)л(о)*с*ти п(а)на воеводы троцкого до кни*г* кгро*д*ски*х* новгоро*д*ски*х* е*ст* уписа*н*, с которого записа*ня* и сесь выписъ с кни*г* по*д* наши*ми* врадовыми печа*т*ми его м(и)л(о)*с*ти пану воеводе троцъкому ест выдан. Писа*н* у Новагоро*д*ку.

Кри*шъ*тофъ Узло*въ*ски*и*, кгро*д*(скии) но*в*го*р*(одскии) писар m(ani) p(ropria).

Есифъ Голоу*бъ*, су*д*я кгро*д*ски(и) новгоро*д*(скии) вла*ст*ною рукою m(ani) p(ropria).

Року УЗ м(е)с(я)ца и*н*(варя) Е днiа то*т* выпи*с* при оповеда*н*ю тастаме*н*ту у суду па*н* Криштофъ Пе*р*шко поклада*л*.

Есифъ Голо*в*ня.

Федоръ Евлашо*в*ски, по*д*судо*к*.

Скорикгова*лъ* з книгами Я*н* Ковалски.

## Пераклад

Выпіска з гродскай кнігі Навагародскага гаспадарскага замка.

У год ад нараджэння Божага Сына 1596, месяца снежня 7 дня.

На гродскіх судовых рочках у год цяперашні 96 у месяцы снежні ў Навагародку суджаных, перад намі, Фёдарам Богушам*, войскім яго каралеўскай міласці і намеснікам, і Есіфам Андрэевічам Голубам**, суддзёю, і Крыштафам Узлоўскім***, пісарам, навагародскімі гродскімі судовымі ўраднікамі, пастаўленымі вяльможным панам, яго міласцю панам Тэадорам Скумінам****, навагародскім ваяводам, гарадзенскім і аліцкім старастам, асабіста з'явіўся службовец вяльможнага пана, яго міласці пана Мікалая Крыштафа Радзівіла*****, князя на Алыцы і Нясвіжы, троцкага ваяводы, пан Войцех Першка******. Ён паведаміў і паклаў ад імя яго міласці тастамент памерлай пані супругі яго міласці, яе міласці пані Гальшкі Яўфіміі з Вішняўца, троцкай ваяводзіны, сцвярджаючы, што ўсё тое, што калісь іх міласці сабе з абодвух бакоў паводле падаравання гэтага тастамента запісамі, згодна з правам зробленымі і ў судзе яўленымі адносна маёмасці рухомай і нерухомай, інакш, чым у гэтым тастаменце апісана, устанавілі, то ў поўнай моцы паводле гэтага запіса заставацца павінна. І прасіў пан Войцех Першка ад імя яго міласці, каб тастамент пані супругі яго міласці у навагародскую гродскую кнігу быў упісаны. Які, упісваючы яго ў кнігу слова ў слова, так у сабе мае:

У імя святой і непадзельнай Тройцы, Бога Айца, і Сына, і Духа Святога, які ў таямніцы сваёй трымае лічбу нашых дзён і ведае гадзіну разлучэння кожнага чалавека з гэтым мізэрным светам. Таму я, Гальшка Яўфімія з Вішняўца Радзівіл, княгіня на Алыцы і Нясвіжы, ваяводзіна троцкая, будучы з ласкі Божай здаровая розумам і целам, але, будучы чалавекам і ведаючы закон, дадзены ўсяму свету, што, калі хто нарадзіўся, то павінен памерці, не ведаючы часу і гадзіны, у якую Пан мой з гэтага ўбогага света мяне пакліча, маім тастаментам, які з добрай развагай і з добрым, ласкай Божай, розумам раблю, паведамляю і так яго пачынаю. Спачатку:

Калі з волі Божай мая душа з целам будзе разлучана, пакорна прашу яго княскую міласць майго міласцівага пана супруга і дабрадзея, каб маё грэшнае

* Богуш Фёдар, намеснік навагародскі, войскі навагародскі з 1592 г.

** Голуб Есіф Андрэевіч, суддзя гродскі навагародскі.

*** Узлоўскі Крыштаф, пісар гродскі навагародскі.

**** Скумін Тэадор (Тышкевіч Тэадор Скумінавіч) (?—1618), падскарбі надворны з 1576 г., стараста браслаўскі з 1580 г., падскарбі вялікі і пісар ВКЛ з 1586 г., ваявода навагародскі з 1590 г.

***** Радзівіл Мікалай Крыштаф Сіротка (1549—1616), маршалак надворны ВКЛ з 1569 г., маршалак вялікі ВКЛ з 1579 г., кашталян троцкі з 1586 г., ваявода троцкі з 1590 г., ваявода віленскі з 1604 г.; муж Г. Я. Радзівіл.

****** Першка Войцех, службовец М. К. Радзівіла Сіроткі.



цела было пахавана ў Нясвіжы, у касцёле Божага Цела айцоў езуітаў*, у капліцы Святога Крыжа, дзе ён і сабе па смерці сваёй месца прызначыў. І пакорна прашу, каб з маім целам ніякіх цырымоній не рабілі, але каб мяне пахавалі як каталічку, звычайнымі касцельнымі малітвамі, так, як і пры кожным убогім каталіцкім пахаванні робіцца. Аксаміт, які непатрэбна прызвычаіўся бываць на трунах, прашу, каб на маёй не быў, толькі прашу сукно і палатно. Больш карысна для мяне будзе, калі гэта абярнуць на малітву за маю грэшную душу, а не на гэтыя непатрэбныя цырымоніі, якія няйначай не ідуць, толькі на празнасць гэтага света, аб ім я не дбаю. Каб не дапусцілі доўга стаяць мае цела, але каб яго як найхутчэй пахавалі, не запрашаючы нікога і не чакаючы прыезду маіх сваякоў. Дастаткова ім паведаміць аб маім згоне, а калі яе міласць ваяводзіна віцебская, мая сястра**, будзе блізка, жадала б, каб яна была на маім пахаванні, як і іншыя мае сваякі, якія былі бы паблізу ў гэтым краі. Але калі б яны хутка не з'ехаліся, тады не трэбы іх з маім пахаваннем чакаць, і, наадварот, прашу, каб маё цела хутка было пахавана. І гэта павінны разумець мае родныя сёстры і браты, іх міласці паны Завішы, бо што за карысць з таго, калі на свеце цела доўга непахаванае стаіць, толькі перашкода хатнім справам і замінка многім рэчам. Няхай жа мяне яго княская міласць, пры многіх сваіх іншых дабрадзействах, якіх я нялічана ад яго княскай міласці атрымала больш за ўсе заслугі маі пры жыцці свайго брата, і цяпер гэтую сваю ласку пакажа, каб гэтай маёй просьбе дагадзіў і цела маё так загадаў пахаваць, як я вышэй выклала. Бо я буду ўпэўнена ў тым, што кожнаму пільнаму гэта будзе падабацца, што гэтай маёй просьбе дагадзіў, а непрыяцель хоць бы дабра і жадаў, але гаварыў і пісаў па-іншаму, то пра гэта дбаць не трэба, бо яны звыклі ў свеце і ў добрай справе людзей ганіць. І асабліва аб тым прашу, каб жабракі маё цела да грабніцы неслі.

А што датычыць маёй маёмасці, то спачатку аб тым, што маю суму, на Карэліцкім маёнтку ў Навагародскім павеце лежачым***, пэўнымі запісамі паводле закону замацаваную, 4000 коп грошаў літоўскіх. І яшчэ, мне лістом сваім, хоць у судзе і не пасведчаным, яго міласць князь Юрый Іванавіч Чартарыйскі**** застаўся вінен, бо я заплаціла пры выкупленні гэтага Карэліцкага маёнтка ў пана Міхаіла Францковіча, выплочваючы яго выдаткі на патрэбы гэтага маёнтка, уключаючы і даўгі карэліцкіх падданых, 500 коп грошаў літоўскіх. Тады з усёй гэтай сумы 4500 коп грошаў запісваю тром маім дачкам*****,

* Нясвіжскі касцёл Божага Цела быў заснаваны ў 1581 г., нанава пабудаваны ў 1587—1593 гг.

** Ганна Вішнявецкая, жонка віцебскага ваяводы Мікалая Паўлавіча Сапегі.

*** Цэнтр Карэліцкага маёнтка — мястэчка Карэлічы ў Навагародскім павеце (цяпер горад, цэнтр Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці).

**** Чартарыйскі Юрый Іванавіч (?—1624) быў жанаты з Аляксандрай Вішнявецкай, сястрой Г. Я. Радзівіл.

***** Тры дачкі — Эльжбета (1585—1618), Крысціна (1593—1599), Кацярына (1593—1600).

якіх мне Пан Бог даў. А з таго, што ёсць цяжарная і даў бы мне Пан Бог чацвёртую дачку*, тады запісваю ўсім чатыром маім дачкам 2900 коп грошаў літоўскіх. А калі б была цяжарная не дачкой, а сынам, тады, як сказана раней, гэту ўсю суму 2900 коп грошаў літоўскіх я запісваю маім тром дачкам Гальшцы, Крысціне і Кацярыне, у якім бы стане, або ў духоўным кляштары, або замужам Пан Бог не пажадаў бы іх мець.

З гэтай жа карэліцкай сумы, вышэй згаданай, я запісваю на будаўніцтва касцёла святой Кацярыны, які мае быць змураваны ў Нясвіжы**, 200 коп грошаў літоўскіх. І асобна на будаўніцтва кляштара айцам бернардзінам, які павінен быць таксама ў Нясвіжы пры касцёле святой Кацярыны, запісваю з гэтай жа карэліцкай сумы 1000 коп грошаў літоўскіх, просячы генерала бернардзінскага ордэна аб слушнай рэчы, каб уладай сваёй як старшы загадаў, каб нясвіжскія бернардзіны заўсёды адпраўлялі ў сваім касцёле кожны тыдзень ў пятніцу або панядзелак найсветлую ахвяру, святую мшу за маю грэшную душу, упэўнена, што цяжка ім не будзе. Але калі б да гэтага справа не дайшла, гэта значыць, калі б бернардзіны не пажадалі прыняць гэтага месца ў Нясвіжы і мець тут кляштара або брацііі сваёй, тады ім гэта сума 1000 коп грошаў не павінна быць выдана, але даручаю гэта яго княскай міласці пана і супруга майму міласціваму, каб яго княская міласць абярнуў гэтую суму на які-небудзь пабожны ўчынак, ці на кляштар або на касцёл які, а ўвогуле, як яго княская міласць пабачыць.

З гэтай жа вышэй упамянутай карэліцкай сумы я запісваю і на Нясвіжскі езуіцкі касцёл, а менавіта на капліцу, дзе ўпрывілеяваны алтар Святога Крыжа, гэта значыць, на апараты або на касцельнае серабро, на што большая патрэба будзе, робячы гэта з парады і ведама яго княскай міласці, пэўную суму, 200 коп грошаў літоўскіх, просячы айцоў езуітаў, каб асабліва ў гэтага ўпрывілеяванага алтара на найсвяцейшай ахфяры не забывалі маёй грэшнай душы.

Да таго з гэтай жа вышэй упамянутай карэліцкай сумы я запісваю паням законным, якія жывуць у Нясвіжскім кляштары правіла святога Бенедыкта***, на новы касцёл святой Яўфіміі, таксама на апараты або на серабро, якая патрэба будзе, таксама з парады і ведама яго княскай міласці гэта раблю, 200 коп грошаў літоўскіх, будучы ўпэўнена, што мяне ў сваіх пабожных малітвах не будуць забываць.

Гэту суму 4500 коп грошаў літоўскіх павінен даць яго княская міласць пан супруг і дабрадзей мой сваімі грашыма. А ў гэтай суме грошай вышэй упамянуты маёнтак Карэлічы з усім, што мае, з дваром, з дворнай раллёй, з местам, з сёламі, з баярамі, з мяшчанамі, з сельскімі падданымі, айчызнымі і

* У 1594 г. Г. Я. Радзівіл нарадзіла сына Аляксандра Людвіка (1594—1654).

** Нясвіжскі касцёл і кляштар бернардзінаў дзейнічаў з 1598 г., касцёл св. Кацярыны асвечаны ў 1603 г.

*** Нясвіжскі касцёл св. Яўфіміі і кляштар бенедыкцінак заснаваны ў 1591 г.



прыхожымі, і з агароднікамі, і з усіх іх павіннасцямі і даходамі гэтага маёнтка, нічога з яго нікому іншаму не вымаючы, не даючы ў заставу маім правам, як мне належыць, мае трымаць і ўжываць да вяртання гэтай сумы 4500 коп грошаў літоўскіх ад таго, каму б навечна гэты маёнтак Карэлічы належаў. А калі б у яго міласці пры жыцці гэты Карэліцкі маёнтак не выкупілі, тады пасля жыцця яго міласці патомкі яго міласці або той, каму б ад яго міласці быў запісаны, павінен трымаць у вышэй упамянутай суме грошай таксама аж да вяртання гэтай сумы грошай. Калі б жадаў яго міласць пан супруг мой сам гэты маёнтак Карэлічы на вечнасць купіць, то яго міласці вольна гэта, або калі б я, маючы з ласкі Божай прадаўжэнне жыцця, гэты маёнтак Карэлічы на вечнасць купіла, а пайшла бы з гэтага света, не зрабіўшы ўсіх гэтых пабожных учынкаў, або некаторых з гэтых упамянутых, або не забяспечыла б наяўнай сумы пасля сябе, тады мае гэту суму 4500 коп грошаў літоўскіх пасля майго жыцця яго княская міласць на гэтыя пабожныя ўчынкі сваімі грашыма залажыць і ў гэтай суме грошай гэты маёнтак Карэлічы трымаць аж да вяртання гэтых грошай, як вышэй упамянута.

А што датычыць сумы 6000 коп грошаў літоўскіх, якую я мела ад яго княскай міласці супруга і дабрадзея майго на маёнтку яго княскай міласці Свержані*, у Навагародскім і Менскім паветах лежачым, паводле закона ўнесенай і запісанай, то гэта ўся ўпамянутая сума 6000 коп грошаў літоўскіх яго княскай міласці пану супругу майму вышэй упамянутаму дарую і гэтым маім тастаментам запісваю, на вечнасць з яе выракаюся і ад яе яго княскую міласць і нашчадкаў яго княскай міласці таксама гэты Сверажанскі маёнтак на вечныя часы вольнымі раблю, асабліва маючы перад вачыма вялікія дабрадзействы яго княскай міласці пана супруга майго ў дачыненні да мяне.

А жадаючы гэта вызначыць і засведчыць, на усім маім маёнтку Дзераўнянскім, у Менскім павеце лежачым**, так, як мне з роўнага вечнага падзелу ад іх міласцей пань сясцёр маіх родных, супраць частак ім дастаўшыхся, у маю долю дасталася, нічога з яго не вымаючы і не аддаваючы ў заставу я запісваю яго княскай міласці 8000 коп грошаў літоўскіх такім чынам, што ў гэтай суме грошай гэты ўвесь Дзераўнянскі маёнтак, гэта значыць, Дзераўнянскі двор з фальваркам Хатава*** і з фальваркам Вострavам. З-за таго, што цяпер у гэтым маёнтку з-за сапсавання мною Дзеравенскага фальварка больш фальваркаў няма, з местам Дзераўнянскім, з сёламі, да гэтага двара і да гэтых фальваркаў належнымі, з зямянамі шляхтай, з баярамі, з мяшчанамі і з усялякімі і ўсімі падданымі месцкімі і сельскімі, з агароднікамі і з павіннасцямі іх

* Цэнтр Сверажанскага маёнтка — сяло Свержан (цяпер вёска Новы Свержан у Стаўбцоўскім раёне).

** Цэнтр Дзераўнянскага маёнтка — мястэчка Дзераўная (цяпер вёска ў Стаўбцоўскім раёне).

*** Цяпер вёска Хатава ў Стаўбцоўскім раёне.

усялякімі, з дворнай раллёй, з усялякім збожжам, молатым і нямолатым, з грунтамі дворнымі і з грунтамі зямян шляхты, таксама баярскімі, месцкімі, сельскімі ворнымі і няворнымі, з ставамі, з млынамі і з іх вымелкамі, з азёрамі, з сенажацямі, з гаямі, з пушчай, з ловамі звярынымі, рыбнымі і птушынымі, і з бабровымі гонамі, і з усімі і з усялякімі даходамі і ўваходамі так, што ўпамянутыя неўпамянутымі, а неўпамянутыя ўпамянутымі, правы і паўнамоцтвы скасоўваць і нічога шкодзіць не павінен і не будзе, мае яго княская міласць пан супруг не інакш, як сваю ўласнасць і як мне самой належала, з усім на ўсё на сябе трымаць і ўжываць аж да вяртання его міласці ад таго, каму правам вечнасці гэты маёнтак будзе належыць, гэтай усёй сумы грошай 8000 коп грошаў, якую суму вольна яго міласці запісаць каму хоча. А калі б яго міласць гэту суму грошай нікому не запісаў, і гэты маёнтак пры жыцці яго міласці выкуплены не быў, тады той, каму б пасля яго міласці правам родавым належаў, мае трымаць гэты маёнтак і ўжываць таксама аж да вяртання гэтай усёй сумы грошай. А той, каму правам вечнасці гэты маёнтак будзе належыць як ад самой яго княскай міласці, так ад таго, каму б ад яго княскай міласці гэта сума запісана была, потым ад таго, хто бы ад яго княскай міласці без водпісу правам родавым у гэтай суме грошай гэты маёнтак трымаў, не адклаўшы гэтай усёй сумы грошай 8000 коп грошай літоўскіх, не мае гэтага маёнтка браць, і ніякага пераводу ў трыманні і ўжыванні трымальнікам прычынамі як праваўвымі так і неправавымі рабіць, а таксама і аддаўшы гэтую суму грошай спусташэння і ніякіх шкод на гэтых усіх рабіць не мае на вечныя часы. Бо трыманне і ўжыванне гэтага маёнтка яго княскай міласці і іншым, каму пасля яго княскай міласці належыць будзе, да вяртання гэтай сумы грошай так запісваю, як уласна мне самой належыць.

Акрамя таго, яго княскай міласці супругу майму запісваю маёнтак Пацейкавічы, у Новагародскім павеце лежачы*, у суме грошай на гэтым Пацейкаўскім маёнтку 800 коп грошай літоўскіх, так што яго княская міласць увесь Пацейкаўскі маёнтак з усім на ўсё, як мне ад іх міласцей пань сясцёр маіх супраць частак, якія іх міласцям дасталіся, роўным вечным падзелам у маю частку дастаўся, мае паводле волі і жадання свайго як сваю ўласнасць і як уласна мне належала ўжываць да далейшага жывата свайго, будучы вольны гэтую суму грошай 800 коп грошаў літоўскіх на гэтым маёнтку маім так пры жыцці маім, як і пасля жыцця каму захоча запісаць, а той, каму права вечнасці на гэты маёнтак будзе належыць, як пры трыманні ад яго княскай міласці да жывата яго міласці, так і пасля жывата яго княскай міласці таму, каму бы пасля яго княскай міласці належала, не адклаўшы гэтай сумы грошай не павінен ніякімі прычынамі, як праваўвымі, так і неправавымі, у гэты маёнтак уступаць і рабіць перавод на трыманне і ўжыванне, а таксама і

* Цэнтр Пацейкаўскага маёнтка — сяло Пацейкавічы (цяпер вёска Пацейкі ў Капыльскім раёне).



заплаціўшы гэтую суму грошай спусташэння гэтага маёнтка і ніякіх шкод рабіць не мае вечнымі часамі, бо я трыманне і ўжыванне гэтага маёнтка майго да жывата яго княскай міласці, а пасля жывата яго княскай міласці каму паводле закона належыць пасля яго міласці будзе да вяртання гэтай сумы грошай не інакш, як мне самой трымаць і ўжываць належала.

Што да гэтага часу на Дзераўнянскі касцёл* і плябанію я не дала фундуш і не пасведчыла яго так, як патрабуе закон, то прычына та, што нядаўна рабіла абмен з ксяндзом плябанам, таксама мой полаг набліжаўся, так што з дому ад'ехаць не магла. Таму калі б Пан Бог паклікаў мяне з гэтага света перад укладаннем фундушу, то ўскладаю гэта на таго, каму Дзераўная пасля мяне з правам вечнасці дастанецца, абавязую яго з Божым благаслаўленнем і клікаючы яго на суд Божы, калі б ён гэтага зрабіць не жадаў, каб без ніякага адкладання і не мешкаючы дастатковы фундуш учыніў на ўсё, што касцёлу пасля абмену мной прызначана, і з тым, што яшчэ сенажаці даць маю, аб чым пан Войцех Першка добра ведае, бо гэта праз яго зрабіцца павінна. А даўшы фундуш, каб пасведчыў яго так, як права патрабуе, з такім дадаткам, што калі б дзе ў чым Дзераўнянскаму касцёлу ад мяне ў маім цяперашнім абмене, улічваючы то, што было раней празначана ад нябожчыцы пані маці маёй, не дастаткова было, або калі б слушна паказаў ксёндз плябан, што касцёл ад цяперашняга абмену мае крыўду, тады прашу, каб яму ўсё было кампенсавана, або грунтам, або чым яшчэ, што палічыў бы патрэбным касцёлу. Бо не сваё даем Богу, але яго ўласнае, якое толькі часова маем у сваім распараджэнні.

Што датычыць слуг маіх, жанчын і мужчын, якія знаходзяцца на службе пры мне, пакорна яго княскую міласць прашу, абы з даходаў, якія з маіх маёнткаў сёлета паступяць, так былі забяспечаны, каб ад іх пасля маёй смерці не лаянку, а малітвы мела, а менавіта згодна з рэестрам, які асобна маёй рукой напісаны.

А тут, завяршаючы гэты мой тастамент і даручаючы Пану Богу саму сябе, здароўе і ўсе мае справы, каб Ён зрабіў ласку распарадзіцца так, як Яго святой міласці падабаецца і як найлепей бачыць, спачатку са сваёй святой воляй, потым з добрым маім вызваленнем маёй душы, гэты мой тастамент падпісваю маёй уласнай рукой і маю пячатку да гэтага майго тастамента прыклала. А пры гэтым былі і будучы добра вядомыя па вуснай і відавочнай маёй просьбе сваі пячаткі да гэтага майго тастамента прыклалі і сваімі рукамі падпісацца мелі ласку высакародныя іх міласці паны: пан Юзаф Галаўня**, суддзя земскі новагародскі, пан Яраш Комар і пан Канстанцін Рыгоравіч Залівака***, зямяне

* Дабравешчанскі касцёл у Дзераўной заснаваны ў 1590 г. М. К. Радзівілам Сіроткам і Г. Я. Радзівіл згодна волі Я. Вярбіцкай, маці Г. Я. Радзівіл.

** Галаўня Есіф, суддзя земскі новагародскі з 1588 г.

*** Залівака Канстанцін Рыгоравіч (1520—1594), службовец М. К. Радзівіла Сіроткі і А. М. Радзівіла.

і абывацелі Вялікага княства Літоўскага. Пісан у Нясвіжы, дня 1 месяца жніўня ў год ад нараджэння сына Божага 1594.

У гэтага тастамента пячатак прыцiснутых чатыры. А подпісы рук — падпісаны словы:

Гальшка Яўфімія з Вішняўца Радзівілава гэты тастамент падпісала маёй уласнай рукой.

Печатар, вусна запрошаны, Есіф Галаўня да гэтага тастамента руку сваю падпісаў.

Печатар, вусна запрошаны, да гэтага тастамента Яраш Комар рукой уласнай.

Печатар, вусна запрошаны, да гэтага тастамента Канстанцін Рыгоравіч Залівака рукой сваёй.

Каторы тастамент, праз пана Першку перад намі пакладзены, паводле яго, пана Першкі, просьбы імем яго міласці пана ваяводы троцкага ўпісаны ў новагародскую гродскую кнігу, з каторага запісу і гэта выпіска з кнігі пад нашымі ўрадавымі пячаткамі яго міласці ваяводу троцкаму выдана. Пісан у Новагародку.

Крыштаф Узлоўскі, гродскі новагародскі пісар, рукой сваёй.

Есіф Голуб, суддзя гродскі новагародскі ўласнай рукой, рукой сваёй.

У год 97 месяца студзеня 5 дня гэту выпіску пры апавяданні тастамента ў судзе пан Крыштаф Першка паклаў.

Есіф Галаўня.

Фёдар Еўлашоўскі*, падсудак.

Зверыў з кнігай Ян Кавальскі.

*Публікацыя В. С. Пазднякова*

* Еўлашоўскі Фёдар Міхайлавіч (1546—1619), падсудак земскі новагародскі з 1592 г., мемуарыст.



## ЛІСТЫ З АСАБІСТАГА АРХІВА ІВАНА ГРЫГАРОВІЧА

Асоба І. Грыгаровіча сталася той постаццю, з якой звязана зараджэнне ўласна беларускай навукі: з'яўляючыся членам Румянцаўскага гуртка, праз які ўсталёўваюцца цесныя навуковыя стасункі з выкладчыкамі Віленскага універсітэта мовазнаўцам І. Лабойкам, правазнаўцам І. Даніловічам, славістам М. Баброўскім, Грыгаровіч адным з першых пачынае выкарыстоўваць назвы Беларусь і беларускі, працуе над беларускім слоўнікам, запісваючы «все слова, какие употреблял и употребляет народ в своем домашнем быту, в служении и в своих молитвах Богу» [1], закладвае асновы навуковага вывучэння гісторыі Беларусі, выдаючы ў 1824 г. першую частку «Беларускага архіва старажытных грамат». Асабісты архіў навукоўца такога ўзроўню, як правіла, захоўвае унікальныя звесткі гістарычнага і культурнага кшталту, прыцягваючы да сябе пільную ўвагу даследчыкаў. Нягледзячы на тое што дакументальная спадчына І. Грыгаровіча аказалася раскіданай па сховішчах Беларусі, Расіі, Літвы, яго архіў з'яўляецца адным з нешматлікіх захаваўшыхся асабістых архіваў навукоўцаў першай паловы XIX ст.*, а таму прадстаўляе сабой вялікую крыніцазнаўчую каштоўнасць.

Пасля смерці протаіерэя яго дакументы захоўваліся ў сына Мікалая Грыгаровіча, на іх падставе апошні напісаў біяграфію бацькі і апублікаваў яго ліставанне з графам М. П. Румянцавым [2]. Гэтыя сведчанні з цягам часу сталі асноўнай крыніцай аб жыцці і дзейнасці першага беларускага археографа, а самі дакументы ў 1872 г. былі перададзены ў Румянцаўскі музей (зараз знаходзяцца ў Навукова-даследчым аддзеле рукапісаў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі (далей — НДАР РДБ)). Некаторыя дакументы Івана і Мікалая Грыгаровічаў (сыноў) трапілі ў канцы XIX — пачатку XX ст. да вядомага калекцыянера П. І. Шчукіна і зараз захоўваюцца ў Аддзеле пісьмовых крыніц Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве, тут знойдзены і некалькі рукапісаў протаіерэя (памяннік аб памерлых родных і блізкіх, копія фармулярнага спіса, выпісы і інш.) [3]. Частка дакументаў, у тым ліку рукапіс працы «Беларуская іерархія», якая доўгі час лічылася страчанай, падрыхтоўчыя матэрыялы да слоўніка беларускай мовы і некаторыя дакументы сям'і Грыгаровічаў у 1929 г. паступілі ў Аддзел рукапісаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбурзе [4]. Але найбольш грунтоўны комплекс дакументаў І. Грыгаровіча, разам з дакументамі сыноў Івана і Мікалая, на пачатку XX ст. захоўваўся ў калекцыі бібліяфіла Г. В. Юдзіна, быў адшуканы ў Краснаярскім архіве прафесарам А. А. Праабражэнскім у канцы 1950-х гг. [5], неўзабаве перададзены ў Беларусь і зараз захоўваецца ў Бела-

* У Навуковай бібліятэцы Віленскага універсітэта захаваліся асабістыя фонды І. Лялевеля, М. Баброўскага, Я. Снядэцкага, у Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы, Інстытуце рукапісаў РАН, Аддзеле рукапісаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі — архіў І. Лабойкі.

рускім архіве-музеі літаратуры і мастацтва (сярод дакументаў — рукапіс 2-й часткі «Беларускага архіва старажытных грамат», дакументы навуковай дзейнасці, некаторыя матэрыялы да біяграфіі і інш.) [6].

Такім чынам, можна казаць аб існаванні ў XIX ст. сямейнага архіва Грыгаровічаў, дакументы з якога ў канцы XIX — пачатку XX ст. рознымі шляхамі траплялі ў склад тых ці іншых калекцый. Тут стала вылучаюцца тры асноўныя комплексы: дакументы протаіерэя І. Грыгаровіча (1792—1852), дакументы яго сыноў: дырэктара бібліятэкі і архіва Св. Сінода М. Грыгаровіча (1835—1889) і выкладчыка гісторыі І. Грыгаровіча (1833—1895)[*]. Зыходзячы з аналізу дзейнасці І. Грыгаровіча і яго сыноў, можна сцвярджаць, што значная частка дакументаў сямейнага архіва не захавалася. Дакументы кожнай асобы характарызуюць іх службовую і навуковую дзейнасць, утрымліваюць звесткі па біяграфіі, службовае ліставанне, але адным з найбольш цікавых з'яўляецца ліставанне Грыгаровічаў, якое дае шырокія сведчанні аб іх вялікай і дружнай сям'і з моцнымі традыцыямі ўзаемадапамогі, павагі да гістарычнай памяці і старажытных дакументаў.

Сярод дакументаў І. Грыгаровіча, якія захоўваюцца ў НДАР РДБ, знаходзяцца матэрыялы навуковай дзейнасці (апісанне Евангелля XV ст., нататкі для выдання «Собрания сочинений Г. Конисского», заўвагі да слоўніка заходне-рускай гаворкі і інш.), а таксама службовае і асабістае ліставанне. Калі ліставанне з М. П. Румянцавым [7] насіла афіцыйна-дзелавы характар, даючы няшмат падстаў для характарыстыкі І. Грыгаровіча як асобы, то ліставанне з роднымі і блізкімі не толькі пралівае святло на некаторыя моманты навуковай дзейнасці, але і вымалёўвае псіхалагічны партрэт дзеяча, яго светаўспрыманне, матывацыі, стаўленне да беларускай гісторыі і культуры. Найбольш каштоўнымі з гэтага пункту гледжання з'яўляюцца лісты І. Грыгаровіча да брата Мікалая[**] ў Пецярбург за 1815—1835 гг., што адлюстроўваюць складаны і цікавы перыяд станаўлення і дзейнасці выдатнага навукоўца з яго паўсядзённымі цяжкасцямі і турботамі [8]. Гэта 30 лістоў, напісаных рукой протаіерэя з прыпіскамі жонкі Веры Іванаўны Грыгаровіч у лістах ад 24 мая і 26 ліпеня 1821 г., брата Міхаіла Іванавіча ў лістах ад 8 красавіка 1821 г. і 20 верасня 1823 г. Амаль на кожным лісце рукой Мікалая пазначана дата атрымання. Прадстаўленыя ніжэй вытрымкі даюць агульнае ўяўленне аб характары ліставання і праліваюць святло на некаторыя моманты навуковай працы І. Грыгаровіча; ліст ад 2 верасня 1824 г. публікуецца цалкам. Друкуецца на мове арыгінала з выкарыстаннем сучасных правіл рускай арфаграфіі і пунктуацыі, з захаваннем стылістычных асаблівасцей аўтара, расшыфроўка скарачэнняў прыводзіцца ў квадратных дужках, нерасчытаныя літары — у трохвугольных, вытрымкі з лістоў адзначаюцца адпунктоўкай у квадратных дужках.

[*] Акрамя Івана і Мікалая ў протаіерэя І. Грыгаровіча было яшчэ два сыны: Васіль (н. 1839), Міхаіл (н. 1846) і дачка Марыя (н. 1830).

[**] У Івана Грыгаровіча было чацвёра братоў: Васілій (архіепіскап аланецкі Венедыкт, памёр 07.12.1850), Рыгор (памёр у маленстве), Мікалай (малодшы брат, вядома, што ў пачатку 1820-х навучаўся ў Пецярбурзе за кошт М. П. Румянцава), Міхаіл (пасля 1802 — 1846).



**1**

*11 сентября 1824*[*]

2 сентября 1824

Любезнейший братец, Николай Иванович.

Благодарю за письмо Ваше от 22 июня, которое получил я из рук А. О. Гомзякова. Из сего видеть изволите, что государственный канцлер[**] уже в Гомеле. Е[го] с[иятельство] приехал сюда 24-го числа сего месяца, пополудни. В такое короткое время я успел уже познакомиться и сблизиться с почтительным и любезным А. Ф. и за это обязан единственно письму вашему ко мне. Буду стараться заслужить его дружбу.

И я недавно возвратился из путешествия, которого целью было изыскание древних белорусских грамот. На сей раз, округ мой ограничился Могилевом и Мстиславлем. Хотя жатва была небогатой, но я приехал назад, по крайней мере, не с пустыми руками. Вы, конечно, удивитесь, когда я объясню Вам, до какой степени дошло в нашем краю просвещение и любовь к отечественным древностям. Доказательством чему служит то, что мстиславские недосеки[***] сочли меня почти шпионом и попрятали свои сокровища и то, что у них и древний, и новый архив сохраняются в мучных кулях. Представьте, пожалуйста, каково мне тут было, и что оставалось делать? Но е[го] с[иятельство] на счет сего не принимает и думать надобно посему, что на этот раз труды мои останутся без всякого воздаяния. Впрочем, научась терпению, я уже и не ропщу на такие расчеты. Где потеряно много, там одна потеря ничего не значит.

Вам, конечно, известно, что епаршеское начальство наше поручило мне в прошлом году заняться дополнением к «Истории Российской иерархии»[****].

[*] Рукой Мікалая Грыгаровіча пазначана дата атрымання ліста.

[**] Граф Мікалай Пятровіч Румянцаў (1754—1826), на сродкі якога была выдадзена першая частка «Беларускага архіва старажытных грамат».

[***] У ліпені 1654 г., падчас вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай (1654—1667), Мсціслаў быў захоплены і спалены войскамі князя А. М. Трубяцкога. Невялікую частку жыхароў горада, што выжылі, доўгі час называлі «недасекамі».

[****] «История российской иерархии» стваралася архіепіскапам пензенскім і саратаўскім Амвросіем (Арнацкім) (1778—1827) разам з мітрапалітам кіеўскім Яўгеніем (Балхавіцінавым) (1767—1837). «Гісторыя» працягвала традыцыю зборнікаў па гісторыі іерархіі, што з'явілася ў XVII ст., падчас палемікі вакол Уніі, калі былі складзены першыя пералікі архіерэяў, дзе гісторыя іерархіі разглядалася з пункту гледжання высвятлення яе першапачатковага падпарадкавання рымскаму папе ці праваслаўнаму патрыярху (Л. Крэўза, С. Косаў і інш.). У 1807—1815 гг. было зроблена першае выданне 1—6 частак, другое дапоўненае выданне ажыццяўлялася ў 1822 і 1827 гг., 7-ая частка засталася незавершанай.

Ныне труд сей окончен и «Белорусская иерархия» вновь мною сочинена. Кроме всякого труда, сие занятие стоит мне во времени полтора года. Сочинение понравилось нашему архипастырю*, который благоволил изъявить мне письменно благодарность и признательность и включить сие обстоятельство в послужной мой список. Обещали представить и к отличию. Манускрипт мой отправлен уже и в Св. Синод, куда в начале сентября должно поступить и обещанное представление. Сделайте милость, любезный братец, примите труд узнать, как принято мое сочинение и есть ли что там в мою пользу. Мне, признаюсь, весьма досадно будет, все кончат на одних пустых обещаниях, тем более что ученые нашей ученой семинарии и умной епархии все наотрез отказались от сего труда, а мне, Бог знает за что, пришлось на них сработать дело.

С одною частию «Белорусских грамот» я успел совершенно разделаться, даже по типографским ошибкам. Экземпляры выходят уже, и при первой присылке их в Гомель поспешу удовлетворить Вашему любопытству. Пусть же и наша святая белорусская земля не совсем исчезнет с лица земли: но да ведает свет, что были времена, когда она была славнее и добродетельнее, нежели ныне [9].

При всем своем спеху, у меня еще много осталось на шее дела. Когда-то Господь успокоит от того руки мои, которые устали уже от многоделий, но и немного выиграли. Правду говорит пословица: не родись ни умен, ни красив, родись счастлив.

Позвольте Вам сделать братское замечание. Вы полагаете, что я сержусь на Вас за известное дело, и это полагаете напрасно. Будучи уверен в любви Вашей ко мне, я равно уверен в том, что мой интерес для вас так же дорог, как и ваш собственный. Поэтому я ни мало не скучаю временем и считаю так, что все равно быть известному долгу в моем или вашем кармане. Когда Вам возможно будет тогда и переложите. Между тем во времени может быть удастся нам посчитаться и получше. Человек скучает, но ожидается надеждою. Итак, любезный братец, прошу Вас, выбросьте из головы такие невыгодные обо мне мысли. Если я заслужил их чем-нибудь, то скажите дело именно, и я постараюсь поправиться.

О. Венедикт** редко пишет ко мне, но у него куча дел и неудовольствий. Я недавно известил его, что по иску Могилевского суда оправдали жида и христиан воров совершенно и советовали обратиться в сем случае к кн. Хованскому***.

* У 1821—1827 гг. епархію Магілёўскую і Віцебскую ўзначальваў архіепіскап Іосаф (Срэценскі).

** Свецкае імя — Васілій Іванавіч Грыгаровіч, брат Івана Грыгаровіча, у 1833—1842 гг. — вікарый Санкт-Пецярбургскай епархіі, з 1842 архіепіскап аланецкі і петразаводскі.

*** Хаванскі Мікалай Мікалаевіч (1777—1837) — расійскі дзяржаўны і ваенны дзеяч, генерал інфантэрыі. З 1823 па 1831 г. — віцебскі, магілёўскі, смаленскі, калужскі генерал-губернатар.



Известно, что е[го] с[иятельство] имеет больше благоразумия и совести, нежели почтенный начальник нашей губернии, которого все приговоры князь ломает. Может быть посему и в деле братца вышел бы успех. Не знаю, что он на это мне скажет, но если хочет продолжать дело, то можно было бы мне испросить у канцлера письмо к князю, которое, без сомнений, возымело бы всю свою силу. Благоприятель Мелентий*, который теперь ректорствует в Киевской академии, Бог правосудный отдаст за его хитрости.

Прощайте, любезный братец, будьте здоровы, веселы, благополучны. Мы все здравствуем и крепимся. Кланяйтесь от нас всем родным. Писать более некогда. Ко мне, имениннику, уже собираются гости. Остаюсь со всею преданностию,

Ваш брат и слуга,
протоиерей И. Григорович.

Гомель

НДАР РДБ. Ф. 178. Карт. 1346. Спр. 18. Арк. 32—33.

**2**

13 февраля 1825

[…]

Я весьма много благодарен Вам, любезный братец, за известие о ходе синодальной награды в рассуждении меня. Правда, жалко быть доселе в сословии недорослей. Это приводит мне на мысль одно обстоятельство моей жизни. Когда я окончил курс учения в риторическом классе, то разумное семинарское начальство не удостоило меня перевода в философский класс именно по причине малолетства, а между тем признало достойным того знаменитого Гришку Мигай, у которого весь ум состоял в широкоплечии и бороде. Вот каковы были времена и расчеты! Дай Боже, чтоб теперь было лучше, а кажется, что и по времени пора бы. Впрочем, я нимало не забочусь о том, что мне никакой истинной пользы и чести принести не может, но, конечно, нахожу себя вправе подозревать, что кто-нибудь из доброжелателей моих подействовал тут абсолютно.

Может быть, академические умники иначе рассчитали, может быть, пресловутый бард** не ожидал, что я его просить стану. Потерпим. Слава Богу, кое-что уже пошло на лад, авось-либо и большего дождемся, в терпении и уповании, по словам апостола, непосрам<им>.

Митрополит Евгений в милостивой беседе со мною пожурил меня порядком за то, что я белорусскую свою иерархию отдал в Синод, из кото-

* Меленцій Леантовіч — магістр, архімандрыт, прафесар багаслоўя. З 1835 г. — архіепіскап харкаўскі і актырскі. Памёр у 1840 г.

** Бардамі першапачаткова называлі кельцкіх паэтаў, што былі пры дварах знатных асоб. Іх рэпертуар складаўся з двух асноўных жанраў: панегірыка (у гонар пакравіцеля) і сатыры (супраць яго ворагаў).

рого она отослана пензенскому архиерею[*], издателю «Российской иерархии». А сей святитель, конечно, без всякого зазрения и признательности будет иметь право воспользоваться чужими трудами. Посему митрополит и советует мне представить сие сочинение в окружную духовную цензуру и напечатать особо. Я скоро приступлю к этому, ибо и канцлер согласился уже принять издержки издания на себя.

[…]

НДАР РДБ. Ф. 178. Карт. 1346. Спр. 18. Арк. 37.

**3**

11 марта 1826

[…]

Я осмелился Вас обременить, любезный братец, моим препоручением. В сем пакете видите письмо на имя киевского митрополита Евгения, а в посылке кроме двух книжек найдете другой запечатанный пакет на его же имя. Оставив себе книжки, которые положены для <…>, письмо и конверт доставьте, пожалуйста, лично его высокопреосвященству сами или возложите на братца Михаила Ивановича. Может быть и поздно уже я собрался напомнить о себе.

Чтобы со сей стороны предварить вас или лучше удовлетворить Вашему любопытству, я должен сказать, что в пакете митрополиту посылаю любопытный каталог грамот, бывших и пропавших в Полоцке[**]. Из них впрочем отыскано 10, и о доставлении которых прошу его разрешения. Сверх сего препровождаю к нему оглавление грамот, помещенных во второй части «Белорусского архива», который теперь сиротка без приданного. Знаю, что сии бумаги заслужат внимание любителя древностей, ибо в них много такого, что собственно касается до иерархии киевской: не знаю каково, при перевороте обстоятельств, будет принята сия моя услужливость, какой будет прием и что будет сказано, не оставьте меня и о том откровенно уведомить.

[…]

НДАР РДБ. Ф. 178. Карт. 1346. Спр. 18. Арк. 38.

**4**

9 апреля 1826

[…]

Думаю, до Вас дошло уже письмо мое от 12 марта[***] с посылкою книг, в числе которых находится рукопись для киевского митрополита, с нетерпением жду на сие Вашего известия, хоть впрочем не могу обнадеживать себя всякими милостями со стороны архипастыря, который может быть теперь захочет и не знать меня, чтобы не последним, мне хочется знать, будет ли иметь успех мой опыт. Признаюсь, у меня то главное ввиду, не убедить ли преосвященного графа Сергея Петровича[*] приняться за издание последних частей моего «Архива».

---

[*] Архіепіскап Амвросій (Арнацкі).

[**] У захаваўшыхся дакументах І. Грыгаровіча такога спіса не выяўлена.

[***] Напэўна, маецца на ўвазе ліст, датаваны 11 сакавіка, урывак з якога прыведзены вышэй.



Из Москвы от Калайдовича[**], которому я о сем писал в ответе, доселе ничего не получил, а из молчания его по всей справедливости заключить должны, что там за это дело приняться не хотят. Итак, сиротка без приданного доселе спокойно почивает в книжном шкафу, подле своего братца. Попробую отозваться к графу Сергею Петровичу еще раз. И наперед попрошу Вас взять на себя доставление письма моего. Удастся — хорошо, откажут — тогда пришли к Вере[***] манускрипт, с тем чтобы отдать в цензуру и потом или продать какому-нибудь книгопродавцу, или собирать деньги для печатания по объявлению. Изберем, что придумаем лучше.

Между тем Вы премного меня обязали бы, если бы предварительно забрали сведения о типографских расчетах и издержках. А братец Михаил Иванович был бы у нас самым лучшим и опытным корректором, что в этом деле всего важнее. Авось эту сиротку освободим как на суде из тьмы кромешной. Самою меньшею прибылью я останусь доволен. Право жаль трудов, чтоб им пропадать ни за что. Пожалуйста, пособите. <…> я не имею никакого понятия о типографских сделках.

Есть у меня и еще одно средство пустить в свет книжку. Известно, что покойный государственный канцлер пожаловал Академии наук 25 тысяч рублей на издание древних летописей и грамот. Посему, кажется, академия должна принять сию книгу. Не знаю только, как мне в сем случае поступить и к кому отнестись. Боюсь также огорчать своего папа[****]. А и в этом случае от министра просвещения, как председателя Академии [наук], можно бы надеяться хорошего.

[…]

НДАР РДБ. Ф. 178. Карт. 1346. Спр. 18. Арк. 40.

**5**

11 мая 1826

[…]

Покорно благодарю Вас, любезный братец, за доставление моего письма и посылки митрополиту Евгению. Его преосвященство почтил меня мило-

---

[*] Румянцаў Сяргей Пятровіч (1755—1838) — брат Мікалая Пятровіча.

[**] Калайдовіч Канстанцін Фёдаравіч (1792—1832) — гісторык, археограф, член Румянцаўскага гуртка, супрацоўнік Маскоўскага архіва Калегіі замежных спраў.

[***] Вера Іванаўна — жонка І. Грыгаровіча.

[****] Аб кім ідзе гаворка — невядома, бацька І. Грыгаровіча Іван Конанавіч памёр 14 кастрычніка 1824 г.

стивым ответом, который я получил вчера [10]. Митрополит советует мне не отставать от приготовления 3-й части «Белорусского архива», уверяя, что граф Сергей Петрович не откажется, во славу русского мецената, докончить все приготовленные издания, и что покойный канцлер оставил на сей предмет суммы, и что далее Московской комиссии* не преминет е[го] с[иятельство] и сем представить. Я догадался предварительно написать к графу в Москву о сем деле. Ответ его должен решить все мое недоумение и оправдать или совсем уничтожить все мои надежды, и вместе с тем и труды.

Вслед за уведомлением братца Михаила Ивановича я получил из Могилева известия, что господин обер-прокурор Св. Синода** отнесся к нашему архипастырю о представлении меня к награде и что преосвященный согласен сие исполнить. Больше сведений о сем еще не имею. Впрочем я, со своей стороны, что нужно было сделал. Буду ждать в терпении и боюсь одного только, чтоб владыка сего представительства, о котором я и не грезил, не протолковал бы в худую сторону и не почел бы меня суетным искателем. Посмейтесь, что О. Пр. Акв., когда разнесся о сем слух, стал всем твердить, что граф Сергей Петрович хлопочет за него, а не за меня. Конечно, так можно дурачить, но не всякого, даже и в Гомеле. Как бы ни было и чтобы не вышло, я совершенно насчет сего спокоен и говорю с апостолом: навыкох и избычествовать и лишатся и в нихте есмь доволен быти***. Между тем, вы что узнаете, пожалуйста, мне передайте, хоть удачное, хоть неудачное****.

[…]

НДАР РДБ. Ф. 178. Карт. 1346. Спр. 18. Арк. 42.

**6**

29 октября 1835

[…]

Чем скорее я окончу печатание второй части***** и выкуплю из типографии экземпляры ея, тем скорее разбогатею дедовскою копейкою. А теперь, признаться, из-за нея свой мозольный грош ребром становится. Иное дело, если бы их было много. Приходится, как говорится, рвать изо

* Камісія друкавання дзяржаўных грамат і дагавароў была створана 3 мая 1811 г. пры Маскоўскім архіве Калегіі замежных спраў.

** З 1817 па 1833 г. обер-пракурорам Св. Сінода з’яўляўся П. С. Мяшчорскі.

*** З паслання апостала Паўла да Філіпійцаў (Філ. 4:12.): «умею жыць і ў гароце, умею жыць і ў дастатку; навучыўся ўсяго і ва ўсім, насычацца і галадаць, быць у раскошы і нястачы».

**** Як вядома, ні 2-я, ні 3-я часткі «Беларускага архіва старажытных грамат» выдадзены не былі. Румянцаўскі гурток, нягледзячы на ўсе спадзяванні, распаўся.

***** Гаворка ідзе аб друкаванні другой часткі «Собрания сочинений Георгия Конисского», якая выйшла ў Санкт-Пецярбурзе ў 1835 г.



рта у семьи для пустой затеи хозяина. Но авось, поможет школа терпения, прибавим тут же и опыта.

[…]

НДАР РДБ. Ф. 178. Карт. 1346. Спр. 18. Арк. 58.

Літаратура


1. Некролог // Журнал Министерства народного просвещения. 1852. № 12. С. 101.
2. Григорович Н. Очерк жизни протоиерея Иоанна Иоановича Григоровича // Странник. 1861. № 6. С. 303—338; Григорович Н. Переписка протоиерея Иоанна Григоровича с графом Румянцевым // Чтения в обществе истории и древностей российских. Кн. 2. СПб., 1864. С. 3—92.
3. Аддзел пісьмовых крыніц Дзяржаўнага гістарычнага музея (АПК ДГМ). Ф. 261. Воп. 1. Спр. 7.
4. Грыгаровіч І. І. Беларуская іерархія / прадм. і пер. М. Нікалаева. Мн., 1992. С. 18.
5. Преображенский А. А. Коллекция Юдина в государственном архиве Красноярского края // Археографический ежегодник за 1958 год. М., 1960. С. 267—268.
6. Иванова О. С. К вопросу о систематизации документов фонду № 6 (Коллекция Григоровичей) в БГАМЛИ // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 4. Мн., 2003. С. 47—54.
7. Григорович Н. Переписка Григоровича с графом Румянцевым // Чтения в обществе истории и древностей российских. Кн. 2. СПб., 1864. С. 3—92.
8. Лісты І. Грыгаровіча да брата Мікалая з Пецярбурга, Магілёва, Гомеля (1815—1835) // НДАР РДБ. Ф. 178. Карт. 1346. Спр. 18. Арк. 1—58.
9. Радок цытаваўся: Козлов В. П. Колумбы российских древностей. М., 1981. С. 107. Таксама выкарыстаны ў працах М. Нікалаева і Дз. Карава.
10. Ліст мітрапаліта Яўгенія да І. Грыгаровіча ад 30 красавіка 1826 г. апублікаваны: Переписка протоиерея Иоанна Григоровича с графом Румянцевым / пуб. Н. Григоровича // Чтения в обществе истории и древностей российских. Кн. 2. 1864. С. 91—92.


*Публікацыя В. С. Івановай*

## «ПЕРШЫЯ КРОКІ»
## НАЦЫЯНАЛЬНАГА АРХІВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь вядзе сваю гісторыю ад стварэння ў 1927 г. Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі (ЦДАКР, да 1938 г. — Цэнтральны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі (ЦАКР). Ён быў арганізаваны на базе аднаго з архівасховішчаў Цэнтрархіва БССР, якое знаходзілася ў Мінску па Мала-Манастырскай вуліцы (потым вуліцы Бакуніна, зараз вуліца Кірылы і Мяфодзія). У гэтым архівасховішчы з 1923 г. былі размешчаны «ўсе справы Цэнтральных савецкіх устаноў, пачынаючы з 1917 г. …».

Утварэнню архіва папярэднічала прыняцце Палажэння аб Адзіным дзяржаўным архіўным фондзе БССР, зацверджанага ЦВК і СНК БССР 28 мая 1927 г.[1] Цэнтрархіў БССР спыніў сваё існаванне як установа, якая спалучала ў сабе функцыі органа кіравання архіўнай справай і непасрэдна архівасховішча[2]. На Цэнтральнае архіўнае кіраўніцтва (ЦАК) БССР было ўскладзена кіраванне адзіным дзяржаўным архіўным фондам БССР, які павінен быў захоўвацца ў шэрагу архіўных устаноў Беларусі, у тым ліку і ў ЦАКР БССР.

Палажэнне аб ЦАК БССР і яго органах, прынятае ЦВК і СНК БССР 8 снежня 1927 г., вызначыла кампетэнцыю архіва. У адпаведнасці з палажэннем ЦАКР БССР быў органам ЦАК БССР, які ведаў усімі архіўнымі фондамі, матэрыяламі цэнтральных, дзяржаўных, кааператыўных і іншых грамадскіх устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў Беларусі, арганізаваных пачынаючы з 1917 г. У абавязкі супрацоўнікаў архіваў уваходзілі прыём, распрацоўка, сістэматызацыя і захоўванне дакументаў гэтых устаноў[3].

Стварэнне Цэнтральнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі БССР рэалізоўвала прынцып падзелу архіўных дакументаў па гістарычных эпохах, тэарэтычныя асновы якога ў Беларусі былі закладзены на 1-й Усебеларускай канферэнцыі архіўных работнікаў у 1924 г.[4]

Публікуемы дакумент змяшчае інфармацыю аб месцы знаходжання архіва ў 1927—1928 гг., колькасці супрацоўнікаў, умовах і прынцыпах яго камплектавання, саставе і змесце фондаў, выкарыстанні дакументаў і арганізацыі навукова-даведачнай бібліятэкі.

Тэкст падаецца па сучаснай арфаграфіі. Напісанне прапісных літар у назвах дзяржустаноў захавана. Скарачэнні слоў і назваў па магчымасці расшыфраваны і ўзяты ў квадратныя дужкі. Падкрэсліванні ў тэксце пры публікацыі не адзначаліся. Агульнавядомыя скарачэнні уніфікаваны (кг, м, км, т і г. д.). Стыль дакумента захаваны максімальна.

[1] Архивное дело в БССР (1918—1968). Сборник законодательных и руководящих документов. Мн., 1972. С. 40—42.
[2] Жумарь С. В., Карев Д. В., Шумейко М. Ф. Очерки истории архивного дела в Беларуси (XV в. — 1991 г.). Мн., 1999. С. 131.



[3] Архивное дело … С. 43—45.
[4] Шумейко М. Ф., Козак К. И., Селеменев В. Д. Архивоведение Беларуси. Учебное пособие для студентов исторических факультетов вузов в двух частях. Ч. 1. Мн., 1998. С. 131.

### Справаздача аб дзейнасці Цэнтральнага Архіву Кастрычніцкай Рэвалюцыі БССР з кастрычніка 1927 г. па кастрычнік 1928 г.*

*г. Мінск* *20 лістапада 1928 г.*

ЦАКР існуе паводле пастановы ЦВК і СНК Бел[арусі] ад 8 снежня 1927 года. Пачатак яго дзейнасці, аднак, уходзіць у больш даўнія гады, калі Цэнтрархіў БССР меў зусім іншую арганізацыйную структуру[1]. Між тым, з першых дзён дзейнасці Цэнтрархіва БССР стала выразна выяўляцца патрэбнасць аб'яднання асобна фондаў паслярэвалюцыйнага часу. Стварыць адразу такую арганізацыю ў першыя гады не прадставілася магчымым. Толькі паступова, шляхам канцэнтрацыі** архіваў савецкага перыяду ў адным будынку і аслабаненнем гэтага будынку ад фондаў дарэвалюцыйных, арганізавалася архівасхова А[рхіва] К[астрычніцкай] Р[эвалюцыі]. Адначасова з гэтым, паступова ствараюцца спецыяльныя ўмовы працы ў гэтай архівасхове, замацоўваецца штат супрацоўнікоў і г. д. Кіраўніцтва ж усёй унутранай працай, уся справа ўчоту паступлення фондаў, навядзення даведак, выдача спраў у карыстанне і г. д. вялася Цэнтрархівам у асобе яго кіраўніцтва.

Толькі з канца 1926 года адбываецца больш поўнае вылучэнне з апарату Цэнтрархіва А[рхіва] К[астрычніцкай] Рэвалюцыі ўжо як асобнай установы[2]. Справаздача аб дзейнасці ЦАКР за гэтыя першыя гады прадстаўлена ў Ц[энтральнае] А[рхіўнае] Кіраўніцтва ў часе 2-й нарады архівістаў БССР (20.XII.1927г.)[3].

Справаздачны перыяд дзейнасці ЦАКР характарызуецца наступным:

Асабовы склад

На працы было занята 4 асобы:
1. Ст. архівіст т. Баброўскі[4]
2. архівіст т. Царук
3. архівіст т. Егудкін[5]
4. Дворнік-прыбіральшчык т. Шаціла […]

Пры гэтым дворнік-прыбіральшчык, прахоздячы па штату як 0,5 адзінкі, працуе толькі палову рабочага дня.

У адносінах да іншых працаўнікоў маюць месца таксама выпадкі, калі скарыстанне іх на працы не было поўным. Так, т. Баброўскі адсутнічаў на працы ў ЦАКР з 3.I. па 8.IV.28 з прычыны знаходжання на архіўных курсах у

* Загаловак дакумента.
** Так у тэксце.

гор. Маскве[6]. Тав. Егудкін з 15.IV. па 1.VI.28 знаходзіўся на курорце. Т. Царук з 1.XII.27 па 1.I.28 быў вызвалены ад працы па загаду Акрваенкамата для правядзення дапрызыўнай падрыхтоўкі. Улічваючы, акрамя гэтага, чарговыя водпускі супрацоўнікаў (па 5 тыдняў кожнаму), а для Егудкіна, які не карыстаўся водпускам летась — 9-тыдневы, мы бачым, што на розныя выпадкі адсутнасці супрацоўнікаў на працы прыходзіцца 11,75 асоба-месяцаў, што ў адносінах да агульнага ліку магчымых асоба-месяцаў — 42 дае 28%.

Маючы на ўвазе, што ў часе адсутнасці гэтых супрацоўнікаў замены іх часовымі працаўнікамі не было, мы павінны адзначыць, што фактычна працавала на працягу гэтага года не 3,5 штатных адзінкі, а амаль што толькі 2,5 адзінкі.

Паказаны ў пачатку гэтага раздзела штат працаўнікоў з указаннем іх прозвішчаў застаецца нязменным і да канца справаздачнага перыяду.

### Памяшканне ЦАКР, яго пашырэнні і абсталяванне

ЦАКР займае памяшканне был[ога] Свята-Духава мужчынскага манастыра па вул. Бакуніна № 1[7], якое прадастаўлена Цэнтрархіву Бел[арусі] 5.V.1923 года па пастанове камісіі па адлучэнню царквы ад дзяржавы пры Н[ародным] К[амісарыяце] Ю[стыцыі] Бел[арусі].

Памяшканне гэта ў сэнсе забяспечанасці ад пакраж, пажару і г. д. можна лічыць здавальняючым. Асаблівай вільготнасці[*] не прыкмячаецца. Адмоўнымі бакамі адпаведнасці памяшкання патрэбна лічыць адсутнасць вадаправоду як процівапажарнай меры і немагчымасць ацяпляць памяшканне з прычыны асаблівасцяў яго пабудавання. Ва ўсім памяшканні ацяпляецца ўзімку толькі адзін рабочы пакой. У архівасхове і рабочым пакоі праведзена электрычнасць. Маецца тэлефонны апарат.

Да пачатку справаздачнага перыяду плошча архівасховы была 505,90 кв. м. Гэта плошча прыпадалася на 10 пакояў, прычым пад архівамі К[астрычніцкай] Р[эвалюцыі] было занята толькі 5 пакояў плошчай 315,4 кв. м.

Рэшта памяшкання, 5 пакояў плошчай 190,5 кв. м, скарыстоўвалася як склады розных будаўнічых матэрыялаў і дроў, рабочы пакой, а адзін пакой плошчай у 20,52 кв. м быў заняты пад архівамі дарэвалюцыйнага часу.

Абсталяванне архівасховы стаяліцамі было здзейснена яшчэ ў першыя гады існавання архіву. Да пачатку гэтага перыяду пад стаяліцамі была скарыстана ўся карысная плошча памяшкання.

Усяго мелася пабудаванымі 37 стаяліц агульнай даўжынёй 2400,55 паг[онных] м. Паказаная плошча памяшкання і стаяліц з ходам часу ўсё больш і больш запаўнялася паступленнямі архіўных фондаў і ўжо ў пачатку 1927 г. меўся значны крызіс у памяшканні.

[*] У тэксце *вільгаці.*



Як выхад са склаўшагася становішча было намечана скарыстаць асаблівасць будынку — пабудаваць другі паверх. Гэта праца была здзейснена ў першай палове 1928 года і дала новых 204,16 кв. м карыснай плошчы[8]. Частку другога паверху архівасховы ўдалося яшчэ ў гэтым годзе абсталяваць стаяліцамі. Пабудавана 8 стаяліц агульнай даўжынёй 585,99 паг[онных] м.

Такім чынам, на 1.X.1928 года мы маем у архівасхове ўжо 11 пакояў плошчай 687,93 кв. м і 45 стаяліц даўжынёй 2986,54 паг[онных] м.

Патрэбна зазначыць, што пераважная частка стаяліц, перавезеных з былога архіву Менскай Кантрольнай Палаты, не зусім адпавядае ўмовам размяшчэння матэрыялаў і прымушае рабіць адступленні ад устаноўленых на гэта правіл. Дзеля больш поўнага скарыстання плошчы стаяліц прыходзіцца матэрыялы размяшчаць у гарызантальным відзе, што дае шэраг адмоўных вынікаў.

### Прыёмка на захаванне фондаў і іх унутраны змест

На 1 кастрычніка 1927 года ў ЦАКР мелася 161 959 адзінак захоўы[9]. За час кастрычнік 1927 года — верасень 1928 года адбылося 224 прыёмкі архіўнага матэрыялу, прычым было прынята 75 282 адз[інкі] захоўы і, акрамя гэтага, 4350 кг вагай.

На 31 верасня 1928 года лічылася, такім чынам, паступіўшымі 243 441[*] адзінкі захоўы і 4350 кг арх[іўных] матэрыялаў.

Усе гэтыя паступленні складаюць сабой 660[**] архіўных фондаў. Падзяліўшы апошнія на некалькі праізволных груп па іх ведамаснай[***] прыналежнасці, убачым, што на:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Н[ародны] К[амісарыят] Зем[ляробства] і падпарадкаваныя яму ўстановы | прыпадае | 8314 | адз[інак] зах[овы], якія ўтвараюць | 22 | фонды |
| 2. | Н[ародны] К[амісарыят] Асветы | | 4011 | — » — | 22 | — » — |
| 3. | Н[ародны] К[амісарыят] Унутраных спраў | | 23 129 | — » — | 9 | — » — |
| 4. | Н[ародны] К[амісарыят] Грашовых спраў | | 18 326 | — » — | 12 | — » — |
| 5. | В[ышэйшы] С[авет] Нар[однай] Гаспадаркі | | 5525 | — » — | 30 | — » — |
| 6. | Н[ародны] К[амісарыят] Раб[оча]-Сял[янскай] Інспекцыі | | 2957 | — » — | 6 | — » — |

[*] У тэксце памылкова *237 241.*
[**] У тэксце памылкова *648.*
[***] У тэксце *ведамасцвеннай.*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 7. Н[ародны] К[амісарыят] Аховы Здороўя | 573 | — » — | 1 | — » — |
| 8. Н[ародны] К[амісарыят] Пошт і Тэлеграфаваў | 45 929 | — » — | 220 | — » — |
| 9. Н[ародны] К[амісарыят] Працы | 335 | — » — | 2 | — » — |
| 10. ГалоўэвакЗап | 5394 | — » — | 30 | — » — |
| 11. Ц[энтральны] С[авет] Проф-саюзаў | 10 630 | — » — | 43 | — » — |
| 12. Н[ародны] К[амісарыят] Харчавання | 3527 | — » — | 11 | — » — |
| 13. Белшклотрэст | 326 | — » — | 6 | — » — |
| 14. Цэнтрбумтрэст | 43 | — » — | 1 | — » — |
| 15. Райнафтасіндыкат | 41 | — » — | 1 | — » — |
| 16. Белдзяржрэклама | 307 | — » — | 5 | — » — |
| 17. Н[ародны] К[амісарыят] Шляхоў Зносін | 677 | — » — | 2 | — » — |
| 18. Паўночкаўгандаль* | 436 | — » — | 3 | — » — |
| 19. Кіраўніцтва Упаўнаважн. пры Замеж. Орг. Дап. Расеі | 52 | — » — | 1 | — » — |
| 20. М[енскі] Ц[энтральны] Рабочы Кааперат[ыў] | 1836 | — » — | 1 | — » — |
| 21. Навучальныя ўстановы | 1158 | — » — | 8 | — » — |
| 22. Белсельсаюз | 932 | — » — | 11 | — » — |
| 23. Менакрвыканкам | 1056 | — » — | 3 | — » — |
| 24. Саюз Хлеб | 2300 | — » — | 31 | — » — |
| 25. Літар[атурнае] Аб'яднанне | 21 | — » — | 1 | — » — |
| 26. Белваенпатрэб.** Т[аварыст]ва | 956 | — » — | 1 | — » — |
| 27. Аўтапрамгандаль | 2482 | — » — | 9 | — » — |
| 28. Менакрсуд | 25 731 | — » — | 17 | — » — |
| 29. Белдзяржвыдат | 106 | — » — | 1 | — » — |
| 30. Цэнтраспірт | 196 | — » — | 1 | — » — |
| 31. Тэкстыльгандаль | 1461 | — » — | 2 | — » — |
| 32. 2-ая Беларуская Тэр[ытарыяльная] Дывізія | 874 | — » — | 3 | — » — |
| 33. Мсціслаўскі Выканком | 890 | — » — | 9 | — » — |

* Так у тэксце.
** Так у тэксце. Магчыма *Беларускае ваеннае спажывецкае таварыства (Белваенспажыўтаварыства).*



| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 34. Камвользбыт | 5 | — » — | 1 | — » — |
| 35. Цэнтрабелсаюз | 6563 | — » — | 2 | — » — |
| 36. Чэрвенскі Выканком | 1563 | — » — | 40 | — » — |
| 37. Н[ародны] К[амісарыят] Юстыцыі | 36 697 | — » — | 46 | — » — |
| 38. Бел[арускае] Аддз[яленне] Галоўн[ага] Мытн[ага] Кіраўніцтва | 17 752 | — » — | 15 | — » — |
| 39. Камендантскае Кіраўн[іцтва] | 255 | — » — | 1 | — » — |
| 40. Камбінат Эльвод* | 210 | — » — | 1 | — » — |
| 41. Н[ародны] К[амісарыят] Гандлю | 282 | — » — | 1 | — » — |
| 42. Менск[і] Вайсковы Шпіталь | 508 | — » — | 1 | — » — |
| 43. Вайсковы Трыбунал 3 к[авалерыйскага] к[орпусу] | 688 | — » — | 5 | — » — |
| 44. Ц[энтральнае] Стат[ыстычнае] Кіраўніцтва | 1727 | — » — | 2 | — » — |
| 45. 7-ая Кав[алерыйская] Дывізія | 3164 | — » — | 9 | — » — |
| 46. Цукратрэст | 515 | — » — | 6 | — » — |
| 47. Прамысловы Банк | 1149 | — » — | 2 | — » — |
| 48. Хемвугаль** | 119 | — » — | 1 | — » — |
| 49. Аб['ядпаная] Вайск[овая] Школа імя ЦВК | 1213 | — » — | 1 | — » — |
| 50. Белдзяржстрах | 500 | — » — | 1 | — » — |
| Усяго | 243 441*** | адз[інкі] зах[овы] | 660*** | фондаў |

Усе матэрыялы, паступаючыя на захову, бываюць належным чынам упарадкаваны. Умесна тут яшчэ адзначыць, што пачынаючы з 1927 года, у сувязі**** з арганізацыяй Менакрархіву, спынена ўжо зусім прыёмка матэрыялаў ад устаноў Акруговага маштабу, а таксама і тое, што на прыёмку архіваў мела вялікае значэнне пабудова 2-га паверху ў памяшканні. Будаўнічыя працы прымусілі часова спыніць прыём матэрыялаў, што прывяло да вялікага наплыву іх пасля заканчэння пабудовы і часовых загрузак памяшкання партыямі прынятых, але не апрацаваных яшчэ самім архівам фондаў.

* Так у тэксце.
** Так у тэксце.
*** У тэксце памылкова *237 241* і *648*.
**** У тэксце *у звязку*.

### Выдача матэрыялаў дзеля карыстання

Даны від працы займае даволі значную частку дзейнасці ЦАКР[10]. Пры выпаўненні яе прыкмячаецца тры выпадкі:

1. Матэрыял выдаецца для прагляду на месцы, у архівасхове.

2. Матэрыял выдаецца ў канцылярыю Ц[энтральнага] А[рхіўнага] Кіраўніцтва для выдачы даведак або адсылкі яго ва ўстановы, ад якіх атрыман запрос.

3. Выдача адбываецца ўстановам непасрэдна з архівасховы.

За справаздачны перыяд выпадкаў карыстання матэрыяламі на месцы было 98. Дакладнага ўчоту колькасці прагледжаных пры гэтым адзінак заховы не вялося, але вопыт паказаў, што ў сярэднім пры карыстанні на месцы зацікаўленая ўстанова патрабуе не менш чым 5 адзінак заховы, што ў агуле саставіць* лічбу 490 адзінак заховы. Колькасць патрачанай пры гэтым працы становіцца больш яснай, калі мы ўлічым, што звычайна для карыстання патрабуюцца справы не з адной, а з некалькіх асобных звязак.

Справа значна пагаршаецца ў двух астатніх выпадках, калі матэрыялы выдаюцца дзеля карыстання за сцены архівасховы. Так, у большасці выдач матэрыялаў у канцылярыю Ц[энтральнага] А[рхіўнага] Кіраўніцтва прыходзіцца заўжды праводзіць працу па падборцы патрэбных матэрыялаў, бо асоба ці ўстанова, якая патрабуе тыя ці іншыя даведкі, у заяве-адносіне зазначае толькі, якія пытанні яе цікавяць, назву ўстановы, у справах якой гэтыя пытанні адбіліся і, прыблізна ў большасці выпадкаў, час. Звычайна архіву прыходзіцца ўнікаць у справаводства той ці іншай установы, праглядаць шэраг матэрыялаў, устанаўліваць след, рух папер у справаводстве, карыстацца адразу некалькімі крыніцамі, дзеля адлюстравання таго ці іншага факту.

Толькі ў меншай частцы выдача матэрыялаў у канцылярыю Ц[энтральнага] А[рхіўнага] Кіраўніцтва адбываецца з мэтай адсылкі іх ва ўстановы, прычым апошнія ўказваюць больш-менш дакладна** месца справы ў архіве.

Выпадкаў выдачы матэрыялаў у канцылярыю, незалежна ад мэты запроса, за год адбылося 127. У часе якіх выдана да 200 адзінак заховы.

На трэці выпадак карыстанне матэрыяламі непасрэдна з архівасховы зацікаўленым установам прыпадае на год 131 выдача, у час якіх выдана, лічачы ў сярэднім па 4 адзінкі заховы на выпадак, — 525 адзінак заховы. Ненармальным пры карыстанні матэрыяламі яўляецца затрымка ўстановамі ўзятых спраў звыш тэрміну, устаноўленага на гэты прадмет. Так, на 30 верасня 1928 года лічылася 38 выпадкаў (а ўсіх 258) затрымання*** спраў ва ўстановах, прычым гэтыя затрыманні дасягаюць 3-х месячнага і нават больш гэтага часу, тэрміну.

* У тэксце *дасць*.
** У тэксце *точна*.
*** У тэксце *залежвання*.



Акрамя гэтага, за год меліся 4 выпадкі выдачы архіўных матэрыялаў беззваротна ўстановам, якія іх здалі на захову. Паказаныя запатрабаванні задаволены з прычыны востра выяўленай патрэбы ўстаноў у матэрыялах. Прыпадаюць яны на вайсковы Трыбунал 3-га кав[алерыйскага] корпусу (2 выпадкі), Беладдзяленне Галоўнага Мытнага Кіраўніцтва (1 выпадак) і Койданаўскі Сел[ьска]-Гасп[адарчы] Прам[ысловы] Трэст (1 выпадак).

Такім чынам, агульны малюнак выдачы матэрыялаў мае такі выгляд:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| выпадкаў | карыстання | на месцы | адбылося | 98 | выдана | 490 | адз[інак] зах[оўвання] |
| — » — | выдачы | ў канцылярыю ЦАК | — » — | 127 | — » — | 200 | — » — |
| — » — | — » — | установам | — » — | 131 | — » — | 525 | — » — |
| — » — | — » — | беззваротна | — » — | 4 | — » — | 4 | — » — |
| | | Усяго разам | | 360 | — » — | 1219 | — » — |

### Вылучэнне архіўнай макулатуры

Сярод захоўваючыхся ў ЦАКР архіўных фондаў, асабліва сярод матэрыялаў, адклаўшыхся ў працэсе дзейнасці некаторых савецкіх устаноў у першыя гады іх дзейнасці, маецца вялікі працэнт макулатуры. Як да гэтага часу, так і ў справаздачны перыяд з прычыны занятасці працаўнікоў на іншай больш неадкладнай працы не было магчымасці аддаць належную ўвагу працы па вылучэнню памянёнай макулатуры. Перашкаджалі гэтаму яшчэ неацепленасць памяшкання зімой і працы па будаванню 2-га паверху.

Толькі ў красавіку—верасні 1928 года ўдалося заняцца часткова* адсейваннем макулатуры. Па адборцы яе пытанні аб знішчэнні ставіліся на пасяджэннях Праверачнай камісіі Ц[энтральнага] А[рхіўнага] Кіраўніцтва БССР.

На пяці пасяджэннях праверачнай камісіі, на якіх разглядаліся пытанні, унесеныя ЦАКР, былі вынесены дазволы на знішчэнне макулатуры з наступных фондаў:

1. Рознічнага магазіну (Тэкстыльгандлю**)
2. Менскай п[аштова]-т[элеграфнай] канторы
3. Віленскай —»—
4. Мар'іна-Горскай —»—
5. Амельнянскага п[аштова]-т[элеграфнага] аддзялення
6. Смілавіцкага —»—
7. Дукорскага —»—

* У тэксце *адчасткі*.
** У тэксце *Текстильторга*.

8. Беларучскага —»—
9. Узлянскага —»—
10. Рудзенскага —»—
11. Шацкага —»—
12. Уздзенскага —»—
13. Лошніцкага —»—
14. Негарэлаўскага —»—
15. Менскага Чыгуначнага ст. Зах.
16. Менскай гарадской эл[ектра]-вадапр[аводнай] станцыі.

Выразна адзначыць колькасць адабранай макулатуры з паказаных фондаў зараз немагчыма з прычыны таго, што ўся рэалізацыя адбывалася сумесна з іншымі партыямі макулатуры, і розныя разлікі па продажу вяліся непасрэдна Ц[энтральным] А[рхіўным] Кіраўніцтвам. Прыкладная вага не менш 6 тон. Дакладныя лічбы закончаных адзінак заховы будуць выяўлены пры заканчэнні працы па інвентарызацыі ўсіх фондаў па ўстаноўленых кнігах.

### Становішча бібліятэчнай справы

Да 1927 года ЦАКР сваёй бібліятэкі не меў і нават тыя друкаваныя матэрыялы, якія паступалі выпадкова з архіўнымі, перадаваліся ў бібліятэку Цэнтрархіва, якая раней існавала пры канцылярыі Кіраўніцтва[11].

У той час бібліятэка абслугоўвалася спецыяльным працаўнікам, вялася некаторая разборка і інвентарызацыя, але гэта праца не была даведзена да канца, а праведзена толькі ў адносінах часткі бібліятэчных матэрыялаў.

Затым бібліятэка доўгі час нікім не абслугоўвалася, ляжала складзенай у шафы і паступова папаўнялася самым разнастайным* матэрыялам. У час перамяшчэння Ц[энтральнага] А[рхіўнага] Кіраўніцтва ў новае памяшканне ўвесь гэты ў большай сваёй частцы неўпарадкаваны матэрыял быў звезены ў архівасхову ЦАКР. Пасля гэтага былі звезены ў ЦАКР друкаваныя матэрыялы савецкага перыяду з Менскага Гістарычнага Архіву і паступіла некалькі прыёмак з другіх устаноў.

У гэтым жа стане знаходзяцца ўсе друкаваныя матэрыялы і зараз у памяшканні ЦАКР. З прычыны больш важных і, галоўным чынам неадкладных прац, да гэтага часу над імі не праводзілася якая-небудзь сталая праца.

Існуючыя меркаванні адносна ўпарадкавання ўключаюцца ў план працы архіва на 1929 год, у якім годзе і гэтай працы будзе адведзена належная ўвага.

Стан бібліятэкі не дае магчымасці спыніцца доўга на яе змесце і колькасці. Існуючыя даныя гавораць аб безумоўнай яе вартасці. Прыблізна яе склад: да 150 камплектаў розных назваў газет, выдадзеных на тэрыторыі СССР і да 150 камплектаў зарубежных газет. Камплекты ў пераважнай сваёй частцы не поўныя, многія з іх з'яўляюцца дублетнымі. Кніжнага і брашурнага матэрыялаў маецца да 3000 экземпляраў, акрамя гэтага, маецца шмат афіш, лістовак, лозунгаў і інш.[12]

* У тэксце *размаітым.*



### Праца па канцылярыі

Самастойнай перапіскі з установамі або прыватнымі асобамі ЦАКР не вядзе. У выпадках неабходнасці перапіска адбываецца праз канцылярыю ЦАК. На месцы вядуцца толькі неабходныя для дзейнасці архіву ўчотныя кнігі і розныя паказчыкі. Усяго вядзецца 5 кніг і 5 спраў. Звыш таго, да канцылярскай працы патрэбна аднесці сістэматызацыю і падшыўку здатачных спісаў, якіх маецца вялікая колькасць.

### Іншыя працы

Не вылучана яшчэ асобна некалькі момантаў працы ЦАКР. Сюды можна аднесці: а) працу над матэрыяламі палітсекцыі [ЦАК БССР], якія былі звезены ў архівасхову ЦАКР дзеля часовай заховы і ўпарадкавання. Большая частка спраў Палітсекцыі была ў ЦАКР праверана па вопісах, перавязана нанава ў звязкі, паярлыкована. Закончыць гэту працу не прыйшлося ў сувязі з перавозкай* спраў у другое месца[13]; б) праведзена значная праца па падрыхтоўцы і перадачы Менскаму Акруговаму Архіву належных да яго фондаў: вылучаны ўсе матэрыялы, якія складалі раней Чэрвенскі павятовы архіў у ліку 16 180 адзінак заховы (1061 зв[язка]). Для гэтага прыйшлося сістэматызаваць вопісы, вылучыць з агульнай масы архіву ўсе справы і кнігі, праверыць налічча звязак, многія з іх перавязаць і інш.; в) праводзілася разборка, падшыўка і інвентарызацыя спраў был[ога] аддзелу асветы Заходняй Камуны і інш. асветных устаноў 1918—1921 гадоў. Разабрана і сфарміравана нанава звыш 500 спраў. З гэтага ліку каля 200 спраў апісана архівам К[астрычніцкай] Рэв[алюцыі][14]; г) вялося абслугоўванне даследчыкаў, якіх за год было 5 асоб. У сярэднім кожная асоба займалася да аднаго тыдня. Выдана ім для карыстання звыш 251 адзінак заховы; д) праведзен шэраг праверак і інвентарызацыя ўсей маёмасці ЦАКРу. Кошт маёмасці на 1.10.1928 года — 1746 р. 64 к.; е) праведзен шэраг перамяшчэнняў матэрыялаў у сувязі** з пабудовай другога паверху і г. д.

### Агульныя заўвагі

Падводзячы вынікі працы Цэнтральнага Архіву Кастрычніцкай Рэвалюцыі, патрэбна адзначыць, што, нягледзячы на цяжкасці ў працы, выкліканыя крызісам памяшкання, правядзеннем будаўнічых прац, неацепленасцю памяшкання ў зімовы перыяд, нягледзячы на тое што ў сярэднім ЦАКР абслугоўваўся ўсяго 2,5 штатнымі адзінкамі, мы бачым, што ён паспяхова спраўляўся з бягучай сваёй працай, не робячы ніякіх адступленняў ад устаноўленага парадку. Становішча архіву за справаздачны перыяд значна па-

* У тэксце *у віду перавозкі.*
** У тэксце *у звязку.*

лепшылася, як у адносінах плошчы памяшкання і стаяліц, так і наогул яго ўнутранага парадку, становішча прымаемых архіваў і інш.

Новы перыяд, які будзе праходзіць у больш спрыяльных умовах, дасць магчымасць не толькі ўзмацніць і ўдасканаліць праводзімую працу, але і пашырыць яе на многія, яшчэ не закранутыя галіны, як, напрыклад, арганізацыю бібліятэкі, вядзенне цэнтральнай картатэкі фондаў і інш., што і прадугледжана планам працы[15].

20 лістапада [19]28 г.

Старшы архівіст

Цэнтр[альнага] арх[іва] Кастрыч[ніцкай] рэвал[юцыі] Баброўскі[*]

НАРБ. Ф. 250. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 46—51 *Машынапіс. Арыгінал.*

1 Загадам № 30 загадчыка Цэнтрархіва БССР ад 30.06.1927 з 15.06.1927 у структуры ЦАУ БССР былі ліквідаваны раней існуючыя аддзелы: адміністрацыйна-гаспадарчы, навукова-тэарэтычны і пасада інспектара архіваў (НАРБ. Ф. 249. Воп. 2. Спр. 1. Арк. 4адв.).

2 У праекце штатаў Цэнтральнага дзяржаўнага архіва БССР і яго акруговых аддзяленняў на 1926—1927 гг. і ў тлумачальнай запісцы да яго была прадугледжана пасада «загадчыка архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі, VII секцыі і сакрэтных спраў». Увод гэтай пасады тлумачыўся тым, што: «у сувязі з неабходнасцю выдзялення з дарэвалюцыйных архіваў усіх спраў гісторыка-рэвалюцыйнай значнасці (VII секцыі), канцэнтрацыі ў адзін архіў усіх матэрыялаў пасля Лютаўскай рэвалюцыі (Архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі), а таксама аховы паступаючых у Цэнтрархіў сакрэтных спраў арганізацый, неабходна адна штатная адзінка, на якую будзе ўскладзена ахова гэтых архіваў і іх тэхнічнае ўпарадкаванне» (НАРБ. Ф. 249. Воп. 1. Спр. 198. Арк. 9, 11).

3 Гл.: Рэзалюцыя па дакладу «Дзейнасць ЦАКРу ў першы кругабег яго існавання» // Второе совещание архивных работников Беларуси 19—24 декабря 1927 г.: Документы и материалы. Мн., 2001. С. 27. Даклад аб дзейнасці ЦАКР, з якім выступаў Г. І. Баброўскі на нарадзе, верагодна, не захаваўся. Аб яго змесце мы можам уявіць па інфармацыйнай запісцы загадчыка ЦАУ БССР Дз. Х. Жылуновіча аб Другой нарадзе архіўных працаўнікоў Беларусі ад 24.01.1929, якая была накіравана ў Сакратарыят ЦВК БССР. У ёй гаварылася: «Дакладчык ад Цэнтральнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі Г. Баброўскі коратка спыніўся на гісторыі ўтварэння ЦАКР, на працы, праробленый гэтым архівам, даў характарыстыку змешчаных у ЦАКР архіўных матэрыялаў і пазнаёміў з планам далейшай працы архіва. У ЦАКР, акрамя спраў цэнтральных савецкіх устаноў і наркаматаў, будуць паступаць больш каштоўныя дакументы з усёй БССР, якія маюць адносіны да Кастрычніка на Беларусі, ілюстратыўны матэрыял, кінадакументы мясцовай хронікі, якія адбіваюць рэвалюцыйную творчасць БССР і па аднаму экземпляру афіцыйна-даведачных выданняў з усёй БССР» (НАРБ. Ф. 6. Воп. 1. Спр. 1904. Арк. 2, 3).

4 Баброўскі Геннадзь Ігнатавіч — першы дырэктар ЦАКР. Нарадзіўся 7.08.1905 у г. Мінску. У НАРБ захоўваецца яго асабовая справа, якая датуецца 9.05.1922 —

[*] Подпіс-аўтограф.



4.04.1927 (НАРБ. Ф. 249. Воп. 2. Спр. 134, на 32 арк.). На працу ў Цэнтрархіў Беларусі ён быў залічаны загадам № 4 ад 8.12.1922 з 1.10.1922. Спачатку працаваў часовым, потым пастаянным супрацоўнікам разборачнай камісіі, сакратаром, інструктарам-інспектарам Цэнтрархіва БССР. На пасаду старшага архівіста ЦАКР быў прызначаны загадам № 30 загадчыка ЦАК БССР от 30.06.1927. Гэтым загадам на яго была ўскладзена поўная адказнасць за захаванасць архіўных матэрыялаў і за работу над іх упарадкаваннем (НАРБ. Ф. 249. Воп. 2. Спр. 1. Арк. 1, 47). Пасада старшага архівіста існавала на правах загадчыка архіва. Аб гэтым маюцца звесткі ў справаздачы аб дзейнасці кіраўніцтва Цэнтрархіва БССР і яго органаў з 1.1.1926 па 1.10.1928 (НАРБ. Ф. 6. Воп. 1. Спр. 1945. Арк. 6, 13).

5 У НАРБ на захаванні маюцца асабовыя справы Егудкіна Якава Рахміелевіча і Царука Івана Варфаламеевіча, першых супрацоўнікаў ЦАКР. Яны не былі прафесійнымі архівістамі (НАРБ. Ф. 249. Воп. 2. Спр. 149, на 44 арк., Спр. 189, на 24 арк.).

6 Аб накіраванні на трохмесячныя курсы архівазнаўства пры Цэнтрархіве РСФСР старшага архівіста ЦАКР БССР Г. І. Баброўскага і загадчыка Полацкага акружнога архіва І. Дадона паведамляла газета «Савецкая Беларусь» 25.12.1927 (НАРБ. Ф. 249. Воп. 1. Спр. 18. Арк. 53; гл. таксама НАРБ. Ф. 249. Воп. 2 Спр. 18. Арк. 6, 7, 32—34).

7 Гл.: «Справа аб перадачы Цэнтрархіву БССР будынка Бернардынскага касцёла ў Мінску (пратаколы, акт, распіскі, перапісы за 24.03. — 29.08.1923)» (НАРБ. Ф. 249. Воп. 1 Спр. 35, на 31 арк.). Праваслаўны манастыр Святога Духа размяшчаўся ў будынках Мінскага касцёла і манастыра бернардынак з 1870 г. Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў гэтым будынку знаходзіцца праваслаўны Свята-Духаў кафедральны сабор (Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1993. С. 331).

8 Газета «Савецкая Беларусь» 7.02.1928 у рубрыцы «Архіўныя навасці» паведамляла: «У Цэнтральным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі зараз праводзіцца падрыхтоўчая праца па будаўніцтву другога паверха. У апошнім будуць размешчаны матэрыялы Кастрычніцкай эпохі на Беларусі» (НАРБ. Ф. 249. Воп. 1. Спр. 18. Арк. 22).

У «Савецкай Беларусі» 21.02.1928 была размешчана аб'ява аб тым, што «сёння, 21 лютага, пачалося перамяшчэнне і абсталяванне архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі па вул. Бакунина ў д. № 1. У сувязі з гэтым у Цэнтральным архіўным кіраўніцтве пры ЦВК БССР часова спынены прыём на захаванне спраў цэнтральных устаноў БССР. Даведкі выдаюцца ў звычайным парадку. Аб прыёмке спраў будзе аб'яўлена асобна» (НАРБ. Ф. 249. Воп. 1. Спр. 18. Арк. 20).

Захаваліся: акт прыёмкі праробленай працы па ўладкаванню міжпавярховага перакрыцця ў архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі па вул. Бакуніна ў памяшканні былога Бернардынскага касцёла ад 8.05.1928 і выканаўчая смета гандлёва-будаўнічага трэста Мінакрвыканкама на работы, праробленыя па ўладкаванню міжпавярховага перакрыцця ў архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі па вул. Бакуніна ў г. Мінску ад 15.06.1928 (НАРБ. Ф. 249. Воп. 1. Спр. 236. Арк. 122—127адв).

9 «Савецкая Беларусь» 25.12.1927 у рубрыцы «Архіўнае будаўніцтва» паведамляла: «У Цэнтральны Архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі на працягу бягучага года на захаванне прыняты 87 000 спраў — архіўных адзінак розных савецкіх і грамадскіх устаноў…» (НАРБ. Ф. 249. Воп. 1. Спр. 18. Арк. 53).

10 У гэтай дзейнасці ЦАКР карыстаўся «Правіламі аб выдачы даведак, копій, арыгіналаў дакументаў з Цэнтральнага дзяржаўнага архіва БССР і яго акруговых аддзя-

ленняў», зацверджаных пастановай ЦВК і СНК БССР ад 10.04.1926 (Архівное дело … С. 35—37).

11 Больш падрабязна аб фарміраванні фондаў бібліятэкі ЦАУ БССР гл. раздзел IX «Бібліятэка Цэнтрархіва БССР» у «Справаздачы аб дзейнасці Цэнтрархіва БССР за час з 1923 па 1925» ад 26.01.1927 (НАРБ. Ф. 249. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 54—55).

12 Газета «Рабочий» 14.01.1928 у артыкуле «Сховішча Цэнтрархіва БССР» пісала: «Архіў кастрычніцкіх дакументаў існуе параўнальна нядаўна, але, нягледзячы на гэта, у ім ужо сабрана значная колькасць каштоўных гістарычных дакументаў. Разам з «канцылярскімі» матэрыяламі тут шмат іншых рэдкіх дакументаў і помнікаў Кастрычніка і грамадзянскай вайны. З якім хваляваннем глядзіш, напрыклад, на рэдкі плакат — «Даёшь Варшаву!» (НАРБ. Ф. 249. Воп. 1. Спр. 18. Арк. 19).

13 Верагодна, дакументы палітсекцыі ЦАК БССР і сталі ў будучым асновай Сакрэтнага архіва, які размяшчаўся ў 30-я гады ў Магілёве.

14 Газета «Савецкая Беларусь» 25.12.1927 паведамляла сваім чытачам аб тым, што «ў архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі заканчваецца разборка і апісанне архіва Наркамата асветы Літвы і Беларусі і аддзела асветы Заходняй Камуны. У гэтых фондах захоўваюцца багатыя і цікавыя матэрыялы аб эвакуацыях, з'ездах па народнай асвеце ў першыя гады рэвалюцыі, аб заснаванні Белдзяржуніверсітэта і інш.» (НАРБ. Ф. 249. Воп. 1. Спр. 18. Арк. 53).

15 Гл.: План працы Цэнтральнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі БССР на перыяд з 1.10.1928 па 1.10.1929, складзены Г. І. Баброўскім і датаваны 20.11.1928 (НАРБ. Ф. 250. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 54—55).

*Публікацыя Н. Я. Калеснік*



# ПОСТАЦІ

***А. М. Гесь, У. В. Ляхоўскі***

## ПАМЯЦІ ПРАФЕСАРА УЛАДЗІМІРА МІХНЮКА

Сёлета споўнілася б 60 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Мікалаевіча Міхнюка, вядомага беларускага гісторыка і архівіста. «Быў, тварыў, выступаў, перажываў, любіў, спрачаўся, адстойваў» — так сказаць пра калегу і цяпер здаецца недарэчным і непраўдзівым. Але так яно ёсць: 13 кастрычніка 2004 г. Уладзіміра Мікалаевіча не стала. Ягоная заўчасная смерць для ўсіх, хто ведаў гэтага выдатнага чалавека, стала поўнай нечаканасцю, прымірыцца з якой дагэтуль цяжка. Смерць напаткала яго раптоўна, падчас навуковай камандзіроўкі ў Брэст. Не вытрывала сэрца…

Нарадзіўся Уладзімір Мікалаевіч Міхнюк 27 верасня 1947 г. ў вёсцы Грушчаны Поразаўскага раёна (цяпер Свіслацкі) Гродзенскай вобласці. У 1969 г. скончыў гістарычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, а праз год быў прыняты аспірантам на кафедру гісторыі СССР і БССР таго ж інстытута. З вялікай павагай і шчырасцю адносіўся да свайго навуковага кіраўніка, прафесара, доктара гістарычных навук Барыса Фіха, які шмат дапамог яму ў пачатку навуковай кар'еры. Пасля заканчэння аспірантуры быў пакінуты на кафедры выкладчыкам, а праз год Уладзімір Міхнюк паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме «Гістарыяграфія сацыяльна-эканамічнага жыцця беларускай вёскі ў 1917—1929 гг.».

На запросіны дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ Іларыёна Ігнаценкі ў верасні 1975 г. пераязджае ў Мінск, працуе старшым навуковым супрацоўнікам адзначанай установы. Спецыялізуецца на вывучэнні гістарыяграфіі найноўшай гісторыі Беларусі, абірае тэму сваёй доктарскай дысертацыі — «Станаўленне і развіццё гістарычнай навукі Савецкай Беларусі. 1919—1941 гг.». І хоць некаторыя з калегаў-гісторыкаў радзілі яму памяняць тэму, указваючы, што яна «несвоечасовая», «ненавуковая і недысертабельная», Уладзімір Міхнюк даказаў адваротнае: спачатку, у 1985 г., выдаў манаграфію, а праз два гады абараніў па ёй доктарскую дысертацыю. У сваёй кнізе ён асцярожна даў сваю ўласную інтэрпрэтацыю важнейшых падзей развіцця беларускай гістарычнай навукі, памяняў некаторыя ранейшыя адыёзныя ацэнкі ў дачыненні да асобных беларускіх гісторыкаў даваеннага часу. Абарона дысертацыі ў акадэмічным Інстытуце гісторыі цягнулася больш за 7 гадзін, і ў гэтай «бітве» пераможцам выйшаў Уладзімір Міхнюк.

Уладзімір Мікалаевіч адносіўся да тых людзей, якія свабодна і спакойна мянялі месца працы, не баючыся за наступствы. Вядома ж, ён пралічваў, дзе яму будзе лепш, але, на наш погляд, адчуваў сябе ўсюды як рыба ў вадзе. У 1982—1987 гг. ён вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР, а з 1987 г. — прафесар Мінскай вышэйшай партыйнай школы пры ЦК КПБ.

Са студзеня 1992 г. па снежань 1996 г. У. Міхнюк узначальвае Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы (назва ўстановы ўвесь час «удакладнялася»). Праца ў БНДІДАС — бадай самы плённы перыяд у кар'еры Уладзіміра Мікалаевіча. На гэтай пасадзе яскрава раскрыўся яго талент навуковага кіраўніка. Інстытут, празваны з нечай лёгкай рукі «міхнюкоўскім», трэба было ствараць, пачынаючы з пошукаў друкаркі, крэсла, шафы…, «месца пад сонцам». А самае галоўнае — калектыву. За кароткі час Міхнюк сабраў вакол сябе каманду з аднадумцаў, запаліў людзей сваёй няўрымслівасцю, сваім энергетычным запалам дзеля дасягнення высокіх мэт. У інстытуце ён стварыў сапраўдную творчую атмасферу, спрыяльныя ўмовы для працы. Давер да супрацоўнікаў спалучаў з высокай патрабавальнасцю.

Як востра сёння адчуваецца ў беларускай гістарычнай навуцы недахоп такіх людзей, як Уладзімір Міхнюк. Як мала ў нас сапраўдных навуковых аўтарытэтаў, здольных згуртаваць і мабілізаваць людзей на вырашэнне сур'ёзных навуковых задач, гатовых адстойваць інтарэсы навукі ад палітычнай кан'юнктуры і ўгодніцтва.

У 1997 г. У. Міхнюк узначаліў аддзел Камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, але надоўга там не прыжыўся і ў чэрвені 1998 г. перайшоў на выкладчыцкую працу ў Беларускі дзяржаўны універсітэт, на пасаду прафесара кафедры гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу. З верасня 2004 г. запрошаны прарэктарам па навуцы Беларускага інстытута правазнаўства.

Уладзімір Міхнюк — аўтар 14 кніг і брашур, шматлікіх зборнікаў дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі, у тым ліку чатырох манаграфій. Ён апублікаваў звыш 450 навуковых і навукова-папулярных артыкулаў у часопісах, зборніках і энцыклапедычных даведніках. Шмат навуковец зрабіў у распрацоўцы праблем гістарыяграфіі гісторыі Беларусі ХХ стагоддзя. У гэтай галіне гістарычных ведаў ён дагэтуль лічыцца бясспрэчным аўтарытэтам. Міхнюк быў адным з першых у Беларусі, хто на рубяжы 1980—90-х гг. звярнуўся да вывучэння гісторыі палітычных рэпрэсій у сталінскія часы. Ён аўтар шэрагу публікацый, прысвечаных чыннасці выбітных дзеячаў беларускага вызвольнага руху першай паловы ХХ ст.: А. Луцкевіча, К. Езавітава, В. Ластоўскага, А. Цвікевіча, А. Смоліча, Б. Тарашкевіча, У. Ігнатоўскага і інш. Дзякуючы ягоным даследаванням былі вернуты з небыцця выдатныя постаці айчыннай гісторыі, знішчаныя органамі ГПУ—НКВД у 1930—50-я гады. Важкі ўнёсак прафесар Міхнюк зрабіў па выяўленні, сістэматызацыі і апублікаванні дакументаў па гісторыі знешняй палітыкі Беларусі. На працягу 1997—2002 гг. дзякуючы ў першую чаргу ягоным высілкам і самаахвярнасці выйшлі ў свет 5 тамоў «Знешняй палітыкі Беларусі».

Калі нам, аўтарам гэтых радкоў, прапанавалі зрабіць зборнік дакументаў па гісторыі Слуцкага збройнага чыну, то мы ў сваю чаргу запрасілі да



супрацоўніцтва ў гэтым праекце прафесара Міхнюка, якога ведалі як аўтара грунтоўных і цікавых публікацый пра кіраўнікоў Слуцкага антыбальшавіцкага паўстання 1920 г. — Антона Сокал-Кутылоўскага і Уладзіміра Пракулевіча. Уладзімір Мікалаевіч ласкава пагадзіўся з нашай прапановай, але з-за вялікай занятасці доўгі час не падаваў сваіх матэрыялаў у зборнік. Грэшнай справай вырашылі, што ён перадумаў, але яму няёмка пра гэта сказаць. Але гэта былі дарэмныя думкі. Уладзімір Мікалаевіч заўсёды быў верны свайму слову. І наша сумеснае супрацоўніцтва мела добры плён. Дзякуючы прафесару Міхнюку ў навуковы зборнік былі ўведзены новыя дакументы з архіва КДБ Рэспублікі Беларусь — следчыя паказанні «случакоў», якія апынуліся за кратамі вязніц ГПУ—НКВД, а таксама аператыўныя данясенні 16-й Чырвонай Арміі са Случчыны ў час антыбальшавіцкага ўзброенага выступлення, выяўленыя ў Расійскім цэнтральным вайсковым архіве.

У адрозненне ад многіх іншых прадстаўнікоў «гістпартаўскай школы», якія так і засталіся ў палоне струхнявелых догм марксізму-ленінізму, Уладзімір Міхнюк здолеў крытычна пераасэнсаваць многія свае ранейшыя пазіцыі, творча ўспрыняў новыя навуковыя падыходы. Уладзімір Мікалаевіч Міхнюк быў патрыётам сваёй Бацькаўшчыны, таму натуральна ўспрыняў ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння. Апошнім часам ён працаваў над тэмай «Як дзялілі Беларусь», назапашваў новыя дакументы, імкнуўся прааналізаваць наступствы тэрытарыяльных страт на палітычнае, эканамічнае і культурнае жыццё беларускага этнасу, марыў напісаць пра гэта кнігу.

Як выкладчык прафесар Уладзімір Міхнюк быў заўжды цікавым і дасціпным, актуальным і запатрабаваным. Яго любілі студэнты — за жаданне дзяліцца сваімі ведамі, за ўменнеператварыць навучальны працэс у займальную і патрэбную справу.

Уладзімір Мікалаевіч любіў жыццё, любіў людзей, умеў слухаць і чуць другога чалавека. Сваім прыкладам ён заахвочваў іншых святлейшымі вачыма глядзець на свет, шукаць ісціну быцця.

Ён быў Гісторыкам з вялікай літары, ствараў надзейнасць і ўпэўненасць вакол сябе, мог абараніць слабейшага і маладзейшага. І яшчэ немалаважная рыса яго характару — ён не баяўся. Не баяўся адстойваць сваю пазіцыю, выказваць свае меркаванні перад «власть имущими». Яго слова — узважанае, шчырае, пераканаўчае — выбівала глебу з-пад ног нядобразычліўцаў, уносіла яснасць і ўпэўненасць. Ён не мог інакш. Безумоўна, кожнае такое «сутыкненне» не праходзіла бясследна, пакідала «шрамы на сэрцы». І сэрца не вытрывала… Міжволі прыходзіцца мірыцца з гэтым і старацца захоўваць памяць пра гэтага прыгожага, знешне і ўнутрана, чалавека, аддаючы яму даніну павагі.

*М. Ф. Шумейко*

## ОСНОВАТЕЛЬ АРХИВНОЙ ДИНАСТИИ. ПОСВЯЩАЕТСЯ ПАМЯТИ А. В. ВОРОБЬЕВА

Приступая к подготовке данной статьи, автор ее испытывал определенное нравственное волнение, обусловленное угрызением совести перед памятью ушедшего Александра Васильевича вследствие невыполненного при его жизни долга перед ним. Поясню, в чем тут дело. После появления в российских «Отечественных архивах» (2000, № 4) небольшой публикации «Первый директор архива научно-технической документации Белоруссии», посвященной 70-летию со дня рождения А. В. Воробьева, член редколлегии этого периодического издания академик Российской академии образования, профессор Московского государственного историко-архивного института (МГИАИ) С. О. Шмидт обратился ко мне с предложением подготовить более обстоятельную статью о Воробьеве-архивисте и источниковеде для редактируемого им «Археографического ежегодника».

Замечу, что С. О. Шмидт с особой теплотой относился к Александру Васильевичу; при личных встречах или телефонных общениях он всегда вспоминал о нем, просил передавать приветы и пр. И это при том, что А. В. Воробьев в отличие от автора настоящей статьи не являлся его прямым учеником. Да, он слушал лекции С. О. Шмидта, поступив в МГИАИ в 1950 г., куда в феврале 1949 г. пришел тогда еще начинающий преподаватель, который всего на 8 лет был старше студента, совсем недавно закончившего среднюю школу № 22 г. Серпухова Московской обл. Однако в отличие от своих однокашников — В. М. Кабузана, А. А. Курносова, И. С. Фесуненко, Б. А. Томана и др., ставших впоследствии известными учеными-историками, журналистами, А. В. Воробьев не являлся членом «легендарного» кружка источниковедения истории, начавшего действовать под руководством С. О. Шмидта с 1950 г.

Пытаясь выяснить причину таких взаимоотношений между ними, я пришел к выводу, что «виной» тому была незаурядная личность А. В. Воробьева, подкупавшая своей открытостью, доброжелательством, ясностью ума. Эти качества, на мой взгляд, и разглядел тогда, 57 лет тому назад, в студенте из Серпухова начинающий преподаватель МГИАИ; привлекали они и в дальнейшем к уже ставшему руководителем одного из центральных архивов Беларуси А. В. Воробьеву уже известного российского историка, профессора, председателя Археографической комиссии АН СССР С. О. Шмидта.

При очередных наших встречах и общениях с А. В. Воробьевым (особенно частыми они стали, когда Александр Васильевич работал в НАРБ, территориально расположенном рядом с историческим факультетом БГУ, в котором, кстати сказать, училась заочно его внучка Катя, совмещавшая учебу с работой рядом с дедом), когда заходила речь о нашей общей с ним alma



mater, ее профессорах и преподавателях и конечно же, о С. О. Шмидте, он всегда припоминал историю, связанную с подготовкой им по инициативе тогда уже возглавлявшего Археографическую комиссию Шмидта статьи «Протоколы заседаний Совнаркома Литовско-Белорусской ССР (1919)» (опубликована в 1968 г. в «Археографическом ежегоднике за 1966 год»). Александр Васильевич рассказывал, как Шмидт привез его на свою «знаменитую» дачу возле Кратово и буквально засадил за работу над статьей, материалы для которой к этому времени уже были собраны автором. «И я, — рассказывал мой собеседник, — уложился в отведенный мне Шмидтом, довольно сжатый срок, и подготовил статью».

Так вот, со своей стороны подумал я, не в этом ли состоит «феномен Воробьева», суть которого—в умении концентрировать свои физические и интеллектуальные возможности и в срок выполнять поручаемую ему ответственную работу?!

Возвращаясь к началу статьи, отмечу, что статьи об Александре Васильевиче для «Археографического ежегодника» я так и не написал; не успел, как нередко это бывает. Когда в одну из наших последних встреч, я поведал ему о такой задумке, он не то, чтобы обрадовался, нет; как человек весьма деликатный, он вежливо поблагодарил и меня, как потенциального автора, и просил передать благодарность главному редактору «Археографического ежегодника» за память и оказываемую ему высокую честь удостоиться статьи о себе в авторитетном российском академическом издании. Однако, увы, ей не суждено было появиться при жизни А. В. Воробьева. Поэтому данную публикацию я склонен рассматривать в качестве последнего «прости» безвременно ушедшему от нас высокопрофессиональному архивисту, историку, археографу и просто обаятельному человеку, каким в памяти знавших его останется Александр Васильевич Воробьев.

Обращаясь к истокам формирования А. В. Воробьева как историка-архивиста и связывая это, безусловно, с его учебой в МГИАИ, нельзя не отметить, что ему очень повезло в этом смысле. Базовый курс — Теория и практика архивного дела — он слушал «в исполнении» возглавлявшего с 1946 г. кафедру с одноименным названием профессора И. Л. Маяковского (1878—1954), под редакцией которого в 1946 г. было издано учебное пособие ставшего впоследствии основателем факультета государственного делопроизводства в структуре МГИАИ К. Г. Митяева «Теория и практика архивного дела», автора фундаментальных «Очерков по истории архивного дела в СССР» (М., 1941; 2-е изд.: М., 1961).

Вероятно, именно благодаря неординарной личности профессора, о котором среди студентов ходили всякие слухи (поговаривали о «политических» ошибках, допущенных Маяковским в молодости, имея в виду его статью 1927 г. «Архивы как одна из областей краеведческой работы», которая инкриминировалась ученому как «сопротивление централизации

архивному делу»), возник у А. В. Воробьева вкус к архивной работе, которая, чего там греха таить, претила многим его сокурсникам, особенно представителям «сильного пола»[1].

Студенты и в их числе Александр Васильевич (я это слышал от него лично) между собой называли Маяковского ласково и несколько фамильярно — «Ляля». Седенький, с традиционной академической бородкой клинышком, он читал свои лекции, не вставая со специально поставленного рядом с кафедрой кресла. Бывало, что на минуту-другую засыпал и студенты терпеливо ждали, когда он проснется и продолжит лекцию[2]. Не могли не запомниться Воробьеву и отличавшиеся наглядностью занятия, которые престарелый профессор вел по археографии и в которых он ставил задачу показать методику передачи текста конкретных исторических источников, относящихся к различным периодам, «путем единовременной демонстрации оригиналов в виде фотокопий и документов с обработанными для издания текстом и необходимыми методическими пояснениями»[3].

На всю жизнь запомнил Александр Васильевич слова И. Л. Маяковского о том, что одной из главных задач профессионального архивиста является «сохранить взаимно обусловленные преемственные связи во внутренней конструкции архивов с целью обеспечения их целостности и жизнеспособности»[4]. Впоследствии, став уже известным архивистом, пройдя и директорство, и руководящую работу в Главархиве Беларуси, и вновь вернувшись к любимой им практической работе в архиве, он будет руководствоваться этим правилом, формируя ли архивные фонды в ЦГАНТД, занимаясь их переработкой и усовершенствованием в НАРБ.

Довелось А. В. Воробьеву слушать лекции и возглавлявшего кафедру истории и организации архивного дела профессора В. В. Максакова, чья фамилия много о чем говорит в архивном мире.

Закончив институт, А. В. Воробьев летом 1955 г. направляется в распоряжение Архивного управления Беларуси. Александр Васильевич получает назначение в ЦГАОР БССР, а его жена и однокашница, Тамара Анатольевна — в Госархив Минской обл. С августа 1955 г., таким образом, начинает свой отсчет деятельность «архивной династии Воробьевых».

Замечу, что именно в эти послевоенные годы архивная отрасль республики пополнилась высококвалифицированными кадрами историков-архивистов, которые во многом способствовали ликвидации негативных последствий, вызванных войной, содействовали развитию отрасли. Весной победного 1945 г. возглавила филиал ЦГИА БССР в г. Гродно окончившая МГИАИ в 1941 г. В. С. Давыдова, бывшая партизанка бригады «Железняк»; в 1948 г. были распределены в Минск выпускницы МГИАИ Т. В. Комарова, более 20 лет возглавлявшая впоследствии организационно-методический отдел Главархива республики, и В. А. Ильичева, около 10 лет руководившая ЦГАОР БССР; в августе 1949 г. начала работать в Госархиве Барановичской обл. окончившая МГИАИ в этом же году З. А. Журавлева, руководившая в 1970—80-е гг. Архивным отделом Витебского облисполкома. Нельзя не отметить также супругов В. Н. Жигалова и Т. Е. Леонтьеву, А. И. и А. М. Карпачевых, Д. Л. и Е. Ф. Шороховых, А. В. и Ю. А. Капиц, составлявших (кто раньше, кто позже) окружение четы Воробьевых. К сожалению, многих из них уже нет с нами.



Безусловно, самым значительным периодом в «архивной биографии» А. В. Воробьева стало 20-летие, начиная с 1968 по 1988 гг., когда он возглавлял созданный в соответствии с постановлением правительства Беларуси от 27 мая 1968 г. ЦГАНТД БССР. Даже для опытного практика архивиста, каким к этому времени стал Александр Васильевич, это было весьма сложным делом. Приходилось в буквальном смысле слова заниматься всем: начиная от подбора, обучения кадров (а вместе с ними учился и сам директор) до решения финансовых, а порой и чисто хозяйственных вопросов. Архив располагался тогда в здании бывшей церкви на Немиге (сегодня оно возвращено верующим), являвшемся памятником архитектуры и потому годами находившемся на реставрации. Его сотрудники нередко могли видеть своего директора на окружавших здание строительных лесах, достаточно ловко орудовавшего молотком или иным, отнюдь не архивным инструментом.

Однако при всем том А. В. Воробьев не забывал главного: выполнения руководимым им архивом возложенных на него функций по комплектованию, учету, обеспечению сохранности и использованию научно-технической документации, образующейся в деятельности министерств и ведомств и подведомственных им учреждений и организаций республики[5]. Обладая фундаментальной базовой подготовкой, Александр Васильевич как человек творческий с успехом применял ее в нынешней своей должности руководителя ЦГАНТД Беларуси. Это дало ему основание, участвуя в составе советской делегации в работе VII конгресса Международного совета архивов (Москва, август 1972 г.), выступить с докладом , посвященным вопросам использования научно-технических документов в области архитектуры и строительства на заседании секции «Архивы архитектуры». И следует отметить, он вызвал неподдельный интерес у участников конгресса[6].

Существенный вклад внес директор ЦГАНТД Беларуси и в разработку нормативно-методической базы в области научно-технических архивов. Свидетельством тому является подготовка проекта пятого раздела «Организация контроля за деятельностью ведомственных технических архивов» для «Основных правил работы с научно-технической документацией в государственных архивах СССР» (М., 1985), выполненного сотрудниками возглавляемого им архива.

Возглавив с 1988 г. один из ведущих отделов Главархива БССР — планирования, организационно-методической работы и НСА (с 1992 г. — организационной работы и международных связей), — А. В. Воробьев при-

нимал самое непосредственное участие в разработке первого в истории архивного дела в Беларуси Закона «О Национальном архивном фонде и архивах в Республике Беларусь» (принят 6 октября 1994 г.), Положения о Национальном архивном фонде Республики Беларусь, подготовке и проведении совещания руководителей государственных архивных служб и обществ архивистов суверенных государств (Минск, 22—23 апреля 1992 г.), создании Белорусского НИИ документоведения и архивного дела.

Работая с 1998 г. в НАРБ и почти до самой кончины, Александр Васильевич, несмотря на возраст, выполнял, если можно так выразиться, двойную или даже тройную нагрузку: он был и руководителем структурного подразделения — отдела документов Великой Отечественной войны, и его ведущим сотрудником, а также наставником молодежи, работающей рядом с ним.

Как руководителя и наставника, его весьма беспокоили вопросы повышения квалификации кадров сотрудников ведущего архивного учреждения страны. На это он обращал внимание, завершая свою статью о совершенствовании НСА к документам периода Великой Отечественной войны, хранящимся в НАРБ: «Острой остается проблема подготовки высококвалифицированных кадров, способных научно-методически и практически обеспечить развитие системы НСА как одного из направлений деятельности Национального архива Республики Беларусь и одного из средств расширения доступа к архивным документам»[7].

Как ведущего научного сотрудника, его занимали усовершенствование учета, системы НСА комплекса документов бывшего Центрального партийного архива, их интеграция в учетную и справочную структуры бывшего Белорусского государственного архива. Под его руководством, а также им лично в архиве было проведено создание объединенных архивных фондов из мелких, насчитывающих несколько или даже одно дело, фондов подпольных партийных, комсомольских органов, антифашистских организаций, действовавших на оккупированной территории республики в 1941—1944 гг. «Объединив в единый комплекс документы малообъемных фондов, — писал А. В. Воробьев, — мы образовали архивный фонд, имеющий более высокую информационную ступень и в то же время сохранили «неделимость» документов каждого в отдельности фондообразователя»[8].

Размышляя сегодня, через полтора года после кончины Александра Васильевича о нем, как высокопрофессиональном историке-архивисте, приходится констатировать, как много он сделал для развития архивной отрасли республики и как до обидного мало им было публично сказано об этом. В библиографии его опубликованных работ едва ли наберется с десяток наименований статей и других материалов, под которыми стоит его подпись. Александр Васильевич, на мой взгляд, принадлежал к той когорте историков-архивистов, которая, говоря словами его коллеги по ремеслу Е. Ф. Шорохова, с которыми он обратился от имени ветеранов архивного



дела Беларуси к участникам торжественного заседания, посвященного 85-летию Государственной архивной службы Республики Беларусь (24 мая 2007 г.), «умели работать, но не умели подать себя»[9].

Глубоко символично, на мой взгляд, что обладателем не так давно учрежденного знака «Ганаровы архівіст Беларусі» за № 1 стал А. В. Воробьев: в этом — признание заслуг человека, почти полвека отдавшего служению архивной отрасли республики, человека, в трудовой книжке которого значатся записи работы только в архивных учреждениях Беларуси, человека, который по праву считается основателем династии архивистов. Полагаю, что продолжившая традиции своего деда, Е. В. Воробьева с честью пронесет и приумножит их. А первым шагом в увековечении памяти А.В.Воробьева стало бы создание его личного архивного фонда в НАРБ.

[1] Сошлемся при этом на свидетельство выпускницы МГИАИ 1933 г. М. И. Артамоновой, ставшей впоследствии директором Московского архива Октябрьской революции и социалистического строительства, которая, размышляя в 1990-х годах о своем жизненном пути и выбранной ею в свое время профессии, говорила: *«Если откровенно, то все ребята ненавидели архивное дело, хотя любили М. С. Вишневского [зав. кафедрой методики и техники архивного дела. — М. Ш.] — очень интеллигентный был человек … Сейчас я, конечно, жалею, что связала свою жизнь с архивом. Ничего я в жизни не добилась и не заработала. Всегда архивист в тени»* (Цит. по кн.: Хорхордина Т. И. Корни и крона: Штрихи к портрету Историко-архивного института (1930—1991). М., 1997. С. 46).

[2] См.: Хорхордина Т. И. «Неизвестный» Маяковский. М., 2001. С. 79.

[3] Лучкова В. В. Документы личного архива И. Л. Маяковского в Московском государственном историко-архивном институте // Археографический ежегодник за 1980 год. М., 1981. С. 250.

[4] Хорхордина Т. И. «Неизвестный» Маяковский. С. 91.

[5] См.: Архивное дело в БССР (1918—1968). Сборник законодательных и руководящих документов. Мн., 1972. С. 135.

[6] См.: Материалы VII конгресса Международного совета архивов. М., 1975. С. 236—239.

[7] Воробьев А. В. Научно-справочный аппарат к документам периода Великой Отечественной войны (На примере Национального архива Республики Беларусь) // Беларускі археаграфічны штогоднік. Мн., 2001. Вып. 2. С. 88.

[8] Воробьев А.В. К вопросу о создании объединенных архивных фондов в Национальном архиве Республики Беларусь // Архивы и делопроизводство. 2000. № 3. С. 115.

[9] Личный архив автора. Отмечу, что сам Александр Васильевич достаточно самокритично и, я бы сказал, даже иронично, относился к своим публичным выступлениям в печати или подготавливаемым им различным заключениям, рецензиям. Рассказчиком же он был удивительным, пересыпая свои повествования как-то не вяжущимися с его внешностью (типичного «русака», уроженца Центральной России) польскими присловьями «холера ясная!». Вспоминаю его рассказы о студенческих го-

дах, студенческом быте, студенческих забавах, в которых помимо Александра Васильевича принимали участие и его сокурсники, ставшие впоследствии известными учеными-историками, докторами наук. Зная его как «человека в себе», питаю тайную надежду, что он оставил после себя какие-то воспоминания, может быть дневниковые записи. Все это стало бы ценным источником для нынешних и будущих исследователей, которые рискнут продолжить изучение истории архивного дела в Беларуси, начатое, кстати говоря, не без участия А. В. Воробьева.

— ◇ —

*А. І. Дзярновіч*

## ТОЛЬКІ ПРАЗ КРЫНІЦЫ (ДА 70-ГОДДЗЯ ГЕОРГІЯ ГАЛЕНЧАНКІ)

Кажучы пра залежнасць гісторыкаў ад сацыяльна-палітычнага асяроддзя, не варта забывацца, што даследчык заўжды мае пэўную ступень унутранай творчай аўтаноміі. Наколькі ён рэалізуе гэта ў сваёй дзейнасці, залежыць ад моцы характару, навуковага тэмпераменту, адэкватнасці светаадчування, жыццёвых прынцыпаў. Паколькі тэхнічныя і сацыяльныя праблемы ўзнікаюць заўжды і ва ўсіх.

Жыццёвы і даследчыцкі шлях Георгія Якаўлевіча Галенчанкі ў гэтым сэнсе можа быць паказальным і адначасова нетыповым для беларускіх гісторыкаў. Не маючы ў сваім радаводзе этнічных беларускіх каранёў, Георгій Галенчанка з'яўляецца адным з самых выдатных сучасных беларускіх гісторыкаў, які шмат зрабіў для развіцця нацыянальнай культуры і гуманістыкі. Тут індыкатарам можа служыць таксама актыўнае паслугоўванне беларускай мовай. Калі я запытаўся ў Георгія Якаўлевіча, што азначае для яго беларуская мова ў нашай сітуацыі, то ён адказаў, што адчувае асабістую адказнасць за культуру і, у пэўным сэнсе, крыўду за стан мовы.

Георгій Галенчанка нарадзіўся 28 лютага 1937 г. у Петразаводску ў сям'і выкладчыкаў мясцовага, тады яшчэ Карэла-Фінскага, універсітэта. Бацька, Якаў Пракопавіч, паходзіў з украінамоўнага бранскага казацтва, маці, Беці Генрыхаўна Міхайлава, належала да яўрэйскай настаўніцкай сям'і з Бердзічава, вядомага як Валынскі Іерусалім. Будучы гісторык выхоўваўся ў традыцыях гуманістычнай расійскай і сусветнай культуры. Пасля вайны, у лістападзе 1945 г., франтавік Якаў Галенчанка атрымаў прызначэнне на пасаду выкладчыка ў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут. З таго часу ўсё свядомае жыццё Георгія Галенчанкі звязана з Беларуссю. Георгій Галенчанка вучыўся ў знакамітай мінскай сярэдняй школе № 42, якую таксама скончыў будучы Нобелеўскі лаўрэат фізік Жарэс Алфёраў.

У пошуках свайго жыццёвага прызначэння Георгій Галенчанка спрабаваў паступаць ва Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі. Не трапіўшы на рэжысёрскі факультэт, сам адмовіўся ад прапановы навучацца на сцэнарыста. У Мінску паступіў у політэхнічны інстытут, але ўжо праз паўгода перавёўся на гістарычны факультэт БДУ. Якраз тады была створана



першая кафедра гісторыі БССР, якую ўзначаліў Лаўрэн Абэцэдарскі. Гэты ж гісторык пасля стаў кіраўніком дыпломнага праекта Галенчанкі, прысвечанага беларускаму кірылічнаму кнігадрукаванню. На апошнім курсе за сваю навуковую працу, прадстаўленую на ўсесаюзным конкурсе, Георгій Галенчанка атрымаў медаль Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі СССР. Гэта дало студэнту новыя творчыя магчымасці — явачным парадкам атрымаць вольнае наведванне заняткаў, пачаць вывучэнне кірылічных старадрукаў у фондах Бібліятэкі імя Леніна ў Мінску (цяперашняй Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі). Урэшце малады студэнт стаў супрацоўнікам Аддзела рэдкай кнігі бібліятэкі.

Гэтыя абставіны спрычыніліся да таго, што кнігазнаўчая тэматыка застанецца адной з вядучых у даследаваннях Г. Галенчанкі. І менавіта на гэтай ніве будуць дасягнуты значныя поспехі. Першы спецыялізаваны бібліяграфічны спіс быў апублікаваны ім ужо ў 1961 г. (Библиографический список белорусских старопечатных изданий XVI—XVIII вв.). У выніку Георгій Якаўлевіч атрымаў мэтавае накіраванне ў аспірантуру знакамітага сярод гуманітарыяў Маскоўскага гісторыка-архіўнага інстытута на кафедру дапаможных гістарычных дысцыплін. Ужо ў 1965 г. пад кіраўніцтвам члена-карэспандэнта АН СССР, доктара мастацтвазнаўства, прафесара А. А. Сідарава гісторык з Мінска абараніў кандыдацкую дысертацыю «Гісторыя беларускага кнігадрукавання XVI—XVIII стагоддзяў (кірылаўскага)». Афіцыйнымі апанентамі працы былі Мікалай Улашчык і Яўген Неміроўскі, якія актыўна падтрымалі дысертанта.

Але несумненна, што ўсе гэтыя нарыхтоўкі знайшлі сваю лагічную завершанасць у вельмі значнай працы — зводным каталозе «Кніга Беларусі 1517—1917: Зводны каталог» (1986), дзе Георгій Галенчанка падрыхтаваў раздзел «Старадрукаваныя кірылічныя выданні XVI—XVIII стст.». Само па сабе гэта было вельмі працаёмкае даследаванне, бо прадугледжвала пошук старадрукаў і іх падрабязнае бібліяграфічнае апісанне. Такіх выданняў удалося выявіць звыш 400 — гэтым самым была паказана прастора кірылічнага пісьменства Беларусі XVI—XVIII стст. Георгій Галенчанка першым даў падрабязнае апісанне кірылічных выданняў, што былі надрукаваны на беларускіх землях. Але ўкладальнік на гэтым не спыніўся. Ён зрабіў такую, здавалася б цяпер, неабходную частку працы — падаў аналіз зместу старадрукаў. Прыгадаем, што гэта пераважна былі кнігі рэлігійнага зместу, і не забудземся, што ў тыя гады Савецкая ўлада яшчэ не пачала палітыку лібералізацыі адносін з царквой. Паводле прызнання вядомага расійскага кнігазнаўцы Яўгена Неміроўскага, апісанне зместу беларускіх літургічных выданняў у каталозе «Кніга Беларусі 1517—1917» дазволіла маскоўскім даследчыкам дзейнічаць такім жа чынам пры выданні каталогаў расійскіх старадрукаў — дзякуючы створанаму беларускім даследчыкам прэцэдэнту. Фактычна зроблена поўная апрацоўка тэмы, але Георгій Галенчанка сумна жартуе,

што гэта «няўдзячная тэма», бо аб'ёмы ўкладзеных намаганняў зусім несувымерныя грамадскаму гучанню працы. Гэта хутчэй дасягненне для спецыялістаў. Зусім нядаўна каталог быў перавыдадзены ўжо ў электронным выглядзе на кампакт-дыску.

Кнігазнаўчай тэматыкай Георгій Галенчанка працягваў займацца ўжо ў Інстытуце гісторыі АН БССР, куды трапіў у 1968 г. пасля трох гадоў выкладання на кафедры навуковага камунізму БДУ. Працуючы тут, Г. Галенчанка спрабаваў адысці ад голага дагматызму, абапіраючыся на сусветную філасофскую спадчыну. Да сябе ж на кафедру гісторыі Беларусі ўласнага дыпломніка не пажадаў узяць Л. Абэцэдарскі. У інстытут жа Г. Галенчанку запрасіў загадчык аддзела гісторыі Беларусі дасавецкага перыяду К. Шабуня. Такім чынам, у інстытуце ўзмацняўся напрамак даследавання гісторыі культуры.

І зусім лагічна, з зацікаўлення да гісторыі кнігі выцякала асаблівая ўвага да асобы і выданняў Францыска Скарыны. Дзейнасць беларускага першадрукара разглядалася Г. Галенчанкам у шырокім тэматычным кантэксце — на фоне гісторыка-культурнага працэсу; з аналізам рукапіснай справы; улікам матэрыяльна-тэхнічных перадумоў узнікнення славянскага і кірылічнага кнігадрукавання; даследаваннем сацыяльных і нацыянальна-культурных аспектаў кнігавыдавецкай дзейнасці Скарыны; вывучэннем тэхнікі, аздаблення, культуры кнігі; са статыстычным і тыпаметрычным апісаннем выданняў Скарыны; аналізам распаўсюджання выданняў і іх уплывам на рукапісную кніжнасць, на дзейнасць паслядоўнікаў, на ўзнікненне брацкага кнігадрукавання. Манаграфія «Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар» (1993) была падсумаваннем даследавання тэмы, стала падставай для доктарскай дысертацыі, абароненай у ліпені 1999 г. у Інстытуце гісторыі АН Беларусі. Выдадзеная ЮНЭСКА на французскай і англійскай мовах кніга «Францыск Скарына» ў сааўтарстве В. Чамярыцкага, Г. Галенчанкі і В. Шматава паспрыяла пашырэнню ў свеце звестак пра першадрукара і Беларусь. Але сам даследчык найбольш высока ацэньвае свой удзел як навуковага кансультанта і складальніка ў падрыхтоўцы ўзнаўлення Бібліі, выдадзенай Скарынам у 1517—1519 гг. Тэрмін «факсімільнае ўзнаўленне», вынесены ў назву новага выдання, не зусім дакладна адлюстроўвае спецыфіку працы над выданнем. За амаль паўтысячагоддзе, што прайшло з пачатку беларускага кнігадрукавання, да нас дайшло 432 асобнікі і фрагменты скарынінскіх выданняў, аднак мы не маем ніводнага поўнага камплекта. Каб зноў выдаць Біблію Скарыны, спатрэбілася сабраць узорны, поўны камплект, складзены з выданняў і аркушаў у розных кнігазборах. Дзеля гэтага прыйшлося аб'ездзіць бібліятэкі розных краін. Георгія Галенчанку ў гэтых кнігазнаўчых падарожжах суправаджаў фатограф Мінскай фабрыкі каляровага друку, які здымаў выяўленыя асобнікі ці аркушы выданняў. Такім чынам нарадзіўся зноў апублікаваны камплект Бібліі (т. 1—3, 1990—1991). Адметна тое, што ў фінансаванні выдання ўдзельнічала Праваслаўная царква, якая заўжды досыць стрымана ставілася да дзейнасці Скарыны — ягоныя выданні былі для царквы занадта экуменічнымі і даволі свецкімі. Да таго ж у сваё выданне Бібліі Скарына ўключаў кнігі, якія не ўваходзілі ў праваслаўны Біблейскі канон, як, напрыклад, кніга «Ісус Сірахаў». Удзел царквы ў перавыданні Бібліі Скарыны — знак таго, што тое адбывалася ў гады спроб адбудовы беларускага кансенсуса. Урад суверэннай Беларусі высока ацаніў дзейнасць Георгія Галенчанкі і ў 1994 г., разам з іншымі калегамі, ён быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі за стварэнне цыкла прац «Скарына і беларуская культура».



Кажучы пра скарынінскую тэматыку, не пазбегнуць і такога сюжэта, як дыскусія вакол імя беларускага першадрукара. Георгій Галенчанка не проста пацвердзіў здагадку Генрыка Лаўмянскага пра арфаграфічную памылку, ад чаго і пайшла палітызаваная традыцыя называць Скарыну Георгіем. Беларускі гісторык выявіў у пазнанскім архіве і абнародаваў дакумент, які якраз і засведчыў правату гэтай версіі і павінен быў спыніць дыскусіі. Ключавым тут стала лацінскае слова egregius (выдатны), ужытае ў дачыненні да доктара Скарыны; падчас капіравання з арыгінала канцылярыст памыліўся і перапісаў egregius як georgius. Усё ж пошукі ўжо герметычнага абгрунтавання імя Георгій у дачыненні да Скарыны часам працягваюцца.

Кнігазнаўчая і скарынінская тэматыка вывела гісторыка на асэнсаванне больш агульных і комплексных праблем, з'явілася новая тэма даследаванняў, якая акрэслівалася вельмі маштабна — духоўная культура Беларусі XVI—XVII стст. Георгій Галенчанка пісаў менавіта пра культуру прафесійную і высокую, а гэта ў значнай ступені была саслоўная культура і перш за ўсё культура прывілеяваных станаў. Вось структура кнігі, якая мелася выйсці: «Уводзіны; Гл. 1: Гістарыяграфія; Гл. 2: Свецкая шляхецка-магнацкая культура; Гл. 3: Гарадская культура; Заключэнне». Але зроблены ўжо друкарскі набор кнігі «Очерки духовной культуры Белоруссии второй половины XVI — первой половины XVII в.» (Мн.: Наука и техника, 1981. 239 с., ил.) быў рассыпаны па загаду зверху. У ананімнай рэцэнзіі ў выдавецтва, якая захавалася, сцвярджалася, што аўтар уздымае шляхецкую культуру, у той, час як трэба больш асвятляць культуру працоўных мас. Трэба адзначыць, што для 1981 г. падобныя абвінавачванні гучалі вельмі сур'ёзна, бо апелявалі да базавых ідэалагічных паняццяў савецкага ладу. Закрытая рэцэнзія стала падставай забароны кнігі. У рэдактарскіх колах называюць імя аўтара гэтага тэксту, але дакументальных пацвярджэнняў пакуль няма. Калісьці схаваныя ў службовых архівах сведчанні стануць яўнымі і мы лепш зразумеем прынцыпы функцыянавання навуковай цэнзуры ў БССР. Георгій Галенчанка ж, тады яшчэ аўтамабіліст, вяртаючыся з выдавецтва зусім не ў аптымістычным настроі, амаль не трапіў у аварыю. Лёс ратаваў, але кніжку захаваць не ўдалося. Хоць два

асобнікі ўсё ж засталіся на руках, што дае падставы аўтару ўключаць кнігу ў сваю бібліяграфію. Ведаючы псіхалагічны лад Георгія Галенчанкі, ягоную стрыманасць да ўласных дасягненняў, можна ўнутрана не пагаджацца з фактам, але прыйдзецца прыняць да ведама, што большасць сабранага ў кнізе матэрыялу так і не была апублікавана, за выняткам асобных сюжэтаў. Увогуле, гэта гісторыя досыць дзіўная. Як адзначае сам Георгій Галенчанка, ён ніколі не быў «у лабавым сутыкненні» з уладамі. Але заставацца проста прафесіяналам, як высвятляецца, таксама не заўжды лёгка. Забарона ж кнігі Г. Галенчанкі на дзесяцігоддзе затармазіла працэс даследаванняў шляхецкай і прафесійнай культуры Беларусі XVI—XVII стст.

Наступную сваю кнігу гісторык аформіў ужо ў вельмі «стрыманых танах» — яна называлася «Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI — середине XVII в.» (Мн., 1989). Шырокая сацыякультурная панарама і кампаратыўны аналіз дазволілі зрабіць вельмі важную выснову, што фармаванне нацыянальнай культуры ў Расійскай дзяржаве адбывалася ў цэлым на агульнай этнаканфесійнай і дзяржаўнай аснове. Іншыя ж тэндэнцыі пашыраліся ва ўсходнеславянскіх рэгіёнах Рэчы Паспалітай, дзе Рэфармацыя, у меншай меры Рыма-каталіцкая і Уніяцкая цэрквы, спрыялі рэцэпцыі розных форм заходнееўрапейскай культуры, хоць сам гэты працэс быў неадназначным (с. 211). Такім чынам, сама культурная сітуацыя на беларускіх і ўкраінскіх землях была разнастайнай і шматвектарнай.

Да іншых несумненных дасягненняў Георгія Галенчанкі трэба аднесці выяўленне цэлага шэрагу найцікавейшых крыніц, у тым ліку альбома пачынальніка Барока ў ВКЛ дойліда Яна Марыі Бернардоні, што раскрылі нам архітэктурна-мастацкую праграму Ордэна езуітаў у Рэчы Паспалітай. Вельмі плённым стала супрацоўніцтва беларускага гісторыка з нямецкімі славістамі — так з’явіліся выданні факсімільнага тыпу «Апостала» Францішка Скарыны (Вільня, 1525), дзе сярод іншых змешчаны каментары Г. Галенчанкі, і «Евангелля» Васіля Цяпінскага, дзе Г. Галенчанка быў складальнікам і аўтарам большасці тэкстаў выдання.

Георгій Галенчанка з’яўляецца класічным навукоўцам — яго цікавіць уласна даследаванне, папулярызацыя і выкладанне прыцягваюць яго значна менш. Але цалкам рэалізаваць праграму даследчага ізаляцыянізму немагчыма, бо грамадства зацікаўлена ў адаптаваных выніках працы навукоўцаў. Фундаментальнасць, асабліва ў навукова-гуманітарнай сферы і асабліва ў наш час, застаецца ўдзелам асабістага імпэту і настойлівасці. У 1990-я гг. Г. Галенчанка праз заклікі калегаў і тагачаснай дырэкцыі Інстытута гісторыі далучыўся да стварэння падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па гісторыі Беларусі. Найбольш праблемным у напісанні навучальнай літаратуры з’яўляецца тое, што тут у першую чаргу патрабуюцца лінейныя, у пэўным сэнсе адназначныя ацэнкі — падобнае для прафесійнага гісторыка заўжды складана рабіць. Тым не менш сам Г. Галенчанка на-



ступным чынам акрэсліў уласныя задачы ў стварэнні падручнікаў: даць аб’ектыўнае апісанне падзей; паказаць без штучнага падкрэслівання ролю Беларусі ў гістарычных працэсах. У значнай ступені да дыдактычнай літаратуры паводле творчых прынцыпаў быў блізкі ўдзел Г. Галенчанкі ў стварэнні вельмі значных энцыклапедычных выданняў — як аўтара, рэцэнзента, навуковага кансультанта і члена рэдкалегій. А гэта такія знакавыя выданні, як Беларуская Савецкая Энцыклапедыя ў 12 т., Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі ў 5 т., энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына і яго час», Энцыклапедыя гісторыі Беларусі ў 6 т., Беларуская Энцыклапедыя ў 18 т., энцыклапедыя «Вялікае княства Літоўскае» ў 2 т., выданне Статута ВКЛ 1588 г.

Распавядаючы пра Георгія Галенчанку як пра даследчыка, вельмі важна прыгадаць пра яго навукова-арганізацыйныя ініцыятывы. Многія калегі ведаюць і ўспрымаюць Георгія Якаўлевіча менавіта як гісторыка, заглыбленага ва ўласныя даследаванні, таму тэзіс пра ягоныя арганізацыйныя якасці можа іх заінтрыгаваць. Але ў навуковай біяграфіі Г. Галенчанкі маецца такі здабытак, як стварэнне Аддзела спецыяльных гістарычных навук Інстытута гісторыі. У сакавіку 1990 г. гісторык апублікаваў газетны артыкул, які з’яўляўся своеасаблівым маніфестам на карысць развіцця спецыялізаваных дысцыплін (Голенченко Г. У разбитого корыта могут остаться исследователи истории феодальной Белоруссии, если упустят время // За передовую науку. 1990, 16 марта. С. 4). Г. Галенчанка канстатаваў: «Медыевістыка ў Беларусі налічвае толькі некалькі дзесяцігоддзяў нармальнага натуральнага развіцця пры пастаяннай надзвычайнай слабасці кадравай асновы». Ад агульнага сцверджання, што «стан гістарычнай навукі (як ніводнай іншай грамадскай дысцыпліны) залежыць ад крыніцазнаўчых пошукаў і даследаванняў», гісторык перайшоў да экспертных высноў: «… у самой Беларусі крыніцазнаўства феадальнага перыяду (больш за тысячу год айчыннай гісторыі) практычна адсутнічае. Няма ні абагульняючых, ні метадалагічных прац, ні нават улікова-бібліяграфічнай рэгістрацыі пісьмовых крыніцаў … Пра дапаможныя гістарычныя дысцыпліны (палеаграфія, дыпламатыка, метралогія, генеалогія, філіграналогія, картаграфія) не ўсе маюць нават агульнае ўяўленне … У акадэміі няма археаграфічнай камісіі, адсутнічае зводная актуальная бібліяграфія … гістарычных даследаванняў». У той час навуковы пафас Георгія Галенчанкі быў пазітыўна ўспрыняты кіраўніцтвам інстытута і акадэміі. Пасля зацвярджэння аддзела ў 1991 г. распачалося яго кадравае камплектаванне. Вядома, пачатковую аснову новай структуры склалі тыя супрацоўнікі, якія перайшлі з тагачаснага аддзела гісторыі Беларусі перыяду феадалізму. Але кваліфікаваныя спецыялісты прыходзілі ў новастволены аддзел і з іншых акадэмічных і навуковых устаноў, напрыклад, з Інстытута мовазнаўства і Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Кажучы пра функцыянаванне той ці іншай даследчай адзінкі, варта памятаць пра спецыфіку ар-

ганізацыі даследчага працэсу ў акадэмічных установах — існаванне профільнай спецыялізаванай структуры ва ўмовах Акадэміі навук дазваляе рэалізоўваць спецыялізаваныя накірункі даследаванняў, зацвярджаць адпаведныя планавыя і дысертацыйныя тэмы, атрымліваць пад іх бюджэтнае фінансаванне. Наяўнасць структуры яшчэ не забяспечвае творчага поспеху, але стварае пэўныя неабходныя ўмовы для рэалізацыі даследчых задач. У гэтым сэнсе досвед Аддзела спецыяльных гістарычных навук вельмі пазітыўны — былі рэалізаваны ці рэалізоўваліся маштабныя праграмы даследаванняў па крыніцазнаўстве, археаграфіі, гістарыяграфіі, гістарычнай геаграфіі і картаграфіі. Найбольш паспяховымі (у сэнсе дасягнутых вынікаў) сталі накірункі па картаграфіі (дзякуючы энтузіязму М. Ф. Спірыдонава), крыніцазнаўстве, выданні Метрыкі ВКЛ. Увогуле, роля Георгія Галенчанкі ў адраджэнні цікавасці ў Беларусі да даследавання і выдання Метрыкі — асобная тэма. Г. Галенчанка апублікаваў першы вядомы рэест Метрыкі ВКЛ 1623 г., вельмі важны для разумення ранняй гісторыі гэтага корпуса крыніц; артыкул даследчыка па гісторыі ўтварэння і вывучэння Метрыкі ВКЛ з'яўляецца адным з найбольш інфарматыўных па гэтай тэме (Метрыка Вялікага княства Літоўскага // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Мн., 1999. Т. 5. С. 121—128; Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя: У 2 т. Мн., 2006. Т. 2. С. 302—310 (разам з М. Ф. Спірыдонавым). Але не менш важным аказаўся імпульс па выданні самой Метрыкі, які зыходзіў з аддзела, — 5 з 6 апублікаваных у наш час кніг Метрыкі ВКЛ былі непасрэдна падрыхтаваны ў Аддзеле спецыяльных гістарычных навук Інстытута гісторыі. У самым канцы 2005 г. у выніку спроб рэфармавання акадэмічнай структуры аддзел быў ліквідаваны. Па ўзроўні арганізацыі даследаванняў у галіне спецыяльных дысцыплін беларуская гістарыяграфія вярнулася на 15 гадоў назад, а паўнавартаснай кампенсацыі гэтаму не было створана. Але і сёння Георгій Галенчанка застаецца запатрабаваным — маючы галоўнае месца працы ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі, гісторык супрацоўнічае таксама з Беларускім навукова-даследчым інстытутам дакументазнаўства і архіўнай справы (галоўны навуковы супрацоўнік) і працуе на пасадзе прафесара ў Рэспубліканскім інстытуце вышэйшай школы.

Георгій Галенчанка з'яўляецца гісторыкам з вельмі выразным аўтарскім почыркам, ён мае акрэсленыя схільнасці да пазітывісцкіх падыходаў у любой тэме даследаванняў. Таму ён можа быць шанаваным, але не да канца прынятым усялякай жорстка сканструяванай ідэалагічнай сістэмай. Пазітывізм жа Г. Галенчанкі грунтуецца на адным прынцыпе: да любой тэмы — праз крыніцы. Гісторык, які індыферэнтна ставіцца да ўсіх канфесій, спрычыніўся да ўзноўленых выданняў самых сакральных кніг хрысціянства. Георгій Галенчанка — вядучы сучасны беларускі медыевіст. Гэтую досыць простую па гучанні думку сфармуляваў наш лідэр у выданні Метрыкі ВКЛ Валерый Мянжынскі. Я прызадумаўся — і сапраўды, так атрымліваецца. Наш уласны гістарыяграфічны досвед, кшталтаванне прафесіяналізму дазваляюць зразумець, што мы маем справу з Мэтрам. Калі ў вас узнікаюць пытанні па крыніцазнаўстве ці гістарыяграфіі Беларусі і ВКЛ XIII—XVII стст., адказы на іх практычна заўжды можна пачуць ад Георгія Якаўлевіча. У нашым жыцці трэба спяшацца ставіць такія пытанні і ўмець выслухваць адказы.



### Асноўная бібліяграфія Георгія Галенчанкі*

Кнігазнаўчыя працы:

Библиографический список белорусских старопечатных изданий XVI—XVIII вв. / Гос. б-ка БССР им. В. И. Ленина. Отдел белорус. литературы и библиографии. Мн., 1961; Техника белорусского книгопечатания XVI—XVIII вв. // Материалы научной конференции (к 40-летию Фундаментальной библиотеки АН БССР). Мн., 1965. С. 148—169; Русские первопечатники и Симон Будный // Книга. Исследования и материалы. Сб. 10. М., 1965. С. 146—161; Белорусы в русском книгопечатании // Книга. Исследования и материалы. Сб. 13. М., 1966. С. 99—119; Кнігадрукаванне // Гісторыя Беларускай ССР у пяці тамах. Мн., 1972. Т. I. С. 271—276; Источники по истории белорусской культуры (старопечатные учебные книги XVI — первой половины XVII в.) // Из истории книги в Белоруссии. Мн., 1979. С. 129—152; Новые материалы по истории культурных связей Белоруссии с Украиной и Россией в конце XVI — первой половине XVII в. // Книга в Белоруссии: Книговедение, источники, библиография. Сб. статей. Мн., 1983. Вып. 2. С. 50—74; Новые материалы по истории полемической литературы и письменности XVI в. // История книги, источниковедение и библиотечное дело (сб. науч. статей). Мн., 1984. С. 77—90; Проблемы изучения культурных связей Белоруссии с Россией и Украиной в середине XVI — первой половине XVII в. // Исторические традиции философской культуры народов СССР и современность. Киев, 1984. С. 198—205; Крупные светские частновладельческие библиотеки Белоруссии и Литвы второй половины XVI — середины XVII в. // Федоровские чтения 1982. М., 1987. С. 100—114; Датированные записи на белорусских старопечатных изданиях конца XVI — середины XVII в. // Книга в Белоруссии [Мат-лы конференции по истории книжной культуры в Белоруссии. Минск, 12 ноября 1987 г.] / Центр. науч. библиотека АН БССР. Мн., 1988. С. 4—35; «Людем посполитым руского языка к пожитку» (Из истории книжных связей Белоруссии с Россией и Украиной в XVI — середине XVII в.) // Свіцязь-Свитязь. Альманах библиофилов Белоруссии. Мн.: Беларусь, 1989. С. 49—64; Описи библиотек и книжных собраний Радзивиллов в Национальном архиве Беларуси // Badania księgozbiorów Radziwiłłów. Materiały międzynarodowej sesji. Olsztyn, 6—7 października 1994 r. Warszawa, 1995. S. 55—61; Памятник старобелорусской книжности середины XVII века // От Древней Руси к России нового времени. Сб. статей к 70-летию Анны Леонидовны Хорошке-

* Поўная бібліяграфія прац, складзеная Л. Івановай, публікуецца ў юбілейным зборніку Г. Галенчанкі.

віч. М., 2003. С. 429—431; Белорусская и восточнославянская печатная книга (некоторые аспекты компаративной типологии // Kultura książki ziem wschodniego i południowego pogranicza Polski (XVI—XX wiek): Paralele i różnice. Katowice, 2004. S. 28—36; Нясвіжская Біблія ў нямецкім выдавецкім праекце Biblia Slavica // Матэрыялы Трэціх міжнародных кнігазнаўчых чытанняў «Кніга Беларусі: Повязь часоў» (Мінск, 16—17 верасня 2003 г.) / Нац. б-ка Беларусі. Мн., 2005. С. 212—226; Кніга Беларусі. 1517—1917: Зводны каталог / Склад. Г. Я. Галенчанка, Т. В. Непарожная, Т. К. Радзевіч. Мн., 1986; Кніга Беларусі. 1517—1917: зводны каталог [Электронны рэсурс] / Нацыянальная бібліятэка Беларусі, НДІ кнігазнаўства. Навук. кіраўнік праекта Л. Г. Кірухіна; Склад. каталога Г. Я. Галенчанка, Т. В. Непарожная, Т. К. Радзевіч. Электронныя тэкставыя, графічныя даныя і праграма (196 Мбат). Мн.: Нацыянальная бібліятэка Беларусі, 2005. — 1 электронны аптычны дыск (CD-ROM); 12 см.

Скарыназнаўчыя працы:

Новое о Франциске Скорине и его окружении // Книговедение и его задачи в свете актуальных проблем советского книжного дела. Вторая Всесоюзная конф. по проблемам книговедения. Секция истории книги. Тез. докл. М., 1974. С. 24—27; Астранамічныя звесткі ў «Малой падарожнай кніжыцы» Скарыны // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1974, № 4. С. 32—35; «Календарь» Франциска Скорины // Из истории книги в Белоруссии (сборник статей) / Фундам. б-ка АН БССР. Мн., 1976. С. 26—39; Новое о Франциске Скорине // Проблемы рукописной и печатной книги. М., 1976. С. 133—142; Астрономические сведения в изданиях Франциска Скорины // Knygotyra / Книговедение. (7) 14: Франциск Скорина и некоторые вопросы развития книги в Советском Союзе. Сб. докладов научной конференции, посвященной началу книгопечатания в Литве и Белоруссии (Вильнюс, 21 ноября 1975 г.). Vilnius, 1979. P. 54—59; Книги Ф. Скорины в белорусских, русских и украинских собраниях XVI—XVII вв. // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве (Федоровские чтения. 1977). М., 1979. С. 149—163; Čemericki V., Golenčenko G., Hmatow V. Francisk Skorina / Traduit du bielorusse par G. Gâche. Paris: UNESKO, 1979; Čemericki V., Golenčenko G., Hmatow V. Francisk Skorina. Paris. UNESCO, 1980. [Памылка ў прозвішчы, трэба было не Hmatow, а Šmatow]; Итоги Скоринианы // Белоруссика: книговедение, источники, библиография. Мн., 1980. С. 113—116; Статыстычнае і тыпаметрычнае апісанне пражскіх і віленскіх выданняў Скарыны. Кніжная культура Беларусі. Да 500-годдзя з дня нараджэння Ф. Скарыны. (Зб. навук. прац). Мн., 1991. С. 85—113; Францыск Скарына — беларускі і ўсходнееўрапейскі першадрукар. Мн, 1993; Эпоха Скарыны. Тэарэтычныя і гістарычныя праблемы Рэнесанса на Беларусі (традыцыі і наваццы) // Наш радавод. Мат-лы міжнар. навук. канф. «Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII—XX стст.» (Гродна, 3—5 ліпеня 1996 г.). Кн. 7. Гродна, 1996. С. 59—63; Праблемныя дакументы Скарыніяны ў кантэксце рэальнай крытыкі // 480 год беларускага кнігадрукавання. Матэрыялы Трэціх Скарынаўскіх чытанняў. Мн.: Беларуская навука, 1998. (Беларусіка = Albarutenika. Кн. 9). С. 9—20; Францыск Скарына: Спадчына і пераемнікі. Анатаваны бібліягр. паказальнік / Нац. б-ка Беларусі. Аўтар-складальнік



Г. Я. Галенчанка. Мн., 2002; Францішак Скарына // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Вып. 2. Мн., 2003. С. 78—118; Суцяжніцтва на падлогу і невуцтве [водгук на публікацыі Ул. Агіевіча] // Навіны Акадэміі навук Беларусі. 1994, 11 лістапада, 18 лістапада (разам з В. Чамярыцкім); Канец застарэлага міфа: новы дакумент пра Скарыну // Полацк: карані нашага радавода. Полацкая зямля як сацыякультурная прастора ўзнікнення і развіцця беларускага этнасу і нацыянальнай дзяржаўнасці. Міжнар. навук. канф. 5—6 верасня 1995 г. Полацк, 1996. С. 72—77; Канец застарэлага міфа: Новы дакумент пра Скарыну // Кантакты і дыялогі. Інфарм.-аналіт. і культурал. бюлетэнь. Мн., 1996. № 9. С. 3—5.

Выданні факсімільнага тыпу:

Біблія. Факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Францыскам Скарынам у 1517—1519 гадах у 3 тамах. Мн., 1990—1991; Biblia ruska. Apostol. Padeborn; Zürich, 2002; Evanhelije in der Übersetzung des Vasil Tjapinski um 1580. Faksimili und kommetare. Wien u. s. w., 2005.

Іншыя тэмы па гісторыі культуры:

Студенты Великого княжества Литовского в Краковском университете XV—XVI вв. // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. Проблемы взаимоотношений Польши, России, Украины, Белоруссии и Литвы в эпоху Возрождения. М., 1976. С. 228—240; Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI — середине XVII в. Мн., 1989; Литературное меценатство магнатов Беларуси середины XVI — первой половины XVII в. // Матэрыялы Другіх кнігазнаўчых чытанняў «Кніжная культура Рэчы Паспалітай» (Мінск, 15—16 верасня 2002 г.). Мн., 2002. С. 49—66.

Метрыка ВКЛ:

Неизвестный реестр Метрики Великого княжества Литовского в собрании П. П. Дубровского // Книга в Белоруссии: книговедение, источники, библиография. Мн., 1981. С. 27—41; Ён жа. Книги Л[итовской] М[етрики] по реестру 1623 г. в современных фондах ЦГАДА // Литовская метрика: Тез. докл. Межреспубл. научной конференции (апрель 1988 г.). Вильнюс, 1988. С. 48—50; Ён жа. Реестр книг Метрики Великого княжества Литовского 1623 г. // Исследования по истории Литовской метрики: Сб. науч. трудов. М., 1989. С. 336—375; Метрыка Вялікага княства Літоўскага // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Мн., 1999. Т. 5. С. 121—128; Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя: У 2 т. Мн., 2006. Т. 2. С. 302—310 (разам з М. Ф. Спірыдонавым).

Пра дойліда Яна Марыю Бернардоні:

Праверaная алгебрай гармонія // Мастацтва Беларусі. 1990, № 5. С. 70—74 (разам з Т. В. Габрусь); Скарбы старажытнага альбома // Навіны Беларускай акадэміі. 1990, 13 ліпеня. С. 6; 20 ліпеня. С. 6 (разам з Т. Габрусь); Альбом Бернардоні: Новая крыніца па гісторыі архітэктуры і будаўніцтва ў Нясвіжы (канец XVI — пачатак XVII ст.) // Ад Полацка і Нясвіжа — да Падуі і Венецыі. Мат-лы ўрачыстага адкрыцця мемарыяльнай дошкі Ф. Скарыне ў Падуанскім універсітэце і першай беларуска-

італьянскай навук. канферэнцыі, якая адбылася ў Венецыі ў кастр. 1992. Мн., 1994. С. 79—86; G. M. Bernardoniego projekty kościołów na Białorusi // Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce baroku. Warszawa, 1995. S. 163—175, il. (разам з Т. Габрусь); L'»album di Bernardoni». Descrizione generale // L'architetto Gian Maria Bernardoni sj tra l'Inalia e le terre dell'Europa centro-orientale. A cura di Sante Graciotti e Jerzy Kowalczyk. Roma, MCMIC. P. 67—79; Ill. 31. Codice Bernardoni: Fot. 1—150.

Падручнікі і навучальныя дапаможнікі:

Гісторыя Беларусі: Вучэб. дапам. для 10-га кл.: У 2 кн. Кн. 2: Другая палова XIII—XVIII ст. / Пад рэд. П. Ф. Дзмітрачкова. Мн., 1997 (разам з П. А. Лойка); Лойка П. А. Гісторыя Беларусі: 7-ы кл: Эксперым. падруч. / Пад рэд. Г. Я. Галенчанкі; Нац. ін-т адукацыі. Мн., 2000; Школьны слоўнік-даведнік па гісторыі Беларусі / Аўт.-склад. С. В. Паноў. Пад рэд. М. С. Сташкевіча, Г. Я. Галенчанкі. Мн., 2001; Хрысціянскія канфесіі. § 23. Праваслаўная і каталіцкая цэрквы // Гісторыя: праблемы выкладання. 2002. № 1. С. 119—124; Гісторыя Беларусі ад старажытных часоў да канца XVIII ст.: Вучэб. дапам. для 10-га кл. / Пад рэд. М. С. Сташкевіча. Мн., 2002. 192 с. (у сааўтарстве); Беларусь в период Великого княжества Литовского. Культура Беларуси XIII—XVIII вв. // История Беларуси: Крат. очерк / Науч. ред. М. П. Костюк. Мн., 2002. С. 31—50, 79—98; Беларускія землі ў складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст.: Карта для агульнаадукац. школ. Мн.: Белкартаграфія, 2002 (разам з Л. Казловым, Л. Міхайлоўскай, В. Насевічам, М. Спірыдонавым); Лойка П. А. Гісторыя Беларусі: XVI—XVIII стст.: Вучэб. дапам. для 7-га кл. агульнаадукац. школ / Пад рэд. Г. Я. Галенчанкі. 2-е выд. Мн., 2002; Гісторыя Беларусі са старажытных часоў да канца XVIII ст.: эксперым. вучэб. дапам. для 11-га класа і вучэб. устаноў … з базавым і павыш. узроўнямі вывучэння гісторыі / Пад рэд. М. С. Сташкевіча. Мн., 2004 (у сааўтарстве); Гісторыя: ад стараж. часоў да канца XVIII ст.: інтэгр. курс: эксперым. вучэб. дапам. для 11-га класа / Пад рэд. У. С. Кошалева, Г. В. Штыхава. Мн., 2004 (у сааўтарстве); Гісторыя Беларусі: дапам. для падрыхт. да экзамену і цэнтраліз. ТЭСціравання / Пад навук. рэд. М. С. Сташкевіча, Г. Я. Галенчанкі, І. І. Багдановіча. Мн., 2005; Матэрыялы па гісторыі Беларусі: 46 тэм для вывучэння [для вуч. 9-х класаў] / С. В. Паноў. Навук. рэд. М. С. Сташкевіч, Г. Я. Галенчанка. Мн., 2006.

— ◇ —

***Э. М. Савицкий***

## ЧЕТВЕРТЬ ВЕКА РУКОВОДСТВА В. Д. СЕЛЕМЕНЕВА

Вячеславу Дмитриевичу Селеменеву — выдающемуся практику и теоретику архивного дела, директору Национального архива Республики Беларусь, известному ученому и общественному деятелю, археографу и источниковеду — 6 сентября 2006 г. исполнилось 60 лет. Его многолетняя плодотворная деятельность на архивном поприще получила высокое признание в обществе. Вячеслав Дмитриевич — лауреат Государственной премии Республики Беларусь, кавалер ордена Почета, награжден Почетной грамотой Верховного Совета Республики Беларусь, знаком «Ганаровы архівіст Беларусі». И это за подвижничество в отрасли, которая оттеснена на периферию духовной жизни.



Вырос Вячеслав Дмитриевич в рядовой минской семье. Отец — фронтовик с первых дней Великой Отечественной, после побега из плена партизанил, а мать — домохозяйка.

В 1963 г. после окончания средней школы № 64 он поступает в Минский технологический институт. И вот здесь в его жизни происходит важный поворот. Не закончив 1-й курс, Вячеслав Дмитриевич покидает институт.

Предпринимая такой решительный, как оказалось впоследствии действительно судьбоносный шаг, он не мог не понимать сложностей, с которыми неминуемо должен столкнуться. Последующие пять лет Вячеслав Дмитриевич трудился в Минском облкниготорге и Белорусском художественном музее. Работу он совмещал с учебой на вечернем отделении исторического факультета БГУ, на который поступил в 1965 г. и закончил в 1971 г., получив диплом с отличием. В 1973 г. талантливого выпускника университета зачисляют в заочную аспирантуру. И здесь Вячеслав Дмитриевич не ищет легких для себя путей. Его внимание привлек один из самых драматических периодов отечественной истории — 30-е годы — годы построения т. н. «казарменного социализма», годы массовых политических репрессий, «раскрестьянивания», голода, охватившего многие регионы СССР. Успешным итогом аспирантских лет стала кандидатская диссертация «Аграрное перенаселение в БССР и его ликвидация в годы первой пятилетки». Когда знакомишься с этой диссертацией сегодня — спустя тридцать лет! — убеждаешься в том, что она могла бы стать крупным событием в развитии национальной истории, если бы была своевременно опубликована. Работа выделяется уникальностью темы — это было первое специальное исследование, освещающее ликвидацию аграрного перенаселения. И многое в ней отнюдь не устарело. Привлекает в диссертации исследовательское мастерство, глубокое проникновение в источниковую базу. Молодой диссертант помимо местных архивов детально изучил фонды таких крупнейших архивов бывшего Советского Союза, как ЦГАОР СССР, ЦГАНХ СССР, документальные публикации, статистические сборники, периодическую печать и др. Такой подход к источниковой базе и сегодня является редкостью. Пристальное, бережное отношение к историческим источникам сохранилось у В. Д. Селеменева на всю жизнь. И сегодня, к какой бы проблеме он не обращался и перед какой бы аудиторией не выступал, он непременно основывает свои суждения на первоисточниках.

В общем же первая крупная научная работа убедительно засвидетельствовала, что Вячеслав Дмитриевич был по своей природе именно человеком науки. Не случайно же члены Ученого совета, единогласно присудившие соискателю степень кандидата исторических наук, настойчиво советовали ему готовить докторскую диссертацию. Учитывая целеуст-

ремленность, необыкновенную трудоспособность, твердый характер и, конечно же, талант, коим Вячеслав Дмитриевич обладает предостаточно, предсказать его успешное будущее на научном поприще несложно. Но он к тому времени уже окончательно определился с главным делом своей жизни. В августе 1968 г. Вячеслав Дмитриевич поступает на работу в тогдашний Центральный государственный архив Октябрьской революции и социалистического строительства БССР (ЦГАОР БССР) и остается в системе Государственной архивной службы страны по сей день (с единственным, правда, перерывом в связи с исполнением воинского долга в Прибалтийском военном округе).

Вячеслав Дмитриевич много и напряженно работает, проявляет любознательность, высокое чувство ответственности и быстро осваивает архивные науки. Об этом свидетельствуют записи в личном деле — многочисленные благодарности и денежные премии руководства архива, значки победителя соцсоревнований, грамоты Главархива БССР. А в 1977 г. он удостаивается редкой для периферийного рядового архивиста Почетной грамоты Главархива СССР и ЦК профсоюза работников госучреждений. Его профессиональному росту способствует последовательное прохождение всех ступеней служебной лестницы, начиная с самой низшей: архивариус, старший хранитель фондов, младший научный сотрудник (1968—1976), инспектор Главного архивного управления при СМ БССР (1977—1980), заместитель директора Центрального государственного исторического архива БССР (1980 — март 1982), директор ЦГАОР БССР (в мае 1993 г. переименован в Белорусский государственный архив) с 10 марта 1982 г., директор Национального архива Республики Беларусь с июня 1995 г. Так сложился новый тип архивиста-администратора, архивиста-исследователя, который обладает обширными знаниями университетского уровня, высокой профессиональной культурой, организаторскими способностями.

Как директор Вячеслав Дмитриевич вынужден массу времени уделять административно-хозяйственной работе. Около 4 лет ему пришлось прилагать титанические усилия по возведению специализированного здания для архива по улице Кропоткина, 55. Поистине крестным путем испытаний становятся в наших условиях перемещения архивных материалов. А ведь нынешний переезд в новое здание Национальной библиотеки уже 4-й по счету за время его работы.

Успешно решая вопросы обеспечения сохранности документальных материалов, Вячеслав Дмитриевич сумел сформировать высокопрофессиональный коллектив единомышленников, вместе с которым превратил НАРБ в ведущее и самое авторитетное архивное учреждение страны.

Директор и его коллеги убеждены в том, что архивы предназначены для исследований, что они помогают обществу познать себя и свою историю, что архивист — человек, который формирует историческое общественное сознание. И они сделали многое, чтобы превратить архив в научную лабораторию, поставить изучение национальной истории на новую основу. Главным в этом направлении стало усовершенствование описей, создание систематического и именного каталогов и других традиционных видов справочников для обеспечения поиска исторической информации.



Вячеслав Дмитриевич был одним из первых в республике директоров, кто поставил вопрос о рассекречивании «спецхранов». Он также немало способствовал тому, что в Законе «О Национальном архивном фонде и архивах в Республике Беларусь» от 6 октября 1994 г. зафиксировано ограничение срока секретности для архивных документов, находившихся на особом режиме хранения, 30 годами с момента возникновения.

Рассекречивание фондов архива началось уже в 1983 г. В 1988 г. были сняты с ограниченного доступа и стали выдаваться исследователям без получения предварительного согласия учреждений-фондообразователей материалы 19 министерств и ведомств. Усилиями сотрудников НАРБ к настоящему времени рассекречены и доступны пользователям большинство документов бывшего Центрального партархива.

НАРБ совместно с областными архивами издал справочник в 2 частях «Фонды бывших архивов Коммунистической партии Белоруссии». Проведена также большая работа по совершенствованию научно-справочного аппарата к документам этого архива.

Обеспечению общества ретроспективной информацией способствует и широкая издательская деятельность. С 1995 г. НАРБ выступает в роли головной организации по подготовке и изданию документальных публикаций. В 1995—2006 гг. увидели свет 55 сборников документов, каталогов и других изданий, в т. ч. 28 наименований выпущено под руководством сотрудников архива.

С начала 90-х годов развиваются международные связи архива, прежде всего с Россией и другими республиками бывшего СССР. В последующие годы наладилось сотрудничество с Берлинским свободным университетом, Международной службой розыска, Гамбургским институтом социальных исследований, Центральным архивом МВД Польши, Австрийским институтом им. Л. Больцмана и др. С ноября 2003 г. НАРБ — член Евроазиатского регионального отделения Международного совета архивов.

Вклад НАРБ в развитие архивного дела получил достойную оценку. В связи с 50-летием образования архива в 1977 г. он удостоен Почетной грамоты Верховного Совета БССР, а в 1984 г. — Почетной грамоты Главархива СССР и ЦК профсоюза работников госучреждений. Архив неоднократно выходил победителем республиканского соцсоревнования и удостаивался соответствующих наград.

Что особенно отличает Вячеслава Дмитриевича, так это редкое сочетание организаторских способностей и исследовательского таланта. Отдавая

много сил руководству коллективом, он продолжает научно-исследовательскую работу, которая тесно связана с его деятельностью как архивиста.

Перечень его публикаций весьма обширен, включает десятки наименований. Интересующихся мы отсылаем к изданиям «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі», «Лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь».

Тематика опубликованных работ Вячеслава Дмитриевича весьма разнообразна и, как правило, определяется запросами времени. Он автор и соавтор сборников документов, монографий, статей, докладов, брошюр. Значительное внимание в этих работах уделяется проблемам теории и практики архивоведения, источниковедению, археографии, популяризации состава и содержания фондов НАРБ и т. д. В ряде публикаций В. Д. Селеменев выступает как специалист по новой и новейшей истории Беларуси. Эти публикации документально аргументированы, доказательны и авторитетны. Он является одним из составителей справочника «Фонды бывших архивов КПБ» и аннотированного справочника «Документы по истории Великой Отечественной войны в государственных архивах Республики Беларусь». При его непосредственном участии были изданы сборники документов «Белорусские остарбайтеры» (конституционный надзор. 1—3), «Нацистское золото» из Белоруссии», «Заложники вермахта», «Озаричи — лагерь смерти», «Западная Беларусь. События и люди». Т. 1, 2; «Аграрные преобразования в Вилейской области. 1939—1941 гг.»; «Остарбайтеры. Принудительный труд белорусского населения в Австрии»; «Белпромстройбанк: страницы истории (1923—1998 гг.)»; «Забытые агенты Кремля» и учебника «Архивоведение Беларуси».

В материалах республиканских и международных конференций опубликован ряд его сообщений, в том числе: «Об опыте работы НАРБ по выявлению документов по истории Беларуси в зарубежных архивах», «Фонды научных учреждений и ученых в НАРБ», «Участие словаков в партизанском движении в Белоруссии в 1942—1944 гг.», «Деятельность Национального архива Республики Беларусь по обеспечению общества ретроспективной информацией» и др.

В. Д. Селеменев как историк-архивист известен и за пределами Беларуси. Так, в 1987 г. он представлял республику на Международной конференции руководителей столичных архивов соцстран в Софии, в 1988 г. входил в состав советской делегации на IX Международном конгрессе архивов в Париже. В 1992 г. участвовал в судебном процессе над пособником нацистов Полюховичем в г. Аделаида (Австралия). Он также принимает активное участие в работе международных конференций.

Заслуживает Вячеслав Дмитриевич признания и уважения и за многогранную общественную деятельность. Он возглавлял Белорусское общество архивистов, секцию документальных памятников Республиканского совета Общества охраны памятников истории и культуры Беларуси. Сегодня



Селеменев — член Республиканской комиссии по делам партизан и подпольщиков при Совете Министров Республики Беларусь, член Археографической комиссии Комитета по архивам и делопроизводству, член Ученого совета БелНИИДАД. Отрадно отметить, что В. Д. Селеменев является и членом редколлегии нашего «Беларускага археаграфічнага штогодніка».

Автор этих строк знаком с В. Д. Селеменевым уже много лет. Поэтому не понаслышке могу утверждать, что он человек интеллигентный, эрудированный, тонко разбирающийся в людях, наделен высоким нравственным чувством, совестью, здравым смыслом и юмором. Не припомню случая, чтобы он смолчал по принципиальным вопросам, испугался ответственности. На заседаниях коллегии Комитета по архивам и делопроизводству, членом которой он состоит с 1982 г., на совещаниях, комиссиях и т. п. его позицию всегда принимают во внимание.

Отдавая всего себя любимому делу, Вячеслав Дмитриевич отличается доброжелательностью и чуткостью к коллегам, пользуется всеобщим уважением и непререкаемым авторитетом. Пожелаем ему долголетия, новых больших творческих свершений и неиссякаемой деловой активности.

— ◇ —

***А. Л. Киштымов***

## ДЯДЬКА СКАЛАБАН (К 60-ЛЕТИЮ СО ДНЯ РОЖДЕНИЯ)

Все мы, историки, ходим в архивы, но далеко не каждый из нас становится архивистом. И дело не в том, где лежат наши трудовые книжки. Дело в особом отношении к тому, что сухо и по-казенному называется документ. Для многих он просто лист бумаги, объем информации, строительный материал для исторического исследования. Меньше тех, кто признает за документом настоящую силу, видит в нем не простую иллюстрацию, а сгусток исторического времени, окно в мир прошлого и послание к потомкам. Читать, беречь, находить эти письма из минувшего — особый дар. Им в полной мере обладает Виталий Владимирович Скалабан, профессионал высокой пробы, фигура по-своему знаковая для белорусской историографии, архивного дела, краеведения, а еще историка литературы, книговеда и библиографа, энциклопедиста, издателя, драматурга, сценариста, вузовского преподавателя и автора телевизионных передач.

Что есть Петербург—Ленинград для белорусской истории? Это отдельная тема. Хотя, наверное, молоденький хлопчик из Ляховичей, едучи поступать в тамошний университет, меньше всего думал о том, что идет по пути Адама Мицкевича и братьев Калиновских, Бронислава Эпимаха-Шипилло и Вацлава Ивановского, Ефима Карского и Алексея Сапунова, Всеволода Игнатовского и Александра Сержпутовского. Цель была попроще и весьма прозаическая: поступить, учиться, получить диплом. И планы эти были не просто выполнены, а перевыполнены. Историческая магия северной столицы делала свое дело. Начиная со студенческого диплома опреде-

лилась главная тема его научных поисков — становление белорусской национальной государственности в начале XX века. И еще один немаловажный нюанс: выпускник ленинградского университета не затерялся на бескрайних российских просторах, а вернулся на Родину. Он не потерял Беларусь, а Беларусь не утратила своего историографа.

Когда началась перестройка в отечественной исторической науке? Стандартный ответ гласит: во времена Горбачева, нового политического мышления, развала СССР и становления Республики Беларусь. Но разве в нашей истории и историографии все так прямолинейно и однозначно? Ее двигали вперед не те, кто хорошо улавливал смену политической конъюнктуры и новую историческую моду, а те, кто умел пойти против течения, кто, обращаясь к прошлому, раньше своих современников сумел увидеть исторические горизонты будущего. Продолжателем этой традиции, берущей свое начало от Митрофана Довнар-Запольского, Вацлава Ластовского, Николая Улащика, стал Виталий Скалабан. На протяжении нескольких десятилетий с его именем тесно связана реализация важнейших инициатив в отечественной гуманистике.

Первым таким большим делом стала Белорусская, тогда еще Советская, Энциклопедия. Она создавалась в эпоху Брежнева, самые, казалось бы, застойные времена, создавалась централизованно, как академический институт, по указанию «сверху», и, может быть, даже неожиданно для своих инициаторов на несколько десятилетий стала главным возмутителем спокойствия в белорусской науке. Виновата в этом история. Она и раньше ставила свои вопросы, но белорусская советская историография — академическая, партийная, вузовская — научилась их виртуозно обходить. Все знали о наличии запретных проблем, недиссертабельных тем, перечне табуированных имен, и поэтому они не попадали на страницы научных изданий. Энциклопедия такую роскошь позволить себе не могла. Слишком бы это противоречило принципам энциклопедических изданий. Конечно, «белые пятна» и «черные дыры» были и там, но в целом энциклопедические «астрономы» значительно раздвинули белорусские гуманитарные горизонты. А после попадания темы или имени на страницы энциклопедических изданий проблема как бы легитимизировалась, переставала быть запретной, становилась объектом полноценных научных исследований. Не берусь сказать, какой опыт Виталия Скалабана, опыт организатора или опыт исследователя, был больше востребован на энциклопедической ниве, но без этого опыта не могло обойтись ни одно фундаментальное издание.

Хотя и с опозданием на 200 лет, но Белорусская энциклопедия проделала ту же работу, что и ее знаменитая французская предшественница. Она способствовала возрождению, а иногда и становлению таких научных направлений, как библиография, биографистика, историческая география, картография, генеалогия, хронология. Под энциклопедической крышей, в прямом и переносном смыслах, начали издаваться историко-документальные хроники «Память». И подготовленная Виталием Скалабаном хроника Ляховичского района стала лучшим примером и эталоном таких изданий.



Краеведческая тема не отпускает его и сегодня. Это не только собственные исследования, но и постоянные консультации тех любителей старины, кто свято верит — в белорусской истории для дядьки Скалабана нет закрытых страниц. Как нет и забытых имен. Ведь во многом именно благодаря ему на страницы белорусской истории вернулись Н. Чарноцкий, С. Скандраков, Ф. Кудринский, Е. Хлебцевич, В. Фальский, Ф. Шантыр, Ф. Турук, М. Мелешко, Н. Касперович, А. Вазилло, Е. Канчер, А. Гзовский и многие другие. Среди них и такие звезды первой величины, как Всеволод Игнатовский, Митрофан Довнар-Запольский, Николай Улащик. А кто-то, может быть, вспомнит, что всесоюзную известность белорусскому исследователю принесло открытие имени первого ленинского биографа — заведующего издательским подотделом петроградского отделения Белнацкома Ивана Баранкевича.

После Белорусской энциклопедии была работа заместителем директора нового научного учреждения — Белорусского НИИ документоведения и архивного дела, затем та же должность в Национальном научно-просветительском центре им. Ф. Скорины. Но в чистого чиновника от науки Виталий Скалабан так и не превратился. Продолжались архивные бдения, активная публикаторская деятельность, почти непременное участие в научных конференциях и круглых столах как в Беларуси, так и за рубежом — в России, Украине, Латвии, Польше, Германии. Скромный энциклопедист стал публичным деятелем, который не просто исследовал прошлое, а целенаправленно и устремленно возвращал его родному народу. Тема возвращения стала лейтмотивом в его работе. Белорусская архивистика за рубежом, неопубликованное литературное наследие Я. Купалы, Я. Коласа, М. Богдановича, М. Горецкого, А. Гаруна, в том числе и найденные в частном архиве неизвестные тексты белорусской литературы XIX в. из так называемых рукописей Александра Рыпинского, своя версия исчезновения знаменитого креста Евфросиньи Полоцкой, судьба исторического наследия Беларуси, вывезенного в годы войны в Германию — вот только краткий перечень тех проблем, к которым обращался историк. Впрочем, своим коллегой его вполне могут назвать и литературоведы. Быть редактором и составителем отдельных томов Полного собраний сочинений Я. Купалы — серьезный показатель того, что и в цехе литераторов Виталий Скалабан не последний человек.

Драмы истории сделали из историка драматурга. Все началось со сценариев документально-художественных фильмов про З. Жилуновича, В. Игнатовского, Я. Купалу, Белорусскую Народную Республику. Потом были пьесы, исторические драмы «У жніўні 36-га», «Людвіка и Фабіян»

(в соавторстве с Л. Рублевской) и недавняя — «Абняць вышыню»(в соавторстве с А. Карелиным), опубликованная и ждущая своего режиссера, актеров и зрителей.

А еще была работа сценаристом и консультантом, по сути главным архивариусом «Открытого архива», авторской программы А. Матафонова на Первом национальном телеканале.

Историков у нас много. Докторов и профессоров, академиков и членов-корреспондентов, не говоря уже о кандидатах с доцентами, а дядька Скалабан в белорусской истории один. Сегодня он заведует отделом публикаций Национального архива Республики Беларусь. Можно было бы сказать: человек нашел свое место. Но я бы предпочел другую формулировку — место нашло человека. Красноречивое подтверждение этому — архивные сборники о Чернобыльской трагедии, о начале Великой Отечественной войны, реализация старого замысла по изданию сборника документов и материалов Временного рабоче-крестьянского советского правительства Беларуси. Среди изданий этого года — «Накануне. Западный особый военный округ (конец 1939 г. — 1941 г.)», совместная работа с Федеральным архивным агентством России и Российским государственным военным архивом. Есть и новые проекты, так что свой юбилей ветеран белорусской архивистики встречает в творческом поиске. Веры в Беларусь ему не занимать.

— ◇ —

***Р. С. Жаўняркевіч***

## ДА 60-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ У. П. КРУКА

Сёлета споўнілася 60 гадоў з дня нараджэння беларускага гісторыка, архівіста, нашага калегі Уладзіміра Пятровіча Крука.

Уладзімір Пятровіч нарадзіўся 14 жніўня 1947 г. у в. Караліна Мінскага раёна. У 1970 г. скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, пасля чаго два гады аддаў службе ва Узброеных Сілах.

З 1972 г. прафесійнае жыццё У. П. Крука цалкам звязана з айчыннай гістарычнай навукай. На працягу больш 20 гадоў Уладзімір Пятровіч плённа працаваў у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук Беларусі, спачатку на пасадзе малодшага навуковага супрацоўніка, затым навуковага і потым старшага навуковага супрацоўніка. Падчас сваёй даследчай працы У. П. Крук займаўся распрацоўкай аграрных пытанняў айчыннай гісторыі. У кола яго навуковых інтарэсаў уваходзілі праблемы, звязаныя з развіццём капіталізму ў сельскай гаспадарцы Беларусі, станаўлення, разлажэння і ідэалогіі беларускага сялянства другой паловы XIX — пачатку XX ст. У 1985 г. У. П. Крук паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме «Сялянскі рух на Беларусі ў 80—90-х гадах XIX стагоддзя». Яму была прысуджана навуковая ступень кандыдата гістарычных навук. Навуковае кіраўніцтва работай над дысертацыяй ажыццяўлялася адным з найбольш вядомых беларускіх гісторыкаў, членам-



карэспандэнтам Акадэміі навук Беларусі, доктарам гістарычных навук, прафесарам Канстанцінам Іванавічам Шабуням.

Навуковая дзейнасць У. П. Крука знайшла сваё шырокае адлюстраванне ў шматлікіх публікацыях. Значным укладам у развіццё айчыннай аграрнай гісторыі стала яго манаграфія «Сялянскі рух на Беларусі. 1864—1900 гг.» (1993). Каштоўнасць дадзенай навуковай працы заключалася не толькі ў тым, што ў ёй асвятляўся сялянскі рух у паслярэформенны перыяд беларускай гісторыі, але і паказваліся віды гэтага руху, яго дынаміка, размах выступленняў, іх характар, выніковасць, накіраванасць, этапы і гістарычнае значэнне. У 1994 г. пабачыла свет навукова-папулярнае выданне «Ці ведаеце Вы гісторыю сваёй краіны» (аўтары: В. Ф. Голубеў, У. П. Крук, П. А. Лойка) (1994). Цікавасць да гэтай кнігі была даволі вялікай, таму ў наступным годзе было падрыхтавана яе другое выданне. У. П. Крук з’яўляўся адным з аўтараў вучэбнага дапаможніка «Гісторыя Беларусі ад старажытных часоў да пачатку XXI ст.: У пытаннях і адказах» (2003), а таксама другога тома калектыўнай працы «Гісторыя сялянства Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён». Апрача гэтага, ім было апублікавана звыш 20 навуковых і энцыклапедычных артыкулаў, прысвечаных як пытанням аграрнай гісторыі, так і іншым праблемам.

З 1993 г. і па сённяшні дзень У. П. Крук працуе ў архіўнай галіне нашай краіны, кіруючы дзейнасцю па выкарыстанні архіўных дакументаў.

У перыяд з лютага 1993 г. да жніўня 1995 г. ён быў загадчыкам аддзела інфармацыі і навуковага выкарыстання дакументаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь. У жніўні 1995 г. у зноў створаным Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі У. П. Крук заняў пасаду намесніка дырэктара.

Першая палова 90-х гг. XX ст. была адзначана істотнымі зменамі ў характары працы архівістаў. Адбывалася рэзкае павелічэнне колькасці запытаў грамадзян, якія паступалі ў архівы. Фактычна новым відам працы для архівістаў стала работа з генеалагічнымі запытамі, якія раней у архівы практычна не паступалі. Разам з гэтым прыходзіла асэнсаванне неабходнасці грунтоўных пераўтварэнняў дзейнасці архіўных устаноў для працы ў новых умовах. Пачалі рабіцца канкрэтныя крокі ў накірунку аўтаматызацыі работы архіваў, стварэння баз даных на архіўныя дакументы. Актыўны ўдзел у гэтым руху па рэфармаванні працы архіваў прыняў і Уладзімір Пятровіч.

1 лістапада 1995 г. У. П. Крук пераходзіць на працу ў тагачасны Камітэт па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь на пасаду начальніка аддзела навуковага выкарыстання дакументаў і інфармацыі, на якой працуе і па сённяшні дзень.

За мінулыя амаль 12 гадоў неаднаразова змянялася назва органа кіравання архіўнай справай Беларусі: з 12 мая 1997 г. — Дзяржаўны камітэт па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь; з 31 кастрычніка 2001 г. — дзяржаўная ўстанова «Нацыянальны цэнтр па архівах і справаводству»; з 12 жніўня

2002 г. — Камітэт па архівах і справаводству пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. З 5 мая 2006 г. выканаўчыя, кантрольныя, рэгулюючыя і іншыя функцыі ў сферы архіўнай справы і справаводства выконвае Дэпартамент па архівах і справаводству Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

Заняўшы пасаду начальніка аддзела навуковага выкарыстання дакументаў і інфармацыі, У.П. Крук адразу ж праявіў сябе як добры арганізатар. За невялікі тэрмін ён здолеў аб'яднаць вакол сябе работнікаў аддзела, накіраваць іх на плённую, выніковую працу. Дзякуючы сваім пазітыўным чалавечым якасцям Уладзімір Пятровіч стварыў у аддзеле добры мікраклімат.

У якасці кіраўніка аднаго з важнейшых накірункаў дзейнасці архіўных устаноў нашай краіны У. П. Крук уносіць значны ўклад у распрацоўку тэарэтычных і практычных пытанняў сферы навуковага выкарыстання дакументаў. Найбольш адказным участкам работы аддзела навуковага выкарыстання дакументаў і інфармацыі з'яўляецца падрыхтоўка нарматыўных прававых актаў па профільных пытаннях. У працэсе працы над Правіламі работы дзяржаўных архіваў Рэспублікі Беларусь ім быў падрыхтаваны раздзел «Выкарыстанне дакументаў архіва». Дадзеныя Правілы ўступілі ў сілу на пачатку 2006 г., стаўшы першым нарматыўным прававым дакументам, які рэгулюе дзейнасць дзяржаўных архіўных устаноў незалежнай Беларусі. Пад кіраўніцтвам У. П. Крука ў 1999 г. былі распрацаваны Правілы работы карыстальнікаў у чытальных залах дзяржаўных архіваў Рэспублікі Беларусь. Значная ўвага ў рабоце аддзела, які ўзначальвае У. П. Крук, удзяляецца распрацоўцы метадычных указанняў і рэкамендацый, што тычацца розных пытанняў выкарыстання дакументаў і інфармацыі. У 2003 г. былі распрацаваны Метадычныя ўказанні аб падрыхтоўцы дзяржаўнымі архівамі Рэспублікі Беларусь календароў знамянальных і памятных дат па гісторыі Беларусі, у 2005 г. падрыхтаваны Метадычныя рэкамендацыі аб парадку рассакрэчвання дакументаў Камуністычнай партыі Беларусі, якія знаходзяцца на захаванні ў дзяржаўных архівах Рэспублікі Беларусь. У. П. Крук прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы даведнікаў «Месцы прымусовага ўтрымання грамадзянскага насельніцтва на акупіраванай тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны» (1996; пашыранае руска-нямецкае выданне — 2001), «Лагеря советских военнопленных в Беларуси. 1941—1944» (2003; нямецка-рускае выданне — 2004) і інш.

У. П. Крук з'яўляецца членам калегіі Дэпартамента па архівах і справаводству Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, а таксама членам Тапанімічнай камісіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Добрасумленная праца У. П. Крука ў архіўнай галіне нашай краіны адзначана Ганаровай граматай Дзяржкамархіва (1997), Ганаровай граматай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь (2006), нагрудным знакам «Ганаровы архівіст Беларусі» (2007).



Перад аддзелам навуковага выкарыстання дакументаў і інфармацыі, які ўзначальвае У. П. Крук, а таксама перад усёй сферай выкарыстання дакументаў архіўнай галіны нашай дзяржавы стаяць шматлікія і вельмі складаныя задачы. Апрача традыцыйных форм выкарыстання архіўных дакументаў, такіх, як інфармацыйнае забеспячэнне карыстальнікаў, арганізацыя работы чытальных залаў архіваў, падрыхтоўка дакументальных выставак, рассакрэчванне дакументаў, публікацыйная дзейнасць архіваў і інш., у сферу адказнасці аддзела ўваходзяць таксама пытанні геральдыкі, забеспячэння дзейнасці прэс-службы Дэпартамента. Высокі прафесіяналізм, глыбокія веды праблем архіўнай справы, арганізацыйныя здольнасці начальніка аддзела навуковага выкарыстання і інфармацыі У.П. Крука не пакідаюць сумненняў у іх паспяховым вырашэнні.

Хацелася б пажадаць шаноўнаму Уладзіміру Пятровічу далейшых поспехаў у яго прафесійнай дзейнасці, а таксама моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту.

# РЭЦЭНЗІІ

## ГРУНТОЎНАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ПА ГІСТОРЫІ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

*Вялікае княства Літоўскае. Т. 1—2. Мн.: БелЭн, 2005—2006.*

Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» выступіла арганізатарам вялікага і знакавага праекта ў беларускай гістарычнай навуцы — выдання энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае» ў двух тамах. Выданне здзейснена ў час, калі гісторыя Беларусі часу існавання ВКЛ знаходзіцца на піку чытацкай папулярнасці, таму не дзіва, што энцыклапедыя была сустрэта з вялікай цікавасцю і хутка знікла з паліц кніжных магазінаў. У наш час энцыклапедыі выходзяць досыць часта, у тым ліку па гісторыі. Але ў большасці выпадкаў гэта простыя кампендыумы, да таго ж невысокага прафесійнага ўзроўню. Сапраўдныя энцыклапедычныя выданні патрабуюць шмат часу і намаганняў для падрыхтоўкі, таму з'яўляюцца не так часта. Сярод грунтоўных энцыклапедый па гісторыі можна назваць такія аўтарытэтныя выданні, як «Слоўнік па сярэдневяковай гісторыі Еўропы», «Сярэдневяковая Італія» і інш.

Энцыклапедыя «Вялікае княства Літоўскае» ўражвае ўжо вонкі: шыкоўнае выданне на мелаванай паперы, у густоўным мастацкім афармленні, з вялікай колькасцю каляровых ілюстрацый і карт. Змест выдання адпавядае афармленню. Упершыню пад адной вокладкай грунтоўна сабрана інфармацыя, прысвечаная Вялікаму княству Літоўскаму — шматнацыянальнай магутнай дзяржаве, у складзе якой беларускія землі знаходзіліся на працягу 500 гадоў. Матэрыял энцыклапедыі ахоплівае перыяд ВКЛ ад пачатку XIII ст., калі пачалі прасочвацца першыя тэндэнцыі да аб'яднання славянскіх і балцкіх народаў у адзіную дзяржаўную і культурную супольнасць, да канца XVIII ст. — часу падзелаў Рэчы Паспалітай.

Цікава вырашана размяшчэнне матэрыялу. У пачатку выдання змешчаны вялікія аглядныя артыкулы, якія даюць чытачу агульнае і больш-менш цэльнае ўяўленне па найбольш істотных пытаннях жыцця ВКЛ. Тут ёсць нарысы па гісторыі ВКЛ, яго адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле, дзяржаўным і палітычным ладзе, дзяржаўнай і зямельнай сімволіцы, дэмаграфіі і засяленасці, аб народах і мовах ВКЛ, саслоўнай структуры (асобна вылучаны падраздзелы пра сялянства, мяшчанства, шляхту, духавенства), сельскай гаспадарцы, рамястве, гандлі, транспарце і шляхах зносін, матэрыяльных умовах жыцця (харчаванне, адзенне, жыллё, мэбля), грашовым абароце, войску, царкве (падраздзелы пра праваслаўную, рымска-каталіцкую, уніяцкую, пратэстанцкія цэрквы, іудзейскае і мусульманскае веравызнанні), асвеце, літаратуры, мастацтве (тут вылучаны падраздзелы па архітэктуры, іканапісе і алтарным жывапісе, партрэце, манументальным жывапісе, гравюры, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, музычным мастацтве, тэатры), па крыніцах гісторыі ВКЛ і яго гістарыяграфіі. Рэшту першага і другі том займае алфавітная частка энцыклапедыі, дзе размешчаны больш дробныя артыкулы па асобных прадметах. Такая структура энцыклапедыі дазваляе чытачу і скласці агульнае ўяўленне пра асноўныя бакі жыцця ВКЛ, і знайсці інфармацыю па канкрэтных прадметах.

У алфавітных артыкулах энцыклапедыі (у першым томе іх 1408, у другім — 2207) асвятляюцца найбольш значныя гістарычныя падзеі, што адбываліся на тэрыторыі дзяржавы, і міжнародныя падзеі, якія мелі значны ўплыў на становішча ВКЛ, прававыя акты, якія рэгулявалі ўнутранае жыццё ВКЛ, цэнтральныя і мясцовыя органы дзяржаўнай улады, цэнтральныя і мясцовыя адміністрацыйныя пасады (урады). Змешчаны артыкулы пра найбольш значныя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі ВКЛ — удзельныя княствы, ваяводствы, паветы, эканоміі, буйнейшыя стараствы і валасці. Вялікая ўвага аддадзена дзяржаўным, палітычным, рэлігійным і культурным дзеячам ВКЛ, найбольш значным прадстаўнікам княжацкіх і шляхецкіх родаў, што вызначыліся ў гісторыі. У энцыклапедыі асвятляецца грашовая і фінансавая палітыка ВКЛ, змешчаны артыкулы пра грашова-лікавыя адзінкі і манеты ВКЛ. Шмат артыкулаў прысвечана помнікам архітэктуры — замкам, палацам, царквам, манастырам, найбольш значным тэатрам, друкарням, рукапісным і друкаваным кнігам, перыядычным публікацыям. У выданні змешчаны артыкулы пра гісторыю Вільні — сталіцы ВКЛ, ваяводскія і павятовыя цэнтры, іншыя значныя гарады і некаторыя знакамітыя мястэчкі ВКЛ, а таксама пра ўсе раённыя цэнтры Рэспублікі Беларусь, нават калі яны да XVIII ст. былі звычайнымі вёскамі. Таксама змешчаны біяграфіі вучоных XIX—XXI стст., якія зрабілі найбольш важкі ўклад у даследаванне гісторыі і культуры ВКЛ.



У энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае» значнае месца адведзена археаграфічнай праблематыцы. Гэта артыкулы пра розныя тыпы дакументаў, што бытавалі ў ВКЛ, пра найбольш значныя архівы Вялікага княства Літоўскага, а таксама пра археаграфічныя выданні, прысвечаныя гэтай дзяржаве. У першую чаргу можна назваць артыкулы «Ліст», «Прывілеі», «Абласныя прывілеі», «Мамрам», «Актавыя кнігі», «Канстытуцыя соймавая», «Вількер», «Статут земскі», «Рэестры», «Пісцовыя кнігі» і інш. (аўтары А. Марыскін, Г. Маслыка, В. Пазднякоў, А. Рыбакоў, Я. Юхо, З. Яцкевіч). З найбольш важных прывілееў, якія выконвалі ў ВКЛ ролю асноўных, канстытуцыйных законаў, у энцыклапедыі адлюстраваны асобнымі артыкуламі прывілеі 1387, 1388, 1432, 1434, 1447, 1492, 1506 гг., Гарадзельскі прывілей 1413 г., Мельніцкі 1501 г., Віленскія 1563 і 1565 гг., Бельскі прывілей 1564 г. Зразумела, прысутнічаюць артыкулы пра Судзебнік 1447 г., Статуты ВКЛ 1529, 1566 і 1588 гг., Кардынальныя правы, Канстытуцыю 3 мая 1791 г., Канстытуцыю 1793 г. Шмат якія з гэтых артыкулаў праілюстраваны фотаздымкамі адпаведных юрыдычных актаў.

З архіваў ВКЛ у энцыклапедыі асобныя артыкулы прысвечаны архіўным зборам Радзівілаў, Сапегаў, Тышкевічаў, Хадкевічаў (Г. Галенчанка), дзяржаўнаму архіву ВКЛ — Метрыцы Вялікага княства Літоўскага (Г. Галенчанка, М. Спірыдонаў). Ёсць агульныя артыкулы — «Архівы» (М. Шумейка), «Архівы гарадскія» (З. Яцкевіч). У гэтым шэрагу мог бы прысутнічаць і асобны артыкул, прысвечаны архіву Трыбунала ВКЛ, які выконваў велізарную не толькі судовую, але і палітычную (у XVIII ст.) ролі. Між іншым М. Спірыдонаў вядомы як аўтар абагульняльных прац па шляхецкіх архівах ВКЛ, таму і гэта тэма магла знайсці адлюстраванне ў асобным энцыклапедычным артыкуле.

Што тычыцца археаграфічных публікацый, то выдаўцы энцыклапедыі ВКЛ палічылі неабходным змясціць артыкулы пра ўсе больш-менш значныя зборнікі дакументаў, якія толькі датычаць ВКЛ (аўтары Г. Галенчанка, Л. Іванова, Ю. Несцяровіч, В. Пазднякоў, М. Шумейка). Зразумела, прысутнічаюць артыкулы пра вялікія серыйныя выданні XIX — пачатку XX ст., якія, між іншым, адыгралі вялікую ролю і ў станаўленні беларускай археаграфіі: «Акты Віленскай камісіі», «Гісторыка-юрыдычныя матэрыялы», «Акты Заходняй Расіі», «Акты Паўднёвай і Заходняй Расіі», «Апісанне рукапіснага аддзялення Віленскай публічнай бібліятэкі», «Археаграфічны зборнік да-

кументаў», «Архіў Паўднёва-Заходняй Расіі», «Зборнік ліфляндскіх, эстляндскіх і курляндскіх грамат разам з рэгестамі», «Зборнікі Рускага гістарычнага таварыства», «Руская гістарычная бібліятэка», «Скарбніца грамат», «Помнікі, выдадзеныя Часовай камісіяй для разбору старажытных актаў», «Помнікі праваслаўя і рускай народнасці ў Заходняй Расіі ў XVII—XVIII стст.».

Ёсць артыкулы пра асобныя, несерыйныя выданні Віленскай археаграфічнай камісіі: «Зборнік дакументаў, якія датычаць адміністрацыйнага ладу Паўночна-Заходняга краю пры імператрыцы Кацярыне II (1792—1796)», «Пісцовая кніга былога Пінскага староства», «Пісцовая кніга Гродзенскай эканоміі», «Пісцовая кніга Пінскага і Клецкага княстваў», «Рэвізія Кобрынскай эканоміі…», «Рэвізія пушчаў і пераходаў звярыных у былым Вялікім княстве Літоўскім…», «Ардынацыя каралеўскіх пушчаў у лясніцтвах былога Вялікага княства Літоўскага».

З іншых расійскіх археаграфічных выданняў адлюстраваны «Акты гістарычныя», «Апісанне дакументаў архіва заходнярускіх уніяцкіх мітрапалітаў», «Зборнік матэрыялаў, што маюць дачыненне да гісторыі паноў-рады Вялікага княства Літоўскага», «Зборнік Муханава», «Руска-лівонскія акты», «Збор старажытных грамат і актаў гарадоў: Вільні, Коўна, Трок», «Збор старажытных грамат і актаў гарадоў Мінскай губерні», «Віцебская даўніна».

З польскіх археаграфічных публікацый у энцыклапедыі ВКЛ дадзена інфармацыя пра зборнікі: «Акты Аляксандра, караля польскага, вялікага князя літоўскага», «Акты віленскіх цэхаў», «Акты паўстання Касцюшкі», «Акты рэфармацыйных сінодаў у Польшчы», «Акты Таміцкага», «Акты уніі Польшчы з Літвою 1385—1791», «Архіў Гістарычнай камісіі», «Архіў дому Радзівілаў», «Архіў дому Сапегаў», «Архіў князёў Любартавічаў-Сангушкаў у Славуце», «Архіў па гісторыі літаратуры і асветы ў Польшчы», «Архіў Яна Замойскага», «Рэгесты крыніц па гісторыі Літвы…», «Рэляцыі папскіх нунцыяў і іншых асоб аб Польшчы з 1548 да 1690 г.», «Польшча і Масква ў першай палове XVII стагоддзя», «Кодэкс дыпламатычны Віленскай кафедры і дыяцэзіі», «Кодэкс эпісталярны Вітаўта», «Збор дзяржаўных і прыватных актаў», «Збор літоўскіх законаў з 1389 да 1529 г.», «Вітальдыяна», «Ваенныя справы караля Стафана Баторыя».

Літоўскія археаграфічныя выданні ў энцыклапедыі прадстаўлены артыкуламі: «Інструкцыі для адміністрацыі феадальных уладанняў у Літве XVII—XIX стст.», «Пасланні Гедзіміна», «Помнікі літоўскага права», «Картулярый Літвы, які асвятляе гісторыю вялікага князя Гедзіміна. Лісты Гедзіміна», «Інвентары Літвы XVII ст.».

Нарэшце, у асобную групу можна вылучыць «рымскія» выданні, дзе змешчаны дакументы пераважна рымскай курыі і тыя, якія захоўваліся ў папскім архіве: «Акты кангрэгацыі прапаганды веры», «Старажытныя дакументы па гісторыі Польшчы, Літвы і суседніх краін». Гэты раздзел можна было б значна папоўніць за кошт шматтомных публікацый ватыканскіх дакументаў, здзейсненых у 1950-я—70-я гг. А. Вялікім (украінцам па паходжанні), калі б не адно «але»: усе яны адсутнічаюць у бібліятэках Мінска. Відавочна, энцыклапедычнае асвойванне гэтых выданняў (а таксама і гістарыяграфічнае) — адна з неабходнейшых спраў нашых археографаў і гісторыкаў. Безумоўна, варты змяшчэнню ў энцыклапедыі і асобны біяграфічны артыкул пра А. Вялікага — сапраўднага «слупа» ўкраінскай археаграфіі.

Расійскія археаграфічныя публікацыі 2-й паловы XX — пачатку XXI ст. прадстаўлены выданнямі: «Смаленскія граматы XIII—XIV стст.», «Полацкія граматы



XII — пачатку XVI стст.», «Помнікі гісторыі Усходняй Еўропы: Крыніцы XV—XVII стст.».

Нарэшце, беларускія археаграфічныя публікацыі XX ст. адлюстраваны ў артыкулах: «Беларускі архіў», «Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі», «Беларусь у эпоху феадалізму», «Руска-беларускія сувязі», «Сацыяльна-палітычная барацьба народных мас Беларусі. Канец XIV ст.—1648 г.», «Інвентары магнацкіх уладанняў Беларусі XVII—XVIII стст.».

Асобна трэба сказаць пра матэрыялы, што тычацца Метрыкі ВКЛ. У энцыклапедыі ёсць вялікі артыкул пра саму Метрыку як дзяржаўны архіў ВКЛ, а таксама інфармацыя пра археаграфічныя выданні кніг Метрыкі ВКЛ. Тут адзначаны і ранейшыя выданні, якія выходзілі ў XIX—пачатку XX ст. («Акты Літоўскай Метрыкі», «Акты Літоўска-Рускай дзяржавы», «Апісанне дакументаў і папер, што захоўваюцца ў Маскоўскім архіве Міністэрства юстыцыі», «Кніга Пасольская Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага …», «Дакументы Маскоўскага архіва Міністэрства юстыцыі»), і новыя серыі, што пачалі выходзіць у канцы XX ст. у Беларусі («Метрыка Вялікага княства Літоўскага»), Літве («Літоўская Метрыка») і Польшчы («Метрыка літоўская»).

Сярод беларускіх, расійскіх, украінскіх, літоўскіх і польскіх гісторыкаў, якія «ўганараваны» артыкуламі ў энцыклапедыі ВКЛ, шмат археографаў, і вельмі добра, што іх археаграфічная праца не згубілася сярод інфармацыі пра іх чыста гістарычныя працы.

Ацэньваючы выданне энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае» ў цэлым, можна адзначыць, што гэта сапраўды прарыў у нашай гістарычнай навуцы, за якім адкрываюцца новыя гарызонты гістарычных даследаванняў.

*Ю. М. Бохан*

— ◇ —

## ВЕСОМЫЙ ВКЛАД В ВУЗОВСКУЮ ПОДГОТОВКУ БЕЛОРУССКИХ АРХЕОГРАФОВ

*Шумейко М. Ф. Археография: Курс лекций. Минск: БГУ, 2005. 431 с.*

Значение археографии как комплекса научных знаний и учебной дисциплины в процессе исторического познания трудно переоценить. Не случайно в процессе вузовской подготовки будущих историков и историков-архивистов курс археографии занимает одно из ведущих мест, позволяя будущим специалистам приобретать не только теоретические познания, но и практические навыки приемов и методов публикации различных документов как исторических источников. В процессе преподавания курса археографии особенно важно раскрытие национальных особенностей и направлений, развивавшихся параллельно с общегосударственной (имперской в царской России и советской в СССР) археографической мыслью, формирования местных археографических школ и вклада в теорию и практику археографии наиболее ярких представителей этих школ, освещение стремлений лидеров этих школ к историческим традициям, национально-культурным ориентирам, национальному самосознанию и ментальности посредством публикаторской деятельности, к преодолению идеологических клише в этой научной сфере. Поэтому появление новых публикаций данной тематики всегда вызывает повышенный интерес со стороны специалистов.

Новое учебное издание авторитетного белорусского ученого, кандидата исторических наук, доцента кафедры источниковедения исторического факультета Белорусского государственного университета (БГУ), ведущего научного сотрудника Белорусского НИИ документоведения и архивного дела Михаила Федоровича Шумейко, известного в научном мире далеко за пределами Беларуси благодаря своим многочисленным публикациям и активному участию во множестве международных научных форумов — результат его многолетней весьма продуктивной исследовательской и преподавательской деятельности на поприще археографии, воплотившийся в гармонично скомпонованное изложение теоретических, исторических и практических сведений о сущности и особенностях полевой, камеральной и эдиционной археографии, процесса становления и развития в течение почти двух столетий такого историко-культурного феномена, как белорусская археография.

Рецензируемое издание состоит из краткой вводной лекции в курс археографии, раскрывающей его структуру и авторский концептуальный подход к теме, развернутого обзора источников литературы (историографии вопроса) и трех разделов: 1) Теоретические проблемы археографии (включает 5 лекций); 2) История белорусской археографии (этот раздел является самым большим по объему и состоит из 21 лекции); 3) Методика публикации документов как исторических источников (включает 7 лекций). Завершает книгу библиографический список литературы. Такая структура издания вполне логична и успешно раскрывает основные проблемы курса археографии в четкой методической последовательности.

Естественно, в изложении курса археографии в интерпретации М. Ф. Шумейко белорусский контент ощутимо превалирует, что объясняется четкой читательской адресностью данного издания, поскольку оно предназначено прежде всего студентам III и IV курсов отделения архивоведения исторического факультета БГУ. Но ценность данной книги состоит прежде всего в том, что она интересна не только будущим специалистам-историкам, но и уже состоявшимся и стремящимся повысить уровень своей квалификации, например, архивистам, археографам, аспирантам и соискателям, пишущим диссертации по историческим источникам, преподавателям исторических дисциплин, редакторам научных изданий и т. д., поскольку информативность данного курса в сочетании с прекрасным, доходчивым, лишенным всякого «наукообразия» стилем изложения настолько высокая, что данная книга вполне претендует на статус своеобразного свода энциклопедически сформулированных познаний о белорусской археографии с момента ее зарождения в XVIII ст. и до наших дней. Написав эту книгу, М. Ф. Шумейко фактически вывел историю археографической мысли и археографической деятельности в Беларуси из «полуэмбрионального», по его же образному замечанию, состояния в разряд самодостаточного (полноценного) и научно обоснованного учебного курса.

К чести автора, он не ограничился исключительно белорусской археографией, территориально рамки его работы гораздо шире. Это и вопросы зарождения полевой, камеральной и эдиционной археографии в соседних с Беларусью литовских губерниях, и раскрытие роли Петербургской археографической комиссии, Общества истории древностей российских при Московском университете и многих других учреждений России, Польши и СССР в становлении и развитии белорусской археографии. Заметное место на страницах книги отведено и украинской археографии, в частности, упоминается деятельность Киевской археографической комиссии, Исторического общества Нестора-летописца, известных ученых В. С. Иконникова, Ф. И. Леонтовича, В. Л. Модзалевского и др., отмечены весомые достижения украинских археографов в создании нормативной базы в области археографии в 1930-е и последующие годы. Чувствуется, что автор прекрасно ориентируется в украиноязычных источниках.



Вполне оправданным, на наш взгляд, является цитирование автором как цитат из научных источников, так и самих источников на языке оригинала, поэтому, хотя книга написана на русском языке, в ней встречаются ссылки и на белорусском, и на украинском языках.

Рецензируемое издание заслуживает положительной оценки и с точки зрения такого момента, как индивидуальное авторство, что позволило М. Ф. Шумейко реализовать единый концептуальный подход в изложении сложного и многообразного учебного материала. Важным является и то, что автор, отмечая несомненные успехи и заслуги нескольких поколений белорусских археографов, создавших огромную по своему объему археографическую базу, до сих пор используемую историками, одновременно не скрывает и негативных, вненаучных моментов, повлиявших на научную продукцию местных археографов, дискуссионности некоторых положений и использованных решений при реализации археографических проектов, что побуждает студентов к сравнению различных взглядов археографов, содействуя развитию их творческого, аналитического мышления.

В книге четко изложены некоторые наиболее «трудные» вопросы, существующие в теории археографии (в частности, источниковедческая критика, выбор объекта публикации и др.), даны представления об истории белорусской археографии, включая анализ ее организационных составляющих, проанализировано современное состояние археографии в Беларуси, рассмотрены взаимосвязи археографии со смежными научными дисциплинами. Содержание книги свидетельствует также, что теоретические взгляды ученых белорусской археографической школы требуют дальнейшего исследования с целью определения влияния их научных идей на современную археографию.

Одна из наиболее сильных сторон книги — всестороннее освещение в контексте общих тенденций развития археографической мысли в Беларуси (разделы I и II) персонифицированного вклада белорусских археографов в создание и расширение национальной археографической базы — В. С. Арсеньева, М. Л. Веревкина, М. В. Довнар-Запольского, Д. И. Довгялло, Б. А. Тарашкевича, И. Я. Спрогиса, В. И. Пичеты, Б. Р. Брежго, А. П. Сапунова, М. В. Мелешко, Н. Н. Улащика, В. У. Ластовского и многих других практиков-архивистов и историков-исследователей.

В третьем, заключительном разделе книги, посвященном методике публикации документов как исторических источников, М. Ф. Шумейко доходчиво и предметно, со ссылками на многочисленные документальные издания, опубликованные в Беларуси, и наглядными примерами (фрагментами документов) из них рассказывает о специфике этой деятельности, начиная с классификации документальных изданий, выявления и отбора документов для публикации и заканчивая научно-справочным аппаратом к археографическим изданиям. В какой-то степени этот раздел — во многом базирующая на личном практическом опыте автора, доступно для студентов и начинающих археографов изложенная квинтэссенция нормативно-методических рекомендаций, правил, инструкций, памяток, приемов и методов публикационной работы, но не подменяющая «Правила издания исторических документов».

Поскольку рецензируемое издание — это прежде всего учебное пособие, цель которого — дать студентам представления об археографии как науке и практической сфере исторической деятельности, то важное значение имеет его научно-вспомогательный аппарат. В книге он представлен только внутритекстовыми вставками со ссылками на отдельные публикации по тому или иному вопросу, а также развернутым списком литературы на разных языках по теме (однако назвать его библиографическим указателем нельзя из-за отсутствия некоторых обязательных элементов, обусловленных требованиями стандартов библиографического описания изданий). Безусловно, такой список важен как точный ориентир в источниках информации для углубленного ознакомления с теоретическими проблемами археографии и дальнейшего перехода к изучению задач археографической практики. Но его стоило хотя бы пронумеровать и при необходимости давать отсылки на соответствующие источники. Особенно это важно для «Обзора источников литературы», где наличествуют обильные ссылки на разных авторов, но зачастую непонятно, о каких конкретных работах идет речь. Например, на с. 11 упоминается статья Е. Ф. Шорохова, но какая именно, — непонятно, поскольку в списке литературы приведено 6 публикаций этого известного ученого — историографа белорусской археографии. В итоге страдает целостное восприятие историографического обзора.

В книге также отсутствуют другие важные составные части научно-вспомогательного аппарата, присущие изданиям учебного характера. Но если такие из них, как схемы, таблицы, диаграммы в контексте изложения основ археографии, действительно «не вписываются» в данный учебник, то вопросы для самоконтроля как завершающий компонент каждой отдельной лекции, предметный и именной указатели в конце книги, на наш взгляд, были бы полезны для всех заинтересованных читателей. Но в целом пропедевтическая функция в данном издании реализована успешно.

Нельзя не отметить и отличное полиграфическое оформление издания, с учетом его, безусловно, интенсивного использования студентами, что, впрочем, характерно для подавляющего большинства образцов книжной продукции, печатаемой на полиграфических предприятиях Беларуси. С другой стороны, тираж книги (150 экз.), на наш взгляд, позволяет лишь в минимальной степени обеспечить информационные потребности студентов и специалистов Беларуси, но не гарантирует ее наличия на полках даже крупнейших научных библиотек и в профильных научных учреждениях на территории СНГ, а ведь без сомнения, данная книга будет востребована в России, Украине, Литве и других постсоветских странах.

Таким образом, курс лекций белорусского ученого и педагога высшей школы — заметное событие в научной жизни не только Беларуси, но и соседних постсоветских республик, а студенты БГУ получили отличный учебник по национальной археографии.

*С. Л. Зворский*

— ◇ —

## ВАЖКІ НАБЫТАК БЕЛАРУСКАЙ АРХЕАГРАФІІ

*Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 46 (1562—1565). Кніга запісаў 46 (Копія канца XVI ст.) / Падрыхт. В. С. Мянжынскі. Мн., 2006.*

Важкім набыткам беларускай археаграфіі з’явілася апублікаванне выдатным айчынным археографам В. С. Мянжынскім кнігі Метрыкі ВКЛ 46. Выданне кнігі Метрыкі ВКЛ 46 стала трэцяй археаграфічнай публікацыяй кніг Метрыкі Мянжынскім [1]. Апублікаваныя гістарычныя дакументы кнігі Метрыкі ВКЛ з’яўляюцца каштоўнай крыніцай: яны кампактна ўтрымліваюць гістарычныя сведчанні, датычныя Беларусі, Літвы, Украіны і рэгіёна Польшчы, за якім замацавалася гістарычная назва «Падляшша».



Прыступаючы да крытычнага разгляду публікацыі, належыць у першую чаргу адзначыць высокі паліграфічны ўзровень выдання (ламініраваная вокладка, шчыльная папера і г. д.), які дасягнуты выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя». Адзначаны ўзровень вышэй за ўзровень папярэдніх выданняў кніг Метрыкі ВКЛ у Рэспубліцы Беларусь. У адносінах да гэтага навуковага выдання кнігі Метрыкі ВКЛ магчыма хіба што выказацца пра недахоп гістарычных сімвалаў. Выданне мае шырокія палі, на якіх знайшлося месца пагінацыі архіўнай крыніцы (пачатак і канец аркуша архіўнага рукапісу ў тэксце публікуемых дакументаў В. С. Мянжынскі выдзяляе дзвюма косымі лініямі). Дзякуючы такому афармленню выдання тэксты публікуемых дакументаў добра ўспрымаюцца чытачом. Разам з тым належыць адзначыць, што ў выніку працы выдавецтва нумар адной з філіграняў (якія прыводзіцца ва ўводзінах публікацыі пад нумарам першым) стаў замест чатырохзначнага — трохзначным (першая лічба знікла).

У кнігу Метрыкі ВКЛ 46 увайшоў 21 дакумент, з іх 9 уключаныя акты ў чатырох з 12 асноўных дакументаў. Чатыры прадстаўленыя ў выданні дакументы ўжо публікаваліся В. С. Мянжынскім у вып. 5 БАШ [2]. Публікацыя ўключаных актаў у цэлым вытрымана аўтарам у адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі. Сёння лічыцца, што рэдакцыйныя загалоўкі да ўключаных актаў XV—XVI стст. «карысна даваць паасобна, г. зн. пад асобным нумарам і пад той датай, якая маецца ў кожным дакуменце» [3]. Як і Дз. І. Даўгяла ў «Беларускім архіве», В. С. Мянжынскі змяшчае рэдакцыйныя загалоўкі да ўключаных актаў не ў асноўнай частцы публікацыі (у храналагічным пераліку дакументаў). У асноўнай частцы публікацыі айчынны археограф абмяжоўваецца прывядзеннем дат уключаных актаў. Трэба адзначыць, што археограф прытрымліваецца прынцыпу недубліравання інфармацыйных элементаў публікацыі, таму ў рэдакцыйных загалоўках у асноўнай частцы публікацыі адсутнічае геаграфічная дата. Яна прадстаўлена ў храналагічным пераліку дакументаў. У публікуемых дакументах тэксты ўключаных актаў выдзелены новым радком і двукоссем.

У літоўскіх выданнях кніг Метрыкі ВКЛ ужо замацавалася традыцыя, адштурхоўваючыся ад тэрміналогіі кніг Метрыкі ВКЛ як гістарычнай крыніцы, зыходзіць са структурнага падзелу асноўнай часткі публікацыі на рэестр спраў і тэкст спраў. Прычым пры афармленні «метрычнага» выдання выкарыстанне тэрміналогіі не уніфікавана. Маюцца наступныя выпадкі: калі ў змесце выкарыстоўваецца тэрмін «тэкст спраў», а ў асноўнай частцы публікацыі — тэрмін «тэкст актаў» [4]; абыходжанне як у змесце, так і ў асноўнай частцы публікацыі без тэрміналагічнага абазначэння структурнага падзелу асноўнай часткі публікацыі [5]; калі і ў змесце, і ў асноўнай частцы выкарыстоўваецца тэрмін «тэкст спраў» [6].

В. С. Мянжынскі таксама прытрымліваецца структурнага падзелу асноўнай часткі публікацыі (якая застаецца асноўнай, нягледзячы на тое што займае па аб’ёме толькі чвэрць выдання) на рэестр спраў і тэкст спраў. Адпаведна такому структурнаму падзелу, раздзелу публікацыі, у якім змешчаны тэксты дакументаў, ён надае назву «Тэкст спраў». Выдавецтва, кіруючыся правіламі выдавецкай справы, паставіла гэ-

тую назву да калонтытулаў асноўнай часткі. Але паколькі ў астатніх структурных частках выдання выкарыстоўваецца слова «дакумент», а не «справа» — «Пералік разнавіднасці дакументаў», «Пералік публікацый дакументаў» і г. д., то чытач застаецца ў пэўным непаразуменні (яму не патлумачана, што слова «справа» выступае эквівалентам тэрміна «дакумент»). Паводле назвы «Тэкст спраў» атрымліваецца, што тэкст дакументаў (якія з'яўляюцца пераважна судовымі справамі) уяўляе сабой адзіны тэкст. Безумоўна, у рэестры спраў публікуемай В. С. Мянжынскім кнігі Метрыкі ВКЛ слова «справа» ўжываецца ў значэнні структурнай адзінкі «метрычнай» кнігі, але ў загалоўку да кнігі выкарыстоўваецца і тэрмін «справы судовыя». У сувязі з гэтым можа стварыцца ўражанне двухсэнсоўнасці ўжывання тэрміна «справа».

Акрамя таго, пэўнае пярэчанне, мабыць, выклікае з'яўленне ў змесце назвы «Справы «кнігі» Метрыкі Вялікага княства Літоўскага № 46» з пачатку радка, а назваў «Рэестр спраў» і «Тэкст спраў» — не з пачатку радка. Пры такім афармленні атрымліваецца, што «Справы…» — назва асноўнай часткі публікацыі, якая падзяляецца на рэестр спраў і тэкст спраў. Між тым назва «Справа…» адносіцца толькі да загалоўка кнігі-копіі Метрыкі ВКЛ 46 на старабеларукай мове, археаграфічна перададзенага В. С. Мянжынскім на старонцы 105 выдання. І чаму слова «кніга» ў дадзенай назве ў змесце на рускай і беларускай мовах бярэцца ў двукоссе, а ў змесце на англійскай і літоўскай мовах, а таксама ва ўводзінах (на ўсіх мовах) пакідаецца без двукосся?

Якасць перадачы тэксту дакументаў Метрыкі ВКЛ, у прыватнасці адаптацыі тэксту сучасным алфавітам, у В. С. Мянжынскага, як і заўсёды, добрая. Непрыманне скажэння графікі старабеларускага пісьма праявілася ў захаванні почырка. Дарэчы, прынцыпы перадачы тэксту гістарычных дакументаў у разглядаемай публікацыі аднолькавыя з прынцыпамі, якіх ён прытрымліваецца ў публікацыях дакументаў Метрыкі ВКЛ у БАШ [7].

Навукова-даведачны апарат публікацыі складаецца з уводзін, падрадковых заўваг, паказальнікаў, слоўніка ўстарэлых слоў, табліц, спіса ілюстрацый, пераліку разнавіднасці дакументаў, храналагічнага пераліку дакументаў. Як вынікае са зместу, В. С. Мянжынскі не адносіць уводзіны да навукова-даведачнага апарату. Увогуле ён, кіруючыся «метрычнымі» рэкамендацыямі, уключае ў яго тыя часткі публікацыі (храналагічны пералік дакументаў, суадносіны новых і старых шрыфтоў рукапісу, фармат і змест надпісаў ярлыкоў на спінцы кнігі-копіі, пералік публікацый дакументаў), якія мэтазгодна (у адпаведнасці з Правіламі 1990 г. [8]) выносіць у дадатак. Мабыць, такая практыка публікацыі «метрычных» дакументаў падштурхоўвае да карэкціроўкі Агульных правіл публікацыі гістарычных дакументаў.

Адзначым, што археаграфічныя публікацыі кніг Метрыкі ВКЛ, якія здзяйсняюць беларускія вучоныя, вылучаюцца нават сярод такіх жа публікацый літоўскіх вучоных (сучасных лідэраў у гэтай справе) высокім навуковым узроўнем. І вылучаюцца яны перш за ўсё менавіта разгорнутым навукова-даведачным апаратам, які дазваляе дасягнуць крыніцазнаўчай каштоўнасці археаграфічнай публікацыі. Паказальнікі ў публікацыях кніг Метрыкі ВКЛ беларускіх археографаў маюць пераважна характар каментара, а не індэксавання. Між тым сярод «метрычных» выданняў літоўскіх публікатараў маюцца выпадкі спрошчвання навукова-даведачнага апарату публікацыі — аб'яднання імяннога і геаграфічнага паказальнікаў [9].



У рэцэнзуемай публікацыі ў імянным паказальніку ўсе імёны падаюцца В. С. Мянжынскім у перакладзе на сучасную беларускую мову, але адначасова прысутнічае і крынічны варыянт іх напісання. Дарэчы, слова «Бог» і нават вытворныя ад яго формы (у прыватнасці, «Божьего року») уключаны айчынным «метрыкантам» у імянны (але не прадметны) паказальнік (гл. стар. 105).

У геаграфічным паказальніку шэраг аб'ектаў лакалізаваны, для іх удакладняецца сучаснае тапанімічнае становішча. Гэтыя аб'екты «прывязваюцца» і да нумароў дакументаў у выданні і да архіўных аркушаў дакумента кнігі Метрыкі, на якіх яны згадваюцца. Акрамя таго, В. С. Мянжынскі выкарыстоўвае ў геаграфічным (як і ў імянным) паказальніку нумарацыі ўключаных аб'ектаў па парадку (прытрымліваючыся пры гэтым рэкамендацый М. Ф. Спірыдонава). Устанаўленне сучаснага становішча населеных пунктаў даецца толькі ў выпадку, калі яны з'яўляюцца тэрытарыяльна-адміністрацыйнымі адзінкамі Рэспублікі Беларусь. Разам з тым у геаграфічным паказальніку «апынуліся» назвы дакументаў і пасад («Статут земскі», «хоружіч земскі») (гл. стар. 193). Безумоўна, назва «Луцкі біскуп» (стар. 197) паказвае на пэўны геаграфічны аб'ект.

Прадметны паказальнік змяшчае амаль усе словы з прадметным значэннем, якія ўтрымлівае кніга Метрыкі. Акрамя таго, у слоўніку прыведзены сучасныя значэнні слоў, інтэрпрэтацыя якіх выклікае складанасць у чытача (напр., слова «кревный»).

Уводзіны ў разглядаемай публікацыі дастаткова збалансаваныя. Яны прысвечаны звесткам пра архіўны аўтэнтык публікуемай кнігі Метрыкі, храналагічныя межы публікацыі, уключаныя акты дакументаў, асоб, якіх тычацца дакументы, знешнія прыкметы архіўнага рукапісу; у іх дадзена апісанне філіграняў, выкладаюцца прынцыпы перадачы тэксту дакументаў і складання навукова-даведачнага апарату, а таксама яго характарыстыкі. Уводзіны і змест публікацыі пададзены на чатырох мовах — беларускай, рускай, англійскай і літоўскай. Публікатарам кнігі Метрыкі ВКЛ 46 праяўлены клопат да мовы сучасных лідэраў у справе публікацыі кніг Метрыкі. Ён удзячны аддзелу археаграфіі Інстытута гісторыі Літвы за пераклад уводзін на літоўскую мову. Разам з тым мэтазгодным, на наш погляд, было б ажыццявіць пераклад уводзін і зместу выдання на польскую і ўкраінскую мовы — мову краін, якія маюць непасрэднае дачыненне да Метрыкі ВКЛ.

Заўважым, што змяшчэнне ў кнізе Метрыкі ВКЛ 46 уводзін на дзвюх міжнародных мовах (улічваючы міжнародную значнасць падобных публікацый) — адметная рыса публікацыі. У гэтым аспекце дадзеная археаграфічная публікацыя «выйграе» ў параўнанні з навуковымі выданнямі кніг Метрыкі ВКЛ літоўскіх археографаў (якія друкуюць уводзіны на нацыянальнай і рускай мовах [10], альбо нават толькі на нацыянальнай мове [11]). Разам з тым маюцца аспекты публікацыі, у якіх яна ім «прайграе». Гэта тычыцца, у прыватнасці, неаддзялення нумарацыі старонак уводзін і астатняга тэксту выдання. Між тым літоўскія публікатары практыкуюць увогуле прынятую для падобнага роду і ўзроўню публікацый нумарацыю старонак уводзін рымскімі лічбамі [12].

Рэдакцыйныя загалоўкі ў публікацыі складзены В. С. Мянжынскім, як заўсёды ў яго «метрычных» публікацыях, руплівa і ўважліва. Пры зверцы найменняў рэдакцыйных і аўтэнтычных загалоўкаў з падраздзелам навукова-даведачнага апарату «Пералік разнавіднасці дакументаў» (стар. 266) кідаецца ў вочы памылка друку: «вправа» — замест «справа». Адзначым, што В. С. Мянжынскі выносіць як аў-

тэнтычныя найменні ў гэтым пераліку і дубліруе як эквівалентнае найменне да вызначанага ім наймення разнавіднасці дакументаў у рэдакцыйным загалоўку тыя найменні, якія сустракаюцца ў тэксце дакументаў (у публікуемым дак. № 1 гэта найменне — «вырак»).

Публікацыя дакументаў кнігі Метрыкі ВКЛ 46 (што адзначаецца В. С. Мянжынскім ва ўводзінах) будзе запатрабавана гісторыкамі, правазнаўцамі, генеалогамі, гістарычнымі дакументазнаўцамі, архівістамі, кнігазнаўцамі, філолагамі, прадстаўнікамі гістарычнай геаграфіі, крыніцазнаўства, анамастыкі, дыпламатыкі, палеаграфіі. Акрамя таго заўважым, што выданне кніг Метрыкі ВКЛ узвышае прэстыж дзяржавы, якая клапоціцца пра сваю культурную спадчыну.

За апошнія гады беларуская археаграфія дасягнула імклівых поспехаў у справе публікацыі кніг Метрыкі ВКЛ. Істотным момантам у далейшым разгортванні гэтай справы з'яўляецца іх дзяржаўная падтрымка.

Літаратура


1. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 28 (1522—1552). Кніга запісаў 28 / Падрыхт. В. С. Мянжынскі. Мн., 2000; Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 43 (1523—1560). Кніга запісаў 43 (Копія канца XVI ст.) / Падрыхт. В. С. Мянжынскі. Мн., 2003; Несцяровіч Ю. У. Чарговая публікацыя кнігі Метрыкі ВКЛ В. С. Мянжынскім // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 5. Мн., 2004.
2. Мянжынскі В. С. Дакументы па гісторыі Беларусі ў кнізе Метрыкі ВКЛ 46 // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 5. Мн., 2004.
3. Каштанов С. М. Актовая археография. М., 1998. С. 94.
4. Литовская Метрика (1542). 11-я книга судных дел (Копия конца XVI в.). Вильнюс, 2001.
5. Литовская Метрика (1387—1546). Книга записей 25. Вильнюс, 1998.
6. Литовская Метрика (1533—1535). 8-я книга судных дел (Копия конца XVI в.). Вильнюс, 1999.
7. Мянжынскі В. С., Несцяровіч Ю. У. Канфірмацыі гаспадара вышэйшых установ Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага як намінальная публікацыя // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 2. Мн., 2001; Мянжынскі В. С., Несцяровіч Ю. У. Канфірмацыйны ліст караля польскага, вялікага князя літоўскага, рускага, прускага, жамойцкага, інфлянцкага і іншых зямель ад 15 красавіка 1546 г. // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 3. Мн., 2002; Мянжынскі В. С., Несцяровіч Ю. У. Прывілеі на корчмы з кнігі Метрыкі ВКЛ 43 // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 4. Мн., 2003; Мянжынскі В. С., Несцяровіч Ю. У. З гісторыі Беларусі XVI ст.: канфірмацыйныя прывілеі ў кнізе Метрыкі ВКЛ 30 // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 6. Мн., 2005; Мянжынскі В. С., Несцяровіч Ю. У. Судовыя дакументы з саманазвай «справа» ў кнізе Метрыкі ВКЛ 30 // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 7. Мн., 2006; Мянжынскі В. С., Несцяровіч Ю. У. Распарадчыя дакументы («лісты») Жыгімонта Аўгуста ў кнізе Метрыкі ВКЛ 30 // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 8. Мн., 2007.
8. П. 324—326 «Правил издания исторических документов в СССР» (М. 1990.).
9. Литовская Метрика. Книга 11 (1518 — 1523). Книга записей 11. Вильнюс, 1997.
10. Литовская Метрика (1522 — 1530). 4-я книга судных дел (Копия конца XVI в.). Вильнюс, 1997.





11. Литовская Метрика. Книга 556 (1387 — 1546). Книга публичных дел 556/35. Вильнюс, 2005.
12. Литовская Метрика (1528 — 1534). 6-я книга судных дел (Копия конца XVI в.). Вильнюс, 1995.


*Ю. У. Несцяровіч*

— ◇ —

## ПРАВОСЛАВНАЯ ЦЕРКОВЬ НА ВИТЕБЩИНЕ (1918 — 1991): ДОКУМЕНТЫ И МАТЕРИАЛЫ

*Православная церковь на Витебщине (1918 — 1991): документы и материалы. Мн., 2006. 365 с.*

Публикация сборника документов — это всегда важное событие в культурной жизни общества и государства. Ибо, как справедливо отмечено в данном издании: «Публикация документов способствует использованию архивных источников в научных, культурно-просветительных целях, обеспечивает государство и граждан необходимой информацией»*.

В подготовке сборника к изданию принимал участие коллектив составителей: В. П. Коханко, Н. В. Воронова, А. М. Киселев, М. В. Пищуленок, В. Г. Ширма. В сборник вошли документы из Государственного архива Витебской области, а также ряда зональных архивов (Глубокое, Орша, Полоцк), которые отражают не только деятельность православной церкви на территории Витебщины, но и позволяют проследить изменения конфессиональной политики советского государства в целом на протяжении достаточно длительного и сложного периода истории Беларуси (1918—1991). Издание тем более важно, что данный период длительное время полноценно не изучался, а научная разработка документов проводилась, главным образом, в целях атеистической пропаганды, обоснования реакционной роли церкви или для антирелигиозного воспитания детей и молодежи.

Документы расположены в хронологической последовательности. Их ряд открывают основополагающие акты советского правительства, заложившие основу государственно-церковных отношений на весь последующий период — Декрет СНК РСФСР о свободе совести, церковных и религиозных обществах от 20 января (2 февраля) 1918 г. и постановление Наркомата юстиции РСФСР о порядке проведения в жизнь Декрета «Об отделении церкви от государства и школы от церкви» (Инструкция) от 24 августа 1918 г. Последующие документы рассказывают о том, как эти (и другие) установки проводились в жизнь на территории Витебщины.

Документы свидетельствуют, как акты обследования культовых зданий уездных комиссий по охране памятников, в которых зачастую слышалась обеспокоенность за их сохранность: «Будем же сохранять по мере своих сил те памятники старины и искусства, которые еще остались в нашем Полоцке и его уезде неразрушенными и неуничтоженными» — постепенно сменялись другими документами. Это материалы, свидетельствующие об изъятии материальных ценностей; об арестах священнослужителей, обвинявшихся в антисоветской пропаганде; о действиях на Витебщине первичных организаций «Союза воинствующих безбожников»; о за-

* Православная церковь на Витебщине (1918—1991): документы и материалы. Мн., 2006. С. 3.

прете колокольного звона и др. Особую группу составляют документы, посвященные периоду Великой Отечественной войны.

Важнейшие вехи послевоенного периода деятельности православной церкви на территории Витебщины, состояние религиозности ее населения позволяют проследить документы Уполномоченного Совета по делам Русской православной церкви при Совете Министров СССР по Витебской области (с декабря 1965 г. по делам религий при Совете Министров СССР), а также выдержки из протоколов заседаний бюро Витебского ГК и ОК КПБ, областного и районных исполнительных комитетов, на которых рассматривались различные вопросы, связанные с религиозной политикой, главным образом атеистической направленности. Среди массы подобных документов выделяются такие, которые представляют особый интерес для историков. Например, справка Государственного музея БССР о состоянии охраны в действующих культовых зданиях Витебской области (1983) дает представление не только о количестве и «географии» храмов (причем не только православных), но и дате их основания. А акт предварительного обследования культовых зданий в городах Полоцк, Глубокое, Орша, Витебск (1963) рассказывает о сохранившихся в них памятниках, представляющих художественную ценность.

С конца 1980-х гг. начинается новый этап в деятельности православной церкви на территории Витебщины. Об этом свидетельствуют сами документы. Из названий документов буквально на глазах исчезает обязательный термин «атеистическое воспитание». В сборнике этот этап начинается с документа — Рекомендации Совета по делам религий при СМ СССР председателям республиканских советов и уполномоченным Совета по делам религий при СМ СССР о проведении юбилейных мероприятий в связи с празднованием 1000-летия крещения Руси (12 мая 1988 г.). А заканчивается решением Витебского облисполкома «О создании Совета по делам религий при облисполкоме» (14 октября 1991 г.).

Основная часть документов публикуется полностью, а в больших по объему документах опущен материал, не имеющий отношения к теме сборника. В документах, которые содержат информацию, относящуюся к тайне личной жизни граждан, опущены фамилии упоминаемых в тексте лиц.

Издание снабжено довольно пространным предисловием, представляющем краткую историю православной церкви на Витебщине в XX в., хорошо проиллюстрировано копиями документов и фотодокументов, снабжено комментариями, именным и географическим указателями.

В комментариях к сборнику имеется ряд биографических сведений о лицах, упоминаемых в документах. Среди них: архиепископ полоцкий и витебский Иннокентий (Ястребов), митрополит московский и коломенский Тихон, протоиерей А. Донов и др. Коротко рассматривается история храмов: их местонахождение (особенно важно, если храм разрушен), история их основания и т. д.

Думается, данный сборник будет представлять большой интерес не только для историков, но и для архитекторов, искусствоведов, которые занимаются историей православной церкви XX в. Интересен он также и для тех, кто занимается историей других конфессий, причем даже более раннего периода. В издании встречаются документы, которые затрагивают разные аспекты (например, документ № 29 — список храмов и молитвенных домов г. Полоцка и Полоцкого уезда, переданных уездным исполкомом по договору группам верующих. Не ранее 1 июля 1923 г.).

*В. В. Яновская, Е. Н. Филатова*



— ◇ —

## ЦІКАВАЕ ЮБІЛЕЙНАЕ ВЫДАННЕ

*Архіварыус. Зборнік навуковых артыкулаў і паведамленняў. Вып. 5. Мн.: НГАБ, 2007. 100 экз.*

Прадстаўлены зборнік навуковых артыкулаў і паведамленняў «Архіварыус» з'яўляецца пятым выпускам штогадовага перыядычнага выдання Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. У гэты раз выданне з'яўляецца юбілейным і прымеркавана да 85-годдзя Дзяржаўнай архіўнай службы Рэспублікі Беларусь, што знайшло сваё адлюстраванне ў тэматыцы прадстаўленых публікацый.

Значная колькасць публікацый у параўнанні з папярэднімі выпускамі «Архіварыуса» прысвечана крыніцазнаўству, археаграфіі, гісторыі архіўнай справы і іншым спецыяльным гістарычным дысцыплінам, што абумоўлена спецыфікай выдання, якое мае статус архіўнага часопіса. Артыкулы дырэктара НГАБ А. Галубовіч і намесніка дырэктара НГАБ Л. Лісавай асвятляюць дзейнасць беларускіх архівістаў па публікацыі гістарычных крыніц. Рубрыка «Архівазнаўства» пераважна прысвечана асвятленню гісторыі архіўнай справы ў Беларусі перыяду Расійскай імперыі (артыкулы З. Антановіч, А. Лютарэвіч, І. Новікавай, В. Ходзінай). Арганізацыйныя і адміністрацыйныя аспекты дзейнасці архіваў у сённяшняй Беларусі разгледжаны С. Жумарам. У традыцыйным раздзеле «Постаці архівістаў» З. Яцкевічам змешчаны восем біяграм магілёўскіх пісараў XVI—XVIII стст.

Працягнуты ў гэтым выпуску археаграфічныя напрацоўкі і публікацыя дакументаў, якія асвятляюць розныя аспекты гісторыі Беларусі. Сярод іх дакументы, звязаныя з дзейнасцю вядомых постацей беларускай гісторыі: мастака Напалеона Орды (падрыхтаваны У. Казловым), дзеяча беларускага нацыянальнага руху Палуты Бадуновай (А. Гесь і Н. Калеснік).

У рубрыцы «Крыніцазнаўства» знайшлі адлюстраванне як тэарэтычныя аспекты гэтай дысцыпліны, так і вынікі працы даследчыкаў з пэўнымі канкрэтнымі крыніцамі. Тут надрукаваны спісы ссыльных паўстанцаў 1863—1864 гг. (В. Гарбачовай), шляхты Магілёўскай губ. за 1783—1784 гг.(Я. Анішчанкам), майстраў-зэгармістраў, што працавалі ў Беларусі ў XVI—XX стст. (А. Цітовым). Артыкул А. Лашкевіча прысвечаны гісторыі Мінскага губернскага жандармскага ўпраўлення, Н. Сліж — гісторыі роду Трубецкіх.

У гэтым выпуску ўвага нададзена таксама публікацыі вынікаў даследаванняў беларускіх гісторыкаў. Артыкулы І. Вернер, Дз. Лісейчыкава, Дз. Матвейчыка, С. Рыбчонка і С. Пярвышына асвятляюць старонкі айчыннай мінуўшчыны. Раздзел «Генеалогія і геральдыка» змяшчае дзве публікацыі, кожная з якіх можа выклікаць зацікаўленасць спецыялістаў гэтай галіны. З. Яцкевічам працягнута даследаванне шляхты ўсходу Беларусі і апублікаваны шэраг радаводаў шляхецкіх родаў Чавускага пав., А. Шаланда друкуе матэрыялы аб гербах гарадоў і мястэчак Ваўкавыскага пав.

У асобную рубрыку вынесены артыкул Т. Міхяёнак, дзе закрануты аспекты метадычнага забеспячэння пры стварэнні аўтаматызаванага навукова-даведачнага апарату.

Несумненна, станоўчым бокам выпуску з'яўляецца дзейнасць па папулярызацыі гістарычных прац іншых даследчыкаў. Гэтаму аддадзены раздзел «Бібліяграфія і рэцэнзіі», дзе аналізуецца шэраг прац гісторыкаў Беларусі, Украіны і Расіі. Прычым адразу кідаецца ў вочы схіл у гэтым выпуску да царкоўнай тэматыкі. У трох з чатырох прыведзеных рэцэнзіях разглядаюцца даследаванні гісторыі царквы.

Змешчаныя ў выданні навуковыя артыкулы і паведамленні заслугоўваюць высокай ацэнкі. У іх адчуваецца імкненне знайсці новыя падыходы да правядзення даследаванняў, запоўніць своеасаблівыя «белыя плямы» ў гісторыі, грунтоўная праца пры аналізе крыніц. Заслугоўвае станоўчай ацэнкі падбор публікацый па самай шырокай тэматыцы айчыннай гісторыі. Навукова-даведачны апарат публікацый таксама аформлены на высокім узроўні. Гэтыя фактары дазволілі выдаўцам называць свой выпуск навуковым выданнем. Сама назва выдання, а таксама назвы яго рубрык і артыкулаў дастаткова поўна ўказваюць на тэматычную спецыфіку часопіса, які з'яўляецца па-свойму унікальным выданнем у Беларусі і за яе межамі.

На будучыню хацелася б пажадаць выдаўцам павялічыць тыраж выдання, што дазволіла б азнаёміцца з ім больш шырокаму колу чытачоў, а таксама прыкласці намаганні да прызнання выдання ў якасці часопіса, рэкамендаванага ВАК Беларусі для публікацыі вынікаў навуковых даследаванняў, што, безумоўна, павысіла б яго статус і прыцягнула да супрацоўніцтва з ім новых аўтараў.

*Дз. Ч. Матвейчык*

— ◇ —

## ПАЧАТАК НОВАГА БІЯГРАФІЧНАГА ПРАЕКТА

*Чарняўскі Ф. В. Ураднікі Менскага ваяводства XVI—XVIII стст. Біяграфічны даведнік. Выпуск I. Мн., 2007. 256 с.*

Шырокамаштабны праект, задуманы Ф. В. Чарняўскім — даведнік пра ўраднікаў Менскага ваяводства XVI—XVIII стст. — павінен задаволіць попыт гісторыкаў і архівістаў на такога роду звесткі. У пэўным сэнсе гэты даведнік выступае канкурэнтам аналагічнага польскага праекта, які распрацоўваецца калектывам польскіх гісторыкаў пад кіраўніцтвам праф. А. Рахубы, аднак той праект разлічаны на ахоп усяго Вялікага княства Літоўскага. Задума Ф. В. Чарняўскага ў канчатковым выглядзе павінна ўвасобіцца ў кніжную серыю з дзевяці выпускаў. Першым убачыў свет выпуск, дзе сабраны звесткі пра стольнікаў, падстоліх, лоўчых і струкчашых Менскага ваяводства. Аўтар назапасіў даволі багатыя архіўныя звесткі пра гэтых асоб. Па магчымасці называюцца даты нараджэння, смерці, уступлення на пасаду і зыходу з яе адпаведных ураднікаў, прыводзяцца звесткі пра сям'ю, сваякоў, абставіны атрымання ўрада (пасады). Пры падачы фактаў біяграфічнага характару аўтар абавязкова спасылаецца на архіўныя крыніцы і працы папярэднікаў. Такім чынам, даведнік Ф. В. Чарняўскага значна багацейшы на інфармацыю ў параўнанні з даведнікамі польскіх гісторыкаў.

Ацэньваючы станоўча задуму аўтара, трэба спыніцца на некаторых момантах яе рэалізацыі. Безумоўна, публікацыя даведачнага выдання, тым больш у некалькіх выпусках, патрабуе ўважлівага стаўлення да яго знешняга афармлення. Даведнік павінен аблегчыць працу гісторыкаў і архівістаў, а не ствараць новыя цяжкасці. Між тым цяжкасці ўзнікаюць з самага пачатку азнаямлення з працай. На вокладцы яе назва пазначана ў форме «Ураднікі менскага ваяводства XVI—XVIII стст. Біяграфічны даведнік. Выпуск 1». Аднак на тытульным лісце прыведзена крыху іншая назва: «Ураднікі (пасады, тытулы) Менскага ваяводства XVI—XVIII стагоддзяў. Біяграфічны даведнік». Агульнапрынята, што асноўным варыянтам назвы кнігі з'яўляецца той, які змешчаны на тытульным лісце. У нашым выпадку гэты варыянт, відавочна, памылковы, да таго ж не ўтрымлівае нумара выпуску. Аднак і назва на вокладцы не бездакорная, бо слова «менскага» напісана з малой літары. Дарэчы, было б карысна на карашку не проста дубліраваць назву кнігі, а пазначыць нумар выпуску і тыя ўрады (пасады), якія ён змяшчае. У такім выпадку чытач мог бы адразу браць з паліцы патрэбны яму выпуск, не перабіраючы і перагортваючы наяўныя выпускі. Абсалютна не зразумела, дзе выдадзена кніга: у Мінску (так пазначана на вокладцы) ці ў Баранавічах (так сведчыць тытульны ліст).



У прадмове да першага выпуску аўтар выклаў асноўныя звесткі пра сістэму ўрадаў Рэчы Паспалітай і тую ролю, якую яна адыгрывала ў грамадскім і палітычным жыцці. На жаль, адсутнічаюць звесткі пра само Менскае ваяводства як адміністрацыйна-тэрытарыяльнае ўтварэнне, яго гісторыю і межы. Такая інфармацыя была б карыснай, у прыватнасці, каб зразумець аўтарскае сцверджанне, што ўраднік Менскага ваяводства — па сутнасці ўраднік Менскага павета. Праблема суадносін павета і ваяводства не такая простая, як здаецца на першы погляд, таму і сустракаюцца сцверджанні, быццам Менскага павета не існавала, было толькі Менскае ваяводства, побач з якім існавалі Мазырскі і Рэчыцкі паветы. Агульнапрынята, што Менскае ваяводства складалася з Менскага, Мазырскага і Рэчыцкага паветаў. Даведнік Ф. В. Чарняўскага абмяжоўваецца менавіта Менскім паветам, пакідаючы ў баку Мазыр і Рэчыцу з іх ураднікамі.

Прапанаваны аўтарам спіс менскіх урадаў узначальваюць, зразумела, ваяводы. Шкада, што распачатая серыя не пачынаецца менавіта з іх, тым больш што, здавалася, звестак пра менскіх ваяводаў захавалася больш, чым пра астатніх службовых асоб. Усяго ў спісе ўраднікаў 38 пазіцый. Прысутнічаюць нават такія абойдзеныя ўвагай іншых гісторыкаў службоўцы, як возныя і каморнікі. Не зусім зразумелая пазіцыя «Менскі магістрат», тым больш што войты і лентвойты вынесены ў асобныя пазіцыі. Ёсць пазіцыя «чашнікі» (аднак у тэксце кнігі скрозь ужываецца тэрмін «чэснік»). Адсутнічаюць «суддзі зямянскія». Урад «струкчашы» ў кнізе прыводзіцца ў форме «струкцасы», адкідваючы агульнапрынятую форму.

Аўтар добра знаёмы з літаратурай прадмета, што бачна нават са спіса скарачэнняў выкарыстаных прац. Зразумела, шмат польскамоўных публікацый. Аднак у падрадковых заўвагах Ф. В. Чарняўскі назвы польскіх прац прыводзіць у беларускім перакладзе, што для значнай навуковай працы недапушчальна. Вельмі добра, што ў кнізе прысутнічаюць імянныя паказальнікі (пасля кожнага раздзела!), адсутнасцю якіх грашаць шмат якія кнігі па гісторыі. Аднак было б карысна сабраць гэтыя паказальнікі ў адным месцы (у канцы кнігі), што дазволіла б пазбегнуць непаразуменняў. Лёгка можна ўявіць сітуацыю, калі чытач адгорне імянны паказальнік у канцы кнігі і не знойдзе там патрэбнага яму прозвішча, не здагадваючыся, што гэта паказальнік не да ўсёй кнігі, а толькі да яе аднаго раздзела.

Кніга напісана добрым стылем, даволі лёгка чытаецца, што рэдка сустракаецца ў даведачнай літаратуры. Аднак неабходна павысіць патрабавальнасць да вычыткі тэрмінаў, прозвішчаў, імёнаў. Зразумела, што не аднойчы сустракаемы на старонках кнігі «Косакоўскі» павінен быць «Касакоўскім», «Бенедыкт» — «Бенядзіктам» (ці, можа, «Бенядыктам»). Прозвішча вядомага гісторыка, якое па-руску пішацца «Лап-

по», у Беларусі прынята пісаць «Лапа». Выклікае сумненне правамоцнасць ужывання тэрміна «менне» замест «маёнтак».

Хоць Ф. В. Чарняўскі значна пераўзышоў польскія выданні аналагічнай тэматыкі па багацці сабраных звестак, аднак у адной вельмі важнай пазіцыі ён ім уступіў. Для біяграфічных даведнікаў падобнага роду абавязкова ўказваюцца гербы персаналій. Нават калі гербавая прыналежнасць пэўнага ўрадніка не вынікае з наяўных дакументаў, гэту інфармацыю ў большасці выпадкаў можна лёгка знайсці ў гербоўніках. Магчыма, і тут Ф. В. Чарняўскі зробіць новыя адкрыцці, на якія так багаты прапанаваны чытачам першы выпуск гэтага патрэбнага выдання, якое значна прасунула наперад беларускую біяграфістыку.

*В. С. Пазднякоў*

— ◇ —

## ХАЛАКОСТ НА АКУПІРАВАНАЙ ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ 1941—1944 гг.: ПОГЛЯД У СВЯТЛЕ УНІКАЛЬНЫХ ДАКУМЕНТАЎ*

*Curilla W. Die deutsche Ordnungspolizei und der Holocaust im Baltikum und in Weissrussland 1941—1944. Paderborn: Muenchen; Wien; Zuerich: Ferdinand Schoeningh, 2006. 1041 S.*

Аўтарам працы аб гісторыі халакосту на акупіраванай тэрыторыі Беларусі з'яўляецца юрыст па адукацыі, які з канца 1970-х і да пачатку 90-х гг. выконваў абавязкі сенатара ў магістраце свабоднага горада Гамбурга. У пачатку 2006 г. выйшла ў свет яго грунтоўная праца, прысвечаная безыменным ахвярам халакосту.

Мэту свайго даследавання, якое складаецца з трох частак [Ч. I: Асновы і перадумовы (S. 23—124), Ч. II: Дзеянні (S. 125—836), Ч. III: Злачынцы (S. 837—944)], Вольфганг Курыла бачыць у паглыбленні ведаў аб удзеле германскай паліцыі парадку ў халакосце на тэрыторыі Прыбалтыкі і Беларусі. У якасці вузлавых у працы пастаўлены пытанні: 1) ці лічацца ўсе факты забойстваў яўрэяў, асабліва на перыферыйным (да рэйха. — *С. Н.*) узроўні, праявамі халакосту; 2) ці з'яўлялася паліцыя парадку толькі дапаможнай сілай для паліцыі бяспекі і службы бяспекі пры акцыях вынішчэння; 3) ці выконвала паліцыя парадку ролю толькі тых, хто шляхам выгнання яўрэяў з іх дамоў і нясення службы ў ачапленні забяспечваў правядзенне масавых катаванняў яўрэяў? Альбо паліцыя парадку сама ўключалася ў правядзенне акцый, самастойна праводзіла расстрэлы (без удзелу паліцыі бяспекі і СД), або гэта адбывалася па ўласнай ініцыятыве? Да таго ж узнікаюць пытанні аб агульнай колькасці паліцыі парадку, якая ўдзельнічала ў халакосце: складала паліцыя парадку пры выкананні пакаранняў толькі дзесятую частку, траціну ці можа палову ад тых злачынцаў, хто знішчаў яўрэйскіх ахвяр? Аўтар адразу ж зазначае, што адказ на гэтыя пытанні дае пераканаўчыя доказы аб удзеле паліцыі парадку ў масавых забойствах яўрэйскага насельніцтва.

Прадметам даследавання аўтар вылучае ў першую чаргу гісторыю ганення і вынішчэння яўрэяў. У працы закранаюцца і іншыя групы мясцовага насельніцтва,

* Аўтар рэцэнзіі шчыра ўдзячны паважанай калезе — асістэнту гістарычнага семінара «Усходнееўрапейская гісторыя» Гамбургскага універсітэта спадарыні Імке Гансен за дапамогу ў атрыманні кнігі.



якое стала ахвярай злачыннай дзейнасці падраздзяленняў германскай паліцыі парадку. Між тым з улікам значных страт, панесеных яўрэямі на акупіраванай савецкай тэрыторыі, нямецкі даследчык лічыць, што нельга забываць пра іншых ахвяр масавага генацыду [S. 22].

У беларускага чытача асобую цікавасць выклікаюць некаторыя раздзелы другой часткі працы, у якой паказана гісторыя злачыннай дзейнасці 17 асобных (у тым ліку рэзервовых) паліцэйскіх батальёнаў (309, 316, 322, 307, 13, 131, 69, 320, 306, 91, 315, 310, 308, 32, 313, 323, 317. — Так ў кнізе. — *С. Н.*), двух паліцэйскіх палкоў (26, 34), двух конных падраздзяленняў паліцыі і рэзервовай роты «Нюрнберг»: яны сталі ўдзельнікамі злачынстваў у дачыненні да яўрэяў на тэрыторыі Беларусі ў 1941—1944 гг.

Зазначым, што ў першай частцы працы паказаны падзеі, якія мелі месца ў нацысцкай Германіі да пачатку ваенных падзей на Усходзе. Аўтар спыняецца на прычынах і ўмовах арганізацыі паліцэйскіх падраздзяленняў, вызначае іх месца ў сістэме германскай паліцыі і часцей СС і прыводзіць дакументальныя матэрыялы аб уключэнні паліцыі парадку ў склад спецыяльных айнзацгруп, створаных для правядзення акцый вынішчэння яўрэйскага насельніцтва ў ходзе захопу савецкіх тэрыторый.

Неабходна асоба падкрэсліць, што для правядзення свайго даследавання В. Курыла выкарыстаў надзвычай багаты і унікальны дакументальны матэрыял, у тым ліку: арыгінальныя дакументы, дзённікі баявых дзеянняў асобных паліцэйскіх батальёнаў, зводкі паведамленняў, загады і справаздачы розных падраздзяленняў, а таксама дзённікі ахвяр і ўспаміны відавочцаў; афіцыйныя прысуды і неапублікаваныя судовыя абвінавачванні, пратаколы допытаў, падрыхтоўчыя следчыя матэрыялы і судовыя рашэнні; пасляваенныя судовыя працэсы, аснову якіх апрача дакументальных доказаў складалі тысячы сведчанняў ахвяр, злачынцаў і відавочцаў; звычайныя навуковыя крыніцы, працы гісторыкаў і тых, хто спецыяльна займаецца праблемамі халакосту і рэгіянальнай гісторыяй на прыкладзе Прыбалтыкі і Беларусі. Пры гэтым нямецкі даследчык заўважае, што «ў асобных выпадках адсутнічаюць патрэбныя дакументы», часам быў неабходны пошук «дадатковых крыніц». Да ўсяго, на думку Курылы, «дакументы нельга выкарыстоўваць некрытычна» [S. 18].

Гэты навуковы прынцып у працы пацвярджаецца практычна ў дачыненні да кожнага паліцэйскага падраздзялення, уключаючы ахоўную паліцыю, паліцыю бяспекі, службу бяспекі, вайсковыя часці вермахта ці часці СС.

Так, разглядаючы пытанне аб ахоўнай паліцыі і жандармерыі на тэрыторыі генеральнай акругі Беларусь, аўтар адзначае, што гэтыя падраздзяленні паліцыі выконвалі задачы паліцыі бяспекі ў вялікіх гарадах Остланда, тады як у сельскай мясцовасці за выкананне гэтай функцыі адказвала жандармерыя. Ахоўная паліцыя і іншыя паліцэйскія падраздзяленні падпарадкоўваліся начальніку СС, але часцей за ўсё — начальніку паліцыі парадку. Першыя дакументальныя звесткі аб удзеле ахоўнай паліцыі характарызуюць падзеі, звязаныя з пагромам, праведзеным у Мінскім гета на працягу 7—11 лістапада 1941 г. у сувязі з прыбыццём туды транспарту з дэпартаванымі гамбургскімі яўрэямі. Паводле судовых матэрыялаў, якія захоўваюцца ў зямельным архіве Кобленца, частка яўрэяў была выведзена на тэрыторыю былой мэблевай фабрыкі, дзе яны ўтрымліваліся пад ахоўнай паліцыяй на працягу ўсяго тэрміну ліквідацыі. Задача ахоўнай паліцыі заключалася ў ачапленні самога барака, куды спачатку дастаўляліся яўрэі ў гета, а таксама ў ахове дзвюх ям, дзе адбываліся

расстрэлы. У працы аўтар згадвае думку аб тым, што гэтыя расстрэлы праводзіліся мясцовымі паліцэйскімі батальёнамі 46, 47 і 48, якія на той час былі ў Мінску. Гэтыя падраздзяленні знаходзіліся ў падпарадкаванні начальніка паліцыі парадку [S. 333].

На гэтым факце важна спыніцца дзеля таго, каб падмацаваць думку даследчыка аб важнасці «крытычнага выкарыстання дакументаў». Пагром працягваўся да 11 лістапада і, паводле зводкі № 140 зондэркаманды 1b ад 1 снежня 1941 г., прывёў да вынішчэння 6624 яўрэяў. У працы прыводзяцца розныя статыстычныя лічбы, якія датычацца першага масавага пагрому ў Мінску ў пачатку лістапада 1941 г. Адпаведна даных Герлаха, гэта лічба магла складаць 4—6 тыс. ахвяр; у «Энцыклапедыі халакосту» прыводзяцца падлікі аб расстрэле ў раёне Тучынкі 12 тыс. яўрэяў, сагнаных з некалькіх вуліц Мінскага гета; са спасылкай на даследаванні Голдхагена прыводзіцца лічба ў 19 тыс. яўрэяў, якія былі знішчаны на працягу ўсяго месяца ў Мінску; Коль кажа аб лічбе ахвяр ад 6 да 12 тыс.; Матхойз прыводзіць звесткі ў дачыненні да 6—10 тыс. знішчаных яўрэяў; Лонгерык і Брайтман прытрымліваюцца лічбы ў 12 тыс. ахвяр; Мальман і Пауль прыводзяць падлікі і спыняюцца на лічбе 13 тыс. яўрэяў [S. 333—334].

Акрамя падзей у Мінскім гета, аўтар прыводзіць іншыя даныя, у тым ліку аб дзейнасці ахоўнай паліцыі і паліцыі бяспекі ў Баранавічах, Брэст-Літоўску, Гродна; згадвае месцы дыслакацыі падраздзяленняў ахоўнай паліцыі ў Бабруйску, Віцебску, Глыбокім, Гомелі, Паставах, Магілёве і Смаленску. Начальнік паліцыі ў двух апошніх гарадах падпарадкоўваўся начальніку паліцыі ў генеральнай акрузе Беларусь. Аб іх агульнай колькасці сустракаюцца наступныя звесткі: у склад ахоўнай паліцыі Мінска на канец 1943 г. уваходзіў 441 паліцай. Аддзяленні ахоўнай паліцыі знаходзіліся толькі ў Мінску, Баранавічах, Брэсце, Гродна і Гомелі. У сярэдзіне 1943 г. службу неслі 380 паліцаяў у Мінску і 170 — у Баранавічах. Увосень 1943 г. агульная колькасць жандармерыі і ахоўнай паліцыі складала ў акрузе Баранавічы толькі 145 чалавек. На рубяжы 1943/44 г. у Баранавічах і Мінску яе колькасць дасягала 639 паліцаяў [S. 340].

Сярод матэрыялаў, прыведзеных у працы Курылы, асаблівы інтарэс выклікаюць звесткі аб дзейнасці ахоўнай паліцыі ў Гродна. Адпаведна адміністрацыйнаму падзелу, горад уваходзіў у асобную акругу Беласток, падпарадкаваную кіраўніцтву Усходняй Прусіі. На 1 лістапада 1941 г. у горадзе былі створаны 2 гета. Першае знаходзілася ў старым горадзе з 15 тыс. жыхарамі, другое — на краю горада ў напрамку на Скідаль, дзе знаходзіліся каля 10 тыс. яўрэяў. Вонкавую ахову абодвух гета забяспечвала гарадская паліцыя аховы. Расстрэлы праводзіліся пад наглядам ахоўнай паліцыі. Ахоўныя падраздзяленні знаходзіліся ў падпарадкаванні начальніка паліцыі бяспекі. Ахоўная паліцыя ў Гродна ўдзельнічала ў дэпартацыі і ліквідацыі яўрэяў. У лістападзе/снежні 1942 г. каля 1 тыс. яўрэяў, якія лічыліся найбольш прыдатнай працоўнай сілай, былі пераведзены з першага гета ў другое. На такую колькасць яўрэяў павінна было зменшыцца першае гета, адкуль група ў 1 тыс. яўрэяў была спачатку сабрана на гарадскім рынку і ў сінагозе, потым пад наглядам ахоўнай паліцыі пешым маршам яны былі пераведзены ў лагер Кільбазін, адкуль у студзені і лютым 1943 г. 15 150 яўрэяў былі адпраўлены ў лагеры смерці Асвенцім і Трэблінку [S. 338—339].

Месцам знаходжання начальніка паліцыі парадку генеральнай акругі Беларусь з'яўляўся Мінск. Да 1 красавіка 1943 г. ён падпарадкоўваўся начальніку паліцыі і СС рэйхскамісарыята Остланд, пасля — начальніку паліцыі і СС вобласці Расія—Цэнтр. Адпаведна штатнаму раскладу, на 11.09.1942 г. у распараджэнні начальніка паліцыі ў



Беларусі знаходзіліся 467 нямецкіх паліцаяў, 272 нямецкія жандармы, а таксама 10 132 мясцовыя паліцэйскія. Курыла пры гэтым зазначае, што ў германскай гістарыяграфіі прыняты іншыя лічбы, адпаведна 1394 нямецкія прадстаўнікі паліцыі парадку і 8374 мясцовыя паліцаі ў асобных падраздзяленнях і 1456 у мясцовых батальёнах. У красавіку 1943 г. у полі дзейнасці начальніка паліцыі парадку генеральнай акругі Беларусь знаходзіліся 7 гарадскіх падраздзяленняў ахоўнай паліцыі, 55 жандармскіх пастоў і 72 паліцэйскія апорныя пункты [S. 398].

Паказваючы геаграфію ўдзелу паліцыі парадку ў ліквідацыі яўрэяў і ваеннапалонных на тэрыторыі генеральнай акругі Беларусь, нямецкі даследчык прыводзіць пералік асобных загадаў, аддадзеных начальнікам паліцыі парадку акругі. Так, у студзені 1942 г. Кубэ аддае загад аб ліквідацыі Мінскага гета. На працягу 1—3 сакавіка сіламі паліцыі бяспекі пры ўдзеле паліцыі парадку было забіта 3412 яўрэяў; па загаду ад 18.02.1942 г. тры батальёны (3-ці літоўскі, 18-ты і 24-ты латышскія) павінны былі правесці карную акцыю супраць партызан у раёне Ракаў—Койданава—Налібокі; паводле загада ад 08.08.1942 г. пералічаныя вышэй батальёны разам з 26-ым латышскім і 36-ым эстонскім паліцэйскімі батальёнамі ўдзельнічалі ў карнай акцыі ў раёне Слоніма, Стоўбцаў, Налібок, Лагойска і Навагрудка; адпаведна загаду ад 19.08.1942 г. узмацняліся сілы паліцыі і на аснове 3-га літоўскага, 24-га латышскага і першага батальёна 23-га паліцэйскага палка фарміраваўся полк, які разам з другім падобным чынам створаным палком, у склад якога былі ўключаны 18-ты і 26-ты латышскія і першы батальён 24-га паліцэйскага палка, прызначаліся для ўдзелу ў аперацыі «Балотная ліхаманка»; 21.08.1941 г. аддаецца загад для паліцэйскага батальёна 83 аб пачатку карнай акцыі супраць партызан у раёне Лагойска; 22.08.1942 г. быў аддадзены дадатковы загад аб падпарадкаванні 26-га латышскага 83-му паліцэйскаму батальёну па прычыне таго, што агульная колькасць праціўніка складала амаль 300 чалавек; паводле асобных загадаў ад 22.08.1942 г. 26-ты латышскі і 3-ці літоўскі паліцэйскія батальёны павінны былі тэрмінова перадыслацыравацца адпаведна ў раён Бягомля і Будслава.

Па меркаванні В. Курылы, у сярэдзіне жніўня 1942 г. у падпарадкаванні начальніка паліцыі парадку генеральнай акругі Беларусь, які знаходзіўся ў Мінску, былі наступныя паліцэйскія падраздзяленні: 3-ці, 12-ты і 15-ты літоўскія, 18-ты, 24-ты, 26-ты і 266-ты латышскія, 46-ты, 47-мы, 48-мы і 49-ты беларускія паліцэйскія батальёны.

Германская паліцыя парадку і жандармерыя Мінска з'яўляліся непасрэднымі ўдзельнікамі самых вялікіх пагромаў у гета. Ці гэта датычылася пагрому ў канцы ліпеня 1942 г., калі павінны былі быць ліквідаваны не менш за 9 тыс. яўрэяў, ці канчатковай ліквідацыі гета восенню 1943 г. У дачыненні да колькасці ахвяр гэтых карных акцый даследчык прыводзіць розныя звесткі, зазначаючы, што паводле дакументаў судовага працэсу ў гета знаходзілася не менш за 6500 беларускіх і нямецкіх яўрэяў; у адпаведнасці з падлікамі Х. Герлаха ў гета было 2000 нямецкіх і 8000 мясцовых яўрэяў. У верасні/кастрычніку 1943 г. значная частка яўрэяў Мінска і працоўных лагераў у Смаленску, Магілёве і Бабруйску была вывезена ў Люблін, Сабібор, Асвенцім, працоўны лагер Траўнікі, частка расстраляна ў Трасцянцы. Па падліках нямецкага даследчыка, у Мінск з Германіі ўсяго было дэпартавана амаль 25 тыс. яўрэяў, з якіх жывымі засталіся звыш 30 чалавек. Трагедыю Мінскага гета перажылі ад 3 да 4 тыс. чалавек [S. 402].

У падпарадкаванні начальніка паліцыі бяспекі генеральнай акругі Беларусь знаходзіліся два рэзервовыя паліцэйскія батальёны (9-ты і 3-ці), якія ў сваю чаргу выконвалі загады спецыяльных каманд айнзацгрупы Б. Дзейнасць асобных паліцэйскіх падраздзяленняў, як напрыклад 2-й роты 9-га батальёна і 1-й роты і аднаго ўзвода 3-га батальёна, пакінула на беларускай зямлі свае крывавыя сляды.

У склад штаба 2-й роты ўваходзілі камандзір (капітан Х. Гантц), 10 унтэр-афіцэраў і 8 шарагоўцаў. На чэрвень 1941 г. рота была ўкамплектавана трыма афіцэрамі (камандзіры ўзводаў) і 131 унтэр-афіцэрам і шарагоўцам, мела ў сваім распараджэнні легкавы і 11 грузавых аўтамабіляў, матацыкл. Трэці ўзвод складаўся з 14 унтэр-афіцэраў і 28 шарагоўцаў. У 1-ы і 2-гі ўзводы разам уваходзілі 2 афіцэры, 27 унтэр-афіцэраў і 44 шарагоўцы. Дакументы аб дзейнасці 1-й роты сведчаць, што геаграфія яе злачынстваў у складзе айнзацкаманды 8 прасціралася на розныя акупіраваныя раёны, уключаючы Магілёў, Бабруйск і Оршу.

З студзеня/лютага 1942 г. камандзір 1-й роты 3-га рэзервовага батальёна пачаў праводзіць работу па фарміраванні з ліку савецкіх ваеннапалонных, асабліва беларусаў і ўкраінцаў, новага падраздзялення для вядзення барацьбы супраць партызан. На працягу года гэта падраздзяленне дасягнула памераў батальёна, сфарміраванага з добраахвотнікаў, які з 01.12.1942 г. атрымаў назву 57-га паліцэйскага батальёна. Паколькі гэта падраздзяленне складалася пераважна з добраахвотнікаў, вынікі іх дзейнасці не заўсёды траплялі ў паведамленні германскай паліцыі парадку. Між тым значную частку батальёна складалі немцы, якія займалі пасады афіцэраў і штабных работнікаў, камандзіраў узводаў і іх намеснікаў, камандзіраў аддзяленняў і іх намеснікаў, камандзіраў танкаў і камандзіраў кулямётных разлікаў. Усяго вядомы імёны 156 нямецкіх служачых у гэтым батальёне. Паводле выяўленых дакументаў, да канца чэрвеня 1944 г. падраздзяленне выкарыстоўвалася галоўным чынам для барацьбы супраць партызан і аховы чыгункі. Пры гэтым у злачынных аперацыях супраць мясцовых жыхароў шэрагу беларускіх вёсак і асобных груп ці арыштаваных з прадстаўнікоў мірнага насельніцтва.

Апрача таго, батальён удзельнічаў у масавых расстрэлах. Так, паводле матэрыялаў судовага працэсу, праведзенага ў Дортмундзе (зямля Паўночны Рэйн-Вестфалія. — *С. Н.*), вынікала, што гэтых акцый было толькі восем, адпаведна: 2 — у 1942 г., 5 — у 1943 г. і 1 — у 1944 г. Аднак дакументы і матэрыялы Надзвычайнай камісіі, якая працавала на месцах масавых злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Беларусі, далі магчымасць весці размову аб 35 выпадках, вядомых з апошніх двух гадоў акупацыі. Так, 23 — у 1943 г., 1 — на рубяжы 1943/44 г. і ў 8 выпадках час не быў вызначаны, аднак было дакументальна пацверджана праведзенне злачынных акцый супраць мясцовага насельніцтва. Апрача таго, батальён праводзіў расстрэлы яўрэяў. Тры выпадкі дакументальна пацверджаны. Так, удзел у пакаранні праз павешанне яўрэя ў Плешчаніцах у жніўні/верасні 1943 г.; расстрэл 6 яўрэяў, у тым ліку адну яўрэйку, у лесе ў раёне Карэліч летам 1943 г.; 29 верасня 1943 г. — расстрэл 35 яўрэяў падчас аперацыі «Герман» [S. 407]. Паводле дзённіка баявых дзеянняў, колькасць ахвяр, пакінутых на беларускай зямлі 2-й ротай 9-га паліцэйскага рэзервовага батальёна, складае 52 тыс. чалавек. Агульны ж маштаб злачынстваў, у якіх прымалі ўдзел абедзве роты 9-га паліцэйскага батальёна, дасягае амаль 100 тыс. чалавек [S. 408].



Злачынны след на Беларусі пакінуты і айнзацкамандай 9 паліцыі бяспекі і службы бяспекі. З агульнага складу гэтага спецыяльнага падраздзялення ад 120 да 150 чалавек ад 12 да 15 з'яўляліся афіцэрамі СС, ад 30 да 40 складалі падначаленыя, якія раней служылі ў службе тайнай і крымінальнай паліцыі ці службе бяспекі, ад 15 да 20 тэхнічнага персаналу і вадзіцеляў, а таксама ўзвода рэзервістаў з войск СС агульнай колькасцю 30 чалавек і столькі ж складаў узвод паліцыі парадку.

Частка айнзацкаманды пачала сваю злачынную дзейнасць на тэрыторыі Беларусі ў пачатку ліпеня 1941 г., калі ў Гродна і Лідзе 2 і 3 ліпеня 1941 г. знішчыла 80 яўрэяў. У Ашмянах — 03—04.07.41=527; Вілейцы — 07.41=100; Маладзечна — 07.41=100; Віцебску — 02.08.41=200; Суражы — 12.08.41=200; Янавічах — 08.41=149; Гарадку — 09.41=2; Янавічах — 09.41=1025; Лепелі — 09.41=10; Віцебску — 01.10=52, 08.10=3000, 10.41=750, 10.41=800, 12.41=207; Чэрыкаве—Клімавічах — 12.41=786; Любавічах — 12.41=492; Полацку — 12.41=296; Гарадку — 12.41=394; Полацку — 12.41=ад 7000 да 8000; Віцебску — 01.42=8; раёне Віцебска — 01.42=50; Полацку — 03.02.42=615; раёне Дрысы — 10.02=93; Бешанковічах — 11.02=800; Чашніках — 02.42=1180; Віцебску — 24.02=ад 80 да 90; Лёзна — 28.02=361; Лепелі — 28.02=1000; раёне Віцебска — 03.02=200; Віцебску — 03.42=80; раёне Віцебска — 03/04.42=20; раёне Глыбокае — 29.05 і 20.06=12 000.

Паводле зводак айнзацкаманды 9, за перыяд з верасня 1941 г. да канца лютага 1943 г. агульная колькасць ахвяр, знішчаных пры непасрэдным удзеле паліцэйскіх падраздзяленняў на акупіраванай тэрыторыі, складала 42 553 чалавекі, пры гэтым: па стану на 20.08.42 — 8096, на 13.09.41 — 9974, на 28.09.41 — 10 269, на 26.10.41 — 11 449, на 01.03.42 — 23 509, на 31.08.42 — 39 297, на 15.12.42 — 41 430, на 28.02.43 — 42 552 [S. 425].

Айнзацкаманда 8 складалася з 141 служачага. У пачатку ліпеня 1941 г. пачала сваю дзейнасць на тэрыторыі Беларусі адпаведна: у Навагрудку — 07.41=70 ахвяр; Баранавічах — 08.07=500; Баранавічах — 14—19.07.41=больш за 3000; Ляхавічах — 24.07.41=50; Слуцку — 07.41=60; Мінску — 07/08.41; Грэску — 08/09.41=51; Слуцку — 04.09.41=115; Магілёве — 09.09.41=4100, 02/03.10.41=2208, 19.10.41=3726; Бабруйску — 09/10.41=418; Горках — 14.11.41=2200; Бабруйску — 07/08.11.41=5281, 09.41=1380, 10.41=600; Парычах — 12.41=1013; Оршы — 09.41=600, 11.41=1750; Гомелі — 19.12.41=52; Гомелі—Рагачове—Карме — 11.41=2365; Рэчыцы — 11.41=100; Крычаве — 19.12.41=1213; Слоніме — 07.41=1075; Стоўбцах — 08.41=76; Чэрвені — 08.41=139; Барысаве — 10.41=1000; Мсціжы — 08.41; Лукомлі — 09.41; Зачысці — 04.09.41=118; Зембіне — 08.41=700; Лагойску — 09.09.41=920; Смалявічах — 09.41=20; Крупках — 18.09.41=912; Халопенічах — 09.41=800; Жодзіна — 09.41; Бягомлі — 09.41=ад 300 да 1000; Чавусах — 09.41=да 1000; Івянцы — 09.41=50; Мінску — 09.10.41=632; Круглым — 10.41=28; Мар'інай Горцы — 10.41=70; Княжычах — 10.41=32; Тальцы — 24.09 і 28.09.41=222; Пухавічах — 10.10.41=900; Магілёве — 10.10.41=83; Дрыбіне — 10.41=400; Шклове — 10.10.41=627; Мсціслаўлі — 11.41=900; Магілёве — 11.11.41=196 яўрэяў, ад 200 да 250 ваеннапалонных; Магілёве — 01.42=больш за 600; Чэрвені — 31.01/01.02.42=1342; Беразіно — 31.01.42=962; Магілёве — 22.02.42=100; Бабруйску — 03.42=68.

Паводле зводак айнзацкаманды 8, за перыяд з ліпеня 1941 г. да канца восені 1943 г. агульная колькасць ахвяр, знішчаных пры непасрэдным удзеле паліцэйскіх падраздзяленняў на акупіраванай тэрыторыі, складала 75 820 чалавек, пры гэтым:

па стану на 20.08.42 — 6842, на 13.09.41 — 11 354, на 28.09.41 — 15 000, на 26.10.41 — 20 108, на 14.11.41 — 28 219, на 28.02.42 — 60 811, на 01.09.42 — 71 446, на 15.12.42 — 74 740, на 28.02.43 — 75 820 [S. 460].

На тэрыторыі Беларусі, у тым ліку на той яе частцы, якая ўваходзіла ў вобласць тылу групы армій «Цэнтр», дзейнічала спецыяльная група Б (айнзацгрупа) агульнай колькасцю 655 чалавек. Штабная група мела колькасны склад з 71 чалавека, зондэркаманда 7а — 93 і зондэркаманда 7b — 91, айнзацкаманда 8 — 241 і айнзацкаманда 9 — 186 чалавек. Аснову гэтых падраздзяленняў складалі служачыя тайнай і крымінальнай паліцыі, службы бяспекі і ахоўнай паліцыі, а таксама рэзервістаў часцей СС. Першым камандзірам быў брыгадэн-фюрэр СС (генерал-маёр. — *С. Н.*) і генерал-маёр паліцыі Артур Нэбе, які 3 сакавіка 1945 г. быў пакараны праз павешанне як удзельнік падзей, звязаных з замахам на Гітлера 20 ліпеня 1944 г. Пасля яго — брыгадэн-фюрэр СС Эрык Наўман, які быў асуджаны да смяротнага пакарання на працэсе над ваеннымі злачынцамі ў Нюрнбергу. У лік камандзіраў групы патрапілі Хорст Бёме (з сакавіка па жнівень 1943 г. і са жніўня 1944 г.), доктар Эрых Эрлінг (жнівень 1943 г. па красавік 1944 г.) і Генрых Зетцэн (красавік—жнівень 1944 г.).

У пачатку аперацыі «Барбароса» гэтыя падраздзяленні не адразу пачалі праводзіць татальнае вынішчэнне толькі яўрэяў, паколькі кіраўніцтва штаба і камандаванне асобных каманд мелі заданне высветліць сітуацыю на месцах, выявіць важныя дакументы дзеля таго, каб стварыць апарат мясцовага кіравання і дапаможных сіл, а таксама вызначыць прадстаўнікоў мясцовай інтэлігенцыі і ліквідаваць іх. Мінск, Віцебск, Орша і Гомель былі ў значнай ступені разбураны, таму ў гэтых гарадах панаваў голад, нястача і беспрацоўе таксама і сярод неяўрэйскага насельніцтва. Як лічыць В. Курыла, таму ў германскіх акупацыйных органаў і службаў, асабліва ва ўсходняй частцы Беларусі, не было недахопу ў яўрэйскай працоўнай сіле. Гэта стала галоўнай прычынай таго, што значныя маштабы набыло вынішчэнне яўрэяў на тэрыторыі групы армій «Цэнтр» [S. 463].

Паводле зводкі ад айнзацгрупы Б ад 12 ліпеня 1941 г., у Мінску ў адпаведнасці з распараджэннем палявой камендатуры былі арыштаваны прадстаўнікі мужчынскага полу ва ўзросце ад 18 да 45 гадоў. Па просьбе тайнай палявой паліцыі быў прачэсаны створаны лагер, у выніку чаго выяўлены і расстраляны 1050 яўрэяў. На працягу наступных дзён працягвалася ліквідацыя яўрэяў. З 14 па 16 ліпеня былі ліквідаваны 349 прадстаўнікоў яўрэйскай інтэлігенцыі па прычыне таго, што ў горадзе мелі месца падпалы, быццам бы арганізаваныя яўрэямі. Апрача таго, штодзённа ў ліпені праводзіліся расстрэлы мірнага насельніцтва, якое абвінавачвалася як крымінальныя элементы, агенты, партыйныя і дзяржаўныя функцыянеры, азіяты і інш. Наступныя 615 асоб былі ліквідаваны ў лагеры, дзе ўтрымлівалася мірнае насельніцтва, па расавай прычыне. Па гэтай жа прычыне былі паслядоўна расстраляны 733 вязні лагера, потым яшчэ 377 прадстаўнікоў цывільнага насельніцтва. Гэты лагер, які знаходзіўся ў раёне в. Дразды, заставаўся і пасля таго, як айнзацгрупа пакінула Мінск, дзе налічвалася 10 000 ахвяр.

Паводле наяўных дакументаў, у ліпені—жніўні айнзацкаманда 8 правяла ў Мінску не менш за 7 масавых расстрэлаў яўрэяў. У час адной з такіх акцый, калі былі ліквідаваны не менш за 300 чалавек, прысутнічаў рэйхсфюрэр СС Г. Гімлер. 15 жніўня 1941 г. непадалёку ад Мінска падраздзяленні ў складзе 8—10 выканаўцаў, у якія ўваходзілі служачыя службы бяспекі і паліцыі бяспекі, па камандзе вялі расстрэл яўрэяў. Як сцвярджае нямецкі даследчык, гэты факт мае дакументальныя пацвярджэнні: у акцыі бралі ўдзел тры ўзводы 2-й роты 9-га рэзервовага паліцэйскага батальёна. Па заканчэнні акцыі Гімлер выступіў з прамовай перад выканаўцамі расстрэлу, кажучы пры гэтым служачым айнзацкаманды 8 і паліцэйскім рэзервістам аб важнасці выканання загаду фюрэра аб вынішчэнні яўрэяў ва Усходняй Еўропе. І гэта з'яўляецца гістарычнай задачай, за выкананне якой ён асабіста нясе адказнасць [S. 432].



У снежні 1941 г. у Мінску на аснове зондэркаманды 1b і айнзацкаманды 8 была створана служба начальніка паліцыі бяспекі і службы бяспекі (СД), якая забяспечвала выкананне пастаўленай вышэй і іншых паліцэйскіх задач на тэрыторыі генеральнай акругі Беларусь. Спачатку кіраўніком службы з'яўляўся Вальтэр Гофман, намеснікам якога да сакавіка 1942 г. быў доктар Эдуард Штраух, які выконваў абавязкі да жніўня 1943 г. Пасля яго — доктар Эрых Ізэльхорст (да 1 кастрычніка 1943 г.). Восенню 1943 г. гэта служба была пераўтворана ў службу начальніка паліцыі бяспекі Расіі—Цэнтр і Беларусі. Начальнікам прызначан доктар Эрых Эрлінгер. З 1 красавіка 1944 г. яе ўзначаліў Генрых Зетцэн.

З пачатку 1942 г. у службу ўваходзілі ад 130 да 150 чалавек, уключаючы два ўзводы СС і ахоўнай паліцыі. У дачыненні да ахоўнай паліцыі размова ідзе пра ўзвод 4-й роты 9-га рэзервовага паліцэйскага батальёна. У падпарадкаванні службы, акрамя таго, знаходзіліся звыш 1000 паліцаяў, якія былі па паходжанні літоўцамі, латышамі, беларусамі і немцамі (фольксдойчамі). Адзін з батальёнаў, які цалкам складаўся з фольксдойчаў, размяшчаўся ў лагеры смерці Малы Трасцянец. Восенню 1943 г. да гэтай службы далучыліся асобныя служачыя зондэркаманды 4а. Агульная колькасць служачых, якія знаходзіліся ў падпарадкаванні начальніка паліцыі Расія—Цэнтр і Беларусь, складала амаль 1000 чалавек [S. 463].

З лістапада 1941 г. у Мінск накіроўвалі яўрэяў з Захаду. Для гэтага на працягу 7—11 і 20 лістапада 1941 г. былі ліквідаваны 5000 беларускіх яўрэяў. На перыяд з 10 лістапада да 16 снежня кожныя два дні ў Мінск павінны былі прыбываць транспарты, наступныя 7 паступілі ў перыяд з 10 да 20 студзеня 1942 г., усяго 25 транспартаў. Фактычна ў 1941 г. прыбылі толькі 7 транспартаў з 7033 яўрэямі, дэпартаванымі з Гамбурга, Дюсельдорфа, Франкфурта, Берліна, Бруна, Гамбурга/Брэмена і Вены. Іншыя транспарты не былі адпраўлены ў Мінск, а накіраваны ў Рыгу і Каўнас. Прычынай гэтага стала тое, што ў сувязі з падзеямі на ўсходнім фронце, звязанымі з паражэннем немцаў пад Масквой, чыгунка на ўчастку групы армій «Цэнтр» не мела магчымасці для дастаўкі транспартаў. Гэта было магчымым на ўчастку чыгунак групы армій «Поўнач». Зыходзячы з выяўленых дакументаў, у даследаванні прыводзяцца згадкі пра тое, што ў рамках першапачатковых планаў была прадугледжана дэпартацыя еўрапейскіх яўрэяў у Смаленск, Барысаў і Магілёў [S. 478].

Першапачаткова дэпартаваных пакідалі жыць у Мінскім гета, паколькі такім было ўказанне генеральнага камісара Кубэ. Першы транспарт з яўрэямі з Гамбурга прыбыў у Мінск 10 лістапада 1941 г. Як адзначалі супрацоўнікі службы бяспекі, значная частка тых, хто ўпершыню прыбыў на Усход, мела скажонае ўяўленне аб сваім будучым, у якім яўрэям адводзілася роля піянераў-перасяленцаў. Нямецкія і мясцовыя яўрэі ўяўлялі сабой дзве розныя групы. Прычым кожная з іх з недаверам ставілася адна да адной. Зусім інакш яўрэі з рэйха ўтрымліваліся на тэрыторыі гета: дэпартаваныя яўрэі складалі меншасць, што адрознівалася ад сітуацыі ў Рыжскім гета. Пры гэтым параўнанне гэтых двух месцаў дае падставы для сцвярджэння, пра

што засведчыў у сваіх успамінах адзін з відавочцаў тых падзей, папярэдне патрапіўшы ў Рыгу, а праз некаторы час накіраваны ў Мінск у складзе групы краўцоў і шаўцоў. Становішча ў Мінску было для дэпартаваных яўрэяў «непараўнальна горшым, чым у Рызе». Па меркаванні відавочцаў, у Мінску гета з'яўлялася самым жахлівым з усіх гета на Усходзе [S. 479].

Пры гэтым дэпартаваныя яўрэі знаходзіліся ў больш прывілеяваным становішчы ў параўнанні з мясцовымі яўрэямі: атрымлівалі лепшыя месцы працы, насілі іншую яўрэйскую зорку, ведалі нямецкую мову. У той жа час умовы існавання дэпартаваных яўрэяў былі значна горшымі: яны не мелі адпаведнай вопраткі, разлічанай на халады, не мелі моўнага кантакту з мясцовым насельніцтвам, што рабіла амаль немагчымымі ўцёкі дэпартаваных яўрэяў. Спецыялісты пражывалі ў Мінскім гета на асобных вуліцах. Ад голаду на працягу 8 месяцаў памерла амаль 900 яўрэяў. Вялікая колькасць дэпартаваных яўрэяў была ліквідавана падчас акцый, праведзеных начальнікам паліцыі бяспекі і яе супрацоўнікаў.

Да ліку месцаў, дзе адбываліся масавыя расстрэлы, адносяцца не толькі Мінск і яго ваколіцы, а такія, як Тучынка, Масюкоўшчына, Койданава. Так, у пачатку сакавіка 1942 г. у адпаведнасці з распараджэннем начальніка паліцыі Гофмана ў дачыненні да мясцовых яўрэяў у гета праходзіў пагром на працягу трох дзён. Раніцай 1 сакавіка пачалі дзейнічаць спецыяльныя каманды, сфарміраваныя з службы бяспекі і паліцэйскіх падраздзяленняў. Яўрэяў прымусова выганялі са сваіх дамоў, а ў выпадку непадпарадкавання расстрэльвалі на месцы. Калоны адпраўляліся на таварную станцыю, адкуль у таварных вагонах накіроўваліся ў мястэчка Койданава за 30 км ад Мінска ў напрамку на Баранавічы. Каля Койданава былі падрыхтаваны спецыяльныя ямы, дзе і ладзілася экзекуцыя яўрэяў: іх ставілі на край ямы і паліцэйскае падраздзяленне разам са службай бяспекі праводзіла расстрэлы з супрацьлеглага боку. На працягу трох дзён у Койданава, каля Тучынкі і Масюкоўшчыны былі расстраляны 3412 яўрэяў. Загад аб гэтым узгадняўся з гаўляйтэрам Кубэ і начальнікам паліцыі парадку пры ўдзеле начальніка ахоўнай паліцыі Бенцко, які для ўдзелу ў пагроме накіраваў таксама падраздзяленні ахоўнай паліцыі [S. 481].

Да вясны 1942 г. у Беларусі праводзіліся масавыя ліквідацыі мясцовых яўрэяў. Пасля прыезду ў Мінск шэфа германскай паліцыі бяспекі Р. Гейдрыха, візіт якога быў звязаны з выкананнем студзеньскіх ванзейскіх указанняў аб «канчатковым рашэнні» яўрэйскага пытання. Па прыбыцці Гейдрых паведаміў Штрауху аб тым, што разам з мясцовымі яўрэямі неабходна пачаць ліквідацыю еўрапейскіх перасяленцаў. З гэтай мэтай будуць адноўлены транспарты з Захаду ў Мінск. Гейдрых загадаў, каб яўрэі ліквідаваліся адразу пасля іх прыбыцця. Адпаведна паведамленням, з мая да кастрычніка 1942 г. былі знішчаны 16 транспартных саставаў з 15 тыс. мужчын, жанчын і дзяцей розных узростаў.

Не менш за 24 тыс. яўрэяў з рэйха і пратэктарату Маравія і Багемія былі знішчаны ў Беларусі. Існуюць доказы таму, што акрамя нямецкіх у Мінск былі дэпартаваны французскія і галандскія яўрэі, а таксама яўрэі з Венгрыі. У вялікай колькасці на беларускай зямлі выкарыстоўваліся яўрэі польскага паходжання. Не абмінулі Мінск транспарты і з Вены. У якасці новага месца для расстрэлаў начальнік службы бяспекі выбірае лес, які знаходзіўся ў 3—5 км ад Малога Трасцянца па шашы Мінск—Смілавічы—Магілёў. Для падрыхтоўкі ям выкарыстоўваліся ваеннапалонныя. Агульная колькасць удзельнікаў акцыі, якую праводзілі ахоўная паліцыя і часці СС, вагалася, як правіла, ад 80 да 100 чалавек. Расстрэлы працягваліся з раніцы і завяршаліся ў пасляабедзенны час.



Першая палова транспартаў да 24 ліпеня 1942 г. прыбывала на таварную станцыю Мінск, дзе адбываліся выгрузка, збор і дастаўка яўрэяў. Пры гэтым ад 20 да 80 чалавек траплялі ў якасці працоўнай сілы ў гаспадарку Трасцянец. Астатніх дастаўлялі на грузавых машынах да раней падрыхтаваных ям, дзе адбываліся расстрэлы. Другая палова транспартаў, пачынаючы з 10 жніўня, адразу накіроўвалася ў Трасцянец, дзе адразу пасля выгрузкі адбываліся экзекуцыі шляхам стрэлу ў патыліцу. У выпадку падазрэння, што ў яме хтосьці застаўся жывы, выкарыстоўваліся аўтаматы да той пары, пакуль яма не заціхала.

З сярэдзіны мая — пачатку чэрвеня 1942 г. пачалі выкарыстоўвацца газавыя фургоны — душагубкі. У падпарадкаванні службы бяспекі ў Мінску іх было тры. Падставай для гэтага лічылася неабходнасць паскарэння масавых вынішчэнняў яўрэяў, а таксама клопат нацысцкага кіраўніцтва аб псіхалагічным стане выканаўцаў гэтых злачынстваў, што пакідалі вельмі моцнае ўражанне на тых, хто доўга займаўся такімі акцыямі. Фургоны загружаліся максімальна і пасля ўключэння матора людзі гінулі на працягу 15 хвілін. З канца мая ў Мінску пачалі выкарыстоўваць спецыяльны газавы фургон — Даймонд. У выніку адной з акцый, праведзеных у дачыненні да яўрэяў, дастаўленых з Вены, былі такім спосабам атручаны амаль 1000 яўрэяў. Усяго з 16 транспартаў (9 — з Вены, 5 — з Тэрэзіенштадта і па аднаму — з Кёнігсберга і Кёльна), якія прыбылі ў Мінск з мая па кастрычнік 1942 г., было знішчана не менш за 13 500 яўрэяў [S. 486—487].

Да ліку месцаў, дзе адбывалася знішчэнне дэпартаваных яўрэяў, акрамя Трасцянца, таксама належыць вёска Петрашкевічы, якая знаходзілася недалёка аб шталагу 352 у Масюкоўшчыне. Так, у пагроме, які адбываўся на працягу трох дзён — 28, 29 і 30 ліпеня 1942 г., пацярпелі ў асноўным непрацуючыя яўрэі, пераважна жанчыны, дзеці і сталыя мужчыны, у тым ліку заходнія яўрэі. У гэтай акцыі бралі ўдзел разам з службай бяспекі, паліцыяй парадку, ахоўнай паліцыяй, таксама мясцовая паліцыя, прадстаўнікі чыгуначнай паліцыі і адной з часцей зенітнай артылерыі вермахта. Для дастаўкі яўрэяў у Трасцянец выкарыстоўваліся грузавы транспарт чыгункі і іншых гарадскіх службаў, а таксама газавыя фургоны службы бяспекі горада і іншых часцей, дасланых спецыяльна для правядзення акцыі па масавым вынішчэнні. Большая частка яўрэяў была расстраляна шляхам патылічнага стрэлу з пісталетаў. На працягу трох дзён у акцыі ўдзельнічалі паліцаі службы бяспекі. У гета былі расстраляны практычна ўсе яўрэі, якія ўтрымліваліся ў пачатку правядзення акцыі. Засталіся толькі працуючыя яўрэі, якія на працягу трох дзён знаходзіліся на працоўных месцах, у тым ліку ўначы. За адзначаны час было ліквідавана 9 тыс. яўрэяў, з якіх толькі траціну складалі дэпартаваныя яўрэі. Апошнія ліквідаваліся ў газавых машынах. Пацярпела большая частка яўрэяў з Бруна, Франкфурта, Вены, Брэмена і Берліна, у той час як перажылі гэту акцыю гамбургскія яўрэі і значная частка рэйнскіх яўрэяў.

Лёс амаль 4400 вязняў гета застаецца нявысветленым. Паводле высноў В. Курылы, смерць часткі з іх магла наступіць зімой 1941/42 г. натуральным шляхам, асабліва ў дачыненні да хворых і знясіленых, а таксама ў выніку асобных акцый, якія прыводзілі да вынішчэння мясцовых і еўрапейскіх яўрэяў. Сярод прычын такой сітуацыі з падлікамі могуць быць і заніжаныя звесткі, якія патрапілі ў зводкі, тады як фактычна гэтыя страты былі значна большымі. Так, напрыклад, нямецкі аўтар спасыла-

ецца на Х. Герлаха, у працы якога ў дачыненні да ліпеньскага пагрому прыводзяцца лічбы ў 6500 мясцовых і 3500 яўрэяў з рэйха. Паводле падлікаў, у Трасцянцы ў 1942 г. загінула амаль 20 тыс. еўрапейскіх яўрэяў, што складала трэць ад агульнай колькасці ахвяр, знішчаных за гады існавання лагера смерці Трасцянец.

Служба бяспекі дзейнічала таксама на астатняй тэрыторыі генеральнай акругі Беларусь, што знайшло адлюстраванне ў даследаванні. Сярод акцый, праведзеных у дачыненні да яўрэяў, дакументальна пацверджаны наступныя: у Валожыне 10.05.42, калі загінула каля 1000 чалавек; у канцы ліпеня — пачатку жніўня недалёка ад Баранавіч былі расстраляны 200 і атручаны 300 дэпартаваных яўрэяў; Курынцы — 09.09.42=800; Слуцку — 07.02.43=2500; Глыбокім — 19.08.43=3000; Мінску — 07.12.41=200, 10—11.12.41=200, 12.41=250, 28.12.41=3; 28/29.01.42=311; 02—03.42=3000; у генеральнай акрузе Беларусь — 02.42=111; Ракаве — 04.02.42=100; Вілейцы — 28.02.42=47; Баранавічах — 02—03.03.42=2007, 13.03.42=41; Ракаве — 17.03.42=некалькі тысяч; Слуцку — 03.42=нявызначаная лічба; Капылі — 01.04.42=1200; Даўгінава — 01.04.42=800; Мінску — 3, 15 і 23.04.42=500; Навагрудку — 04.42=невядомая лічба; Крывічах — 28.04.42=400; Даўгінаве — 29—30.04.42=1200; Дзятлаве — 30.04.42=1200; Навагрудку—Івянцы — 04—06.42=1700; Вілейцы — 05.42=300; Іўі — 10.05.42=1000; Даўгінаве — 21.05.42=300; Іўі — 06.42=200; Слоніме — 05—06.42=200; Любчы — 13.06.42=1531; Баранавічах — 13.07.42=13; Мядзелі — 15—18.07.42=3300; Гарадзеі — 18.07.42=невядомая колькасць; Быцені—Дзярэчыне — лета 42=3000; Гарадзішчы — 07.42 — невядомая колькасць; Капылі — 08.42=1000; Навагрудку — 07.08.42=3000; Турачы — 13.08.42=500; Маладзечна — лета 42=700; Валожыне — 29.08.42=500; Гарадзішчах — 08—09.42=200; Маладзечна — 07.09.42=ад 25 да 30; Баранавічах — 09.42=ад 700 да 800 яўрэйскіх дзяцей; Леніна — 10.01.42=180; Вілейцы — 05.11.42=ад 70 да 80; Баранавічах — 17—19.12.42=3000; Дварцы — 19.12.42=3000; Навагрудку — 12.42=1000; Слоніме— 12.42=500; Мінску — 01.02.43=ад 400 да 1500, 19.02.43=153, 01.04=400, 05.42=140; Баранавічах — 01—02.43=200; Мінску — 17, 26.02.43=3000; Красным — 19.03.43=1400; Вілейцы — 02.43=ад 40 да 60.

На працягу перыяду з красавіка па кастрычнік 1943 г. у Мінскім гета былі праведзены акцыі, вынікам якіх стала забойства звыш за 2 тыс. мясцовых і замежных яўрэяў. З надзвычайнай жорсткасцю вызначаўся пры гэтым Адольф Рубэ — прызначаны ў красавіку камендантам гета. 20 ліпеня былі ліквідаваны нават 70 яўрэяў, якія працавалі ў генеральным камісарыяце. Загад быў аддадзены начальнікам паліцыі бяспекі Штраухам, які такім чынам быццам бы помсціў Кубэ за яго падтрымку яўрэяў. Незадоўга да адступлення з горада былі ліквідаваны 500 яўрэяў, якія заставаліся ў гета, і ад 80 да 100 яўрэяў, занятых у гаспадарцы Трасцянца. Апошніх 30 яўрэяў, якія выконвалі розную працу ў самой службе бяспекі, ліквідавалі ў падвале будынку начальніка службы бяспекі. Апрача яўрэяў, служба бяспекі праводзіла знішчэнне мясцовага насельніцтва. Так, літаральна ў апошнія дні акупацыі амаль 6500 чалавек былі забіты ў вялікім хляве, якіх потым спалілі.

Паводле даных, агульная колькасць забітых яўрэяў на тэрыторыі генеральнай акругі Беларусь складала не менш за паўмільёна чалавек. Так, да студзеня 1942 г. айнзацгрупа А ліквідавала 33 210 яўрэяў. За гэты перыяд на рахунку зондэркаманды 1б было 41 828 ахвяр. На пачатак 1942 г. у генеральнай акрузе Беларусь заставалася 128 тыс. яўрэяў, у тым ліку 18 тыс. у Мінску. Галоўны камісар Баранавіч Ф. Фенц паведамляў, што з верасня 1941 г. да 27 жніўня 1942 г. айнзацгрупай А былі забіты 95 тыс. яўрэяў, пры гэтым у акрузе Баранавічы, выключаючы горад, гэта лічба складала 23 тыс. У акрузе Слонім са студзеня па верасень 1942 г. былі ліквідаваны 14 тыс. яўрэяў. За ўвесь год у генеральнай акрузе ахвярамі сталі амаль 113 тыс. яўрэяў. Штраух вызначаў лічбу ахвяр у 130 тыс., забітых пры непасрэдным удзеле службы бяспекі. Усяго на тэрыторыі Беларусі ахвярамі халакосту сталі не менш за 500 тыс. яўрэяў, з якіх амаль 55% з сакавіка 1942 г. па сакавік 1943 г. [S. 502].



Агульныя страты, якія панесла Беларусь у гады германскай акупацыі, складаюць ад 1,6 да 1,7 млн чалавек. З 9 млн чалавек, якія знаходзіліся на акупіраванай тэрыторыі, ахвярамі сталі 700 тыс. ваеннапалонных, ад 500 да 550 тыс. яўрэяў, 345 тыс. мірнага насельніцтва, знішчанага ў ходзе аперацый супраць партызан, і 100 тыс. ахвяр іншых груп насельніцтва [S. 507].

У асобным раздзеле (S. 503—702) сваёй працы В. Курыла падрабязна спыняецца на злачыннай дзейнасці на акупіраванай тэрыторыі Беларусі 22 розных германскіх паліцэйскіх падраздзяленняў, у тым ліку: 309, 316, 322, 307, 13, 131, 69, 320, 306, 91, 315, 310, 308, 32, 313, 323, 317 паліцэйскія батальёны, 26 і 34 паліцэйскія палкі, два конныя падраздзяленні паліцыі і рэзервовай роты «Нюрнберг».

У наступным раздзеле (S. 703—769) другой часткі працы ідзе размова аб удзеле падраздзяленняў паліцыі ў аперацыях супраць партызан. Адзін з падраздзелаў раскрывае дзейнасць зондэркаманды 1005, якая павінна была ліквідаваць сляды масавага вынішчэння на акупіраванай усходняй тэрыторыі. Каманда стваралася на працягу 1943 г. Персанал адбіраўся з нямецкай паліцыі парадку. Выкананне гэтай задачы праводзілася «строга сакрэтна», непасрэдныя выканаўцы павінны былі захоўваць маўчанне ў дачыненні да той працы, якая была звязана з эксгумацыяй трупаў. Для адкрыцця ям, спальвання трупаў і ліквідацыі месцаў злачынстваў прыцягваліся яўрэі і мясцовыя жыхары, якія ў адпаведнасці з агульным распараджэннем пасля заканчэння работ павінны былі расстрэльвацца на месцы.

Работы паблізу Трасцянца цягнуліся з канца кастрычніка да сярэдзіны снежня 1943 г. Напрыканцы да гэтага былі прыцягнуты ад 50 да 100 чалавек мясцовай працоўнай сілы, у склад якой уваходзілі і бязвінна схопленыя жыхары горада, і беларусы, якія павінны былі па розных прычынах адбываць пакаранні ў працоўных лагерах, і вязні турмы СД. Паводле дакументаў, 15 снежня ці на наступны дзень усім быў выдадзены гарачы абед. Пасля абеду да месца працы пад'ехалі 2 газавыя фургоны і ўсім мясцовым работнікам было сказана, што зараз ім выдадуць мыла і ручнікі для таго, каб іх адвесці ў Мінск у баню. Але перад гэтым кожны мусіў даць пісьмовыя абяцанні, што будзе захоўваць тайну аб сваёй апошняй дзейнасці. Гэты зман меў паспяховы вынік. Аднак як толькі камеры закрыліся, былі ўключаны маторы і праз 15 хвілін усе былі атручаны, пасля чаго спалены на месцы. Пасля заканчэння работ у ваколіцах Мінска зондэркаманда 1005 была накіравана ў Пінск, дзе з пачатку красавіка да 30 мая 1944 г. павінна была ліквідаваць сляды забойстваў у дачыненні да амаль 20 тыс. яўрэйскіх ахвяр. Новымі ахвярамі сталі 25 мясцовых жыхароў, якія былі выкарыстаны ў якасці працоўнай сілы, а пасля завяршэння работ загнаны ў бункер і ўзарваны сапёрамі вермахта [S. 761].

Не меншую цікавасць уяўляе заключны раздзел другой часткі працы В. Курылы, у якім аўтар спрабуе правесці падлікі ўсіх ахвяр, пакінутых рознымі падраздзяленнямі германскай паліцыі парадку на акупіраванай усходняй тэрыторыі ўво-

гуле і ў Беларусі ў прыватнасці. Пры гэтым аўтар зазначае, што нават на цяперашні час няма магчымасці з упэўненасцю гаварыць аб паўнаце асвятлення дадзенай праблемы. Галоўнай прычынай гэтага з'яўляецца адсутнасць усіх неабходных дакументаў і матэрыялаў ці сведкаў. У асобных выпадках неабходна ўлічваць і тое, што падчас судовых працэсаў не ўдавалася выявіць дакладную лічбу ахвяр, таму ў працу маглі трапіць і заніжаныя лічбы. Асабліва, калі гэта былі допыты былых выканаўцаў гэтых злачынстваў, якія ў паказаннях імкнуліся да змяншэння колькасці ахвяр на месцах. У агульную колькасць ахвяр уключаны і тыя, хто быў закатаваны пры ўдзеле жандармерыі.

Атрымліваецца, што з удзелам паліцыі парадку на акупіраванай усходняй тэрыторыі была знішчана наступная колькасць яўрэяў, у тым ліку: у Прыбалтыцы — амаль 270 тыс., з якіх каля 35% з удзелам падраздзяленняў паліцыі парадку; у Беларусі — ад 500 да 550 тыс., з якіх амаль 300 тыс., ці 57% з удзелам паліцыі парадку; ва Усходняй Галіцыі — 530 тыс., з іх 260 тыс., ці 49,3% з удзелам паліцыі парадку; ва Украіне, дзе агульная лічба яўрэйскіх ахвяр складае 900 тыс., на долю немцаў прыпадае каля 650 тыс., з якіх 300 тыс., ці 46,5% прыпадае на паліцыю парадку, астатнія 250 тыс. — на вайсковыя часці румынскай арміі і паліцыі; у Расіі — 107 тыс., з якіх 17 153 яўрэі былі знішчаны паліцыяй парадку [S. 827—836].

У апошнім раздзеле працы нямецкім даследчыкам зроблена спроба знайсці адказ на галоўнае пытанне: якімі людзьмі былі тыя, хто служыў у паліцыі парадку і як яны думалі, калі праводзілі масавыя забойствы? В. Курыла шукае «суб'ектыўныя» ацэнкі злачынных дзеянняў, найбольш характэрных для паліцэйскіх падраздзяленняў. Аўтар зазначае, што асабліва цяжка даць ацэнку другому пытанню, паколькі амаль адсутнічаюць аўтэнтычныя дакументы такога кшталту. Аналізуючы самыя розныя сітуацыі, аўтар высвятляе, у якім аспекце асабовы склад падраздзяленняў мог нейкім чынам уплываць на дзейнасць саміх выканаўцаў. Звяртаючыся да розных прыкладаў, у дачыненні да розных фактаў і канкрэтных асоб розных службовых рангаў, аўтар хоча зразумець, ці з'яўляліся служачыя паліцыі парадку, як сцвярджае амерыканскі даследчык Броўнінг, «зусім нармальнымі мужчынамі», альбо гэта былі «зусім звычайныя немцы» (Голдхаген), ці служачыя паліцэйскіх батальёнаў не з'яўляліся ні «сярэднімі немцамі», ні «зусім звычайнымі мужчынамі» (Лонгерык), а былі больш натуральнымі барацьбітамі светапогляду, чым звычайнымі мужчынамі (Ветэрман).

Аднак галоўным В. Курыла вылучае пытанне аб тым, як звыш 20 тыс. нямецкіх мужчын, якія служылі ў паліцыі парадку, сталі злачынцамі? Да ліку тых аспектаў, якія ўплывалі на кожнага асобнага чалавека, неабходна аднесці цэлы шэраг момантаў дзяржаўнага, грамадскага і асабістага жыцця, у тым ліку разгляд у нямецкім грамадстве масавых забойстваў у якасці аднаго з важных сродкаў захавання калектыўнай бяспекі як абавязковай умовы грамадскай самаабароны. Паказ на прыкладзе ўдзелу ў такіх акцыях факта захавання нямецкай традыцыі паслухмянства і ідэнтыфікацыі з дзяржавай, якая ўвасабляла сабой нямецкую культуру з канца XIX стагоддзя. Навязванне грамадству антысеміцкай формулы яўрэйскага бальшавізму ў якасці ворага нямецкай нацыі. Карціна ворага спрыяла радыкалізацыі праблем. Як лічыць даследчык, апрача згаданых на кожнага чалавека ўплывалі і іншыя аспекты, асабліва калектыўны ўплыў, звычкі, паслухмянства, службовая кар'ера, радыкалізацыя карціны ворага і брутальны характар вайны. Фактычная карціна вайны, замацаваная ў дакументах,



сведчыць аб тым, што халакост наглядна паказаў, як падраздзяленні германскай паліцыі парадку станавіліся злачынцамі.

Агульнае знаёмства з новай нямецкамоўнай працай В. Курылы, які пабудаваў сваё грунтоўнае даследаванне на унікальных дакументах, практычна не вядомых айчыннаму чытачу, пераконвае ў тым, што навуковы аналіз кожнага прыведзенага факта патрэбны айчыннай гістарыяграфіі для дэталёвага даследавання беларускімі гісторыкамі не толькі маштабных падзей халакосту, але і іншых трагічных старонак гісторыі Беларусі перыяду Вялікай Айчыннай вайны.

*С. Я. Новікаў*

# ІНФАРМАЦЫЯ

## ПРЕДЪЮБИЛЕЙНЫЙ ФОРУМ

В рамках подготовки к мероприятиям по ознаменованию восьмидесятипятилетия Государственной архивной службы Республики Беларусь и восьмидесятилетия Национального архива Республики Беларусь Белорусский научно-исследовательский институт документоведения и архивного дела и Национальный архив Республики Беларусь организовали проведение научно-практической конференции «Современные проблемы документоведения, архивоведения и археографии». Она состоялась в конференц-зале НИАБ 12 апреля 2007 года. В ней приняли участие сотрудники государственных архивов республики, отраслевых научно-исследовательских организаций, Белорусского государственного университета и Института истории НАН Беларуси.

Заседание открыл директор Департамента по архивам и делопроизводству Министерства юстиции Республики Беларусь В. И. Адамушко, выступивший с докладом «Архивы и общество». Далее работа участников конференции продолжалась в двух секциях — «Научно-методическое обеспечение деятельности архивов и делопроизводства» и «Проблемы археографии и источниковедения истории Беларуси».

В выступлениях участников нашли отражение проблемы статуса и организации работы районных архивов по личному составу, разработки и использования примерных списков источников комплектования госархивов, реализации отраслевой программы по сохранению документального наследия на 2003—2010 гг., терминологические аспекты архивоведения, вопросы реституции архивных документов и ее правового обеспечения и др. Большой интерес вызвали демонстрация самых ранних из сохранившихся в Беларуси цветных фотодокументов, относящихся к началу 1950-х гг. и комментарии сотрудников БГАКФФД об их выявлении и реставрации. Тематика по документационному обеспечению управления была представлена выступлениями, в которых рассматривались, главным образом, состояние и перспективы использования современных информационных технологий в данной сфере — обеспечение информационной безопасности в условиях электронного документооборота, научно-методические аспекты использования электронной почты, международный опыт использования электронной подписи и охраны персональных данных и др.

На конференции были представлены новые материалы по истории архивного дела в Беларуси — о деятельности Центрархива в начале и середине 1920-х гг., о Г. И. Бобровском — одном из первых руководителей главного архива республики, ранее неизвестные сведения о судьбе архивов Могилева XVI — начала XX вв., данные об истории и проблемах изучения фонда Могилевской римско-католической консистории, хранящегося в Национальном историческом архиве Беларуси. Археографическая деятельность государственных архивов отражена в сообщениях о документальных публикациях Национального архива Республики Беларусь за 1995—2006 гг., о публикационной работе Госархива Витебской области, об опыте ЦГАОР БССР и Национального архива Республики Беларусь по выявлению и использованию документов о жизни и творчестве Янки Купалы, а также о подготовке сборника ранее неизвестных материалов по данной теме и др. С большим вниманием и заинтересованностью участниками конференции была встречена весьма содержательная



информация об анализе состояния и степени сохранности комплекса метрических книг в НИАБ, о значении собрания «Moskovitica—Ruthenika» (Государственный исторический архив Латвии) для изучения истории Беларуси и использования его документов в различных научных проектах, о выявлении в архивах Латвии дневника архивариуса Виленского архива древних актовых книг, члена Виленской археографической комиссии И. Я. Спрогиса, документов о жизни и деятельности белорусского и латышского историка и архивиста Б. Р. Брежго и др.

На заключительном заседании присутствовали историки и архивисты, принявшие участие в работе обеих секций. Ими были подведены итоги работы конференции и принят итоговый документ.

Материалы конференции будут опубликованы отдельным изданием в 2007 году.

*С. В. Жумарь*

# РЭЗЮМЕ

**Адамушка Уладзімір Іванавіч**, дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводству Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь; **Крук Уладзімір Пятровіч**, начальнік аддзела навуковага выкарыстання дакументаў і інфармацыі Дэпартамента па архівах і справаводству Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь — «Публикаторская деятельность государственных архивов Республики Беларусь в конце XX — начале XXI в. Состояние и перспективы».

Разглядаюцца аспекты публікатарскай дзейнасці дзяржаўных архіваў Беларусі з 1991 г. Адзначаецца, што дзяржаўныя архівы пачалі больш увагі ўдзяляць самастойнай падрыхтоўцы зборнікаў дакументаў да выдання. У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь і Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі створаны аддзелы публікацый дакументаў. У 1999 г. адноўлена Археаграфічная камісія. Выдаецца «Беларускі археаграфічны штогоднік». Ажыццёўлены важныя міжнародныя выдавецкія праекты. Прыняты галіновы План публікацый дакументаў Нацыянальнага архіўнага фонду на 2003—2008 гг. З пачатку 1990-х гг. выдадзены 41 зборнік дакументаў навуковага і навукова-папулярнага характару. Удзельнікам падрыхтоўкі і выдання цыкла прац «Беларускія остарбайтэры» прысвоены званні лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

**Кулажанка Уладзімір Генадзевіч**, галоўны археограф БДАМЛМ — «Агляд археаграфічнай дзейнасці Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва за 1960—2005 гг.».

Дадзены агляд вынікаў археаграфічна-публікацыйнай дзейнасці БДАМЛМ ад часу яго заснавання па сённяшні дзень. Сістэматызуюцца археаграфічныя публікацыі па перыядах і тэмах, аналізуюцца асноўныя праблемы і заканамернасці публікацыі дакументаў БДАМЛМ.

**Клімаў Ігар Паўлавіч**, канд. філал. навук, дацэнт БДУКМ — «Тэксталогія царкоўнаславянскага Евангелля ў навуковым асвятленні».

Разглядаюцца некаторыя асаблівасці генезіса Тэтраевангелля ў раннехрысціянскі перыяд, аналізуюцца спецыфіка яго бытавання ў Візантыі і формы функцыянавання сярод праваслаўных славян пасля перакладу Евангелля ў IX ст. св. братамі Кірылам (Канстанцінам) і Мяфодзіем. Даецца агляд асноўных этапаў даследавання тэксталогіі царкоўнаславянскага Евангелля ў еўрапейскай славістыцы, у выніку чаго быў вылучаны шэраг яго рэдакцый, якія да XVI ст. паўсталі ў розныя эпохі і ў розных кутках славянскага свету. Ставіцца пытанне наконт уліку і вывучэння беларускіх (паводле знаходжання ці стварэння) помнікаў царкоўнаславянскага Евангелля.

**Рыбчонак Сяргей Аляксандравіч**, загадчык аддзела інфармацыі і навуковага выкарыстання дакументаў НГАБ — «Комплекс рэвізскіх сказак у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі».

Аналізуецца звод рэвізскіх сказак, якія захоўваюцца ў НГАБ. У дадзеных крыніцах маюцца звесткі па ўсіх паветах Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў, у тым ліку асобна па саслоўях панскіх сялян і мяшчан, што складалі большасць сельскага і гарадскога насельніцтва Беларусі ў XIX ст.

**Іванова Вольга Сяргееўна**, аспірант кафедры крыніцазнаўства БДУ — «Змест і эвалюцыя паняцця «асабісты архіў».



На падставе аналізу архіўных нарматыўна-тэрміналагічных і метадычных выданняў Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы і іншых краін, а таксама гісторыка-архівазнаўчых даследаванняў робіцца спроба вырашыць тэрміналагічную праблему ў адносінах да шэрагу паняццяў, што тычацца архіваў асабістага паходжання. У якасці асноўнага абраны тэрмін «асабісты архіў», у святле яго гістарычнай эвалюцыі разглядаюцца сумежныя паняцці «прыватны архіў», «асабісты архіўны фонд», «фонд асабістага паходжання», «фамільны фонд», «сямейны фонд» і інш.

**Мяснікоў Раман Максімавіч**, загадчык раённага архіва (г. Дзяржынск Мінскай вобл.); **Мяснікова Аляксандра Раманаўна**, студэнтка факультэта журналістыкі БДУ — «Электронные выставки архивных документов как средство упрощения диалога «архив—пользователь».

Абгрунтоўваецца сцвярджэнне, што стварэнне электронных калекцый і экспанаванне іх у сетцы Інтэрнэт — гэта малазатратны спосаб азнаёміць патэнцыяльных карыстальнікаў архіва з яго фондамі і выкарыстанне электронных калекцый эфектыўна для навуковай працы.

**Брэгер Герман Максімавіч**, вядучы палеограф НГАБ; **Лінская Ларыса Антонаўна**, старшы навуковы супрацоўнік НМГКБ — «Фрагмент архіва Слуцкага Трайчанскага Свята-Траецкага манастыра ў фондах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі (1703—1719)».

Прыводзіцца археаграфічнае апісанне дакументаў архіва Слуцкага Трайчанскага Свята-Траецкага манастыра, распачатае ў выпусках 5, 6, 7 «Беларускага археаграфічнага штогодніка».

**Матвейчык Дзмітрый Чaслававіч**, аспірант Інстытута гісторыі НАН Беларусі, вядучы навуковы супрацоўнік аддзела публікацыі дакументаў НГАБ — «Рукапісныя дакументы Таварыства Літоўскага і Рускіх Зямель і Таварыства Братэрскага Аб'яднання ў бібліятэчных сховішчах Польшчы».

Паказваецца гісторыя арганізацый, створаных у эміграцыі ўраджэнцамі беларуска-літоўскіх зямель, аналізуюцца рукапісныя дакументы гэтых арганізацый, якія захоўваюцца ў аддзелах рукапісаў некалькіх польскіх бібліятэк. Публікуецца статут Таварыства Літоўскага і Рускіх Зямель на мове арыгінала і ў перакладзе.

**Папоў Міхаіл Аляксандравіч**, выкладчык кафедры філасофіі і паліталогіі БДМУ, аспірант кафедры гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу БДУ — «Римско-католическая церковь в Беларуси в 1772—1825 гг. Источниковедческий обзор».

У артыкуле разглядаюцца такія спецыфічныя віды царкоўных крыніц, як інфармацыйныя працэсы, рэляцыі, візітацыі (візіты) і схематызмы. Прыводзіцца аналіз апублікаваных зборнікаў заканадаўчых і актавых крыніц, а таксама статыстычных матэрыялаў па гісторыі Рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі.

**Серак Алена Уладзіміраўна**, выкладчык БДМУ — «Из истории репрессий участников восстания 1863—1864 гг. в Беларуси: нормативно-правовые документы и практика их реализации (по материалам НИАБ)».

На падставе выкарыстання заканадаўчых матэрыялаў і архіўных крыніц аўтарам вызначаецца месца, якое займала ссылка сярод рэпрэсіўных мерапрыемстваў, што праводзіліся ў дачыненнні ўдзельнікаў паўстання 1863—1864 гг. у Беларусі. У артыкуле таксама аналізуюцца пытанні прававой рэгламентацыі ссылкі; высвятляецца працэс арганізацыі судова-следчага апарату, усталявання відаў пакарання паў-

станцаў; вызначаецца спецыфіка асуджэння ўдзельнікаў паўстання, звязаная з увядзеннем ваеннага становішча на тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю.

**Цітавец Алена Іосіфаўна**, загадчык сектара кнігазнаўства аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі — «Уладальнікі рукапісаў беларускіх татараў: аналіз запісаў іх на кнігах».

Разглядаецца выкарыстанне запісаў уладальнікаў рукапісных кніг для вывучэння духоўнай культуры беларускіх татараў.

**Шпілеўская Ірына Мікалаеўна**, навуковы супрацоўнік БелНДІДАС — «Документооборот и документирование в государственных учреждениях на территории Беларуси второй половины XIX — начала XX в.».

Аналізуецца нарматыўна-прававая літаратура па справаводству — зборы цыркуляраў і інструкцый, інструкцыі, якія выдаваліся міністэрствамі Расійскай імперыі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. Разглядаюцца правілы афармлення дакументаў і тэрміны іх праходжання на падставе рэквізітаў архіўных дакументаў з архіўных фондаў дзяржаўных устаноў Мінскай губ.

**Лісейчыкаў Дзяніс Васільевіч**, магістр гуманітарных навук, галоўны архівіст аддзела інфармацыйна-пошукавых сістэм НГАБ — «Фрагмент асабістага архіва прафесара Полацкай духоўнай семінарыі Адама Тамковіда».

Прыведзена апісанне асабістага архіва прафесара Полацкай духоўнай семінарыі А. Тамковіда. Даецца агляд падзей, якія папярэднічалі скасаванню уніяцкай царквы на беларускіх землях. Асвятляюцца ўзаемадзеянні паміж дзвюма асноўнымі плынямі ў асяроддзі уніяцкага духавенства: прыхільнікамі і праціўнікамі зліцця з праваслаўем. Дакументы, прыведзеныя ў дадатку, публікуюцца ўпершыню.

**Несцяровіч Юрый Уладзіміравіч**, канд. гіст. навук, старшы навуковы супрацоўнік БелНДІДАС — «О науковедческом статусе археографии и системе научных дисциплин о документальной информации».

Разглядаецца трактоўка дысцыплінарнага статусу археаграфіі, архівазнаўства і дакументазнаўства. Абгрунтоўваецца мэтазгоднасць выдзялення сістэмы навуковых дысцыплін, якія вывучаюць дакументальную інфармацыю, пад назвай «дакументаліка». Звяртаецца ўвага на несуразмернасць выдзялення ў Наменклатуры спецыяльнасцей навуковых супрацоўнікаў галіны навукі з назвай «тэхнічныя навукі», робіцца прапанова яе дыферэнцыраваць.

**Мянжынскі Валерый Станіслававіч**, канд. гіст. навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі; **Несцяровіч Юрый Уладзіміравіч**, канд. гіст. навук, старшы навуковы супрацоўнік БелНДІДАС — «Распарадчыя дакументы («листы») Жыгімонта Аўгуста ў кнізе Метрыкі ВКЛ 30».

Упершыню публікуецца дзевяць распарадчых дакументаў («листов») Жыгімонта Аўгуста з кнігі Метрыкі ВКЛ 30, карысных для вывучэння гісторыі дзяржавы і права, а таксама палітычнай гісторыі Беларусі XVI ст.

**Ліцкевіч Алег Уладзіміравіч**, аспірант завочн. аддз. Інстытута гісторыі НАН Беларусі — «Рэестр шляхты Крамянецкага павета, якая не стала да прысягі на вернасць каралю і Кароне Польскай 16 чэрвеня 1569 г. (дакумент з 583-й кнігі Метрыкі ВКЛ)».

Апісваецца працэдура прыняцця прысягі на вернасць каралю і Кароне Польскай з боку валынскай шляхты ў 1569 г. пасля інкарпарацыі Валыні ў склад Польшчы. Даецца агляд вядомых зараз крыніц — рэестраў прысяглай і непрысяглай шляхты Луцкага, Уладзімірскага і Брацлаўска-Вінніцкага паветаў. Надрукаваны малавядомы дакумент — рэестр непрысяглай шляхты Крамянецкага павета з 583-й кнігі Метрыкі ВКЛ. Даказана, што абсалютная большасць згаданых у рэестры асоб на самай справе прынялі належную прысягу.



**Дзярновіч Алег Іванавіч**, канд. гіст. навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі — «Тубылец віцебскі»: новы дакумент з былога архіўнага комплексу MOSCOWITICA—RUTHENICA (Дзяржаўнага гістарычнага архіва Латвіі)».

Публікуецца ліст (1561.IV.19) намесніка віцебскага князя Паўла Юр'евіча Друцкага-Саколінскага да Рыжскага магістрата ў справе віцебскага баярына Івана Случыніча, незаконна затрыманага ў Рызе.

**Пазднякоў Валерый Сямёнавіч**, канд. гіст. навук, загадчык аддзела археаграфіі БелНДІДАС — «Тастамент Гальшкі Яўфіміі Радзівіл з князёў Вішнявецкіх (1569—1596)».

Публікуецца тастамент Гальшкі Яўфіміі Радзівіл з князёў Вішнявецкіх (1569—1596), жонкі князя Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі, уладальніка Нясвіжа, першага нясвіжскага ардыната. Дакумент, складзены 1 жніўня 1594 г. у Нясвіжы, утрымлівае важныя даныя пра маёнткі князёў Вішнявецкіх і Радзівілаў, іх маёмаснае становішча, генеалагічныя сувязі, склад магнацкага двара, тагачаснае штодзённае жыццё, матэрыяльную культуру, рэлігійную сітуацыю, менталітэт эпохі. Тастамент, які захаваўся ў выглядзе аўтэнтычнай выпіскі з кнігі новагародскага гродскага суда ад 5 студзеня 1597 г., публікуецца на мове арыгінала — польскай (уступ і заключэнне — на старабеларускай мове) і ў перакладзе на сучасную беларускую мову, забяспечаны каментарыямі.

**Іванова Вольга Сяргееўна**, аспірант кафедры крыніцазнаўства БДУ — «Лісты з асабістага архіва Івана Грыгаровіча».

Публікуюцца ўрыўкі з лістоў першага беларускага археографа І. І. Грыгаровіча да брата Мікалая за 1815—1835 гг., што захоўваюцца ў Навукова-даследчым аддзеле рукапісаў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі. Змест адзначаных дакументаў адлюстроўвае навуковую дзейнасць і паўсядзённае жыццё І. І. Грыгаровіча.

**Калеснік Наталля Яўгенаўна**, галоўны архівіст аддзела публікацыі НАРБ — «Першыя крокі» Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь».

Змешчаны звесткі аб арганізацыі ў 1927 г. Цэнтральнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі БССР, з якога вядзе сваю гісторыю Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Паведамляецца пра месцазнаходжанне ЦАКР у першыя гады існавання, колькасць яго супрацоўнікаў, умовы і прынцыпы камплектавання, склад і змест яго фондаў.

# SUMMARY

Uladzimir Adamusho and Uladzimir Kruk. Aspects of edition activity of the state archives of Belarus with 1991 are considered. It is marked, that the state archives have started to give more attention to independent preparation of collections of documents for the edition. Departments of the publication of documents were created in National Archive of Belarus and National Historical Archive of Belarus. In 1999 the Archeographic Commission recommenced its activity. «Belarusian Archeographic Year-Book» is published routinely. The important international publishing projects have been carried out. The branch Plan of the publication of documents of National archival fund for 2003—2008 has been accepted. From the beginning of $1990^{th}$ 41 collections of documents of scientific and popular scientific character have been published. Participants of preparation and the edition of a cycle of works «Belarusian Ostarbeiter» have been awarded with the State Premium of Belarus.

Uladzimir Kulazhanka presents the review of archeographic activity of the «Belarus state archive-museum of the literature and art» from time of his creation till today.

Ihar Klimau provides a brief survey of some important stages of the Gospel text origin during the early Christian period. Some specificity of the Gospel text existence in Byzantium and of the Gospel forms functioning among Orthodox Slavs after translation of Holy Scripture in 9 c. by brothers Sts. Cyril (Konstantine) and Methodius are considered. The review of the basic investigations of the European Slavic scholars in the Old Church Slavic Gospel textology is given. As a result of such investigations, it was became a secretion of several text recensions which have arisen before 16 c. during different epochs and in different places of the Slavic world. A question about the registration and studying Belarusian (according discover or origin) scripts of the Old Church Slavic Gospel is raised.

Sergey Rybchonok analyzes the whole complex of specified sources that had existed and preserved up to the present. There is information about preservation of complexes of each uyezd of Minsk, Mogilev and Vitebsk gubernia, including separately on the classes of landowner's peasants and meshchane (citizens) — the majority of village and town population of Belarus in XIX cent.

In the article by Volha Ivanova, on the basis of the analysis of the main normative, terminological, methodical and historical publications the definition «personal archive» and related issues are given. The author presents the historical evolution and the content of the term «personal archive» and terminological vocabulary.

Raman Miasnikov and Aliaxandra Miasnikova have ascertained that the creartion of electronic collections and theirs exposure in Internet is an easy and low-cost means to acquaint the potential users of the archive with its funds. The usage of digital collections is very convenient for the scientific work.

Herman Breger and Larissa Linskaya give the description of the documents of the archive of Slutsk Troychansk St. Trinity monastery.

In his article Dzmitry Matveichyk analizes manuscrites of Lithuanian and Russian Lands Society and Brotherhood Union Society, which saved in polish libraries.

In Mihail Popov's article for the first time in a domestic source study are considered the specific kinds of church sources as information processes, relationis status, visits and elenchus. In this work there is also an analysis of the published collections of laws and acts sources, and also statistical materials on a history of Catholic Church in Belarus.



Helen Serak discribes the history of repressions of uprising participants in Belarus in 1863—1864: normative and legal documents and their realization (by materials of National Historical Archives of Belarus).

In Helen Tsitavets's article the notes of owners are used for the study of Belarusian Tatar culture.

Irina Spilevskaya — the Certification of records and records creation of Belarus (the middle of XIX — beginning of XX centuries).

In his article Dzianis Liseichykau describes the documents from personal archive of Polatsk Uniate Seminary professor Adam Tamkowid.

Yuri Nesterovich analizes the disciplinary character (status) of archeography, archive science, records management/

Valeri Menzhinskiy and Yuri Nesterovich publish the 9 documents defined as a «letters» from the Book of Metrics of the Great Lithuanian Principality (GLP) # 30.

Aleh Litskevich offers the document from Book 583 of the GDL Metrica — the list of Kremianiets district's nobles, who presumably (but not in fact) refused to swear allegiance to the king and Kingdom of Poland after incorporation of Wolhynian land into Poland in 1569.

Aleh Dziarnovich publicates the letter (April 19, 1561) of the Vitebsk deputy, prince Paviel Drucki-Sakalinski to the City Cuncil of Riga in connection with illegal arrest of the Vitebsk boyar Ivan Sluchynich.

Valery Pozdniakov publishes the Testament of Galshka Iaufimia Radzivil maiden name princess Vishniaviecki (1569—1596), wive of prince Mikolaj Kryshtof Radzivil Sirotka, owner of town of Niasvizh, the first ordinate of Niasvizh. The document wrote on August, $1^{st}$, 1594 in Niasvizh, contains the important data about manors of princes Vishniaviecki and Radzivil, their property status, genealogic links, structure of a magnate court yard, a then daily life, material culture, a religious situation, mentality of an epoch. The testament which was kept in the form of an authentic extract from the book of grod court of Novagarodak from January, $5^{th}$, 1597, is published in language of the original — Polish (the introduction and the conclusion — on Old-Belorusian), and in translation into modern Belarusian, is supplied by comments.

Volha Ivanova prepared the publication of the letters of the first Belarusian archeographer I. Grigorovitch to the brother Mikalaj (1815–1835). The letters illustrate his scientific and everyday life.

Natalya Kalesnik describes the history of organizing in 1927 in Minsk of the Central archive of October revolution — now the National archive of Republic of Belarus, one of the interesting depository of documents about history of Belarus since 1917 till the modern time.

## ПРАВІЛЫ ДЛЯ АЎТАРАЎ «Беларускага археаграфічнага штогодніка»

1. «Беларускі археаграфічны штогоднік» публікуе навуковыя даследаванні па розных галінах тэарэтычнай і практычнай археаграфіі, архівазнаўства, дакументалістыкі і сумежных спецыяльных гістарычных дысцыплін, а таксама інфармацыйныя матэрыялы і рэцэнзіі на апублікаваныя працы.
2. Аўтары — навуковыя супрацоўнікі, выкладчыкі ВНУ, акадэмічных і ведамасных НДІ, аспіранты, дактаранты, саіскальнікі — разам з рукапісам навуковага артыкула прадстаўляюць выпіску з пратакола пасяджэння вучонай рады, аддзела, кафедры з рэкамендацыяй артыкула да друку.
3. Дапускаецца замест выпіскі з пратакола прадставіць дзве рэцэнзіі — доктара і кандыдата навук, якія з'яўляюцца спецыялістамі ў той галіне ведаў, па якой зроблена даследаванне. Рэцэнзіі павінны ўтрымліваць рэкамендацыі артыкула да друку.
4. Рэкамендацыі да друку навуковых артыкулаў, падрыхтаваных супрацоўнікамі органаў і ўстаноў Дзяржаўнай архіўнай службы Рэспублікі Беларусь, ажыццяўляюць Вучоныя рады БелНДІДАС, БелНДЦЭД, дзяржаўных архіваў.
5. Для публікацый дакументальных крыніц, матэрыялаў інфармацыйнага характару, рэцэнзій рэкамендацыі не патрабуюцца.
6. Рукапіс завяраецца подпісам аўтара з прастаўленнем даты, а таксама ўказваюцца прозвішча, імя і імя па бацьку, месца працы, займаемая пасада, вучоная ступень, тэлефоны для сувязі з рэдакцыяй. Разам з раздрукоўкай прадстаўляецца ідэнтычны электронны варыянт артыкула.
7. Аб'ём навуковага артыкула не павінен перавышаць 20 тыс. знакаў, аб'ём публікацыі дакументальных крыніц — 40 тыс. знакаў. Раздрукоўка выконваецца шрыфтам Times New Roman, кегль 14 пунктаў, праз 1,5 інтэрвала, палі верхняе і ніжняе па 2 см, левае 3 см, правае 1,5 см.
8. Бібліяграфічныя спасылкі афармляюцца згодна з главой 5 Інструкцыі па афармленні дысертацыі і аўтарэферата (пастанова ВАК Рэспублікі Беларусь ад 22.02.2006 № 2, апублікавана ў Нацыянальным рэестры прававых актаў Рэспублікі Беларусь 20 сакавіка 2006 г., № 41, 7/603).
9. Артыкул забяспечваецца анатацыямі на беларускай (рэзюме) і англійскай (Summary) мовах памерам 100—150 слоў.
10. Тэрмін падачы артыкулаў — да 1 сакавіка бягучага года. Пасля 1 сакавіка матэрыялы прымаюцца для публікацыі ў штогодніку ў наступным годзе.

*Рэдакцыйная калегія*
*«Беларускага археаграфічнага штогодніка»*
*220002, г. Мінск, вул. Крапоткіна, 55*
*belniidad@tut.by*



## ЗМЕСТ

---

Адказнасць за дакладнасць перадачы тэксту дакументаў, цытат і спасылак нясуць аўтары артыкулаў і публікацый.

Навуковае выданне

**Беларускі археаграфічны штогоднік**

Выпуск 8

Рэдактары *Т. М. Мальцава, Т. С. Трыгубовіч*
Карэктары *Т. В. Салавей, А. У. Хмялеўская*
Камп’ютэрная вёрстка *П. А. Рэзванава*

Падпісана да друку 01.11.2007. Фармат $60 \times 84^{1}/_{16}$. Папера афс. Гарнітура Times.
Умоўн. друк. арк. 17,75.Улік.-выд. арк. 14,5. Тыраж 100 экз. Зак. 113.

Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы (БелНДІДАС). 220002, г. Мінск, вул. Крапоткіна, 55.
ЛИ № 02330/0133094 ад 30.04.2004. Надрукавана на НДС БелНДІДАС.